# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ



№ 3

1928

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

МЕНСК

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

(СЁМЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ)

## № 3
## 1928





Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва
МЕНСК—1928

# ДА ПРЫЕЗДУ У МЕНСК УКРАІНСКІХ ПОЭТАЎ І ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

**Валяр'ян Львовіч Палішчук**—нарадзіўся ў 1897 г. на Валыні. Пачаў друкавацца ў 1917 годзе. Поэта з нахілам да конструктыўнага дынамізму. Член організацыі „Авангард". Лепшыя творы: „Радіо в житах", „В революцію", „Адыгейський співец", „Гр. Сковорода", „Геніяльни кристалі", „Европа на вулкані" ды інш.

---

**Пятро Панч.** Сын рамесьніка, нарадз. ў 1891 г. Пачаў пісаць у 1922 г. Спачатку напісаў шэраг апавяданьняў з сялянскімі мотывамі—зборнік „Соломяний дим", далей закранае мяшчанскі быт і дае зборнік апавяданьняў: „Мышачі нори". За аповесьць „Голубі ешелоні" аўтар атрымаў юбілейную прэмію. Апошнім часам выходзіць з друку кніга з чатырма аповесьцямі.

---

**І. Ю. Кулік**—нарадзіўся ў 1897 г. ў м. Шпола на Зьвенігарадчыне. Пачаў друкавацца ў 1914 годзе ў амэрыканскай прэсе, на Украіне ў 1918 годзе. З 1914 году бярэ ўдзел у рэволюцыйным руху. У 1917 г. ўваходзіць у шэрагі компартыі. Цяпер рэдагуе часопіс „Чырвоны шлях". Вышлі з друку: зборнік вершаў „Мої коломийки", „Зелене сонце", поэма „Одужаньня", падрыхтаваны да друку зборнік вершаў „В оточенні".

---

**Паўло Рыгоравіч Тычына**—выдатны поэт Украіны. Нарадзіўся ў 1891 г. ў в. Пяскі на Чарнігаўшчыне. Друкавацца пачаў з 1913 году. Асобныя выданьні яго творчасьці: „Соняшні кларнети", „Плуг", „Золотий гомін", „Сковерода", „Вітер з Украіны" ды інш. Шэраг яго твораў перакладзен на другія мовы.

---

# ЖНІВО

*Аповесьць*

**Васіль Каваль**

„Накую сярпы ды залóтыя,
зьбяру жнеек ды малодзенькіх;
жнеек зьбяру—жыта сажну,
жыта сажну—хмелю завару“...

*З народнае песьні.*

I

Над аржаным полем і зялёнай вёскаю ў поўнай сваёй красе паміраў чысты летні дзень.

Захад заірдзеўся рознымі колерамі, працягнуў уздоўж сябе крывяныя палосы і яшчэ змрок не спавіў зямлі, як неба запаліла па нябожчыку сьвечкі, мусіць,—каб ушанаваць вялікі сонечны дзень.

Потым змрок балотным ды рачным туманам хаты і вёску засланіў, а неўгамонная рэчка ўсё шушукала, усё шаптала надбярэжнымі кустамі—ціха так і любоўна.

Ночы ўлетку прыгожыя... Зямля прыемна пахне скошанай завялай травой. Дзённая смага ўбіраецца ў туман.

ГарацЬ агні ў хатах. Людзі прышлі з працы, стаміліся. Стары дзед расьцірае рукою паясьніцу і крэкча. Раскінуліся і заснулі на палку малыя дзеці, нагуляліся за дзень у свае дзяцінныя гульні, накупаліся ўдостач у рэчцы. Дык бабка паказвае на тых дзяцей бацьку і з гневам і ласкаю кажа, што адзін ледзь не захлібнуўся, другі нагу застрэміў—ня ўгледзіць іх старой... Вячэраюць, газьнічка слаба міргае, але „галодны за вуха не панясе“. І ўсе разыходзяцца спаць, бо заўтра зноў тое-ж самае...

А маладыя гуляюць перад нядзеляю. Вуліца кідае-рассыпае прыпевы і нявыразныя галасы, поўныя вясёласьці.

— Ай-я-а-а-й-я-а...
Ох, у роднага бацькі, ой, ды ў роднае маці
я цьвіла, як жураві-інка-а...

За ракою калышыцца алешнік, ня дзьме вецер у полі, там—чарната. Толькі гарыць, расплываецца па зямлі, цягнецца агнявымі языкамі к небу вогнішча начлежнікаў. У кустох расплыліся цені, поўзаюць па зямлі. Трашчыць у лесе сухое гальлё ад спуджаных коняй. Начлежнікі разьлягліся ў кустох абапал вогнішча, а адзін маленькі лёг

„на запечку“, абкруціўся ля самага вогнішча і прапаліў кажух—будзе ўраньні ад бацькі! Сеў і плача.

Самы старэйшы—дзед Сапрон. Горача пры агні, а ён у аблезлай зімовай шапцы, паверх кажуха—сярмяга. Грэецца ля агню, адкінуўшы полы адзежы, паварачваецца сьпіною, засьцячы з аднаго боку вогнішча. Доўгі згорблены цень кладзецца поперак. Паціраючы чорныя рукі з крывымі пальцамі, кажа троху ў нос:

— Яно цяпер, скажу вам, цёпла на начлезе, лепш чым у сваёй хаце—ні камароў, ні машкары. А ўвосень зямля халодная, сіверна, старому скора прастудзіцца можна...

Хочацца яму гаварыць абы што. Дзень ён працуе, словам перамовіцца няма з кім, горла перасыхае. А тут у самы акурат, слухаюць яго ці няслухаюць—няважна. Можа ён гаварыць доўга: аб мінулым, аб жыцьці, і самыя нязначныя здарэньні афарбоўвае ў такі match розьнастайны колер, што яны робяцца для яго сапраўды вялікімі ды значнымі...

Хлапец Цімка распрануўся, закінуў за куст ногі. На загарэлым і жарсткаватым твары ўсьмешка гуляе, і ад таго, што такая ноч, і ад маладое вясёласьці. Ен цэлы дзень касіў і сам дзівіцца, як гэта ўтома не бярэ. Ляжыць на халаднаватай абскубанай траве і сьпявае сам сабе:

Ой, да ты, калі-і-нуш-ка-а,  
Ой, да ты, малі-інуш-ка-а...

Яму ўсё роўна—што ні сьпяваць, абы весела было.

Бо цяпер зямля пачынае засынаць, толькі ціха трапечацца лісьце асіны; стане глухасон—і яны змоўкнуць. А ў галаве Цімкі мільгаюць думкі, сплятаюцца ў жывыя вобразы.

— Зоркі пераліваюцца... Адна... другая рассыпаліся над лесам... Арына—любая мая, зграбная. А вочы—сінія... сінія... васількі. Ноч...

Малыя галузы параскідалі ногі адзін на аднаго і смаляць прыпеўку.

От вам, дзевачкі, навука—  
Не хадзеце ў сад гуляць.  
Не завеце чорна жука  
Ды з сабою разам спаць...

— Гэ-гэ-эй!

— А-апчхэ!

— Цішэй вы, падшывальцы!—крычыць на іх дзед Сапрон.

З-за лесу глядзіць круглы зялёны месяц.

Дзед і кажа:

— У такія ночы, памятаю, як з-пад пана адышлі, дык работалі мы ой-ё-ё колькі! Дню тады не хапала...

Гэта ўзварушыліся ўспаміны ў старога. На начлезе ён шмат чаго перадумае аб новым сьвеце і людзях, перажыве. Лёг на мяккую купіну, прыслухоўваецца да гутаркі Цімкі з Кірылам Чарняком—пажылым чала-

векам. Дзед Сапрон ведае, што Кірыла Чарняк ладзіцца неяк жыць па-новаму, чытае газэты і мудрыя для ўразуменьня дзеда кніжкі. І Цімка гэты—востры хлопец, у комсамоле ў сваім нечым кіруе. Значыцца, выбіўся хлапец у людзі...

— Вясною хутар на шасьціполку разьбіў,—кажа Кірыла, лежачы на жываце і пускаючы дым.—Радзіўся аб гэтым з агрономам...

— Ну, і што?

— Паказаў, што і дзе сеяць... Турнэпсу засеяў поўдзесяціны...

— Трунэпсу, кажаш?—адклікаецца дзед.

— Малатарню-б завесьці нам. У іншых і сродкі ёсьць, а не адважацца ніяк...

— Малатарні нам не па кішэні. Змалаціць можна цапамі і на таку, абы хлеб гэты ўрадзіўся. Эха-ха!

— Зусім ня тое, дзед!

Сапрон і сам ведае, што калі-б гэта малатарню ў яго гумно—ураз-бы зьмяло чатыры пасады жыта, ня трэба і цэпам махаць, дый стук малатарні бойкі.

Пагаварыў дзед, адышоўся ў бок, пачухаўся і лёг, заснуць хацеў. Папрасілі малыя казку расказаць. Ім што? Хоць да ранку кажы—будуць слухаць, а тут сьпіна пабальвае...

— Ну, добра,—кажа ён,—падай вугаль прыкурыць... Дык слухайце-ж, шылахвосты... Ну, от—жыў сабе ды жыў чалавек...

Ноч заснула глыбокім сном, авеяная пахам красак зялёнае травы і вільгаці з моху.

— У панядзелак зажынаць будуць,—кажа Кірыла Чарняк.—Спаць трэба.

А Цімку спаць ня хочацца. От-бы доўга ляжаў так.

Няхай завіваюцца думкі, няхай паднімаюць цябе—на тое кожны з нас малады!

Толькі голас дзедаў бубніць:

— Прывёў, знацца, ён іх у крапіву дый кажа: „Старцы, скідайце штаны—брод!“ А тыя думаюць і праўда. Паскідалі, знацца, штаны...

Рагочуць „шылахвосты“.

Летняя ноч кароткая. Вось тухнуць зоры. Чорнае дыханьне ночы зьмяняецца шэрым. Шэрае растае. Зачыркалі на ўсе лады птушкі. На ўсходзе зачырванелася.

І вось думае Цімка, што ён мае дваццаты год, што любяць яго ў комсамоле. Паважае і бацька, бо Цімка—гаспадар у сваёй хаце хоць куды, хутчэй за бацьку ва ўсім управіцца. Удзень працуе, уначы на начлег водзіць і ніколі ня зморыцца.

Што значаць маладыя гады? Добра, калі сьветлая галава ў чалавека і зоркія вочы—усё можна разумець, далёка можна ўбачыць, да шмат чаго можна прыйсьці сваім розумам.

Думае Цімка і сьмяецца—радасна неяк.

— Вось хоць-бы ўзяць Арышку. У яе сінія вочы... Любіць яна ці не? Ці так, ці гэтак, але трэба думаць, што любіць!

## II

Калі начлежнікі ехалі дахаты, дык абудзілася ўжо вёска. Зайграў на берасьценай трубе пастух, пацягнуліся на пашу каровы, паднімаючы пасьля сябе пыл. Сталі зьбірацца бабы за вадою ля калодзежаў. І сіні дым з комінаў роўна пайшоў да бялёсага неба...

Цімка на дварэ, на прызьбе разуў лапці, павесіў сушыць мокрыя анучы, перавязаў анучай нагу з мазалём. Маці ў хляве цыркала ў падойнік карову ды ўсё прыгаварвала, каб тая добра стаяла на адным месцы.

У хаце стаў мыцца сьцюдзёнаю вадою.

А бацька богу маліўся. Няроўна складаючы тры пальцы, завіхаючыся і нагінаючыся ўперад, Пракоп пагладжваў бараду. Нявыразна шэпчучы словы, ён падпяразваў пояс, часаў сьпіну, падыходзіў да вакна ды глядзеў на вуліцу, абапіраўся рукамі аб стол...

— Вотча наш, іжа ясі на небесі...

Словы яго сыпаліся як гарох. У гэты час пацёрся ля ног сабака. Пракоп штурхануў яго нагою да дзьвярэй.

— Каб ты здох, падла!

І ўсё сьпяшаўся:

— І расьцятага за ны пры панційсьцім пілаце...

Цімку разабраў сьмех. Апошнія словы ў вымаўленьні бацькі значылі: „і расьцялі за ныркі, прымасьціўшы на палацях“.

Выціраючы рушніком рукі, маці зьняважліва сказала да бацькі:

— Хоць-бы ты ўжо, стары, маліўся як сьлед, а то выходзіць не малітва, а грэх адзін...

— Намолішся з-за вас...

— А хто табе не дае?

Пракоп зьвярнуўся да Цімкі.

— Чаго ён зубы скаліць? Сам ня молішся, дык і другім не перашкаджай. Калі ў сваім комсамоле ты лаеш лірыгію, дык я не сьмяюся...

— Ха-ха-ха! Дык вельмі-ж сьмешна, тата, выходзіць „і расьцялі, кажа, за ныркі, прымасьціўшы на палацях“.

— Ну, ты не выдумляй. Яно к сьпеху. Якая малітва ня ёсьць, але ўсё лепш, чым без малітвы. Сена трэба ісьці сушыць. Цябе ўжо я не заву, ведаю, што як сьвяты дзень, дык ты па сходах...

Маці запаліла печ. Цімка надзеў новую кашулю і быў рады, што бацька ня кліча з сабою.

Пракоп вывеў з пуні буланую кабылу і, пагладзіўшы яе па храстках, лёг жыватом на сьпіну кабыле, потым перакінуў цераз яе босую нагу,

і штаніна на той назе закасалася да калена. Ї, боўтаючы нагамі, з граблямі за плячыма, важна выехаў на вуліцу.

Завінуўшыся ля печы, маці сказала:

— Казалі, што ты папа лаяў на сваім сходзе. За што ты так?

Цімка ўспомніў, што нядаўна быў антырэлігійны вечар.

— Ї не аднаго нашага папа, а ўсіх, якія толькі ёсьць...

— Дык вось, ён казаў, бацюшка наш. Калі будзе жаніцца Пракопаў сын, дык ні за якія грошы вянчаць ня буду.

— Во, знайшоў чым страшыць, ды я, хоць і буду жаніцца, дык без папа...

— Ну, ты гэтага не кажы. Можа калі і будзе справа тая. Я ўжо старая, помач трэба. А табе ўжо, дзякаваць богу, дваццаць гадкоў. Не маленькі. Бацька гаварыў са мною...

— Ну, аб гэтым я сам скажу, а ня бацька...

— Ну і распусьнікі цяпер пайшлі. Усё яны самі, усё яны пасвойму. Ды гэта-ж я для парадку кажу.

Заўсёды так, пагаворыць маці ды змоўкне, не перасіліўшы на словах сына.

Цімка вышаў на двор. Так стала радасна—пабег-бы, здаецца, як маленькі. Сонца пырскае сьветам. Завярнуў з вуліцы сьцежкаю да рэчкі.

Затарарахкалі вёдры, выскачыла з задворку дзяўчына ў белай кашулі, азірнулася і расхрыстаная пабегла ў крыніцу за вадою. Ї звонка ды пераліўна засьпявала:

Не ха-адзі па тэ-эй даро-озе,
Дзе ня ро-одзіцца а-авёс...

Хада ў яе лёгкая, трошкі перавальвалася з боку набак, а разам хісталіся новыя драўляныя вёдры. Цімка спазнаў, пабег сьледам. Паставіўшы на траву вёдры, стаяла дзяўчына—босая, з падаткнутым да калена андараком, абярнуўшыся да гаю, адкуль даносілася кукаваньне зязюлі.

— Ку-ку! Ку-ку!

Дзяўчына прыслухалася, крыкнула:

— Закукуй, зязюля, закукуй, шэрая, колькі мне гадоў жыць: ці год, ці два, ці ні во-о-днага-а?..

— Ні во-однага!—крыкнуў Цімка адзадзі.

Яна спалохалася, крутка павярнулася.

— Ах, каб на цябе ліха!—замахнулася дзяўчына кароміслам.—Ня даў нават і загадаць.

— А што ты думала?

— Вядома што: ці скора замуж пайду.

— Ого, якая ты!

— Ха-ха! Дзівак ты, я-ж зусім не пайду.

— Ніколі?

— Ніколі!

— Вось табе і на!—стукнуў Цімка рукамі па каленях, састроіўшы сьмяшліва-горкі твар.—А я толькі думаў...

— Што ты думаў?—перадражніла дзяўчына Цімку і піхнула ў лужыну.

Запэцкаўшы калені, ускочыў на ногі, абхапіў яе за стан. І абое яны пачалі дужацца. Паваліліся, зарагаталі, пакаціліся па траве. Цімка якраз пад ніз папаў.

— Ого—якая ты дужая!

— Папаўся-б ты ў мае рукі, ведаў-бы!

І вось стаяла яна і сьмяялася любай усьмешкаю.

Твар яе белы, з чорнымі брывамі. З жосткасьцю і нейкай дрымотнасьцю ў целе, са сьпячай сілаю, са сьмехам, з жаданьнем рухаў і жыцьця Цімка глядзеў утаропленымі вачыма, і постаць—гібкая і сьмелая—цягнула да сябе.

— Будзеш, Арынка, сягоньня на сходзе?

— Буду.

Цімка стаяў побач. У аднэй руцэ трымала каромісла, а пальцамі другой перабірала расплеценую касу. Ён нават не заўважыў, як узяў яе за рукі... Кукавала яшчэ зязюля, цурчэла крыніца, прыпякала сонца, на зялёнай траве раса срэбрылася. І кругом было так радасна, як у Цімкі на сэрцы.

— Што гэта, Арынка, я хацеў сказаць табе?

— Успомні...

— А-а... вось што...

Ён раптам абняў дзяўчыну за шыю і моцна пацалаваў у самыя губы, так што Арына не пасьпела нават апамятацца.

— Што ты, Цімка, здурнеў ці што? Ці можна-ж комсамольцам цалавацца?

— Можна, Арынка, далі-бог-жа можна! Ах, Арынка, якая ты добрая дзяўчына!

— Вось дам каромíслам, тады ня будзеш лезьці.

Яна сьмяялася, грудзі ў яе ўздымаліся пад белай сарочкаю. Твар вымыты халоднай вадою і вочы блізка—сінія-сінія, а ў іх—агонь і сонца.

Сум зьявіўся ў Цімкі.

— Ды я-ж, Арынка, да цябе па шчырасьці.

Набіраючы вады, яна сказала з дакорам:

— Ведаю я шчырасьць. Кожны з вас хоча пацалаваць, а пасьля—далей лезе. Наб'е жывот, як той Мікола Парасцы, а тады насіся—кіне як папала. А яшчэ комсамольцы—эх, вы!

— Паслухай, Арынка, гэта-ж я ня проста. Ці ты ня ведаеш мяне? Гэта-ж я таму...

Арына зноў паставіла вёдры, з усьмешкаю глядзела.

— Ну, чаму... кажы?

— Таму, што люблю цябе...

Яна апусьціла вочы да долу, і Цімка заўважыў, што пачырванела. Можа і яна любіць?

Адмахнулася рукою.

— Ат, няма калі з табою гаварыць!

Пайшла з поўнымі вёдрамі вады на ўзгорак. Хісталіся вёдры і разьлівалася вада.

А Цімка, поўны нейкага нязьведанага шчасьця, лёг на траву. Над галавою ўюцца мухі. Залацістыя жучкі поўзаюць у траве.

— От, добра любіць такую дзяўчыну!

Доўга ляжаў Цімка ў густой траве з сонечнымі лятуценьнямі.

## III

Ідучы па вуліцы, Цімка надумаўся зайсьці да Сёмкі Чыжыка: ён нядаўна прыехаў з гораду, дзе канчаў у гэтым годзе сямігодку, дык Цімку захацелася пра тое ды сёе распытаць.

А на дварэ, праз адчыненае вакно, ён пачуў, што Сёмка з нейкім асаблівым захапленьнем і нараспеў, то павышаючы, то зьніжаючы голас, гаварыў нейкі верш.

Цімка падумаў:

— Ці ня сам ён, гад, верш напісаў, з яго будзе гэта.

У хаце толькі адзін Сёмка сядзеў на лаўцы, над нейкімі паперамі, падставіўшы вялікі палец правае рукі к носу і задраўшы калматую нястрыжаную галаву ўгару з адкрытым ротам; адну нагу ён падкорчыў пад сябе, а другую паклаў на ўслон, што стаяў побач. Такая поза трошкі зьдзівіла Цімку. І ў дзьвярох ён падумаў, што нешта надта-ж важнае вырашае таварыш. Нават і ўваходу яго Сёмка не заўважыў, як сядзеў, так і сядзеў. Цімка, падышоўшы да стала, працягнуў таварышу руку.

— Здароў.

Толькі тады страпянуўся Сёмка Чыжык і працягнуў руку з алоўкам, абкусаным на канцы.

— Чым, брат, займаешся?—спытаў Цімка.

— Думаю.

— А што ты думаеш?

Сёмка Чыжык з гонарам паглядзеў у вочы.

— Сюжэт шукаю.

Цімка не зразумеў, што гэта за штука, а Сёмка растлумачыў.

— Верш пішу. Зразумеў? А каб напісаць верш, наперад трэба выдумаць сюжэт.

— От яно што. Я зразу падумаў, што нечым такім займаешся. А за колькі яго напісаць можна?—зацікавіўся Цімка, неспрактыкаваны ў гэтай справе.

А Сёмка, добра ведаючы махінацыю, пачаў расказваць.

— Тут, браце ты мой, скажу па праўдзе, як калі. Ёсьць тэма, дык за пяць хвілін напішаш, а няма, дык часам цэлы тыдзень думаеш. Я сваю поэму ў трыста радкоў за вечар напісаў, як плюнуць... Гэта ня тое, што там плугам ці бараною вадзіць. Усё абмазгаваць трэба. Калі-небудзь думаеш-думаеш, дык ажно пот з цябе пабяжыць. От як!

— Уга!—зьдзівіўся Цімка.

— А ты думаў гэта проста? Не, браце, не такое дзела. Поэтычнае дзела цяжкае...

Цімка захацеў пасьмяяцца.

— Дык і ты ўжо, гад, поэтам стаў? А памятаеш: мы з табою сьвіней пасьвілі і без штаноў хадзілі—ха-ха-ха! А прыехаў, халера, у горад, зразу стаў поэтам...

І яны абодвы аж качаліся со-сьмеху.

Цімка сьмяяўся таму, што аніяк ня мог уявіць у ім—курносым, з валасамі, якія тырчэлі на макаўцы ўгору—сапраўднага поэту, такога, якога ён бачыў на малюнках у тоўстых кніжках. А Сёмка думаў: вось які я стаў, не падыходзь!

— І даўно цябе залічылі ў поэты?

Сёмка густым басам даў аб сабе „інформацыю“.

— Залічыць то яшчэ не залічылі, але скора залічаць. У рэдакцыі мне казалі: у цябе, кажуць, чартоўскія здольнасьці—пішы, брат, а друкаваць яшчэ ня можам. У іх, ведаеш, свае разуменьні. Дык я друкуюся цэлымі падваламі ў насьценнай газэце.

— Здорава ты, значыцца, за вершы грошы заграбаеш?

Над гэтым пытаньнем Сёмка трохі задумаўся. У насьценнай газэце грошай ня плоцяць, але адзін раз у газэце за допіс заплацілі дзевяноста пяць капеек. Дык, каб ня ўдарыць перад таварышам тварам у гразь, ён сказаў:

— Плоцяць нямнога, ты павінен сам разумець, што гэта справа грамадзкага характару.

— А пра што больш пішаш?

— Поэта пра што захоча, пра тое і напіша. Падойдзе сьвята якое-небудзь, пішу аб сьвяту, аб вайне, аб каханьні.

— Ого,—нясьцерпіў Цімка,—ці ня ўлопаўся ты ў каго?

Сёмка Чыжык здаволена засьмяяўся.

— О-о-о, браце мой, гэта вельмі проста, бо ўсе дзяўчаты поэтаў любяць; кожная туліцца да цябе, бо кожнай цікава, калі ты, напрыклад, прысьвеціш ёй свой верш. Гэта адно. Другое: сядзіш ты з ёю ўвечары ў садзе, тут салавей сьвішча ды іншае такое. Калі ты поэта, можна ня проста прозаю гаварыць, а вершамі—зусім іншае выходзіць.

Сёмка Чыжык выскачыў з-за стала і стаў хадзіць па хаце, кучаравячы валасы.

— А самае галоўнае тут—слава, якая прагрыміць аб табе па ўсяму сьвету.

Цімка ня дужа разумеў славы; ён проста сядзеў на лаўцы, склаўшы на грудзёх рукі, ухмыляўся і мала верыў. А Сёмка зразумеў іначай. Падышоўшы да яго, штурхануў кулаком у бок і зарагатаў.

— Што, сукін сын, зайздрасьць бярэ—га? А ты вазьміся дый сам пішы. Чорт цябе ведае, можа ў табе вялікі талент сядзіць, а ты дурня валяеш. Я раней сам не заўважаў—от як! Вазьміся дый напішы, а я налажу сваю рэзолюцыю. Цяпер амаль усе пішуць вершы. Нават загадчык школы, дзе я вучуся, тоўсты такі дзядзька, пачаў страчыць. Пішэце, кажа, хлопцы, ліха на вас!

Як-ні-як, а Цімку захацелася таксама паспрабаваць сваю здольнасьць. Ён парашыў у вольную часіну папрактыкавацца.

А Сёмка раіў, як і што пісаць.

— Як будзеш пісаць, больш зважай на рытм. Рыфма—глупства, можна і без яе. Вось глядзі, як у мяне (і ён паказаў ліст сьпісанае паперы). Радкі пішы доўгія, а як будзеш перапісваць начыста, дык разьбі кожны радок на тры-чатыры, а то і на пяць радкоў. Папершае—дынаміка, а падругое, калі надрукуюць—разоў у пяць больш гонарару атрымаеш. Трэцяе: гонорар можна вылічыць самому, па пятнаццаць ці дваццаць капеек за радок. А то ў рэдакцыях сядзяць такія людзі, якія зацікаўлены ў тым, каб як мага менш заплаціць (майму таварышу заўсёды ўкруцяць некалькі капеек). А калі вылічыш сам, то ўжо не падвядуць, на тое закон ёсьць, які абараняе поэту. Пачацьвертае: зварачай увагу на ідэолёгію, каб яна была пролетарскаю, а не буржуазна-капіталістычнаю...

Сёмка Чыжык, засунуўшы рукі ў кішэні картовых штаноў, прадзёртых якраз на тым месцы, якім звычайна садзяцца, шпарка хадзіў па хаце і ўсё навучаў таварыша...

— У горадзе—ня тое, што тут. Уначы і то сьветла. Электрычнасьць. Кіно... Тэатр... Ух, люблю!

— А часта ходзіш у кіно?

— Ня так часта, але хаджу. Гора, што не заўсёды грошы бываюць на білет. Часам хаджу і бяз білету.

— А як бяз білету?

— Тут, братка мой, без махінацыі не абыйдзешся. Ёсьць у мяне таварыш такі, які ўмее падрабляць. Вось купіць ён адзін білет, а тады падвядзе колькі хочаш.

— А па шыі колькі разоў пападала?

— Мне-то, канечна, ні разу, а вот яму здорава раз папала. Нават у міліцыю зацягнулі. Але гэта ня важна. Важна тут сама карціна, у ёй увесь цымус. Вазьмі ты хоць „Багдадзкага злодзея“—табе зроду нічога лепшага ня прыходзілася бачыць. Ох, ліха табе, карціна дык карціна!

Сёмка Чыжык размахваў рукамі, стукаў па стале і ўсё больш распаляў фантазію нічога ня бачыўшага Цімкі.

— А вучыцца, таксама добра. Уперад цяжка здавалася, а далей, дык як па маслу пайшло. Вось камандыруюць цябе на рабфак—сам убачыш...

І цягнула Цімку ў горад.

Горад шумны. Горад вялікі. У ім людзі здабываюць вучонасьць. Шырокія ў ім размахі для хаценьня чалавека!

— Абяцалі пасляць мяне вучыцца.—Цімка ўздыхнуў.

— Гэта добра, будзеш чалавекам адукаваным, інжынэрам якім-небудзь, а я поэтам...

Пагаварылі яшчэ, каб выпусьціць насьценную газэту. Усю справу бярэ на сябе Сёмка Чыжык—яму не ўпяршыню, ён у школе рэдактарам свае газэты.

Цімка захацеў палуднаваць. Яны на гэтым і разышліся.

## IV

Прышоўшы дахаты, Цімка захацеў паспрабаваць сябе ў вершах; натхненьне, якое даў Сёмка Чыжык, усё не праходзіла. Ён дастаў паперы і аловак. Шмат думаў над тым, якую тэму ўзяць, якія падабраць словы, каб выходзіла гучна і прыгожа. Але ў галаве ўсё пераблыталася, і жаданьне пісаць адпала.

Зусім выпадкова мільганула другая думка.

— Кручынаўскі лясьнік прадае дзяржаўны лес людзям, а грошы забірае сабе ў кішэню. Сваякі яго шмат панавозілі бярвеньня. Сяляне скардзяцца, але справа далей ня ідзе. Кажуць, што ён у горадзе даў некаму хабару, таму і трымаюць яго на гэтай пасадзе.

Вось аб гэтым ён і напісаў допіс. Запячатаўшы ў конвэрт, узяў з сабою ў кішэню, каб укінуць ля школы ў паштовую скрынку.

Школа стаяла трохі воддаль ад вёскі, недалёка ля рэчкі, з трымя бярозкамі пад вокнамі. У сярэдзіне на сьценах віселі плякаты і малюнкі. Апроч сваёй моладзі—комсамольскай, тут гутарылі бабы з мужчынамі. Некаторыя чыталі газэты, другія слухалі, ківалі галовамі, падавалі свае думкі. Кірыла Чарняк расказваў дзеду Сапрону пра такую машыну, што ёсьць у Амэрыцы, якая разам і жне, і вяжа снапы, і малоціць, і гатовае збожжа ў мяшкі ссыпае. А дзед Сапрон усё дзівіўся, дадаючы слова: „уга!“

Калі сакратар ячэйкі—высокі і дужы хлапец, з закасанымі па локаць рукавамі—пабарабаніў аб стол пальцамі і сказаў, што сход лічыць адкрытым, дык усякія гаворкі сьціхлі.

Першае слова ён гаварыў аб дысцыпліне.

— Таварышы! Комсамолец павінен быць ва ўсім прыкладным. А якія факты мы назіраем у нас? Што за комсамолец у нас Мікола Карчак,—

адкажэце мне, таварышы? Я констатую, як факт, што ён п'яніца. Гэта недапусьціма, калі ён павінен дзяўчыне беспартыйнай плаціць алімэнты і ўцякае ад гэтага. Ён сягоньня не зьявіўся, але мы без яго вырашым. Стаўлю пытаньне аб выключэньні. Хто, таварышы, за?

Высока падняліся ўсе рукі.

— Так яму,—заўважыў дзед Сапрон,—каб другім не патураць...

Узяў слова Цімка. Паглядзеўшы на Арыну, якая сядзела і ўсьміхалася, ён адкашляўся і пачаў.

— Нам трэба яшчэ пагаварыць вось аб чым: мост праз рэчку зусім разбурыўся. Езьдзяць сяляне, возяць сена, а воз чый-небудзь і абернецца ў ваду. А самі сяляне аніяк ня могуць прыйсьці да думкі, каб наладзіць яго, а там працы ўсяго на паўдня, калі грудам, значыцца...

Ня даслі скончыць яму, як мужыкі загалдзелі.

— Правільна!

— Мост наладзіць трэба!

— Разам, знацца, гуртом...

Выступіў Кірыла Чарняк—пачынальнік новага і гаспадар добры.

— Патрэбна наладзіць мост. Коні ногі зламаюць... Заўтра-ж пайсьці ўсім на работу.

З гэтым скончылі. Арына папрасіла слова.

— Я, таварышы, скажу... Жніво пачынаецца... У нас ёсьць адзінокія ўдовы, як Ігнаціха Дар'я, якія самі ня могуць управіцца, каб і пажаць, і пакасіць—колькі там яго ні ёсьць. Дык мы вось...—яна паказала рукою на дзьвюх таварышак-комсамолак—дапаможам трохі жаць, а хлопцы няхай ідуць пакасіць.

— Хлопцы, вырашым!

— Што там вырашаць? Так яно і будзе...

— Агонь-дзеўка,—заўважыў дзед Сапрон, гледзячы на расчырванелую ад доўгае гаворкі Арыну.

Пагаварылі яшчэ, каб у нядоўгім часе паставіць спэктакль. Згаварыліся—хто будзе граць на сцэне...

У адчыненае вакно прабіраўся вечар. Нёс ён з сабою пахнучыя летнія травы: румянку і асаку; палыном пахла з поля і лебядою з гародаў.

Як пачалі разыходзіцца, дык неяк здарылася, што Цімка з Арынаю ідуць побач, рука ў руку.

— Маладзец ты, Арына, як гэта сказанула. Мы-ж якраз не дадумаліся.

— Вы толькі ўсё аб сабе думаеце...

Прабег статак з поля, падняўшы пасьля сябе пыл.

А Цімка з Арынаю апынуліся ля самае рэчкі. Рэчка ня шырокая і ня глыбокая, дно цёмнае, абрасла алешнікам і лазоўем. На беразе някошаная густая трава.

— Давай, Цімка, пасядзім, аднак няма куды ісьці.

Селі зусім блізка адзін да аднаго.

— Успомніў Цімка (гэта-ж зусім нядаўна было). Былі маленькімі, дык разам купаліся ў гэтай рэчцы, вось тут—на гэтым-жа месцы. А цяпер—бач ты!—дзяўчына якая стала.

Гледзячы кудысь ў даль, Арына сказала.

— Раскажы, Цімка, што-небудзь.

— Што табе расказаць? От быў я ў Сёмкі Чыжыка...

— Ня люблю я гэтага Чыжыка. Надта-ж хваліцца ён...

— Але расказваў ён пра горад. Дзіўны гэты горад.

Галасы глухія. Цяплыня. Цёмна. На ўсе галасы квохчуць жабы, плёхаецца ў рацэ рыба.

Рука ў Арыны грубая, з мазалямі; гладзіць Цімка сваёй рукою, а сіла нейкая перадаецца ў грудзі, вольнаю хваляй разьліваецца там.

— І заўсёды,—думае Цімка,—ведаў яе. Разам кароў пасьвілі ў лесе, на начлег вадзілі. Так пасьмяешся, пажартуеш. А ў яе вочкі—сінія... сінія... добрыя... блішчаць. І ня было тады гэтага пачуцьця. Адкуль яно ўзялося? Якая сіла ў ім? Паглядзіць яна, любая, як агнём апаліць. Увесь сьвет, здаецца, перавярнуў-бы. Добра любіць!

Задумаўся Цімка, несьвядома абняў яе стан дрыжачай рукою, прыхіліўся галавою да яе галавы. А яна—Арынка—яшчэ бліжэй туліцца. І руку сваю не адбірае. Ціха ўздыхнула.

— Дык ты, Арынка, мяне любіш?

— Радненькі... Цімка... Ці-ж ты ня бачыш? У цябе валасы во якія кучаравыя... Рукі моцныя. Не такі ты, як другія хлопцы... Родненькі мой...

— Арынка, любая мая! Ды я за цябе хоць у воду кінуся. Вось як любіць буду,—і Цімка з жарам пастукаў кулаком у грудзі.

— Не, Цімка, не кажы так, і забыць можаш. Многія так—любяццамілуюцца, а пасьля—забудуцца і кожны ідзе сваёй дарогаю...

— Мы разам вучыцца паедзем.

— Ой, як мне хочацца ўсё ведаць; здаецца-б, дзень і ноч вучылася, каб можна было...

Арына гаварыла нарасьпеў, як прыгожую казку.

— Прышла я ў комсамол (гэта-ж ты мяне падгаварыў тады) і знайшла я тое, чаго хацела: тут людзі думаюць, вучацца. А там—на вечарынках ды на гульнях, сумна; лаюцца, б'юцца; заўсёды я ўцякаю ад іх. А потым, ажэніцца хлопец, возьме любую дзяўчыну. Пажывуць з год—апрыкрыць жыцьцё—разлучаюцца, мучаць адзін аднаго. Ах, як ня люблю я гэтага, ажно страшна робіцца. А ўперад-жа і сама любіла гуляць...

Да ўсяго дзяўчына была рупнай, здатнай. Рана ўставала, заплятала русыя косы, з песьнямі жыта зажынала, на гульнях ці на вячорках—першай была.

— Добрая дзеўка—гаварылі мужчыны,—семнаццаць год, а яна якая...

А хлопцы шапталі на вуха ласкавыя словы, з зайздрасьцю глядзелі ў прадоньне блiскучых вачэй, ды ні да каго яна ня хінулася. Калі песьня Арыніна разам з падружкамі пачуецца ў бары (галасы—звонкія, заліўчатыя!)—выкажа сэрца гарачае—не адна душа ў хлапцоў паланее і попелам сыплюцца песенныя словы тыя на сэрца.

Вясною цьвітуць краскі розныя ў лесе, на лугох і па полі. І любіла зьбіраць іх дзяўчына, заплятаць вянкі невядомаму суджанаму і любіла таптаць іх нагамі, прыпяваючы пра зраду невядомага свайго, пра дзявочае няпэўнае шчасьце...

— А шчасьце гэтае, дзе яго знойдзеш? Ці ў чыстым полі, ці ў глухім бары, ці за сінім морам? А сьлёзы? (Уткнуўшыся ў падушку галавою, плакала ўначы). Усё ня вечна. Радасьць прыходзіла...

І хораша вось цяпер маладой дзяўчыне. Цімка добры, прыгожы хлапец. А як моцна цалуецца ён—так і растаюць пацалункі на гарачай шчацэ...

— Помніш, Цімка, гады тры таму назад, здаецца. Вясна была; а рэчка разьлілася. Праз яе кладка гнуткая. Ішла я, пасьлізнулася—дый бухнула ў ваду. А ты падасьпеў якраз, сам ўлез у рэчку і мяне выцягнуў. Тады мы сушыліся на беразе. Расклалі вогнішча. І падумалася мне: от, каб Цімка закахаўся...

З крыкам і сьвістам праехалі ў лес начлежнікі, коні нагамі трыпацелі, гойкалі.

— Ой, як позна, а я засядзелася. Пойдзем, Цімка.

— Ну, пасядзі яшчэ трошкі, Арынка!..

Пад звон гармоніку ў канцы вуліцы сьпявалі дзяўчаты песьню пра любоў і разлуку.

V

У жніўную пару людзі ўстаюць рана. Як толькі пачынае тонуць змрок і закудзеліцца досьвіцьце, устаюць жанчыны ды пачынаюць завіхацца ля працы...

Трохі спаласьне твар, перахрысьціцца баба на абраз—і пойдзе на цэлы дзень гарачая летняя праца.

Цімка ў гэты дзень устаў раней за бацькоў, успомніў учарашняе—лёгка і вясёла стала. Прынёс пілу, нагастрыў. Учора ўмаўляліся рана пайсьці ладзіць мост.

Неўзабаве і раньне прышло. Ішлі касцы ў поле; у сярмягах напашкі, з косамі за плячыма, ішлі сьпяшаючыся. Выгляне сонца, ападзе раса—каса ня будзе касіць.

Выпаліўшы ў печы (калі сонца ўжо стала вышэй лесу і здорава прыпякло), пацягнуліся ў поле жанчыны адна за аднэю; з сярпамі, з малымі дзецьмі (будуць гуляць там на іржэўніку, краскі рваць). Несьлі з

сабою калыскі дзетныя бабы, збаны з вадою—піць захочацца—трэба смагу прагнаць. А то ня хопіць сілушкі, каб устоіць бабе—ваяку сьмеламу з вялікімі гонямі аржанага калосься, ды са зброяй зазубранай—крывым сярпочкам, каб падрэзаць галовы збожжу.

Сабака, падцяўшы хвост, кульгае за гаспадыняю.

— Куды ты, пракляты, валачэшся—вон!

Ня слухаецца сторож-сабака. Яму лепш у поле пайсьці—палудзень чый-небудзь зловіць, пабегае ды па жыту пакачаецца.

Маленькая дзяўчынка з брудным падалом выцірае кулачкамі сьлёзы, просіцца.

— Пусьці мяне, мамацка, у поле, я буду вуцыцца заць...—і цягнецца за матчыным падалом.

Ласкава маці абцірае сьлёзкі.

— Гуляй, дзетка, у хаце, бо няма каму заставацца.

— А я хоцу.

— Няма, дзетка, сярпочка табе,—пускаецца маці на хітрыкі.—Ты папрасі тату, ён сходзіць у кузьню сярпок табе зрабіць...—о такі!

І дзяўчынка згаджаецца: зробіць ёй тата сярпок, заўтра пойдзе з мамаю ў поле, будзе, як вялікая, жаць...

Рыкаюць з лесу каровы, іржэ з папасу конь. Зазванілі ў паплавох косы, блішчаць сярпы на сонейку.

Радасна!

Эх, задумацца і паразважаць над табою, жыцьцё! Шчодра даеш для зямелькі і мала для чалавека, як стары скнарыца!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А на жытнёвай постаці мітульгою снуе сонца. Журацца вузкія палоскі, радуюцца сялянскай радасьцю схіленыя да долу каласы і нібы сьпяваюць жніўна-вясельныя песьні, у якіх чуецца (апроч суму-радасьці) зусім нявыказанае ніколі пачуцьцё чалавекам.

Над полем неба—сіняе і далёкае-далёкае...

На вузкім загоне ўдава Дар'я скардзіцца на свой лёс так, як кожная вясковая жанчына ў такую пару. Спрытна згінаецца над рэдкім пляшывым збожжам, тоўстымі жменямі зьбірае сноп за снопам—і толькі ўверсе мільгае блішчасты серп. А сьпіны не разьняць—ой, як баліць!

Рукі ў Дар'і мазалістыя, чорныя, да крыві парэзала калючым іржышчам ногі. Твар худы, а ад думак і клопату застыла напружанасьць, жаданьне пасьпець з усімі ў рабоце.

Яна паправіла хустку, наехаўшую на вочы, выцерла пот, і песьня папрасілася з грудзей, песьня,—каб успомніць дзявоцтва. Яшчэ не старая, а дзявоцтва заўсёды люба перабіраць у галаве.

— Ка-асіца ма-ая ру-уса-а-я-а,  
пераме-эна нялэо-гка-а-я-а...



Максім Лебедзь.



Сяогей Піліпэнка.



Паўло Усэнка.



Міхайла Быкавец.

# ДА ПРЫЕЗДУ Ў МЕНСК УКРАІНСКІХ ПОЭТАЎ І ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

**Максім Максімавіч Лебедзь**—нарадзіўся ў 1889 г. на Крэменчугшчыне. Член організацыі пісьменьнікаў „Плуг“. Супрацоўнічае ў газэтах, часопісі „Плуг“. Загадвае будынкам Літаратуры імя Блакітнага.

---

**Сяргей Уладзімеравіч Піліпэнка**—нарадзіўся ў 1891 г. ў г. Кіеве, сын служачага, скончыў тры курсы філёлёгічнага факультэту. З 1908 году прымае ўдзел у рэволюцыйным руху, а з 1919 году член компартыі. Пачаў друкавацца ў 1918 г. Быў рэдактарам партчасопісаў. Піша апавяданьні і байкі. Вышлі зборнікі: „Байківниця“, „Під Черніговым“, „Кара“, „Любовні пригоди“, „Евангелія часу“ ды інш. Ён зьяўляецца закладчыкам організацыі пісьменьнікаў „Плуг“, на чале якое стаіць і цяпер.

---

**Паўло Усэнка**—нарадзіўся ў 1902 г. на Крэменчугшчыне. Друкуецца з 1922 г. Гэта выдатны і выразны комсамольскі поэта. Член організацыі „Маладняк“ і рэдактар часопісі „Маладняк“.

---

**Міхайла Мікалаевіч Быкавец**—нарадзіўся ў 1894 г. на Палтаўшчыне. Член організацыі пісьменьнікаў „Плуг“. Загадвае аддзелам культуры і мастацтва ў вялікай сялянскай газэце „Радянське село“. Пачаў друкавацца ў 1917 г. Супрацоўнічае ў шмат якіх газэтах і часопісах Украіны і Беларусі, зьмяшчаючы пераважна публіцыстычна-крытычныя артыкулы.

---

І тое неперапетае наганяе на вочы балючыя, як палын-трава, горкія сьлёзы.

Каля капы жыта сьпіць яе двохгадовы сын. Адарвецца ад працы, схіліцца над дзіцём, скажа слова ад ласкі ды зноў сьпяшаецца жаць...

За гонямі—луг, гудуць гаворкі касцоў, стукаюць ля рэчкі сякеры—мост будуецца.

А перад вачыма Дар'і хвалюецца маладосьць. Была дзеўкай моцнаю,—а што засталося? Але ўсё яшчэ не прайшло, ёсьць на што спадзявацца: гадуецца двое дзетак. Будзе радасьць, як стануць дарослымі!

Мінулае пляму на сэрцы паклала.

> — Была ў роднага бацькі маладою. З таварышкамі сьпявала ў зялёным бары. Слухалі людзі, слухалі завулкі...
>
> І закахалася Дар'я ў Ігната.
>
> Зорныя ночы праводзілі разам. Потым—на вайну забралі. Свая-не-свая хадзіла Дар'я.
>
> А на вёсцы пачалі „распусьніцай“ зваць, бо языка людзям не завяжаш. Нарадзіўся сыночак... Толькі, як прышоў Ігнат, дык супакоілася сэрца.
>
> Пажылі разам гадочак. Памёр нечакана...

Успаміны палілі яе смагаю. Напілася вады са збана і лягчэй стала.

Азірнулася Дар'я ў бок шнуру. Ідуць з сярпамі тры дзяўчыны-комсамолкі—Арына, Ганна, Хадора. „Куды яны ідуць?“—падумала.

А тыя прышлі да Дар'і, і кажуць:

— Дапаможам мы табе, цётачка, жаць. Адна ты ня ўправішся.

— Праўда, мае любыя, няўпраўлюся... Толькі чаму-ж вы так? Сваё не пажалі яшчэ.

— А мы сваё пажнём.

— Ну, дык дзякую вам, дзяўчаткі.

На вузкіх гонях у чацьвярых лёгка жнецца. Памаладзела ад радасьці Дар'я. Ня можа заўважыць, як сноп за снопам расьце. Глядзіць на дзяўчат і дзівіцца.

> — Кажуць на іх людзі, што яны такія ды сякія, у бога ня вераць, замуж без вянца выходзяць, а яны лепш за іншых. І на мяне таксама казалі, што распусьніца, у дзеўках радзіла. А ці ня ўсё роўна, як радзіць?

Вясёлая комсамолка Ганна жартуе.

— Ці дужа цябе, цётка, твой Ігнат любіў? Казалі ён быў першым хлопцам на сяле?

— І чаму-ж, мае дзеванькі?—жартуе і сама Дар'я—эха-ха! Мінулася мая маладосьць. А бывала-ж, як засьпяваю дажынкавую... ды вясёлую, як пачуе Ігнат—з усякае работы прыбяжыць у поле... Сядзім позна-позна дзе-небудзь на мяжы. Ужо месяц узыйдзе, людзі спаць палягуць, а мы ўсё сядзім. І так гэта люба, дзяўчаткі мае!

Зьвязала сноп, разагнулася. І каб успомніць хораша перажытае, засьпявала жніўную песьню пра палявое раздольле. І так гэта добра вышла, што ўсьлед засьпявалі тры комсамолкі.

— Травачка мурожная—разарлівы цьвет.
Э-эй, па табе я, травачка, пайду.

І панеслася маладая песьня вышэй за сьцены жыта.

Думкі мае думныя ў полі расьпяю-у...

Сонца даўно зваліла з поўдня; падфарбавала золатам і неба, і поле, і вёску.

Дзяўчаты на постаці, як дажыналі другі загончык, „лавілі дажынкі“, скакалі босымі нагамі па іржэўніку.

— Толькі адно—раіла Дар'я,—як будзеце, дзяўчаткі, замуж выходзіць, дык выбірайце мужыка пасвойму. Без каханьня ня ідзіце, а то прапашчае жыцьцё будзе.

— Ды мы, цётка Дар'я, не прапусьцім...

— Выберам па сабе.

— Ды якіх яшчэ выберам!

— То-то-ж!.. Глядзіце, каб не памыліцца ды век не пакутваць.

Палуднавалі пад капою. Ізноў узяліся. Пад вечар, як паглядзела Дар'я назад, ажно рукамі ўспляснула.

— А дзяўчаткі-ж мае, зірніце, колькі мы зжалі. Гэта-ж к заўтраму мне толькі на паўдня застанецца. У тыя-ж гады я пакутую, бывала, дзён дзесяць, пакуль-ні-пакуль дацягнеш палоску да канца...

Па аднэй ідуць бабы з поля дахаты—пара.

— Ну, і як мне вас дзякаваць, розуму не прылажу—са зьдзіўленьнем і любасьцю глядзела Дар'я на трох дзяўчын.

У адзін голас адказалі:

— Не клапаціся, цётка. Мы павінны былі дапамагчы.

— Як гэта, любыя... павінны?

Тога, чым яны жылі, не магла яшчэ зразумець простая Дар'я.

У вёсцы—гоман. Прайшлі з піламі ды сякерамі хлопцы—новы мост пабудавалі. Згусьціўся змрок. Серп-маладзік то хаваўся за хмаркі, то зноў выныраў: гуляў з зорамі ў жмуркі.

Па шнуру цэлым натоўпам, змораныя, павольна ідуць жнеі. У той вечар зажынак плакала дзіўная песьня, разьліваючыся ў радасьці ды журбе.

## VI

З таго дню Цімкіна жыцьцё пайшло зусім іначай, чым уперад. Тады адбывалася праца, як нейкі абавязак, цяпер—што ні пападалася ў рукі, рабілася ахвотна, шпарка.

Махаючы касою па пожні разам з бацькам, ён сам дзівіўся: адкуль бярэцца сіла?

„А ва ўсём вінавата,—думаў ён,—Арына“. І яшчэ хутчэй прымаўся, што нават бацька не пасьпяваў за ім, заўважаючы ў ім нейкую перамену.

Бацька на пні касу кляпаў, а Цімка глядзеў на ўсё дапытнымі вачыма. Гаворачы аб гаспадарцы, бацька ва ўсім прыслухоўваўся да Цімкі.

— Вось,—казаў ён—хлеў разбурыўся, як-небудзь залатаць яго трэба, а то ўзімку каровы мерзнуць.

— А можа ўзяць лесу ды новы пабудаваць, лепшы?

Чухаў Пракоп грудзі пад потнай сарочкаю.

— І праўда твая. Пастараемся, як-небудзь...

— От я, тата, з восені думаю ехаць у горад вучыцца...

— Ну, што-ж—добрая справа. Вучыся. А я ўжо і сам упраўлюся—гаспадарка невялікая...

І яшчэ большая радасьць запаўняла Цімку.

Ведаў, што як сустрэнецца з Арынаю, удостач яны нагаворацца. І пойдзе шчасьлівы Цімка дахаты з новаю сілай, з новымі прыгожымі думкамі аб жыцьці...

Прагглядаючы раз газэту, Цімка аж аслупянеў. Яго допіс аб лясьніку Кручынскім быў надрукаваны. Прачытаў некалькі разоў, і быццам ня сам пісаў,—зусім гладка выходзіць.

— От, думаў ён, прачытаюць хлопцы—не павераць. А што цяпер скажа лясьнік?

І ня доўга думаючы, узяўся пісаць другі. Напісаў аб працы сваёй ячэйкі.

А цераз некалькі дзён па вёсцы пранеслася чутка, што лясьніка клікалі ў горад і звольнілі з пасады.

Мужыкі, сабраўшыся гуртам, гаварылі:

— Пайшоў гэта ў лясьнікі, дык думаў, і канца яго панству ня будзе...

— Ядры тваю налева—дачакаўся-ткі свайго!

— Так яму і трэба!

— А хто-ж гэта мог зрабіць, што яго, знацца, турнулі з пасады ды яшчэ і судзіць будуць?

— Хто? У газэтах прапячаталі комсамольцы.

А Цімка чуў і ўсьміхаўся. Мужычкі гавораць за яго, значыцца, ён правы...

Кожны вечар у школе адбываліся рэпэтыцыі. Цімка граў ролю п‘янага мужыка, і яго жонкаю была Арына.

Калі ні заходзіў Цімка да Сёмкі Чыжыка, дык той усё зубрыў матэматыку. Адкладаліся ў бок кніжкі, пачыналася доўгая гаворка.

— Усё, брат, падрыхтаваў—казаў Сёмка. Адна матэматыка засталася—ну і тупая-ж навука! Аніяк у галаву ня лезе. Я па ёй тры разы зрэзаўся. Цяпер здорава падрыхтаваў... А ролю сваю на спэктаклі вось добра сыграю—ад сьмеху будуць лопацца.

— А як з газэтаю?

— І газэта добра ідзе. Такі верш накатаў я, што толькі трымайся,— ух, ёмкі верш!

Матэрыялы ў насьценную газэту ўсё больш прыбывалі. А Сёмка Чыжык з запалам рэдагаваў яе.

— Ух, газэта будзе, хоць ты на выстаўку вязі! Здорава ты ўсыпаў лясьніку, я, нават, ня думаў, што можаш напісаць так.

Людзі звозілі ў гумны жыта, канчалі жаць ярыну. Спраўлялі дажынкі. А вёска—ціхая, стаяла ў зеляніне дасьпяваючых яблык.

Цімка думаў:

„Скора надыйдзе восень—як-жа быць?“

Перад тым, як ставіць спэктакль, зайшоў да Семкі Чыжыка. Той, з фарбамі ў руках, размалёўваў газэту і ўсьміхаўся, напяваючы нешта пад нос.

Паглядзеўшы на газэту, Цімка нават зьдзівіўся—так гэта добра вышла. Ніколі ня думаў, што Сёмка так прыгожа, такімі лёзунгамі размалюе. А ў Чыжыка з ілба пот цурком бег.

Насьценную газэту ў той-жа вечар аднесьлі ў школу. Прымацавалі. яе да сьцяны так, што яна зараз-жа пры ўваходзе кідалася ў вочы. Сёмка адыходзіўся некалькі раз да другой сьцяны, і, мусіць, самому падабалася, бо рот крывіўся ў вясёлую ўсьмешку. Папрасілі нават настаўніка паглядзець. І той пахваліў. А, прачытаўшы верш Сёмкі Чыжыка, дзе ён падпісаўся: „Сёмка Раскудлачаны“, пахлопаў Чыжыка па плячу, што для яго значыла „Маладчына ты, ліха на цябе!“

Тады Сёмку ня было канца радасьці. Цімку ён сказаў:

— Я, брат, за што ні вазьмуся, дык зраблю...

Соладка спаў у тую ноч Сёмка. Ён сьніў, што насьценную газэту паслалі на выстаўку, а верш яго перадрукавалі ў тоўсты журнал і ганарар заплацілі—нават ня столькі, колькі ён сам вылічыў, а ў два разы больш.

Спаў Цімка на двары на сьвежа-пахнучым сене. І аніяк ня мог заснуць, думаючы то пра Арыну, то пра горад...

... Папаў ён у вялікі горад (з роду ня быў там). Вялізныя камяніцы, жалезныя дахі. Снуюць аўтомобілі, фурманы са званкамі. Узад і ўперад ходзіць процьма народу. А Цімка—у лапцёх, з торбаю за плячыма—аніяк ня можа выйсьці, каб папасьці туды, куды яму трэба. І вось ужо яго пакідаюць сілы, змарыўся; хоча проста легчы на бруку, каб адпачыць, паклаўшы пад галаву торбу з хлебам,—як падыходзіць нехта, бярэ яго за руку і вядзе ў вялікі дом, дзе вельмі многа сьвятла—электрычнасьці; столькі многа, што Цімка прыжмурвае вочы і насоўвае шапку, каб не асьлепнуць.

— Ну, вось мы і прышлі,—кажа той, хто вёў яго.

І з радасьцю пазнае Цімка, што гэта нехта блізкі яму.

— Гэта ты, Арынка?

— Я...

Цімка працягнуў рукі... і прачнуўся. Сонца горача паліць сьпіну. Рыкае карова ў пуні. Завялая асака і кмен пахнуць у сене...

## VII

Сьвяточны дзень.

Вёска на сонцы, як абноўленая стаіць...

З самога раньня на дзьвярох школы вісела афіша, якая ўсіх, хто не праходзіў, зацікавіла.

*Старыя і маладыя,*
*сьпяшайцеся!*
*Сягоньня... спэктакль...*
*Цікавая і жартаўлівая п'еса*
*„ПРЫМАКІ“—Я. Купалы.*
*Пасьля—гульні.*

Ужо адны вялізныя чырвоныя літары і чалавек з разяўленым ротам, які паказваў пальцам і крычаў, шмат чаго гаварылі.

Паглядзеў стары Панас (выпіў ён дзеля сьвята), парнуў пальцам у чалавека.

— Чаго ён рот разявіў?

— Ды крычаць-жа, каб прыходзілі на прадстаўленьне,—адказалі яму.

— Ды ўжо-ж—сходзім.

— Паглядзім.

А як паглядзелі мужыкі на насьценную газэту—зарагаталі ўсе.

— Гы-гы-гы! Гэта-ж Панас... Ідзе п'яны па вуліцы ды махае пустою бутэлькаю.

Разьвёў Панас рукамі ў непаразуменьні.

— Сукіны сыны, што нарабілі—га?

Плюнуў ён і адышоўся.

— Не рахуба гэта. Выпіў, дык за свае-ж грошы...

У поўдзень школа запоўнілася людзьмі. Малюнкі па сьценах прыцягнулі да сябе баб і дзяцей. Прышла і Дар'я паглядзець.—Якое дзіва будзе паказвацца?

На сцэне заслона, пашытая з дзьвюх рабых дзяруг. А за сцэнаю галоўны распарадчык—Сёмка Чыжык. Прывешвае артыстым саматробленыя бароды, бровы падмазвае сажаю: усё ў самы акурат выходзіць. Бегае, парадчыць. А людзі роем гудуць. Чакаюць, калі тое прадстаўленьне пачнецца.

І зацягнулі комсамольцы:

— Ох, і біла-ж мяне маці
і крычала.
З комсамольцамі гуляць
ня пушчала...

Сёмка Чыжык званок даў. Адчынілі на дзьве палавінкі дзяружную заслону два хлапчукі і самі-ж схаваліся там; глядзяць—і блізка і добра.

Так і вохнула „публіка“. Аніяк не пазнаюць, хто такі на сцэне: барада ільняная доўгая. Зараз-жа ўздрыг сьмеху.

Цімка грубым голасам гаворыць.

А Сёмка Чыжык крычыць, каб не перашкаджалі.

— Таварышы, ня сьмейцеся... пасьля будзеце...

Ухапілі бабы мешалкі—біцца пачалі, якраз, як і сапраўды бывае. Агаласілася хата рогатам. Качаецца дзед Сапрон ад сьмеху, кашляе.

— Вось бабы, дык бабы, чаго не падзялілі...

Чатыры разы паднімалі і закрывалі заслону.

— Памірыліся-ткі,—зазначыў дзед, цмокчучы люльку.

А Дар'я сядзела з сынам на руках і была вельмі задаволена. І вось, здаецца, мала што было, а ў сэрцы ўспыхнула нейкая новая іскрынка, невядомая дасюль.

Вышлі ўсе тыя на сцэну, хто граў. Засьпявалі „Ад веку мы спалі“. Паўсталі ўсе з сваіх месцаў, шапкі паскідалі. Грымнулі хорам простую песьню аб тым, „што трэба рабіць“. Выняў дзед Сапрон з роту люльку, старым голасам падцягнуў, як умеў, сьледам за другімі. Засьпявала і Дар'я на жніўны мотыў, не магла патрапіць. Удалася песьня! У Дар'і сьлязу нагнала на вочы.

І ўсе, хто быў, сьпявалі.

І песьня коціцца, варочае нешта ў грудзёх, хвалюе чалавека.

Вечар... Па-над логам слаўся туман. Маўчалі палі; а вёска не маўчала. Неба чыстым абрусам вісела, падатканае блішчастымі зорамі... Зазьвінеў гармонік. Пачаліся скокі.

Разышліся мужчыны і бабы, і ў сваіх хатах чулі водгульле.

Так і ўсё на сьвеце. Грымне перш вялікім гулам. Абудзіць. Перастане.

І ўсё-ж водгульле доўга будзе зьвінець...

## VIII

Прайшло жніво. Мінаецца лета.

У садох пукаюць аб дол сьпелыя яблыкі і разьбіваюцца. На яру трава выедзена да караню скацінаю. На асіне жаўцее ліст.

Пад раньне стукаюць у гумне цапамі Цімка і Пракоп. Пад восень усе людзі злыя да працы. Дык па ўсіх таках вухаюць цапы, а ў хутараніна Кірылы Чарняка гудзіць новая малатарня.

Кажа Пракоп, замахваючыся па снапу цэпам:

— Троху намалацілі хлеба. Можа, дась бог, хопіць да новага.

— Хопіць,—запэўнівае Цімка.

І вось яшчэ аб чым думае хлапец, калі праходзіць пасад жыта, дзе снапы ў рады раскладзены:

> — Эх, ямчэй малаці, мой цэп! Выбівай,
> мой любы, да апошняга зерня!
> Хутка ў горад пайду, дык ня скора можа
> сустрэнемся.

Атрымаў Цімка ў гэтым годзе командыроўку на рабфак. (Ужо два гады перад гэтым думаў, каб папасьці, ды поўна было працы, не маглі пусьціць).

Цераз тыдзень надыйдуць тыя дзянёчкі, калі трэба пакінуць вёску. А тады—іншае жыцьцё пачнецца.

Як ня свой хадзіў гэтыя дні Цімка.

Хадзіў у лес нямаведама чаго, шчыпаў сьпелыя арэхі, сам з сабою перагукваўся. Як араў на зіму параніну, дык таксама ня мог адвязацца ад гэтых думак.

А сустракаўся з Арынаю: глядзеў ёй у вочы і ня мог наглядзецца.

— Дык як-жа будзе, Арынка?

Вочы да долу апускала, цяжка ўздыхнуўшы.

— Дык так і будзе, Цімка... Ты ў горад паедзеш. Мяне вызначылі на піонэрскую працу..

Церабіла ў руках канцы хусткі, а Цімка ламаў прутцік ці галінку, якая пападалася пад руку.

— Ну, а ў наступны год ты, бязумоўна, прыедзеш у горад?

— Калі пашлюць, прыеду.

— Ну, глядзі-ж. Будзь...

І яны сумна разыходзіліся.

Вось ужо паехаў бедны поэта Сёмка Чыжык, каб наперад здаць матэматыку. Пры разьвітаньні ён абнадзеіў Цімку.

— Ты, самае галоўнае, не палохайся. Програму для паступленьня на рабфак ты добра ведаеш—не павінен зрэзацца. А прыедзеш—я пакажу табе тое ды сёе...

І той жаданы дзень, калі трэ' было ехаць, прышоў. Тую ноч ён зусім ня спаў. Напякла яму маці асушак, а бацька ў торбу два кавалкі сала палажыў. Цімка надзеў шэрую сьвітку, зьвязаў лапці з анучамі. Босаму ісьці лепш. К гэтаму часу кабыла нагу застраміла, дык ехаць немагчыма было...

Маці сьлязу пусьціла. Бацька за вароты вывеў, махнуў рукою і пашоў збожжа веяць (і многа ў той дзень перадумаў ён—стары,—але ведаў, што сын не павінен прапасьці).

Ішоў Цімка па вёсцы—цяжкія былі думкі.

Дзень выдаўся нязвычайна прыгожы.

А толькі што вышаў за вёску, на гасьцінец—стаіць Арына. Узрадваўся Цімка: гэта-ж яна праводзіць прышла,—якая любая!

Пайшлі яны побач. Ішлі, гаварылі. І вялікаю музыкай гучэў для Цімкі голас Арыны. Незаўважылі, як прайшлі цэлую вярсту.

— Ну, Арынка, бывай здарова!

— Пішы, Цімачка; ты-ж абяцаўся не забываць.

— Буду.

І на разьвітаньне аберуч абняў яе за шыю і нясьмела неяк пацалаваліся, моцна паціснуўшы рукі. І бегчы хацелася Цімку, і шкода было. Прайшоўшы, аглянуўся: стаіць на гасьцінцы Арына, стаіць, белую хусьцінку вецер трэпле. Махнула рукою, павярнулася і пайшла; вось схавалася за ўзгоркам і ня відаць яе...

Ішоў полем, ішоў сёламі.

Ішоў разам з сонцам,—шлях просты.

Да поўдня змарыўся. Торба давіць на плечы. Па дарозе возера—вада крышталёвая, напіцца захацелася. Напіўся прыгоршчамі, вымыў ногі—потныя і ў пылу, лягчэй стала.

Сустрэў па дарозе дзядзьку, што ішоў з касою. Спытаў, колькі вёрст засталося да гораду.

— Ды вёрст пяць з гакам,—адказаў дзядзька, падзівіўся трохі на хлапца і пайшоў сваёй дарогай.

А Цімка—сваёй...

І вось ужо на сінім фоне неба, з водблескам сонца, паказаўся гарадзкі завод з чорным комінам. Пачуўся грукат і гром. Нехта моцна стукаў палкаю па жалезу. Паказаліся на ўзгорку вялікія каменныя будынкі. Засумаваў і ўзрадваўся Цімка.

— А што далей будзе?

— Усё ў імкненьні ды далях!

... Жыцьцё ты—маладое!

Канём сівагрывым імчышся па загонах, сёлах, лясох. І ўсюды ты—сваё роднае, і ўсюды запал у грудзёх не астывае.

Далі ў табе і яснасьць люстраная!

Радасьць ты мая!

Вялікая ты ў людзей, як хвалі на моры ў бурную пагоду, маленькая ты ў чалавека, як хвалі ў шклянцы вады.

Радасьць і гора нашых дзён!

Усё мы пераможам на сваёй дарозе.

— Верую!

— Люблю!

# АДЗІНАЯ СПРАВЯДЛІВАЯ ВАЙНА *)

*($CHCL = CH)_3$ As* (Люізыт)

*Роман*

**Іоганэс Бэхэр**

## Чацьверты разьдзел

Толькі сон...

Толькі сон...—„Новы патоп ідзе з гары і з атрутай“.

—Мілыя ўспаміны.—22 красавіка 1915 г.: паваротны пункт у гісторыі вайны. Немцы выпусьцілі проці ангельскіх позыцый у Фляндрыі участак Біксшот—Лянгэмарк, газы.—Страляніна газам, кіданьне газу Тактыка ўжываньня газаў разьвінаецца.—Але ўвогуле і цалкам: застаецца пры практыцы (на гэты раз яшчэ).—Што было—было. Ніхто больш аб гэтым ня думае.

### I

На рэдкасьць дзіўны сон прысьніўся ў гэту ноч Максу Гэрзэ.

Ён распадаўся на тры часткі.

З цясьнін вырываліся струмені. Шырока расьцілалася мора, зьліваючыся з кругавідам. Балоты, глухія лясы, поўзаючыя расьліны. Над гарамі слупы полымя; з грукатам абвальваюцца скалы. Паўзуць, скачуць крадуцца ўсялякія зьвяры. Чалавек з вялізнымі сківіцамі і пазурыстым рукамі змагаецца за сваё існаваньне. Ледзь, памалу пашыраецца чалавечы сьвет. Крок за крокам адсоўвае ён дзікую прыроду. Але варожыя сілы прыроды зноў навальваюцца на яго. Чалавек згінаецца, як пад цяжарам, незразумелым і страшэнным. Спачатку змагаецца ён з страшыдламі голымі рукамі; потым узбройваецца каменнай сякерай, і чарапы гэтых дзікіх зьвяроў пад яго ўдарамі разьлятаюцца на кавалкі. Але і цела чалавека цячэ крывёю з тысячы ран. Хмары асыпаюць яго маланкамі. Але, дзякуючы ім, ён навучаецца ўжываць агонь. Мора залівае берагі бушуючымі хвалямі, гураган зносіць цэлыя скалы і лясы, сьнегазвалы грукаюць, зямля расступаецца, пары і газы вырываюцца з кратэраў і шчылін. Цьвярдое, як сталь, цела чалавека пакрыта валасамі. Але ён зрабіў ужо сабе зброю і спрат, выбраўся з пячор, аздобленых вобразамі зьвяроў. Відаць дым першых чалавечых селішчаў, падзеленых на

---

*) Гл. „Полымя“ № 2.

вельмі буйныя вучасткі. Супольна хадзілі жыхары на паляваньне, супольна працавалі над зямлёй, супольна працавалі; супольна дзялілі плады і здабытак: усё належала ўсім.

Праз момант гэты малюнак зьмяніўся другім.

Яго аддзялялі ад папярэдняга тысячалецьці.

Цяпер зямля падзелена амаль на роўныя геомэтрычныя фігуры. Існуюць яшчэ горы, лясы, моры з барозьнячымі іх цяпер плывучымі волатамі, рэйкі, па якіх шумна коцяцца цягнікі, пераразаюць зямлю ўсьцяж і папярок. Гарады разьмешчаны побач, але ўсё разьмяжована, падзелена. Чалавек узрос; ён выцягнуў свае члены, свае жалезныя суставы. Голас яго разносіцца электрычнымі хвалямі і чуваць яго адначасна ва ўсіх пяці часьцінах сьвету. Ён можа ўжо аддзяляцца ад зямлі і лётаць у паветры... Вялізныя машыны здабываюць з зямлі нязьмерныя скарбы; паварот падважніка—дзіўны мэханізм з лёгкім гудзеньнем пачынае варушыцца. Жартуючы, выконваюць яны цяпер работы, на якія раней траціласяэнэргія мільёнаў мускулаў. Вадзяная энэргія ператвараецца ў сьвятло. Вецер і газы служаць як рухальныя сілы. Морскі прыліў таксама стаў крыніцай энэргіі і ўжо самае кручэньне зямлі ўздольненыя фантазіяй тэхнікі мараць скарыстаць як энэргію.

Чалавек заваяваў зямлю.

Сілы прыроды паддаліся яму. Багі ды ідалы скінутыя, жудасны лёс, нават сам бог скінуты з свайго трону ў гэты век машын. Якая бліскучая перамога чалавечай мудрасьці, розуму і адвагі!

А як выглядаюць цяпер гэтыя людзі?

5 гадзін раніцы. Вось мерна ідуць колёна за колёнай па вуліцы цераз масты, пад якімі амаль бязшумна і плаўна праходзяць хуткія цягнікі. Ідуць яны да вялізных раёнаў фабрык. Мільёны мужчын, жанчын, дзяцей. Пакрытыя сажай з мазольнымі рукамі, бедна апранутыя, з патухшымі вачыма, нязграбныя, быццам пад цяжарам страшэннай ношы. Былі сярод іх і калекі без нагі, бяз рукі, бязмоўныя, ціхія.

Што гэта?

А вось другія, апранутыя ў футры і шоўкі, вандруюць па шырокіх вуліцах. Вуліцы гэтыя ўліваюцца ў вялікія круглыя пляцы, як у мармуровыя вадазборы. Тут палацы стаяць адзін ля аднаго. Залатыя гэрбы блішчаць на бальконах, а праз празрыстыя шаўковыя фіранкі відаць людзі. Адны качаюцца ў фатэлях і качалках у тахт музыкі, другія шпацыруюць. Усе ў фраках і форме. Побач з людзьмі, падобнымі да мясных губак, рэзка акрэсьленыя твары з халоднымі бязьлітаснымі вачыма.

А што гэта?

Бедныя паўставалі проці багатых, а багатыя ўціскалі бедных, але бедных рабілася ўсё больш. За гэта багатыя рабіліся ўсё больш лютымі і няўмольнымі. Зямля, машыны—усё належыла багатым з усёй дзяржавай. Урэшце, і сама дзяржава была мэханізмам з усімі паліцэйскімі

службоўцамі, наглядачамі, катамі, салдатамі, папамі і судзьдзямі. Цэлымі гэрыямі разьбіраліся судовыя справы, чыста мэханічна засуджалі і каралі сьмерцю. Калі хтось абураўся гэткімі парадкамі, дык зусім об'ектыўна вылічвалі напружнасьць яго рэволюцыйнай энэргіі і адпаведна гэтаму засуджалі да столькі і столькі гадоў зьняволеньня ў астрозе.

... Тут сон яго разьбіваўся і даваў нібы два варыянты.

Зьявіліся плякаты з надпісам: „Грамадзкі спакой". Відаць было, як з трыбун для прамоўцаў шмат людзей зварачаліся да мас народу, якія іх акружалі. Народ ківаў ухвальна галовамі і ва ўсіх пяці часьцінах сьвету магутна гучэлі сотні розных нацыянальных гімнаў:

„Ваш бог—ня наш бог".

„Наш сапраўдны".

„Мы адзіныя—абраны народ".

„Не,—мы"—раздаваліся зараз крыкі з процілежнага боку.

„Гэта вы напалі на нас".

„Не,—вы, вы першыя пераступілі граніцы".

І 70 мільёнаў людзей выступілі і пачалі змагацца.

Зямля была, як месячны пэйзаж. Мільёны варонак ад знарадаў зрылі яе твар, як воспа.

„Рынкі збыту, рынкі збыту!"—раздаваліся ўсюды шалёныя выкрыкі. „Мы ня ведаем, як нам далей даставаць прыбытак з вырабаў".

Там хлеб ідзе на апал лёкомотываў, тут галадаюць мільёны. Тут людзі паміраюць ад недаяданьня, там—ад неўмеркаванасьці. Адзін абжыраецца, другога жруць. А тых, хто зазначае на гэтую няроўнасьць, зараз закоўваюць у ланцугі і садзяць у астрог.

А стала яшчэ горш.

Раптам над зямлёй падняліся цэлыя сотні самалётаў.

На іх ні душы. Яны кіруюцца на адлегласьці. Зараз яны панесьліся за мора. Унізе да кожнага апарату падвешаны тры цяжкія кідальныя бомбы, якія лёгка гушкаюцца. Упэўнена нясуцца яны, гуркочучы, да мэты.

Вялізны горад.

Фабрычныя гудкі гудуць.

Гэта вялізны горад—мешаніна мільёнаў галасоў, чыгуначных сьвісткоў, колаў. Фантастычны оркестрыён.

Сьвятло на вуліцах патухла.

Зусім неспадзеўкі: людзі патраплялі на цемру, як на мур.

Па галоўных цэнтрах гораду ехалі калёны з прожэктарамі. Людзі, што былі згрудзіліся, зараз-жа разганяліся паводле загаду ўлады.

Людзі ішлі і голасна крычалі, самаходы ехалі з гудкамі зусім ціха.

Ніхто ня ведаў, што здарылася.

Усе перашэптваліся.

Было, прыблізна, каля трох гадзін ночы. Людзі сядзелі на дахах, людзі сядзелі ў скляпох. Другія ўсё яшчэ з небясьпекай для жыцьця вобмацкам блукалі па вуліцах.

Пайшоў невялічкі дождж, потым спыніўся. Была цёплая, прыгожая ноч. Хтось заяўляў, быццам чуў у паветры шум мотора. Усе напружна прыслухаліся. Пачынала віднець.

Дзесь далёка нязначны націск электрычнага падважніка і бомбы паляцелі старчком уніз.

Лёгкі трэск.

Трохі пылу, а так нічога ня відаць.

Глухі шум.

Быццам скала скінулася на мяккую зямлю...

Другі, трэці, чацьверты... шмат, шмат разоў. Зараз выразна чуваць лёгкі трэск мотору. Адначасна стрэлы. Паліліся сьветлавыя ракеты. Прожэктары быццам сьветлавою рыдлёўкай рылі горы хмар...

„У пограбы!“—крычалі адны.

„Угары на дахах больш бясьпечна“—раілі другія.

Іншыя засталіся як прыкутыя там, дзе яны якраз стаялі.

Хутка ўзышло сонца, вялікае і чырвона-променнае.

Цяжкія танкі паўзьлі па вуліцах, як сталёвыя чарапахі.

Нічога ня было відаць.

На адным з танкаў быў, відаць, папсаваны мотор, каманда вылезла. Яны былі адзеты, як нырцы, твар пакрыты масыўнай процігазавай маскай, людзі нязграбна кульгалі каля машыны.

Колёна танкаў на хвіліну спынілася.

Сьвіст.

І сталёвыя страшыдлы рушылі далей.

Колёны гэтыя ўстанавілі: тры чвэрці гораду атручана газамі. Грамадзкіх ахоўных ад газаў памяшканьняў, на якія спадзяваліся некаторыя лятуценьнікі, ня было. Процігазавыя маскі папярэдняй вайны не спатрэбіліся. Пітво і яда былі атручаны. Зьявіліся першыя азнакі занядужаньняў.

Тры гадзіны пасьля, ня гледзячы на тое, што насельніцтва было забясьпечана маскамі і адзеньнем, усе ляжалі, агалашаючы паветра стогнамі, і прасілі дапамогі, большасьць у паграбох, другія, як шалёныя, блукамі па дахах, працягваючы рукі і ногі і з страшэннымі праклёнамі кідаліся ўніз на тротуары. Усюды відаць былі лужыны крыві.

„З вышынь нябесных спушчаюся я“—раздаўся ў гэты момант чысты дзіцячы хорал з катэдры, званы званілі, былі коляды. І ўсё-ж ткі—

Кідальныя бомбы, як мэханічныя безасабовыя каты, няўхільна рабілі сваю крывавую работу.

„Гэта новы газ“,—сказаў хтось... і, як выявілася, досьледы нашы мелі посьпех.

„Спакой на зямлі“.

„Амінь! амінь“... грымеў у адказ хор.

Фабрыкі фарбавальных продуктаў сталі раптам вялізарнымі збраёўнямі. Падземныя хады. І глыбока ў шахтах нетракапальных прадпрыемстваў рабілі цяпер газ. Хімікі бязупынна займаліся досьледамі над новымі баявымі продукцыямі.

Цягнулася гэта ня доўга.

Месяц... і ўсё жывое на зямлі было зьнішчана.

І на зямлі стала ціха, мёртвая цішыня.

Яшчэ чуваць было ціканьне гадзіньнікаў.

Памалу, аднак, і яны сталі.

І можна было чуць толькі плёканьне вады, павевы ветру і, з прычыны надта гарачага лета, тыя гукі, што чуваць пры гніцьці масы трупаў.

Больш нічога.

II

„Але ўсё магло-б скласьціся інакш“,—сказаў хтось, і сон Макса Гэрзэ пачаўся зноў з моманту зьяўленьня лётнікаў.

Як толькі стала вядома, што мобілізаваны паветраныя эскадры, на вуліцы высыпалі вялізныя неасяжныя натоўпы народу, рабочыя, служачыя. Гаварылі прамовы, раздавалі лятучкі. Сапраўдны спуджаны мурашнік. У масе відаць былі паліцэйскія, салдаты, супрацоўнікі паветранае флёты. Дэмонстранты шумна рынуліся як грозная хваля ў той квартал гораду, дзе былі ўрадовыя ўстановы. Тут стаялі на пагатове надзейныя палкі і грамадзкая варта, складзеная ў большасьці са студэнтаў, толькі за некалькі гадзін да гэтага пераапранутыя ў форму. У Бэрліне, Іокагаме, Чыкаго, Парыжы, Лёндоне адначасна адбываліся такія дэмонстрацыі... Ужо паказаліся натоўпы ўзброеных людзей, дзесь стрэльнулі, дзесь стрэльнуў быццам сам па сабе кулямёт. Гэта было сыгналам для агульнага наступу. Пачалі штурмаваць урадавыя кварталы; тэлефонная станцыя, вакзалы ў момант былі захоплены. За другія месцы бой цягнуўся яшчэ цэлыя гадзіны...

Ураду ўдалося спыніць пасуваньне рэволюцыянэраў, пачаўшы з імі перамаўленьні. А тымчасам ён сконцэнтраваў у прадмесьцях агромныя масы войск.

У паўночным раёне паўстаньне рабочых было хутка прыдушана. З провінцый, дзе зьбегі-рэволюцыянэры мобілізавалі сельска-гаспадарчых рабочых і дробных сялян, кожную гадзіну ішлі новыя весткі. Уся краіна паўстала, як адзін чалавек, штурмавалі сядзібы, забралі ўсе важныя чыгуначныя вузлавыя пункты. Чырвоная армія ішла ўперад. Рабочыя ўсіх кварталаў добра інформаваліся аба ўсім.

На вуліцах нікога ня было відаць. Але нават праз сьцены можна было чуць, што пад зямлёй аўтаматычна рыхтуецца вялікі рух.

„Узброенае паўстаньне“—гудзеў тэлеграфны дрот па ўсёй краіне.

„Паўстаньне ўдалося“—прагудзела праз тры дні. Пролетарыят захапіў уладу, не дапусьціў вайны. Гэта каштавала ахвяр, але яны нікчэмныя ў параўнаньні з тым, што магло-б здарыцца...

Ува сьне адзін малюнак ішоў за адным.

Усё гэта адбывалася на працягу дзесяцілецьцяў, але ў сонным лятуценьні ўсё было сьціснута і згушчана. У сонных прывідах скарачалася і зьнікала ўсялякая пэрспэктыва.

Праз дым і кроў, міма вогнішчаў новай пакуты, праз новыя пустэчы, міма новых зьняваг і расьпяцьцяў... і ўсё ішло ўперад!

А ў канцы гэтага шляху цьвіла зямля так, як ніколі ня цьвіла. Радавалася так, як ніколі ня радавалася.

Людзі былі простыя і прыгожыя, нічым не адрозьніваліся адзін ад аднаго. Усё было сіняе, усё так зразумелае.

Мэтоды працы былі нязьмерна ўдасканалены. І усё-ж такі кожны дзень прыносіў новыя вынаходкі з прычыны таго, што ўсё ўдасканальвалася. Асноўны прынцып быў: траціць на працу больш сілы, чымся гэта, бязумоўна, патрэбна, не экономна і дзеля гэтага грамадзкі-шкодна. Далей ішоў падзел і разрозьненьне спосабаў працы; цудоўныя машыны адзіным рухам электрычнага падважніка выконвалі належную работу. Цяжкія чалавечыя работы зьвяліся да мінімуму. Праца была так організавана, што кожны мог без асобай падрыхтоўкі выканаць работу. Толькі адзін процант працоўных процэсаў патрабаваў больш доўгага выўчэньня і асобых папярэдніх ведаў. Але пры гэтым трэба адзначыць, што агульны сярэдні культурны ровень у некалькі тысяч разоў перавышаў сучасны... Для ўсіх была работа. Для ўсіх даволі было сродкаў, каб зноў атрымаць страчаную на працу рабочую энэргію. Дзякуючы гэтаму, вялізныя масы энэргіі былі пазбаўлены зьняважлівага клопату аб штодзенным хлебе і захаваны для новых вялізных прадпрыемстваў. Чалавечы дух рынуўся ў сьвет. Людзі пачалі гардзіцца сьветам, яны перараблялі сьвет паводле свайго падабенства. Сьвет стаў тварам чалавека...

Шырокі прастор... дыхалася лёгка... было паветра для жыцьця...

З гэткім глыбокім дыханьнем прачнуўся Макс Гэрзэ.

6 гадзін!

Фабрыкі працавалі.

Што гэта было?

Сон. Толькі сон?

А што гэты сон значыць?

Сон гэты не пакідаў яго, заставаўся з ім, справаджаў яго.

Макс прабаваў адагнаць яго. Не хацеў думаць аб ім. Злосна зварачаўся да яго і тупаў нагой, як на прычэпнага чалавека:—„адкасьніся!“

III

Сусед Макса, трамвайны рабочы, перад тым, як ісьці на службу, занёс яму яшчэ газэту...

„На, пачытай!"

„Шырока організованае ашуканства. Што сталася з афераваньнем на карысьць сямей 136 забітых таварышоў шахты „Імпэратрыцы Люізы"?.. Ледзь пакрыла зямля магілы 136 афяр, як ужо забыта ўсё, аб чым яшчэ ўчора гаварылі. Усе прыгожыя словы зьявіліся пустым гукам..."

Макс якраз мыўся.

„Ну, як у вас там учора скончылася справа?"

Макс адказаў ухільна.

„Усё тая-ж самая справа. Ужо самому не разабрацца".

У апошнія дні Макс стаў значна асьцярожней у сваіх развагах. Глыбокі ўнутраны неспакой апанаваў яго. Побач з „Форвэртс" ён пачаў даставаць і „Ротэ Фанэ" („Чырвоны Сьцяг"). Грунтоўна прачытваў ён і профэсыянальныя органы. Ён нанава стаў прыглядацца да сваіх таварышоў па фабрыцы, быў вельмі асьцярожны, прыслухаўся да чужых думак, задаваў пытаньні, каб вучыцца. Пры ўсіх спрэчках, якія ўзьнікалі з прычыны нязначных здарэньняў і выклікалі сутычкі паміж SPD (соцыял-дэмократамі) і комуністымі, Макс заставаўся нэўтральным.

Ён цураўся цяпер кіно, месц забавы, шынкоў, здабываў у таварышоў кнігі і прагавіта чытаў, каб вывучыць іх зьмест.

Што было, тое было, ці праўдзівей пра тое больш ніхто ня думае. Але надыходзіць гадзіна і на цябе навальваецца часьціна твайго мінулага, ахопліваючы цябе. Ты згінаешся, курчышся пад яго цяжарам, пакуль гэтае мінулае не пакіне цябе, і ты зноў застанешся самым сабой і часта нават не пасьпееш выразна вытлумачыць сабе сутнасьць перажытага і прычыны, якія яго выклікалі.

Тое самае здарылася з Максам, калі яго ахапілі наступныя ўспаміны аб вайне.

IV

Максу Гэрзэ было тады толькі-толькі 19 год. Але ён пастараўся, каб трапіць на вайну ахвотнікам. Яго школьны таварыш Франкэ прыехаў нават з-за акіяну, каб прыняць удзел у вайне.

Якія дні! Жыцьцё лёгкае, як пух. Цела быццам набітае электрычнасьцю.

Было гэта 22-га сакавіка 1915 г. у Фляндрыі.

Вучастак фронту Біксшот—Лянгэмарк.

Проці ангельскіх позыцый.

Сіла ветру—2—4 мэтры ў сэкунду. Надвор'е халоднае і сухое.

Растрапаныя дрэвы на кругавідзе—быццам драцяная загарожа. Чуваць было, як перагукаліся ў паветры птушкі.

Хадзілі сакрэтныя чуткі. Гаварылі аб перакінчыку, які ўсё выказаў ангельцам. Чуткі, абвяржэньні. У кожным разе штось новае. Аб чымсь дамысьліваліся, штось падазравалі...

Было 5 гадзін дня.

На бруствару бліжэйшага ангельскага акопу зьявіліся цяпер дошкі з надпісам:

„Вы можаце доўга чакаць падарожнага ветру!“

Некалькі стрэлаў. На левым флангу затрашчаў кулямёт. Нямецкія ўдарныя групы ляжалі далёка ў лагчыне.

Урэшце: „газ“.

Газ паўзе. Нехта падхапіў вестку.

Такім чынам:

Уначы былі вынесены ўперад і ўстаноўлены трыста газавых батарэй. Кожная батарэя—20 газавых цыліндраў. Шэсьць тысяч газавых цыліндраў стаялі ў пагатоўнасьці. На адным кілёмэтры фронту налічалі тады пяцьдзесят батарэй. Тысяча бутэлек. Дваццаць тысяч кіло газу.

Раптам стала гэта вядома.

І гэта:

Каб мэталёвыя вальцы ня зьвінелі, іх захіналі ў саламяныя покрыўкі.

Загад: быць у поўнай баявой пагатоўнасьці.

Пяхота адыходзіць на другую лінію акопаў.

Засталіся сьпераду толькі інжынэрныя вайскі і кулямёты...

Паветраныя эскадры цэлы дзень гудзелі над намі.

Слухай! Сыгнал...

Раптам усё прыціхла.

Сыгналам быў пачаты выпуск газаў спэцыяльна для гэтага прызначанай батарэі.

Адначасна адчыніліся ўсе шэсьць тысяч цыліндраў.

Стаў чутны булькаючы, шыпячы гук газу, які выходзіў з цыліндраў праз сталёвыя трубы.

Кожны стараўся злавіць які-колечы пах.

Але пакуль нічога ня было чуваць.

Шэразялёнае воблака ўжо пацягнулася на ангельскія позыцыі на вышыні росту чалавека, глыбінёй у адзін кілёмэтр.

Нямецкія батарэі зноў затрашчалі.

У некаторых мясцох пад націскам газу пагнуліся прыкручаныя да цыліндраў бляшаныя ў мэтр даўжыні трубы. Перакашваліся, гнуліся ў розныя бакі...

І вось газ цячэ да нас, у нашы акопы.

Захапіў газ раптам групу з 8 чалавек. Відаць, як яны пачалі душыцца. Адны ня вытрымліваюць... проста кладуцца... Другія наадварот, махаюць рукамі, затыкаюць насы, закрываюць шчыльна губы, але і гэта не дапамагае... Сьпяшаюцца на дапамогу санітары з тлённымі апаратамі.

# ДА ПРЫЕЗДУ Ў МЕНСК УКРАІНСКІХ ЛІТАРАТАРАЎ І ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

**Міхайла Сэмэнка**—нарадзіўся ў 1892 годзе на Палтаўшчыне. Пачаў друкавацца ў 1913 годзе. Закладчык арганізацыі пісьменьнікаў панфутурыстых, а апошнім часам „новай генерацii". Гэта выдатнейшы прадстаўнік украінскага „ЛЕФ'у". Зборнікі яго вершаў: „Кверофутуризм", „Девять поем", „Кобзар" лірычная поэма, „Маруся Бугуславка", „П'еро кохае", „П'еро задається" ды інш.

---

**Уладзімер Сасюра**—нарадзіўся ў 1898 г. ў Донбасе. Пачаў пісаць з 1917 г. У значнай частцы сваіх твораў ён адбіў жыцьцё данецкіх шахтаў. Лепшыя зборнікі яго вершаў: „Червона Зима", „Осінні Зорі", „Місто", „Залізниця", вершаваны роман „Тарас Трясило", „Сьніги" і інш.

---

**Аркадзь Апанасавіч Любчэнка**—нарадзіўся ў 1899 г. на Кіеўшчыне. Сын рабочага з цукраварні. Пачаў пісаць у 1921 г. Напісаў шэраг бытавых апавяданьняў. Асобнымі выданьнямі вышлі: „Кухіл", „Гордійко", „Зяма", расказы, зборнік апавяданьняў на расійскай мове, „Буремна путь".

---

**Андрэй Панів**—нарадз. ў 1896 г. на Сумшчыне. Пачаў друкавацца з 1921 г. Член арганізацыі пісьменьнікаў „Плуг". Выданы: зборнік вершаў „Вечерні тіні", зборнік апавяданьняў „Село". Частка твораў зьмешчана ў альманахах як „Різдвяний вечір" ды інш.

---

На працягу шасьці кілёмэтраў нясецца вялізнае воблака хлёру.

Аддзяляюцца белаватыя кавалкі туману...

Частачкі вадкага хлёру выпараюцца.

Макс стаіць на каленках на ўскраю ямы.

Лейтэнант з гадзіньнікам у руцэ назірае за разьвіцьцём атакі. Яшчэ дваццаць сэкунд, потым загад паўтарыць.

Ангельскія акопы знаходзіліся цяпер у самым цэнтры газавага туману.

І разам усё там заварушылася.

Быццам вымела іх якаясь нябачная мятла.. Людзі пабеглі праз поле, падняўшы рукі, і крычалі аб дапамозе. Адзінкамі і натоўпамі ўцякалі яны. Вось адзін круціцца ўсё на месцы, круціцца, як турок, і коціцца далей. Спадніцы шотляндцаў разьвяваюцца. Аднастойнае хрыпучае выцьцё туркосаў...

І вось пачуўся лёгкі задушлівы газ.

Вочы сьлязіліся. Кашаль. Сударжнае чыханьне. Выплёўваньне.

А нямецкія гарматы ўсё білі і білі.

Лейтэнант лічыў цяпер голасна:

—15—18—19.

Сьветлавая ракета рассыпалася ўгары.

Шэрыя клубкі заварушыліся, сталі выбірацца з земляных ямак у мэтр глыбінёй, высвабаджаліся. Зьвяны аднаго ланцуга выходзяць з акопаў, скачучы і спатыкаючыся. Нямецкая штурмавая пяхота наступала.

Сякеры, нажніцы, лесьвіцы.

Усе загаражы адкінуты.

Далей за першыя акопы ворагаў.

Афіцэры з картамі: сыстэма акопаў ворагаў была зараз выпраўлена. Нанава нарысавана.

Б'юцца прыкладамі, штыхамі, ручнымі гранатамі.

„Наперад!“

Заварушылася другая лінія варожых акопаў.

Потым пабегла і трэцяя.

Салдаты штурмавой колёны разьдзіралі сабе боты аб бутэлькі і консэрвныя бляшанкі.

А жоўта-зялёнае воблака газу неслася далей.

Цяпер быў якісь фантастычны краявід, праз які яны ішлі. Заметна нафарбаваныя твары людзей вылуплялі вочы на іх. Па шыю ў грязі. Вочы ўдвойчы больш, як у жывых. Сталёвыя шоламы насунуты далёка на патыліцу, ці глыбока на твар. Пена на губах. Вось адзін на каленях скачваецца па схілу ямы і рукамі рухае, быццам плыве. Штых, які ўсадзіў яму ў грудзі здаровы памэранскі апалчэнец, абламаўся.

Фронт ворагаў быў прарваны.

Зігзагамі зьзяла глыбокая дзірка.

Надышла ноч.

Прожэктары. Сьветлавыя ракеты.

Вадаграі зямлі паднімаліся ў паветра. Батарэі ворагаў зноў заварушыліся. Забарабанілі, застукалі, загрукалі, як улеўны дождж. Хаваліся, як за шанцамі, за рэшткамі мяса, тулавамі трупаў, кучамі вадкай гразі. Сапёры зноў разгарнулі калючы дрот. Кулямётныя каманды высунуліся ўперад. Хутка пачалі падвазіць усё патрэбнае. Шмат дасталася харчавых прыпасаў. Можна было цяпер досыць наесьціся. Але ўсё мела якісь едкі, прыкры смак.

А сьпераду зноў трэск.

Сагнуўшыся, паўзучы, набліжаўся вораг. Страшэннае верашчэньне раздалося наўкола. Сыгналы. Сусед зьлева зваліўся наўзнак, другі з правага боку ўпаў, кагось праклінаючы. Нешта скокнула ўперад, потым адскачылася.

Нешта захрыпела. Блісну ў нож. Целы кідаліся адно на адно, як нацягнутыя спружыны.

Біліся ў рукапашную.

„Гэта сапраўдны голас народу. Самая кроў галосіць: „гэтая вайна патрэбна"—абурана фантазьяваў лейтэнант. У Макса часаўся палец прыстрэліць яго.

„Уся вайна мне..." праклінаў пролетарскі салдат і перарваў адным махам нажа горла горцу, які прасіў літасьці.

Чорт пабяры!

Шмат каго ванітавала.

Другія апаражняліся ў майткі.

Рвакі падступалі да горла, як камяк, і перашкаджалі дыхаць. Па калена ступалі ў гушчэчу трупаў. Чалавечае сьмяцьцё. Усюды лужыны крывавай вады. Для living рознастайнасьці то тут, то там выбухае міна. Сьмярдзела саладкавата, прыгоркла, як прыгарэлае сала.

Там зямля, выбухаючы, насыпала брацкую магілу.

„Парфума наступу" прабурчэў нехта.

Адна кулямётная каманда наліла ў халадзільнік свайго апарату мачы.

Маркс Гэрзэ ледзь дыхаў. Ён нудзіўся ад смагі. Члены: рукі, ногі зьвісьлі, як чужыя. Яму здавалася, што ўсё яго цела складзена з касьцей. Скура напружылася і нацягнулася. Сухажылы аслабнулі... Гэта быў сьмяртэльны жах... Трупы, каменьня, дрэвы—усё тое самае. Зараз было, зараз няма. Толькі-б не цягнуць доўга: ня варта. Дзесь шпацырує па полі бойкі, быццам скача, раптам ашалеўшы.

Палонных расстрэльвалі.

Крывавы чад ахапіў усіх.

З дзіка выскаленым тварам набіваў нейкі падручны свой трыццаці-набойны аўтоматычны левальвэр і расстрэльваў ім цэлы транспарт палонных аднаго за адным. Палец яго быў чорны ад парахавога дыму.

Людзі дзейнічалі, як аўтоматы.

Як на вучэбным пляцу.

Уперад! назад!

Бі! калі!

Разьмеркавана. Дакладна.

Адступаць!..

„Старая пруская гвардыя... ха, ха, ха... пасьнедаем, старая франтавая сьвіньня... Дазволь, я цябе пацалую, даражэнькі Макс! Глытні штурмавой гарэлкі!“

Макс папоўз на руках і нагах.

П'яны да бяспамяці салдат ішоў, спатыкаючыся без заслоны, накінуўся на яго, абняў і закрычаў:

„Сёньня улажыў я пяцярых. Здорава. Цяпер шабаш!..“

Унтэр-афіцэр прабурчэў:

— „Заткні яму глотку...“

Хлоп! Нешта ўдарыла ў лоб, і унтэр скаціўся ўніз. Потым ён падняўся на карачкі, замармытаў: „ох, матушкі!“ і хутка скончыўся.

Рух людзей быў аднастайны. Ва ўдар штыхом людзі ўкладвалі ўсю смагу жыцьця, калі штых элястычна стукаўся аб штых. Вось штых трапіў у гаплік пояса, загнуўся ў паўкруг, сасьлізнуў улева і праткнуў почку. Елі праціўніка налітымі крывёй вачыма, разьдмухваючымі наздрамі, усёй сваёй істотай.

Былі гэта людзі, ці лялькі-аўтоматы? У тоўстых шынэлях, яны былі набіты нібы ватай, з якой пры самым нязначным раненьні лілася кроў. Гэтак біліся тут на пераходзіўшых з рук у рукі позыцыях на першы погляд бяз мэты і пляну.

Рэзэрвы траплялі на рэзэрвы.

З чадам дымілася зямля.

А па-над усім гэтым поўня.

Яшчэ ў тую-ж ноч батальёны ворагаў былі кінуты ў контратаку.

## V

Праходзілі гады. Дзень за днём выходзілі газэты са сьпісамі забітых. На палёх боек, растапырыўшы рукі і ногі, ляжалі на зямлі мужчыны з разьбітымі чарапамі, сьціснутымі грудзямі, з выкінутымі лантухамі.

Іх ляжалі мільёны на зямлі і пад зямлёй...

І ўсё яшчэ няма канца...

Дзень і ноч тысячы хэмікаў рабілі досьледы. У лябораторыях вынаходзілі цудоўныя газавыя сумесі. Нямецкія фабрыкі фарбавальных матэрый пасылалі ў сьвет вялізныя масы баявых матэрыялаў. Рабочыя гэтых фабрык нават ня ведалі, што яны вырабляюць. Органічная сувязь паміж баявымі матэрыяламі і прамысловасьцю мірнага часу асабліва сьціслая ў галіне вырабу баявых газаў. Амаль усе баявыя газы маюць дапасаваньне і ў мірным жыцьці. Яны або непасрэдна служаць для розных

мірных мэтаў, напрыклад, дэзынфэкцыі зярна, жыльлёвых памяшканьняў і г. д., або зьяўляюцца напоўфабрыкатам для вырабу іншых патрэбных у мірным жыцьці продуктаў. У першую чаргу баявыя газы знаходзяцца ў сувязі з вырабам фарбаў, а потым і з фабрыкацыяй мэдыкамантаў ды фотографічных прылад.

Зьявіўся хлёр.

Хлёра-фосгэнная сумесь. Хлёра-пікрын-сульфурын. 20 тысяч цэнтнэраў прыгодных для вайны газаў пакаціліся сюды, як атрутны газ.

Потым узяліся за фосгэн.

Хіба ня ўжывалі калісь яго для здабываньня цэлага шэрагу ружовых, сініх і лілёвых фарбаў!?

Падышлі аршэньнікавыя газы з тэй-жа сыравіны, якую ўжываюць на аршэньнікавыя прэпараты. Восем нямецкік фабрык былі дапасаваны да вырабу гэтых баявых газаў...

А каля чатырох гадзін раніцы зноў пачаўся гарматны бой, на плошчы ў 70 кілёмэтраў.

У ім прымалі ўдзел 7 тысяч гармат вялікага і найвялікшага калібару. Яны абстрэльвалі сыстэму варожых акопаў побач з вялізнай масай мінамётаў і газакідальнікаў.

Варожыя гарматы былі прымушаны змоўкнуць яшчэ ўчора ўдалым абстрэлам нашых гармат.

Позыцыі ворагаў былі перакінуты ў балота, атуленая густым газам.

Перад наступам нашай пяхоты яшчэ раз былі абстрэлены позыцыі ворагаў сьпярша шрапнэльным агнём, а потым—газамі.

Усё вайска было забясьпечана газавымі маскамі, таксама і коні.

Былі організаваны спэцыяльныя каманды для абясшкоджваньня, адзетыя, як нырцы. Баявыя чыгункі падвозілі вялізнымі масамі хлёрчыстую вапну, якая дапамагала проці атруты.

Рабіліся газавыя загарожы: сінія, жоўтыя, стракатыя. Навучыліся адрозьніваць газавыя атакі, страляніну газавымі знарадамі, брызантнымі і разрыўнымі.

Разьвілася правільная газавая тактыка.

З лёгкім глухім трэскам выбухалі бязупынна ў горадзе газавыя стрэлы.

На вуліцах толькі пахнула быццам горкімі мігдаламі. Людзі не паказваліся, а тыя, хто быў, трымалі каля носу і роту рэсьпіратары з асобнай вадкасьцю. Параненыя з фронту, якія праходзілі праз горад, апавядалі амаль непраўдападобныя рэчы:

„Немцы страляюць знарадамі з невядомаю вадкасьцю, якая здольна ў паравым і газавым стане пранікаць праз скуру, сьцены, і пры нават слабым удыханьні выклікае безадкладную сьмерць. І якую сьмерць! Згодна з іх словамі, нават дотык да скуры сьмяртэльны, а пры ўдыханьні зьяўляецца вельмі моцнае ўзрушэньне, і асаблівая псыхічная нудота, ва-

нітаваньне, вольнасьць жывата, расстройства сэрца, страта сьвядомасьці, смаку і нюху. Але гэта толькі другарадныя зьявы. Паказальны больш павольны поступ хваробы. Спачатку наймацнейшае запаленьне; праз некалькі гадзін чырвань, потым значная пухліна; робяцца пухіры, надта вялікія, поўныя празрыстай, вадкай, гнойнай жыжкі. Зрок пашкоджаны балючым запаленьнем злучальнай абалонкі вачэй. Вочы зусім запухаюць і выдаляюць гнойную вадкасьць. Потым надыходзіць ацёк лёгкіх; у лёгкіх зграмаджаецца вадкасьць, якая перашкаджае прытоку паветра і выклікае ўдушша... Цяпер паветраныя эскадры могуць выпушчаць такую вадкасьць далёка за фронтам над гарадамі... Ёсьць у немцаў таксама апараты, якія раскідаюць агнёвыя пырскі. Немцы карыстаюцца ўсім гэтым разам, і няма жаднай магчымасьці далей весьці вайну: вытрымаць падобнае немагчыма для чалавека...“

А бомбы ўсё падалі на город.

Цёмны, цяжкі дождж з вялікіх жалезных кропляў...

То бліжэй, то далей. Сіла выбухаў была невялікая. Жыхарам здавалася, быццам зараз яны больш абаронены, чымся раней. Ня было і пажараў. Сьвяціла яркае веснавое сонца, вуліцы адталі, угары высока ў блакітным паветры гудзела паветраная эскадра.

Але праз некалькі гадзін пачалося.

Насельніцтва, як заусёды, сядзела ў скляпох.

Было жудасна, як ніколі. Ад нуднага жаху можна было страціць розум.

Хтось скаціўся ўніз па лесьвіцы. Яго нос зрабіўся як крывавая шышка: гэтак расчасаў ён нос. З вачэй цяклі градам сьлёзы, і хрыплым голасам галасіў ён: „гэта шалёны газ, газ шалу“... Хістаючыся, зрабіў ён некалькі крокаў, потым зваліўся, стаў зьдзіраць на сабе адзеньне, скрыгаў зубамі, драпаў і расьціраў сабе цела, і ўжо ціхім голасам вымавіў: „Бошы (немцы). Прокл...“ Як па камандзе пачалі цяпер ужо ўсе кашляць. Другія запалілі люлькі, дымілі, як шалённыя, і думалі, што знайшлі спосаб абароны ад гэтага.

У гэтым склепе сядзелі 8 чалавек—пяць жанчын і тры мужчыны. Жанчыны сярэдняга ўзросту, мужчыны ўсе за пяцьдзесят гадоў. Тут-жа былі разасланыя матрацы, тут спалі, стаялі штодзенна па пяць гадзін, і пражываньне ў склепе ўвайшло ўжо ў прызвычаенасьць. Дзеці бралі туды свае цацкі, медзьвянёнка, які нічога не баяўся і падаўнейшаму весела глядзеў на сьвет сваімі шклянымі вачыма.

Глядзелі цяпер усе адзін на аднаго.

Другія бязуважна глядзелі перад сабой.

Абстрэл спыніўся.

Угары раздаліся крокі.

Нехта, зваліўшыся ў куток, усё стагнаў.

Андрэ, ваенны інвалід, удзельнік кампаніі 10—11-га году, запытаўся: „што, браце, цяжка?..“

А тымчасам падрыхтоўвалася фантастычнаяператварэньне.

Твары тых, што былі ў склепе, сталі раптам быццам губкі, і страцілі форму. Рукі распухлі таксама.

Жанчыны пачалі плакаць.

Прыпадкі кашлю перапынялі іх плач.

Рукамі і пальцамі яны рабілі асаблівыя рухі, як у сьне: цяжка, павольна, крадучыся.

Твары набылі колер гліны.

Цела пакрылася плямамі.

Сьлізкія абалонкі занылі ад апёку.

Пачаліся ліхаманкавыя дрыжыкі. Вочы распухлі. Пад пазногцямі быццам заварушыліся ажыўшыя жалезныя голкі. У лёгкіх адчуваўся нейма-верны цяжар. У грудзях, як растопленае волава... Потым усё быццам завесілася заслонай, усё захісталася і з асаблівым гудам стала расьцякацца ў мільёны нябачных хваляй...

Барацьба са сьмерцю ў атручаных газам цягнулася так некалькі гадзін...

Але тое, аб чым пазьней расказвалі, ніяк ня адпавядае фактам. Няпраўда, што атручаныя газам людзі ў апошняй стадыі атручэньня кідаліся адзін на аднаго, рэзаліся нажамі, кусаліся ці душылі друг друга. Гэткія праявы шалёнае роспачы невядомы. Наадварот. Гэтыя няшчасныя проста высыхалі ў сярэдзіне. Перад сьмерцю надыходзіў агульны паралюш.

Ніхто ня рушыўся з месца. Яны засталіся, як прыбітыя цьвіком, там, дзе сядзелі ці стаялі.

Нябачны газавы насьціл лёг на горад.

Павольна ўсюды пранікаў газ.

Праходзіў ён праз вадаправодныя трубы, дзьверныя шчыліны, ваконныя рамы (сьцены, шкло, камень, жалеза).

Ветру зусім ня было. Газ ня выветрываўся.

Сабакі, куры, коні валяліся на тротуарах тушамі з абадранай скурай, нават дрэвы і травы былі зьнішчаны да рэшты.

Абсолютна сьмяртэльныя газы зьмешваліся з газамі, якія толькі раздражнялі: ад болю ў вачах, носе, роце; людзі былі прымушаны скідаць маскі, сьмяртэльны газ трапляў праз дыхальныя пуці ў лёгкія, і чалавек гінуў нямінуча.

Затым пачалі комбінаваць кіданьне газавых бомб з брызантнымі знарадамі. Гэтым дасягалася яшчэ большая сіла выбуху: праз дзюркі, якія зрабілі асколкі знарадаў, атрутныя газы праходзілі густой, шчыльнай масай.

А сьпераду на фронце рух пяхоты, якая прасьледвала ворагаў, рабіўся павольны і няпэўны. Праз некаторыя месцы, атручаныя газам,

ім наогул нельга было прайсьці. У масках стаялі цяпер штыхавыя байцы з аднаго боку, кідальнікі ручных гранат—з другога.

У атручаныя газамі акопы кідаліся яны, як шашкі ў трусавую нару. Штыхамі і ручнымі гранатамі дабівалі яны апошніх, якія яшчэ былі жывы. Двуногія фантастычныя маскі ганяліся адна за аднэй у акопных ходах. Апарат з рэсьпіратарам вісеў з роту, як кароткі хобат.

„Гэткая вайна.

„Блявоцьце.

„Агідная вайна...“

І Макс Гэрзэ знайшоў у бліндажы сумежнай дывізіі на слупе наступную адозву:

„Усімі, што ёсьць у вас у распараджэньні, сродкамі клапацецеся аб хутчэйшым сканчэньні чалавечай бойні. Вымагайце безадкладнага сканчэньня вайны. Паўстаньце на барацьбу, народы, якіх яшчэ топчуць і зьнішчаюць! Набліжаецца гадзіна спакою народаў. Прэч вайну...“

Лухта.

Што гэта было!?.

Быццам сэрца забілася ў зямлі. Кожны момант можна было ўзьляцець.

## VI

Нямецкая штурмавая пяхота хадзіла ў атаку і на Бальканах. У пустэчы, высока ў гарах. Нямецкі салдат змагаўся на фронце, на якім сонца ніколі не заходзіла.

Стаяла восень. Лясныя спады афарбаваны ў мяккія чырвона-бурыя тоны. Як вялізныя валы, высока паднімаюцца італьлянскія горы. Неба і вазёры зьліваюцца ў адну яркую сінь, як ляпіслазур.

Італьлянскі батальён нельга было перамагчы.

Ён абараніў сябе ад усялякага агню і забіўся ў цясьніны і пячоры.

Ёсьць два гатункі позыцый: адны магчыма зруйнаваць мэханічна (шляхам мэханікі), другія—толькі хэмічна (праз хэмію).

Да апошняга гатунку належала італьлянская позыцыя.

Чатыры начы цягнулася дастаўка баявога ўзброеньня па бочных шляхох, бо подступы да позыцый былі заняты вайскамі і санітарнымі колёнамі. Зігзагамі ішлі колёны абозных, ледзь пераходзілі высахшыя лясныя рэкі; валіліся ад зморанасьці. Далей трэ‘ было перайсьці невялічкую плошчу, зусім адкрытую для гарматнага агню. Сколкі скал мяшаліся са сколкамі гранат—сапраўдны гураган сколкаў. Нёсься ён і згары, і зьнізу, і з бакоў, сьвістаў у верхавінах сасон, трашчаў. Выбухі гранат аб скалы раздаваліся рэзка і звонка.

Трах!—граната выбухнула сярод абознай калёны. Перакідваючыся, як мяшкі, нязграбна каціліся яны ўніз. Густы хмызьняк затрымаў некаторых, другія скаціліся ў бяздоньне.

Шмат хто з абозу пакідалі трубы.

Урэшце тысяча газавых мін была пастаўлена на нямецкім фронце. Тысячы труб працягнуліся дакладна якраз да італьлянскага фронту. Была адна гадзіна ночы. Батальён нямецкіх газакідальнікаў стаяў у баявой пагатоўнасьці.

Была ноч, як усе ночы.

Чырвонавата-сіняя. Здалёк чуваць шум горнага вадаспаду. Мірыяды мігаўшых зорак сьвяціліся на ясным небе. То тут, то там раздаваўся ў цемры стрэл. Сьветлавыя ракеты ўзьляталі з зямлі ўгару. Кароткі залп, ўсё зноў быццам пагружалася ў цемру і цемень. З рук салдат выпадала зброя, слугі храпелі каля гармат. Толькі пасты вартаўнікоў дбалі: найменшы шум здаваўся павялічаным у шмат разоў. Нярухома стаялі людзі каля драцяной загароджы.

„Гатуйся...“

Роўна а другой гадзіне адбыўся адначасна газавы залп больш чым 900 мін, якія былі падпалены электрычнасьцю з аднаго месца.

Вялізарны агнёвы вахляр ярка прарэзаў начную цемру. Адначасна заблішчэлі тысячы агней ад гарматных стрэлаў. Сотні тысяч людзей стаілі дух. Некаторыя со-сну і перапуду пыталіся: „У чым справа, што здарылася?..“

Калючым, халодным было гэтае агнёвае зьзяньне, як жалезныя зубцы высоўваліся аддаленыя вяршыні гор. І ўжо зноў загудзеў магутны падземны гром, паўтараючыся стоуразовым водгульлем сярод вакольных горных спадаў. Зноў на хвіліну няма чым дыхаць. Як нябачны цяжар, паветра давіла на лёгкія. У некаторых занылі нэрвы жывата. Іншыя ў корчах качаліся на зямлі, другія працягвалі ўперад рукі і ногі. Хтось прыкрыў рукамі твар і проста выў. Але ўсе стараліся трымацца за штось. Усё гэта здарылася на працягу нязначнай долі сэкунды.

Зграяй панесьліся зараз сьветлавыя кулі.

Вялікія чорныя клубы асьліглага дыму пацягнуліся ўнізе.

Здавалася, быццам знаходзішся над воблакамі.

Шолах, гуд, сьвіст, плёханьне чуліся ў паветры. Паветра рушылася нібы хвалямі, як пад дзеяньнем кручэньня агромністай шрубы, кавальскага меху або пропэлера.

Урэшце:

Трум-трум...

Трум-трум-трум-трум... сотні разоў гэтае: трум-трум... і зноў тое самае.

Гэта быў глухі гук мін, якія па чарзе выбухалі вельмі хутка.

Зноў агнёвае зьзяньне...

Зноў страсеньне зямлі...

Зноў тыя таемныя ўдары крыльляў...

Сьпераду і з заду, усюды языкі полымя.

Прагрымеў другі залп...

Трэці...

Зноў забулькатала, застагнала; моцна ня раз узрушылася зямля. Глеба захісталася пад нагамі. Адзін пласт зямлі насоўваўся на другі. Крута ўздымаліся шырокія земляныя вадаграі. Разам з зямлёй падымаліся ўгару вялізныя абломкі скал і, як град, падалі назад на зямлю... Шчыльнасьць газу ў італьлянскіх акопах была такая вялікая, што процігазы зусім не дапамагалі. У мінах, апрача газаў, зьмяшчалася і нафта, якая загаралася і пырскамі прапальвала дзіры ў газавых масках. Аднача сна пачаўся абстрэл нямецкімі цяжкімі гарматамі.

Тут ляжалі разам з коньмі і сабакамі шэсьцьсот чалавек у корчах, выгіналіся, агалашаючы паветра шалёнымі крыкамі. Ужо не магло быць і думкі а паасобных раненьнях галавы, цела, касьцей: увесь італьлянскі батальён быў абернуты ў суцэльную кашу. Хвалі газу пранікалі ва ўсе прытулкі, выкурвалі адтуль людзей, зьмянялі кірунак пры найменшым руху ветра, падніміліся, спускаліся і, пагражаючы, падсоўваліся ўглыб краіны.

Інстынкт і розум больш ня дзейнічалі. Здавалася, быццам і закон цяжэньня страціў сваю сілу.

У паветры рабіліся колярухі, бяздоньне, віхоры, рухомыя сьцены газу.

Загаралася полымя, залівала нечакана суцэльным агнёвым насьцілам усё на сваім шляху, распадалася і раптам вырывалася дзікім пакручастым агнёвым колам.

І пасьля некалькіх гадзін (каля шасьці гадзін раніцы), калі газ ужо пачаў выветрывацца, шэрагі пяхоты ў процігазавых масках вялі люты штыхавы бой, маска проці маскі.

І вось на гэтым зданьнёвым полі бойкі розныя двуногія маскі накідаюцца адна на адну з бліскучымі нажамі. Некаторыя самі зрываюць з сябе маскі. Поўная глыбокае роспачы грымаса... уздых, і чалавек безнадзейна затапляецца ў балоце газу.

Сонца ўзышло. Неба цісьне, як распаленае жалеза. З зямлі паднімаецца параваньне, шумуе, булькоча. Узрытая знарадамі зямля падобна да агнёвай губкі, якая прамокла ад распаленай лявы. Ямы ад тысячы знарадаў запоўненыя кучамі чалавечых трупаў. Паветра між небам і зямлёй ціхае. Здавалася, што і яно зараз загарыцца... Ні дрэўца, ні кусьціка. Не даючы цені, выскаліліся з гэтага балота агня магутныя камлыгі скал...

Тысяча атручаных газамі павольна скварыліся цяпер да сьмерці ў гэткай сьпякоце.

Некаторыя трупы пачалі пухнуць.

Над імі гудзелі мухі, капашыліся жукі і яшчаркі.

Вось ляжыць куча мяса, лантухі вываліліся з бруха, і новае асобнае жыцьцё прачынаецца ў мярцьвечыне.

Пахне алівамі, пылам... сьмярдзіць пралітая кроў і гнілое мяса, гной і матэрыя... усюды гніцьцё і смурод...

Трэба дзівіцца тэй колькасьці гарачыні, якую прыходзіцца вытрымаць атручанаму газам.

Гэта гарачыня паліць усе лантухі; сьценкі лёгкіх як-бы абкладзены едкай кісьляй; кожны ўдар сэрца быццам пампуе праз жылы растопленае волава. А зьверху шматпудовым цяжарам сьціскае галаву чырвонае страшыдла—сонца. У глотку ўваходзіць як-бы шруба, якую нехта марудна зашрубоўвае... прыкра кляючае робіцца паднябеньне, язык—цьвёрды і сітавінны, як пэмза.

Сотні ляжалі яшчэ на каленах перад санітарамі і прасілі, каб іх прыстрэлілі. Їм пырскалі морфі. Некаторыя мелі шчасьце захаваць штых і рабілі сабе харакіры.

Магутныя масы праменьняў палілі цяпер гэты лог.

Было каля паўдня...

Вяршыні гор блішчэлі, як медзь.

Маладыя палкі, бязвусыя дзіцячыя твары, ішлі праз гэты сьвет мерцьвякоў на штурм. Італьлянскія танкі паўзьлі ўверх па горных сьцежках.

Усюды пырскі чалавечай крыві, сколкі касьцей, жмуты мяса. Усё насычана чалавечай крывёй. Досыць часта прыходзілася па калені ўваходзіць у гэту гразь.

## VII

Макс Гэрзэ стаяў, у сваім сьне, раптам на пляцы ў цэнтры гораду.

Раздаваліся трывожныя сыгналы—наўкола кіпеў ажыўлёны рух...

Музыка: стук колаў машын, сталёвых молатаў, прыводных пасоў, сьвідровак, рыдлёвак...

Макс працёр вочы—

і цяпер з яго нібы зваліўся цяжар, які быў на ім, і быццам у першы раз думкі яго атрымалі правільны кірунак...

Ён зразумеў: мускулы, жылы, сухажылы, рукі—вось на чым стаіць сьвет; і калі Макс убачыў вітрыну цацачнага магазыну, які быў гасьцінна адчынены, ён пачаў думаць зусім як пасьлядоўны пролетар: „Усе гэтыя лялечныя галоўкі, дзіцячыя гадзіньнікі, шпількі, уся гэтая лухта прамоклі крывёй і потам жывых людзей, якія жывуць у наймізэрнейшых умовах. Вось элегантны пан, які накладае там самаходныя акуляры, хіба ён думае, што гэтыя акуляры зроблены на цёмнай кухні або склепе рукамі галодных убогіх людзей...“

Гэтак востра, навочна, глыбока Макс дагэтуль ня мысьліў.

Гэтак трэба мысьліць, гэтак глядзець на сьвет, гэтак перажываць. Гэта адзіны апраўданы і гістарычна неабходны сьветапогляд і сьветаразуменьне.

Гэтак трэба глядзець на сьвет і гэтак перарабіць яго шляхам барацьбы павінны мы, пролетары. Усё іншае ёсьць чалавеказгубная пыш-

насьць... Існуе толькі адзіная позыцыя, каб перарабіць гнілы сьвет, і гэтая позыцыя—наша".

У гэты момант міма яго прайшла процэсія—комуністычнай моладзі.

Разьвіналіся чырвоныя сьцягі.

Пяялі „Інтэрнацыянал".

Гэтае пяяньне мела рытм, тахт, тон няўмольнага закліку да барацьбы.

Яшчэ раз думкі Макса зьвярнуліся да тых успамінаў, якія спакушалі яго поўгадзіны таму назад:

„Так, калі мы ўвайшлі, увесь горад ляжаў у руінах. Ніводнай жывой істоты. Толькі ў адным засыпаным доме з склепу голас паміраючага ад голаду дзіцяці, які пеў... „Інтэрнацыянал"... Так, я ясна памятаю, што для шмат каго з нашых салдат гэта быў жудасны, страшны заклік. Шмат хто адразу сталі як-бы цьвярозымі. Пролетарскае сумленьне загучэла ў іх, як набат. Сьлёзы паліліся з вачэй. Скрыгалі зубамі... Але, першы ўзвод нашай роты спыніўся на момант і аслупянеў. Мы адкапалі дзіця. Гэта была бэльгійская дзяўчынка—пролетарка. Уся рота берагла яе, як свой скарб. Мы ўсім сэрцам прывязаліся да яе і лічылі яе тады сваёй найлепшай маемасьцю".

Маладыя комуністыя збочылі ў вуліцу, і Макс няўмысьля кіўнуў ім ласкава галавой і, сам таго не заўважаючы, вітаў іх шапкай.

Ён шаптаў сабе ціха:

„Брава, хлопчыкі! Гэтак і далей! Хіба ўрэшце ўсё, што аб вас гавораць, не адна хлусьня!? Інакш быць ня можа... Хіба могуць вас хваліць вашы ворагі?

Гэтак добра! Уперад у будычыню... на вашых плечах ляжыць сьвет..."

Якісь буржуа выскаліў зубы.

„Вось прыкрая морда! Вырваць-бы ў цябе твае зубы з морды. Цьфу, чорт!.. Гэткая тлустая морда..."

Тымчасам надышоў вечар.

Увесь горад жыў, як мэханізм, які заўсёды сам сабой заводзіцца, як таемная пустка, сьветлы хаос, які сам сябе рэгулюе.

## VIII

Макс машынальна прайшоў некалькі вуліц.

„Трэба ўрэшце заглянуць і да Лены".

Лена была работніца трыкотажнай фабрыкі.

Макс нядаўна бачыў яе на сходзе. Бачыліся яны калі-ні-калі па нядзелях, часам выяжджалі ў аколіцу Бэрліну. Яны былі знаёмыя з часу організацыі соцыял-дэмократычнай рабочай моладзі. У апошні час яны зусім ня бачыліся. Прычынай гэтаму было тое, што ў апошнія месяцы ён мала цікавіўся політыкай; Лена-ж з галавой увайшла ў рабочы рух, які захапіў яе цалком.

Яшчэ ў дзьверах Лена сустрэла яго словамі:

„Ну, Макс, падумай толькі: учора я вышла з партыі. Я не магла далей цягнуць гэтак. Апошнія тыдні перапоўнілі келіх... пакуль я яшчэ не асьмелілася... Да комуністых не магу я яшчэ... ты-ж ведаеш, ёсьць у мяне гэтая інтэлігенцкая закваска, у пытаньні з ужываньнем гвалту...“

Макс спыніўся ў пакоі.

„Пытаньне аб гвалце. Я магу сказаць табе, што з майго боку я ня лічыў-бы гэта за перашкоду. Усё наша грамадзтва нішто іншае, як гвалт. Гвалт—грошы, гвалт—тое, што ты, што я ходзім на фабрыку, гвалт—тое, як ты жывеш,—усё права, усе звычаі, норавы заснаваны на гвалце. На найлюцейшым, няпрыкрытым гвалце... Толькі, натуральна, тыя, хто пануюць, зацікаўлены ў тым, каб зрабіць гэтае горкае бярэмя гвалту смачным. Яны многа і прыгожа лапочуць аб адсутнасьці гвалту ў іх гвалце. Яны ўзаканяюць гвалт... Хіба не зьяўляецца для большасьці людзей месца працы месцам пакуты!?

Увесь процэс продукцыі ёсьць гвалт, спосабы і мэтоды, як продуцыраваць, як дзяліць, як аплачваць... А паспрабуй зрабіць хоць крок проці пануючай клясы—зараз так або інакш стыкнешся з гвалтам... Увесь грамадзкі апарат разам з дзяржавай, урадоўцамі, вайсковымі, паліцыяй—гвалт, гвалт, нішто іншае, як гвалт. І пабач: гэты мірны організм гвалту часамі раптам выяўляе нарыў, які гнаіцца пад скурай—гэта і ёсьць вайна... І нам ужо нічога больш не застаецца, як гвалтоўна разьбіць гэты організм гвалту... І наогул: з гістарычнага пункту погляду—гвалт заўсёды быў і ёсьць акушэркай старога грамадзтва, якая нараджае новае... Ты павінна, Лена, зноў перачытаць „комуністычны маніфэст“. Нам канечна трэба шмат што дагнаць, мы моцна пакалечаны буржуазнай школай і нашымі абуржуажанымі правадырамі. Нам трэба зноў знайсьці сябе і вярнуцца да свайго шчырага інстынктыўнага клясавага сьветапогляду...“

Макс працягнуў Лене руку.

Яна паківала толькі галавой, недаверна сьмяючыся, а потым сказала:

„Ты маеш рацыю, Макс, зусім маеш рацыю: мы самі памыляліся на конт саміх сябе... Так, але з якога часу ты... з табой гэта так добра... Толькі дзіўлюся я... Нядаўна на сходзе ты мне зусім не падабаўся... Я сачыла за табой, калі гаварыў прамоўца... Але, Макс, што да гвалту, дык я таксама ведаю, я не такая дурная, каб не разумець: і бачу, што ідэі, якія цяпер пануюць і якія нам прышчэпліваюць так умела ў друку і падносяць нам, як штодзенны хлеб для сэрца і мазгоў,—той-жа гвалт, і шчыра служаць сыстэме гвалту, дзякуючы якой і буржуазія пануе над намі... Але бач: перад тым, як уступіць у комуністычную партыю, я павінна грунтоўна абмеркаваць. Комуністычная партыя не падобна да другіх партый—гэта я даўно ўжо зразумела. Уступіць туды, значыць: цалкам аддацца працы, афяраваць сябе, цалкам афяраваць, падтрымліваць дысцыпліну, падпарадкавацца ёй. Інакш усё гэта ня мае ніякага сэнсу.

Вось чаму я змагаюся за апошні разьвязак, і, думаю, кожны павінен адносіцца да гэтага паважна. Ці змагу я даць усё, што ад мяне патрэбуюць? І ў гэтым кірунку я выпытваю себя... Але інакш, здаецца, зрабіць я не змагу. ."

IX

Позна ўначы сабраўся Макс дамоў.

Ён адчуваў сябе цьвёрдым і рашучым.

„Гэта я перамагу: няма чаго баяцца. За апошнія дні я грунтоўна прысунуўся да разьвязаньня проблемы... Лена—практык... Яна мне дапамагла... Вось вытрашчыць Вільгэльм вочы, калі я яму раскажу... Ну, добра... Цяпер яшчэ невялічкая натуга... На сёньня даволі..."

Вуліцы былі пустыя.

На раздарожжы папраўлялі рэйкі. Кучка рабочых валтузілася каля апарату для зваркі жалеза. Хутка рушылі гэблі. Старую стрэлку цяжка было падняць. Сіняе сьвятло тленавай лямпачкі фантастычна мігала ў начы, асьвятляючы муры дамоў, якія здаваліся зданьнёвымі косьцятрупамі...

„Таварышы па рабоце! Таварышы! Пролетары! Мы, ты і я. Мы адно цэлае... Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!"

Цудоўны заклік!

Макс усё паўтараў яго сам пра себя.

Колькі сілы чалавечага розуму, чалавечае практыкі, чалавечай пакуты трэ' было, каб злучыць, зьбіць гэты пролетарскі блёк. Хіба да гэтага не тапілася чалавецтва ў агромністым моры пакуты сярод абломкаў невыканальнага лятуценьня?! Колькі героізму, самаафярнасьці, дысцыпліны трэ' будзе і ўперад, каб прывесьці ў рух гэты блёк, колькі агромністых сіл, каб праз засуджаныя на згубу пакаленьні мінулага прасунуць яго ўперад да будучыні!.. Дайце нам партыю!—гэтак галасілі мільёны вуснаў на ўсіх чалавечых мовах. Дайце нам партыю! Падважнік, выкаваны з мільёнаў пролетарскіх рук, жалезную організацыю, колектыў волі, колектыў практыкі... і дайце веры: мы зробім!

„Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!"

Лёзунг. Гук трубы. Асноўны тон пераможнага пролетарскага маршу, які б'е трывогу.

Макс сам маршыраваў, як у страі.

Сыгнал!..

Маршыраваў з сотнямі, з тысячамі...

У нагу! Пад рабочы марш.

Колёны ішлі за колёнамі.

Калі-ні-калі на кругавідзе загаралася электрычнае сьвятло.

Ранічны золак ужо фарбаваў ружовай фарбай неба.

І вось цэлая ляха воблакаў стала барвяна-чырвонай, гулі першыя фабрычныя гудкі.

Горад—агромністы каменны вадазбор, вялікая з граніту і цэманту складзеная зьмяшчальня людзкой пакуты. Але заўтра, пасьлязаўтра, як прыгожа і вольна зажывуць людзі!

Гэткім шчасьлівым і магутным не адчуваў сябе Макс яшчэ ніколі ў жыцьці.

## Пяты разьдзел

Ваенныя спрэчкі ў амэрыканскім афіцэрскім клюбе. Адкамандыраваны ў газавую часьць. Тварыш з паветранае флёты. Ваенныя спрэчкі ў амэрыканскім афіцэрскім клюбе.—Некалькі важных дадаткаў да барацьбы проці імпэрыялістычнай вайны.—Ліга нацый організуе зьнішчэньне комуністых у сусьветным маштабе. „Зьнішчайце, комуністых, як пацукоў".—Кара сьмерцю Мэры Грын на электрычным крэсьле.—Агульная забастоўка ў П. А.-З. Ш.—Чырвоная ячэйка ў амэрыканскай арміі. Т. С. Р. А.: Таемны саюз рэволюцыйных афіцэраў.—Можа пачацца!

### I

Ужо чвэрць году, як лейтэнант амэрыканскай пяхоты Франк Мороў быў адкамандыраваны да газавай часьці. Ён быў родам з рабочай сям'і, сам да вайны працаваў у Форда. На палёх боек Францыі ён высунуўся па службе і пад канец вайны камандаваў ударнай групай. Цела Франка Мороў само напамінала поле бойкі: рукі і ногі ў шырокіх рубцох ад штыхавых удараў, левае лёгкае двойчы прабітае. Тады, у невялічкім лазарэце ў Бэльвілі, куды яго, цяжка параненага, якраз яшчэ ў пару даставілі з поля бойкі пры вялікім наступленьні немцаў, зьнікл і ў яго апошнія аблуды наконт вайны, з якімі ён паехаў праз акіян проці немцаў... Усё зноў адкрывалася прастрэленае лёгкае, крывавы выпат давіў на сэрца, урачы кінулі надзею на добры выхад. Франк мог яшчэ трымацца пры дапамозе тлена, інакш ён ня мог дыхаць. Яму рабілі адзін пракол за другім. І вось аднойчы ўначы (Франк добра памятаваў гэта) урач з сястрой хутка ўвайшоў да яго, адкрыў яму вочы і пакачаў галавой... і Франка палажылі на опэрацыйны стол, а ўрач тымчасам казаў асыстэнту: „асьцярожней: ён можа памерці пад нажом". Ад шмат шампанскага, сардэчных лекаў і морфію Франк быў у забыцьці. І усё-ж такі выразна адчуваў, у чым справа. Быць ці ня быць. Дрыжачым голасам ён даў сабе ваенны загад. І зноў зрабілі яму пракол...

Праз тыдзень Франк паправіўся і прахаджваўся ўжо па саду лазарэта. Бязупынна стагнаў і плакаў ён, вочы не прызвычаіліся да сьвятла, нэрвы былі напружаны да надзвычайнасьці, усё цела расхістана, яго качала, пачалося доўгае напружанае дрыжэньне...

Тады-то Франк Мороў пазнаёміўся з Томасам Бутлэрам, Томасам Бутлэрам з трэцяй паветранай эскадрыльлі. Імя яго Франк ведаў:

Томас Бутлэр меў у групе найбольшы лік перамог над варожымі самалётамі. Ён быў сынам чыкаскага ўласьніка фабрыкі драўляных вырабаў, цынічны і разьвіты, і адразу зьвярнуўся да Франка з наступнымі словамі: „Уся гэтая вайна, таварыш, нішто іншае, як вялізнае прыбытковае прадпрыемства... Мы ўсе разам—афяры...“ І гутаркі пра вайну цягнуліся. Пры гэтым Томас чытаў часта яму выняткі з лістоў нейкай Мэры Грын, аб якой ведаў тады яшчэ Франк толькі тое, што яна была сяброўка Бутлэра і соцыялістка. Франку мімаволі прыходзілася задумацца. Спачатку ён як-бы абараняўся, але Томас напіраў на яго, і ўрэшце Франк Мороў да ўсіх здарэньняў стаў адносіцца крытычна:

„За каго ўласна мы б'ёмся!?“ пыталіся абодва. І адказ гэткі: за банкірскі дом Морган і компанія.

„А за каго—немцы!?“ „Можа за „нямецкі банк“, але фірма можа быць і іншая“.

А хто пачаў вайну?

Ніводны з двох. І разам абодва.

Калі два разбойнікі спрачаюцца з-за здабычы, цяжка вырашыць, хто пачаў. Апрача таго, толькі гісторыя можа ўстанавіць, хто вядзе абаронную, а хто наступальную вайну. Дыплёматыя тут не бярэцца пад увагу. Але з гістарычнага пункту погляду, абаронную вайну вядзе той, які абараняе вышэй організаваныя формы грамадзтва ад рэакцыйнай формы. І ўсё роўна, ці нападае гэткая дзяржава, ці нападаюць на яе. 1914 г.!? Ім абодвум стала відавочна, што значылі гэтыя фразы аб нацыянальным гонары, абароне бацькаўшчыны, барацьбе за волю... Уласна, мы зусім бяздольныя людзі, гаварылі яны сабе, калі мы дазваляем гэта, здабываючы з рызыкай каштаны з агня для буйнейшых аферыстых фінансавага сьвету?!. Сам сябе пачынаеш брыдзіцца ў такім нявольніцкім стане.

Аднойчы яны зноў сядзелі ўдвох. Спрабавалі жартаваць з гора, але няўдала... „застаецца толькі цярпліва чакаць, пакуль мы не разарвем гэтую вялізную павучыну хлусьні, у якой мы знаходзімся. Мы ўжо на дарозе да гэтага...“ Яны ўспаміналі, што кожная з дзяржаў, якія вядуць вайну, запэўняе аб сябе, і знайшлі адразу наступнае: што кожная дзяржава вядзе абаронную вайну, змагаецца за справядлівую справу, за волю, за цывілізацыю ўсіх народаў, што яна напружыць усе сілы і будзе змагацца, пакуль не пераможа супраціўніка, што яна напэўна застанецца пераможніцай, што яна пераможна ідзе ўперад і нясе малыя страты, што бомбы яе кідаюцца толькі ў ваенныя ўстановы і заўсёды з вялікім посьпехам, што яе гарматы і авіяцыйныя сілы куды мацнейшыя, як у супраціўніка, што яна надумала зараз мерапрыемствы, якія абяцаюць вялікую карысьць, што міласэрны бог ёй дапаможа...

І далей, кожная дзяржава гаворыць яшчэ: што супраціўнік жадаў вайны і даўно да яе рыхтаваўся, што супраціўнік пачаў вайну і напаў

на „нас“, што ён вядзе захопную вайну і хоча панаваць над сьветам, топча нагамі міжнароднае права, пагражае нэўтралітэту меншых дзяржаў, што ён вядзе вайну барбарскім спосабам, ужывае кулі „дум-дум“, злоўжывае чырвоны крыж, дрэнна абыходзіцца з палоннымі, гвалтуе жанчын, забівае і рабуе. Што ваенныя суды супраціўніка—зьдзек над законамі, што ён забівае палонных, бомбардырue вольныя гарады, забівае жанчын і дзяцей, ня прыносячы „нам“ ніякіх ваенных страт. Што наступ супраціўніка прыпыняецца ў самым пачатку ці адбіваецца з вялікімі для яго стратамі, што супраціўнік карыстаецца газавымі бомбамі, што ён разбойнічае на моры, без патрэбы перашкаджае нэўтральнаму гандлю, што ўсе інформацыі супраціўніка цалкам брахня і хлусьня, што ён праз хлусьню, пагрозу і подкуп схіляе на свой бок нэўтральныя дзяржавы, што ён, на найвялікшае няшчасьце нэўтральных дзяржаў, уцягвае іх у вайну, што супраціўнік пакутвае ад недахвату грошай, дарагоўлі, індустрыяльнага крызісу, што ваенныя пазыкі ён дастае толькі ашуканствам, што ў яго эпідэміі, што ў краіне супраціўніка забастоўкі і ўнутранае бязладзьдзе, што яго міністры і генэралы самі звальняюцца, што ён змарыўся ад вайны...

Яны налічылі трыццаць шэсьць гэткіх пунктаў. Ня было ніякага сумненьня, што дзяржаўныя дзеячы і палітыкі ўсіх нацый ужывалі бяссорамныя спосабы, каб падбухторваць насельніцтва... І абодва афіцэры беспарадна глядзелі адзін на аднаго: „а мы?.. што мы можам зрабіць з нашымі ведамі?!“

І адначасна прышоў ліст з весткай, што Мэры Грын за антымілітарыстычную пропаганду засуджана на два гады вастрога. У гэтым лісьце пісалі: „гэта яшчэ добра. Вялікая колькасьць антымілітарыстых была люта закатавана судом Лінча...“

„Мілы хлопчык: Мэры прасіла сказаць табе, каб ты грунтоўна падумаў над усім гэтым і зрабіў адпаведныя вывады. Гэтае няшчасьце ўсяго чалавецтва ня можам далей моўчкі цярпець, мы, якія ведаем увесь мэханізм. Агітуй за згоду... Але проці вайны ёсьць толькі адзіны спосаб барацьбы: гэта соцыяльная рэволюцыя...“

Абодва афіцэры сталі яшчэ больш нерашучыя.

Аднак прышоў такі канец вайне.

Пачаліся перамаўленьні аб часовым замірэньні.

## II

А які зварот дадому!

Трыумфальны пераможны паход цераз мора! Які трыумф!

Калі з нью-ёрскай статуі волі заўважылі іх транспортныя параходы, раптам пачалі рычэць усе судновыя сырэны, заблішчэлі сьветлавыя ракеты, сотні торпэд і чаўноў атачылі тых, што вярталіся. Ваенныя оркестры ігралі нацыянальны гімн.

Небаскробы блішчэлі агнямі.

Высока ўгары гарэлі агні перамогі.

Войскі былі высаджаны.

Абыманьні. Пацалункі. Бясконцыя прывітаньні за руку.

Сьлёзы тысяч удоў і сірацінак не перашкаджалі гэтага радаснага струменю.

Франк Мороў і Томас Бутлэр таксама вярнуліся...

Мэры Грын выпусьцілі з вастрогу...

Пачалося пасьляваеннае жыцьцё.

Ні Франк Мороў, ні Томас Бутлэр ня звольніліся... Яны засталіся ў войску... І Мэры так раіла: усюды трэба было замацавацца і нельга было ведаць... Аб разбраеньні і ня думалі, нават наадварот. Зброя ўдасканальвалася. Толькі цяпер добра карысталіся практыкай вайны. Рабілі пышныя манэўры, манэўры, на якіх нікога ня было відаць, усё выконвалася мэханічна танкамі і бранявікамі. Абмяркоўваліся вялізныя пляны замацаваньня. Панамскі канал і Гавайскія выспы павінны былі стаць цудам ваеннага штукарства і наймацнейшымі апорнымі пунктамі сьвету. Ваенная муштра пачалася ў школах, ствараліся прыватныя арміі, таемныя нелегальныя організацыі, узьніклі каманды штрэйкбрэхэраў, організаваныя паваеннаму... Краіна стала неспакойная. Мільёны фэрмэраў, страціўшы зямлю, перасяляліся ў гарады. Улада нацягнула лейцы. Павялічыўся лік судовых процэсаў проці соцыялістых. Адначасна больш пачалі ўжывацца сродкі пропаганды: кіно і друк Расіі—вось, дзе небясьпека! У самым сэрцы Амэрыкі жыве Расія. Рабочыя масы Амэрыкі глядзелі на Расію. Проці чырвонай, проці бальшавіцкай небясьпекі трэ' пабудаваць астрогі і барыкады. Тады ва ўсіх нью-ёркскіх кіно пачалі паказваць страшэнныя процібальшавіцкія фільмы, і можна было бачыць, што робяць комуністыя: горы забітых награмаджаліся перад глядзеўшай публікай... Белагвардзейскія эмігранты падтрымлівалі гэты паход; яны пісалі ўспаміны, і іх уцёкі з чырвоных брацкіх могілак сапраўды былі героічныя і поўныя прыгод. Капіталістыя ўсіх краёў, злучайцеся! Гэты лёзунг, праўда, ня так відавочна выказаны, практычна ажыцьцяўляўся... Японія энэргічна вырастала.

Саюзы для абароны белай расы перасьцерагаючы паднімалі голас.

Якраз тады здарылася ў жоўтых зямляздрыгі, пажары: дзякавалі на каленах бога ў Амэрыцы.

Але гэта абазначала толькі часовае адтэрмінаваньне. З Нямеччыны ішлі весткі: рабочыя мобілізуюцца, ствараюцца чырвоныя арміі, бальшавіцкае полымя перакідаецца ў Эўропу. У амэрыканскіх фінансавых колах былі два пункты погляду: адзін—гэта нас ня турбуе: хай Эўропа будзе Эўропай; другі нам патрэбна Эўропа: яна экспорт нашага капіталу...

Апошні пункт погляду пакрысе перамог. У Нямеччыну вярнуўся спакой і парадак. Францыі ўпару далі па руках. Франк падаў...

І прадстаўнікі нацый, на гэты раз і амэрыканскай, сабраліся на нараду разьвязаць проблему рэпарацыі.

Кругавід абаіх сяброў усё пашыраўся. Пакрысе пераканаліся ў тым, якія абавязкі ляжаць на іх, як на афіцэрах узброенай сілы. Яны сталі радыкальнымі соцыялістымі, гэта значыць—дасканалымі соцыялістымі.

„Кожны на сваім месцы... А мы, мы выканаем нашу павіннасьць тут“.

III

Абодва сябры сустрэліся ў Нью-Ёрку.

„Ну, як у Эджвудзе?!“

„Не адразу, Томас, май цярплівасьць... Аб гэтым пасьля...“

„Пойдзем зараз у клюб!?“

„Добра, а заўтра пабачымся з Мэры... Будзе шмат цікавага... І Болэв тут, наш балгарскі таварыш...

Але трэба асьцерагацца шпегаў... Паветра ўсё згушчаецца...“

На вуліцы магутны струмень людзей.

„А, на сусьветны чэмпіонат...“

Ужо даносіліся абрыўкі гутарак:

„Я стаўлю на Дэмпсы!“

„Дэмпсы?!. Невядома, што праўда. Але пра гэтага аргентынца апавядаюць дзіўныя рэчы...“

„Ах, гэтыя бычачыя героі і быкі пампасаў у большасьці каштуюць яны нядорага... Цяжкі згубны ўдар, пасьля якога і трава не расьце... Але тэхнікі ніякай!..

Няма і дыханьня, найбольш хапае яго на тры кругі...

Усё рэклама, пустое балбатаньне, прагнасьць да нажывы...

Паглядзі толькі...“

І чалавечы струмень падхапіў абодвух афіцэраў і панёс іх з вуліцы на вуліцу з сотнямі тысяч далей да вялізнай спортыўнай арэны. Там сёньня павінен адбыцца сусьветны чэмпіонат цяжкай вагі паміж Дэмпсы і Фірпо. Крыкі вулічных гандляроў. Шумныя выбухі сьветлавых ракет у паветры. Рухомыя ходнікі. Пяцідзесяціпаверхавыя небаскробы, асьвятлёныя бэнгальскімі агнямі. Неаглядная чарга самаходаў, затрыманых чалавечым струменем. Загародныя ланцугі паліцэйскіх. Тут-жа перапрадаўцы білетаў: усё здушана, сьціснута. Перад уваходам цэлыя натоўпы людзей, якія цiскаліся непакойна, як у віры. Вось плякаты з портрэтамі абодвух боксёраў, ня менш, як дзесяць мэтраў даўжыні. З балькону нехта гаворыць у рупор. Другі голас раздаецца з громкагаварыльніка. Там нясуцца цягнікі падземнай чыгункі. Сыплюцца іскры. Разьвінаюцца сьветлавыя рэклямы. Угары агнёвыя літары: „Пэрсыль застаецца Пэрсылем“, „царыца толькі што прыбыла ў Вашынгтон“. Праз залітыя сьвятлом шкляныя сьцены магазынаў відаць былі высокія гмахі. Пад асфальтавым насьцілам, па якім каціўся гэты людзкі сьнегазвал, чуваць быў грукат падземнай чыгункі

у цэлай сыстэме падземных цэмантавых труб... Дэмпсы—Фірпо: адзіная думка, адзіная воля была ў сотні тысяч гэтых людзей. Гэтая думка гнала іх, захапляла, падбухторвала, запаляла. Колектыўны організм з тысяч людзей быў ахоплены палам гэтага адзінага перажываньня...

„Зусім як у дзень абвяшчэньня вайны".

„Захапляючае, вялізнае прадстаўленьне!"

Абодвум афіцэрам удалося выбрацца з гэтых людзкіх мас і збочыць у пустую вуліцу. Яна была нібы спакойным морам, не зачэпленым залітым ударамі марскіх хваляў.

„А ты часта яшчэ ўспамінаеш вайну?"

„Тады ўстаюць яны агромністай зьвярынай велічыні тыгры акопаў, ўладары выбуховых матэрыялаў"—гэтак прычытаў я нядаўна ў вершах аднаго немца. „Хіба думаю я яшчэ аб вайне? Аб тэй, што была, ніколі. Але аб тэй, што будзе. Урэшце, я адкомандыраваны ў газавую часьць".

„Я з нецярплівасьцю чакаю сёньня вечара. Трэ' было-б часьцей ставіць гэткія даклады. У параўнаньні з мінулым часам цяпер у арміі больш працуюць над політычнай і навукова-ваеннай адукацыяй..."

„Немцы далёка выперадзілі нас у гэтым. Але мы нагналі ўжо... Сьвет належыць да П-АЗШ. Я кажу гэта не бязгрунтоўна. Я не належу, мусіць, да катэгорыі тых дурных патрыётаў, якія ня бачаць далей свайго носа. Я кажу гэта, ну, на падставе маёй практыкі ў Эджвудзе. Разумееш?.. Я кажу з ваенна-політычнага пункту погляду".

## IV

„Хэмічныя баявыя сродкі зьявіліся з тым, каб застацца. Гэтым фактам сьвету трэба здаволіцца".

З гэткімі словамі пачаў профэсар Сноўдэн свой даклад перад афіцэрамі амэрыканскае флёты, арміі і паветранае флёты. Зьявіліся на даклад таксама прадстаўнікі грамадзянскае ўлады ды індустрыі.

Профэсар Сноўдэн даў сьпярша кароткі гістарычны агляд.

„З пачаткаў газавых воен прайшлі тысячалецьці. Штучныя воблакі пылу, гаручыя матэрыялы, якія даюць дым, затуманьваньне варожых позыцый і выкурваньне былі ўжо вядомы, у старажытныя і сярэднявяковыя часы. І ўжо ў 1854 годзе прапанавалі ангельскаму ваеннаму міністэрству газавыя бомбы. Нямецкі аптэкар у часы нямецка-францускай вайны 1870—71 гадоў раіў начыняць гранаты вэратрынам, які выклікае толькі моцнае чыханьне. Яго прапанова тады ня была ажыцьцёўлена".

„За 500 мінулых гадоў, калі агнёвая зброя перамагла панцыр і дзіду, спачаткў паволі, а потым у апошнія 50 год нязвычайна інтэнсыўна пачалі выўчаць хуткасьць агня, прабіўную сілу лётных часьцін жалеза, каб перамагчы супраціўніка. Пры гэтым дайшлі да пункту, які перавярнуў усю практыку вядзеньня вайны, што ўжывалася дагэтуль. Бо ўсе гэтыя лётныя часьціны жалеза выяўлялі найвялікшую дзеяздольнасьць у чыстым

полі, але лёгка затрымліваліся землянымі валамі нават сярэднай сілы. Гэта давала абаронцу значную перавагу перад тым, хто нападаў. Чалавечае цела з двума мэтрамі плошчы зьяўлялася цэляй, непаражальнай на абаронным месцы для жалезнага віра з мэханічных стрэльбаў і палявых грамат. Да штурму абаронцу нельга было перамагчы за яго зямельнай заслонай, бо лётнае жалеза не дасягала яго. Справай прыродазнаўчай фантазіі было—прадбачыць гэта і знайсьці дапамогу, якую толькі даваў сучасны стан тэхнікі. Гэта газавая вайна".

Пакуль профэсар Сноўдэн дакладна апісваў тры розныя этапы ў разьвіцьці газавых экпэрымэнтаў за сусьветную вайну: выпуск газу, страляніну газам і кіданьне газу, заўсёды падкрэсьліваючы, што тады гэта было толькі экспэрымэнты, а газавая вайна была, так кажучы, яшчэ ў дзіцячым узросьце,—Франк думаў аб найноўшых работах з газамі, як мірнымі памоцнікамі ў ляборатырыях і вучэбных пляцох Эджвуда.

„Так, фактычна можна сказаць, што проблема кіраваньня на адлегласьці ўжо разьвязана. Камандная табліца, націск і аўтоматычны старт, і мэханічны самалёт з хуткасьцю 500 кілёмэтраў у гадзіну, незалежны ад атмосфэрных абставін, пачынае страляць па цэлі... Фантастычныя думкі, для тэхнікі няма немагчымага... Паглядзеце на нашыя новыя танкі, якія яны круткія і хуткія. На іх мы робім ўжо 70 кілёмэтраў у гадзіну. Ідэальнае злучэньне агня і духу!.. Як было на апошніх манэўрах? Ня відаць было ўжо аніводнага чалавека. Перакідка ўзброеньня, провіянту, а таксама людзей, рабілася цалком аўтоматычна праз рэзэрвовыя фурманкі... Застаецца яшчэ проблема—зрабіць танкі непраніклівымі для газаў. Тады праяжджаем мы з імі праз атручаныя газамі балоты, як на падводных лодках. Вайна цяпер замест нярухомай панцырнай агнёвай лініі карыстаецца таксама панцырнай лініяй, але рухавай..."

„Такім чынам, думаў Франк, урэшце, будучая вайна будзе зноў вайной руху. Масы салдат уступаюць войскам спэцыялістых. Магчымы пераходы. Рана пакуль што дакладна перараказаць, але момант нечаканасьці адыгрывае тут вялізную ролю..."

Далей профэсар Сноўдэн выказаў і наступнае:

„Хэмічная вайна зьяўляецца апошнім этапам у разьвіцьці ваеннага штукарства. З усіх навуковых мэтодаў барацьбы яна стаіць на больш навуковух падставах. З эканомічнага пункту погляду хэмічная зброя і таней за ўсе другія. Але яна, панове, і найгуманьнейшая. Ужываньне атрутных газаў на вайне называлі лютым і нягуманным, так спачатку пэўна і адчувалася. Але трэба прыпомніць, што ўсялякія новыя мэтоды вядзеньня вайны, як і ўжываньне пораху, спачатку лічыліся жорсткімі, а потым пакрысе страцілі свой жах.

Такім чынам, усе дзяржавы сьвету знаходзяцца, відавочна, пад тым уражаньнем, што ў будучай вайне перавага застанецца за тым, хто можа нечакана нанесьці няўхільны ўдар хэмічнай зброяй. Дзеля гэтага трэба

імкнуцца да вырабу газаў для ваенных мэтаў і патрэб, трымаць іх у сакрэце ад другіх. Само сабой зразумела, што ў сакрэце трыманыя посьпехі ў гэтым кірунку даюць такую перавагу, якой супраціўнік бадай не дасягне на працягу вайны. Бо абарона ад баявога газу магчыма толькі тады, калі вядомы яго складаныя часьціны. Новыя газы, такім чынам, дзеюць у большасьці зьнішчальна".

Заклікам да супольнай працы да афіцэраў, прыродазнаўцаў, хэмікаў і тэхнікаў скончыў профэсар свой даклад.

V

Адразу разгарнулася ажыўленая дыскусія. Спрачаліся групамі.

„Гэтак, ня інакш, павінна быць, гэткім толькі мэтодам і чынам сама вайна робіцца немагчымай. Страшыдла вайны адкусвае сабе галаву. Ня думайце, панове, што пасьля цікавых вывадаў профэсара Сноўдэна вайна стала немагчымая рэч? Гэткая будучая вайна, вартая пяра Жюля Вэрна, ёсьць продукт страха запалоханых мазгоў, спараджэньне вар'яцтва, ня больш; гэта немагчыма, кажу я вам; чалавецтва ў сваёй злучнасьці не аддасца так спакойна барбарству. Фантазія Жюля Вэрна, падарож на месяц, прыгоды ў бяскрайным... ня больш".

Так гаварыў вільсонавец (прыхільнік Вільсона), старэнькі, элегантны мужчынка з моноклем у воку. Профэсар мэдыцыны пры унівэрсытэце.

„А ліга нацый!?" шаптаў ён абурана далей, „і вашынгтонская згода! Разгледзьце, панове, калі ласка, пяты артыкул дагавору... Калі мы пойдзем далей па шляху разброеньня, спакой сьвету забясьпечаны. Я кажу вам, панове, што мінулая вайна ёсьць і застаецца апошняй... Нават калі яшчэ ўзьнікнуць невялічкія конфлікты, крызісы, паўстаньні і спрэчкі, калі неразважныя колёніяльныя народы пойдуць проці культуры і прыстойнасьці... Вайна ў тым маштабе і тых формах, як вы зараз апісалі, ёсьць абсолютная немагчымасьць. Проста забабоны, ня больш. Цывілізацыя ідзе, панове. Я, з майго боку, у гэтым стасунку спадзяюся толькі на лігу нацый..."

„Але, любы Артур, які тон!" Засьмяяўся проці яго, жуючы гуму, хэмік-спэцыялісты, „вы добры апостал часу асьветы. Напэўна, напэўна... Ваш пацыфізм для мяне псыхолёгічна зразумелы з кацінага настрою пасьля сусьветнай вайны. Але, я думаю, усё гэта мы перамаглі і грунтоўна за апошнія пяць год. Усюды на сьвеце, куды вы ні паглядзіце, чытаем мы са штыком і г. д. у руках ужо зноў добрыя лекцыі практычнага пацыфізму. Але бліжэй да тэмы. Да гэтага трэба яшчэ вось што сказаць: пакуль газ існуе, як зброя ў другіх ваенных дзяржавах, мы ня можам дапусьціць і не дапусьцім адсутнасьці яго ў нас. Хэмічныя ваенныя аддзелы складаюць цяпер значную частку організацый Францыі, Італіі і П-АЗШ, і ў кожнай з гэтых краін робяцца досьледы для апрацоўкі дзейных мэтодаў пры газавым нападзе. Адмовіцца ад ужываньня

газаў—значыла-б рызыкаваць бясьпечнасьцю нашых баявых устаноў, і на падставе тых досьледаў, якія мы зрабілі ў мінулую вайну, было-б вар'яцтвам так рызыкаваць. Наогул, вельмі дрэнна ганіць газавую барацьбу, як мэтод барацьбы, і кагось упікаць у тым, што ён дастаў газ. У сапраўднасьці гэты мэтод барацьбы можна было прадбачыць. Блазная наіўнасьць і бязгрунтоўнае разважаньне ўтрымалі Францыю ад карыстаньня гэтай дасканалай зброяй. Францускія хэмікі зараз яе прапанавалі. Пачуцьцё зусім хібнага сораму пазбавіла Францыю права пяршынства... Карацей: мы ўсе разглядаем газавую вайну, як вайну будучыні, і рыхтуемся энэргічна да гэткай вайны. І гэта ня казкі, не легенды, мой любы профэсар, але факты. Было-б ня дрэнна, калі-б вы ў сувязі з гэтым калісь разважылі, хіба не прынясе ўсё, што мы тут слухалі, нейкую карысьць і вам у вашай спэцыяльнасьці..."

„Я вас не разумею, панове, вы не зьвяртаеце ўвагі ні на конфэрэнцыю па разброеньні, ні на волю народаў, быццам усё гэта такое, што ў рашучы момант яго магчыма скінуць пальцам. Гэта ня так..."

„Пастанова конфэрэнцыі па разброеньні—забараніць газавую барацьбу толькі на паперы, бо сапраўды яна ня можа перашкодзіць ужываньню газаў у новай вайне. Дзеля гэтага і было памылкай ня слухаць думак спэцыялістых, а тых не спэцыялістых, якія з агульна людзкіх меркаваньняў заганілі газ, як лютае, нячуванае дапасаваньне навукі. Падрыхтоўку да хэмічнае вайны трэба весьці далей... Напэўна, што хэмічныя сродкі барацьбы ў даным выпадку павінны былі ўжывацца ў большай колькасьці і другім спосабам, як у апошняй вайне. Адсюль канечная патрэба для нашай краіны рыхтаваць далей, ня гледзячы на вашынгтонскія пастановы, хэмічную вайну.

Дэмаралізуючае дзеяньне газу на супраціўніка, неспрактыкаванага ў яго ўжываньні, такое вялікае, што кожны начальнік павінен з гэтым лічыцца. Нацыя з большымі навуковымі ведамі ў бліжэйшую вайну пэўна ў поўнай меры скарыстае гэтыя веды, думаючы, што яны дапамогуць ёй выграць вайну".

Быў тут і профэсар соцыолёгіі:

„Бачце, панове, я хацеў-бы зьвярнуць вашу ўвагу і на другую проблему. Новая ваенная тэхніка дае нам зноў у рукі зброю. Як бумэранг, вяртаецца гэтая зброя, якую мы прымушаны былі часова выпусьціць з рук, назад да сваёй першапачатковай мэты. Я вам зараз растлумачу. У апошнюю вайну клясавая сьвядомасьць пролетарыяту яшчэ ня была развіта. Другі Інтэрнацыянал граў сваю ролю добра: ён поруч з намі супраціўляўся ў час спробам зрабіць вайну грамадзянскай. У будучую вайну гэта, праўдападобна, больш ня ўдасца. Расія існуе. Комуністычныя партыі на ўсіх контынэнтах глыбока распропагандавалі рабочых. Узброеньне народу, масавае апалчэньне: падумайце, якая рызыка, якая небясьпека для нас! І вось, новая ваенная тэхніка аддзяляе пролетарыят ад

зброі, зброя застаецца ў нашых руках, толькі на месца продукцыі нам патрэбны яшчэ кадры рабочых, якія і ёсьць ні больш-ні менш, як толькі рабочыя кадры. Мы, буржуазія, на фронце; пролетарыят унутры краіны, на этапах, пролетарыят у небясьпечнай зоны. Мы—у танках, на самалётах, у колектыўна абаранёных лябораторыях. Гэткія суадносіны малюе мне новая вайна".

Пацыфісты зноў стаў пярэчыць. Забастоўка, генэральная забастоўка, адмова ад ваеннай службы, саботаж на фабрыках узброеньня і г. д.

Тузінамі пасыпаліся на яго супраціўныя довады.

„Так, але, любы профэсар! Забастоўка рабочых узброеньня!

Хіба вы думаеце, што нашы добрыя пролетары наогул ведаюць, што яны вырабляюць. Газ, атрутны газ: я павінен растлумачыць вам, наіўны чалавеча, што ўсё гэта зьмяшчаецца ў леках, парфумах, матэрыялах угнаеньня, фабрыкатах мыла. Дзе пачынаецца выраб узброеньня і дзе канчаецца ён? Бачыце: а рухавіхі танкаў? Хіба ня будуць яны дапасаваны да трактараў? А ня чулі вы пра тэндэнцыі норміроўкі індустрыі... О, гэта ўсё організавана..."

Другі насьмяхаўся:

„Забастоўка, саботаж. Вы ня лічыцеся з атмосфэрай пры выбухе ўзброенага конфлікту. Вы ня лічыцеся з магутнасьцю друку, з узрушэньнем, якое мы можам выклікаць у дзевяці дзесятых усіх людзей страшэннымі апавяданьнямі. Бурнымі казкамі і нахабнай брахнёй. Вы ня лічыцеся з расколам сярод рабочых. Рэволюцыйныя элемэнты ў пачатку вайны пэўна ня маюць вялікага ўплыву, толькі пад непасрэдным дзеяньнем... а потым: або—або! Мы пераможам, або другое ёсьць, справа варожага гарнізону. Мы і тут у час зразумеем адзін аднаго. Стопроцантная атмосфэра вар'яцтва, пане!.. Гэта трэба запісаць у рахунак, пане!.. Толькі мы, організатары, адзін процант усяго чалавецтва, ня трацім галавы. Бо мы падрыхтаваны да гэтага, ведаем усю падрыхтоўку, толькі для нас адных агалашэньне вайны ня будзе нечаканым момантам, мы адны ўсё ведаем у процілегласьць нейкім соцыялістым. Яны прызнаюць ужо, што мэтод продукцыі, які мы цяпер ужываем, і вайна абавязкова цесна зьвязаны і па сваёй сутнасьці тое самае, што так званая згода ёсьць толькі перапынак... Як доўга ён працягнецца, гэта цяжка прадвесьціць... Мы ня прызнаем тэрміну для будучай вайны... Карацей кажучы, мы ня марым аб згодзе, но para bellum! Рыхтуйся да вайны...

Яшчэ Нітшэ сказаў: „толькі пад ценем мяча..." „...Маем адвагу спадзявацца, пане профэсар, што толькі па-за сваімі заняткамі вы настроены так пацыфістычна... Калі раз здарыцца вайна, вы, як мы спадзяемся, вы напішаце ўсё, што павашаму трэба як выхад з становішча"...

„Добра, згода!"

„Ну, вось... Мы ўсё ўрэшце надта патрыёты. Чыстыя амэрыканцы".

Наступіў перапынак...

## VI

Славутыя наезьнікі, іграцы ў тэніс, танцоркі, урач, паны з моноклямі з дэмократычнага яхт-клюбу шпацыравалі ўжо. Артыстка кіно пацілікала міма пад руку са славутым тэорэтыкам тэорыі адноснасьці, напарфумованы воблак пранёсься ў паветры. Артыстка была асабліва проста адзета, залаты крыж на шыі, чорны шоўк. У яе была мянушка „Лола-кэнгуру“. Другая называлася „бутэрброд з сардэськай“, трэцяя—„вампір“ (ваўкалак).

„Падводныя лодкі—“

Рохкнуў высокі поп вельмі асьцярожна:

„ ... праўдападобна жорсткі і не хрысьціянскі. Яны таксама несправядлівы, як і мамона. Якраз таму мы ніколі не выракаемся іх. Мы ўжываем іх, як, паводле ўласнага слова Ісуса Хрыста, мы павінны ўжываць і мамону. Гэта якраз і ёсьць надта добра, што мы пры ўсім гэтым маем слова Ісуса. Ня наша віна, калі мы ў крывавай рабоце вайны павінны выконваць і работу ката...“

„Панове, фактычна чалавек быў падняты вышэй сябе. Калі я ўспамінаю гады вайны: фактычна—мы маглі-б павесіць нашы імёны на вечныя зоркі... Мы ня бачылі больш мінулага, мы самі былі лёсам... Як дух новага часу, прайшлі праз чалавечыя сэрцы, дух узаемнага разуменьня і гатоўнасьці дапамагчы другому. І бязродныя таварышы выканалі свае абавязкі і ніякім чынам не дапусьцілі патрыётам перавысіць сябе... Радасны выклік прасякнуў сэрцы народу, нейкі сусьветны дух распаўсюдзіўся па сэрцах народу. Гэта ясна бачаць усе мае сябры: без вайны мы доўга яшчэ ня дасягнулі-б шмат якіх дэмократычных вольнасьцяй у П-АЗШ. Такі прыз перамогі і згоды варты тых афяр... Я так кажу, хоць, або лепш, таму, што я соцыялісты...“

„Так, сапраўды, гэта гарачая лазьня ў чорнай крыві была канечна патрэбна пасьля шмат цёплых брацкіх сьлёз і матчынага малака. Канечна патрэбна было добрае палінаваньне крывёю. А найперш за ўсё: нас стала надта многа. І вайна ліквідуе кожны раз масу людзей, якія жылі толькі таму, што нарадзіліся. Сярод тысяч трупаў, аб'яднаных сьмерцю, і адрозьніваюцца адзін ад аднаго фарбай формы; хіба многа сярод іх, якія трэ' было-б аплакваць, ці толькі ўспамінаць іх? Ручаюся галавой, што іх ня больш за колькасьць пальцаў.

Няхай не паказваюць нам матчыных сьлёз для ўзрушэньня! А куды-ж пасьля пэўнага ўзросту прыгодны маткі, як не для плачу!? Апрача таго, вайна канечна патрэбна сельскай гаспадарцы і новаму часу. Полі боек даюць на шмат гадоў значна большы ўраджай, чымся раней, і да таго бяз жаднага ўгнаеньня. Якую прыгожую капусту будзем мы есьці з тых месц, дзе ляжалі груды трупаў, і якую добрую бульбу зьбярэм мы праз некалькі гадоў у тых краінах, дзе ляжаць трупы нямецкай

пяхоты. Будзем любіць вайну і, пакуль яна цягнецца, як аматары, каштаваць яе...“

Так навучаў эстэт. Ён быў славутны, як уладар багатай колекцыі парцаляны. Ён лічыўся за асабліваю натуру, і з другіх мастацкіх кірункаў меў поцяг да футурызму.

Проці дакораў, што рабіліся якраз з жаночага боку, пачаў гаварыць псыхіятр:

„Вы павінны зразумець, вы, прарокі і прарочыцы, што шал прымушае хутка разьвязваць моднае пытаньне аб згодзе. Вайну нельга вывучыць за адзін дзень. Вайна пакуль што рэакцыя на раздражненьне, справа гонару, сродкі да мэты, у момант абвяшчэньня робіцца сама мэтай. І з гэтага часу, спадзяюся, усе яшчэ ня выратаваныя амэрыканскія душы, магчыма, нават апошнія пацыфістыя зразумеюць свой грэх, зразумеюць, што іх ідэалам былі не сьвятыя астанкі, але простыя астачы. І ўся нацыя, як адзін чалавек, зноў патрабуе вечнае вайны...

Урэшце, калі вас гэта цікавіць, я якраз цяпер працую над псыхоаналізам рабочага руху. Бязупынныя скаргі на ціск рабочай клясы буржуазіяй ёсьць толькі ўзмацненьне шалу перасьледваньня, а лёзунг „пролетары ўсіх краёў, злучайцеся“ ёсьць нішто іншае, як клясавы выраз гомосэксуалізму...“

„Не, што вы кажаце!“

## VII

У музычным салёне тымчасам спрачаліся аб мастацтве.

Кніжная шафа адчынілася.

Сьпярша лашчылі пальцамі вокладкі кніг.

Славуты крытык круціўся пасярэдзіне кола, як пава; дзьве вельмі тоўстыя артысткі акружалі яго; урэшце ён праціснуўся праз мясныя масы, элястычна калыхаючыся. Гутарыўшы з ім чалавек бачыў толькі яго профіль.

„А, і вы тут, пане доктор!? Не надоўга вылецелі з габінэту?! Ну, як ваша работа!?“

„Зусім правільна, што да пытаньня аб ваенных даўгох: мне ў маім дасьледваньні не хапае толькі аднэй хвіліны з тагачаснага жыцьця памёршага, на жаль, цара... Тады кола ўсьцяж замкнёна... Кожнага грамадзянскага дзеяча я ўзяў навукова і сумленна пад лупу мікроскопа... Ужо сёньня магу я вам напэўна сказаць, што бязьвіннасьць антанты бездакорна даведзена...“ „А вы перапісваецеся яшчэ з ... я маю на ўвазе аўтара кнігі „Занепад Захаду“, ці нешта падобнае...“ Напэўна. Напэўна. Натура цэзара часу адраджэньня, выгадаваная на трупах... Мае ўрэшце намер трапіць да „высокай вады“... Варта было-б... Хто мог-бы гэта арганізаваць з фінансавага боку, дык, відавочна, меў-бы посьпех“.

„Так. Зусім да смаку нашай публіцы...“

„Трэба паказваць народу шлях да сілы і хараства“.

Спорт. Спорт: сродкі ў нашым часе да гэтага... перапыніў абодвух трэці.

Зараз гутарылі „аб жыцьці пасьля сьмерці“.

„Актуальная тэма, так сказаць“, сварыўся нехта. Другія сьмяяліся скэптычна, яны лічылі сябе за агностыкаў і рэлятывістых, але верыўшыя ў замагільнае жыцьцё мелі больш прыхільнікаў.

„Быць пабожным цяпер мода. Прынцыпова я люблю толькі пабожных людзей. Ці ня бачылі вы нядаўна ў часопісі портрэт кардынала? Прыгожая галава“.

Кіноартыстка дакладна прыпомніла гэта.

„Пераможаны пункт погляду!“ зьдзекваўся мастак, які цьвёрда верыў у пэрсональнага бога, над адным з няверуючых і разьвіў дакладную топографію таго сьвету. Ён перайшоў да апісаньня пекла і пашатанску хіхікаў, паказваючы кожнаму няверуючаму яго месца ў пекле.

Мастак паведаміў зацікаўленых слухачоў аб тым, што ён зараз знаходзіцца пад ласкай боскай, што правільная штодзенная малітва выклікае ў ім проста цудоўную сілу, што яшчэ сёньня магчыма зусім рэальна чуць голас бога... Але заблудзіўся ў далёка расьцягнутым трактаце аб сутнасьці прынады грэху ды аб Лютэравым „Адважна грашыць“ і зрабіў вывад, што веруючаму ўсё дазволена: трэба толькі каяцца.

Новакаталіцкі профэсар унівэрсытэсу пры гэтым аднастайна паўтараў:

„Трэба афяраваць жыцьцё... Для меня, павінен прызнацца, геройская сьмерць—пустая рэч. Хто, як я, жыве ва ўзбуджэньні, таму, як мне, жыць лёгка... Проблема афяры не абымае ў мяне такія матэрыяльныя галіны...“

Зноў узьнiклі спрэчкі.

Тэософ біўся з містыкам, протэстант з новакатолікам, уступіўся моністы, апанаваў агульнай увагай і сакатаў:

„За выключэньнем Дарвіна!“

І ўся кампанія пад кіраўніцтвам слыннага артыстага зрабіла некалькі ўдалых скокаў сальтомортале ў галіну дасьціпнасьці... Жарты скакалі...

Але ўжо пачаў гаварыць сакратар чужаземнага аддзелу:

„Паважаныя панове, дазвольце мне расказаць вам, як адчувае і думае сапраўды народ. Добра!? Можа мне ўдасца адагнаць ад вас да чорта апошнія здані вашых пацыфіцкіх аблуд!

„Справа ідзе аб судзе Лінча над нэграмі ў штаце Огіо.

Уявеце сабе, калі ласка, масу ў 10 тысяч асоб. Сьціснутыя кулакі, налітыя крывёю вочы, праклёны і лаянка. З кіямі, смалянымі паходнямі, рэвольвэрамі, мётламі, выроўкамі, нажамі, нажніцамі, парасонамі, купарвасам. Сярод гэтага разбэшчанага і ўсё растучага натаўпу чорны, крывавы, амаль няжывы камяк, які штурхаюць то ўлева, то ўправа, б'юць, топчуць, рвуць... Лінчуючы, натаўп валачэ сваю афяру, нэгра, з сабой. У лес, ці на пуб-

лічны пляц. Там яго прывязваюць да дрэва, абліваюць газай або другім палкім матэрыялам. Раней, чымся запаліць і падкласьці агонь, яму выбіваюць зуб за зубам, вырываюць вочы, рвуць жмутамі валасы з галавы так, што зьдзіраюць кавалкі скуры і пакідаюць крывавы чэрап. Цела б'юць так, што навокал ляцяць кавалкі мяса... Нэгр яшчэ дыхае, але ўжо ня крычыць; яму сьпяклі язык распаленым жалезам. Усё цела, калі яго падпальваюць жалезам з двух ці трох бакоў, выгінаецца як вужака. Нажом адразаюць яму вуха... „О, які ён чорны, які ён брыдкі!“ скігочуць пані, разрываючы яму твар. „Час падпальваць!“ крычыць адзін. „Толькі паволі“, дадае другі, „толькі паволі і прыгожа смажыць, каб ня хутка памёр, а то ня будзе сэнсу“. Чорны смажыцца, пакуль, урэшце, цела не згарыць на вугаль. Але аднэй сьмерці мала. Для гэтага цела, або, дакладней кажучы, тое, што засталося ад трупа, яшчэ вешаюць на дрэва, і ўсе прысутныя пляскаюць у ладкі і крычаць „ура!“ Калі маса даволі нагледзелася на прадстаўленьне, труп спускаюць на зямлю. Разразаюць вяроўкі, якімі ён быў зьвязаны і павешаны, на невялічкія кавалкі і прадаюць кожны па тры, пяць даляраў. Гэта памяткі, якія прыносяць шчасьце і з-за якіх б'юцца жанчыны...“

На гэтае апавяданьне маўчалі нядоўга.

„Страшна... Жах...“

„Першабытнае зло ў чалавека, зьвер, шатан...“

„Ці праўда, ці не, што вы нам апавядалі... але апавядалі вы выразьліва, і апавяданьне ваша стварыла ўражаньне...“

„Ну, мы ня клубкі нэрваў... І калі жанчыны баяцца: mulier taceat in ecclesia! (хай жанчына маўчыць у царкве!). Урэшце, і жанчыны робяцца гіенамі і, як паказала вайна, часта вельмі карыснымі...“

„Ах, ты мая салодкая гіенка...“

Зноў пачалі жартаваць.

На нэгра хутка забыліся.

## VIII

Профэсар Сноўдэн узяў тымчасам заключнае слова.

Разгарнулі карту генэральнага штабу, на якой дакладчык палкай паказваў паасобныя позыцыі.

„Я паспрабую зараз даць экономічны аналіз будучай вайны... Справа ідзе пры гэтым найперш аб некапіталістычных рынках збыту ў Кітаі ды Індыі. У 1925 годзе Англію выпхнулі з Кітаю, так што цяпер пачынаецца барацьба паміж абедзьвюма перамогшымі дзяржавамі—Японіі і Амэрыкі. Кітай са сваімі 400 мільёнамі жыхароў, з якіх большасьць—дробная буржуазія, 320 мільёнаў у сельскай гаспадарцы, якую яны вядуць дробна-буржуазным спосабам, вялікая частка дробнай буржуазіі ў гарадох; і Індыя са сваімі 320 мільёнамі, з якіх 207 мільёнаў на сельскай гаспадарцы:—гэта два вялікія галоўныя вадазборы, дзе мы можам яшчэ

рэалізаваць дадатковую вартасьць пасьля таго, як некапіталістычны рынак у Амэрыцы і Канадзе ўсё больш ды больш зьменшыўся. У Амэрыцы ў апошнія толькі дзесяць гадоў каля 7 мільёнаў фэрмэраў, як пролетары, перасяліліся ў гарады.

„Ужо даўно зразумелі мы вялікае значэньне Кітаю.

„Пасуваньне нашае Стандарт-Ойль-Кампаніі ў Кітай, праніканьне нашых амэрыканскіх машын у Кітай,—пэўная адзнака гэтага. Мы павінны былі падтрымліваць і ваенным спосабам наша цывілізатарскае імкненьне. Першы пэрыод быў у 1899 годзе — амэрыкана-гішпанская вайна, калі мы анэксавалі Філіпіны, якраз перад Кітаем. У другім пэрыодзе наладжваецца сувязь паміж Злучанымі Штатамі і Філіпінамі, на ўсім Ціхім акіяне будуюцца моцныя ваенна-апорныя пункты для заўладаньня ім, для падрыхтоўкі далейшага руху ў Кітаі, ва ўсходнюю Азію. Шляхам водкупу дацкай групы выспаў св. Фомы, адбудовы Гаваі, асабліва ваеннага порту Пэрль-Гарбур, Душ-Гарбур на Алясцы, захопу пасьля вайны і адбудовы Тутуілы на акіянскай групе выспаў і ўрэшце праз захоп і адбудову Гуама мы стварылі шырокі і вялікі чатырохкутнік, дасканала прыстасаваны да падрыхтоўкі наступу і абароны. Гэты вялікі чатырохкутнік на Ціхім акіяне мае сваімі заднімі апорнымі пунктамі Каліфорнію, з аднаго боку, Панамскі канал—сувязь з Атлянтыцкім акіянам—з другога боку.

„Ну, а на другім баку стаіць Японія, якая таксама мае прэтэнзіі на Кітай ды Індыю і якая таксама жадае прасувацца ўсё далей.

„Проблемы японскага імпэрыялізму зьвязаны з двума галоўнымі пытаньнямі. Першае, само сабой зразумела, ёсьць пытаньне аб збыце сваіх тавараў, другое—спэцыфічна японская проблема—лішак насельніцтва і разам з гэтым канечная патрэба перасяленьня і адбудовы сваёй імпэрыі. Ужо ў 1919 годзе граф Комура казаў, што Японія загінула, калі ёй ня ўдасца на працягу чалавечага веку забясьпечыць прастору для 100 мільёнаў чалавек і разам з тым утрымаць за сабой свае месцы высяленьня.

„У Японіі на плошчы, велічынёй з Нямеччыну, і да таго дрэнна заселенай, дзякуючы крутым вульканічным гарам, сьціснуты 78 мільёнаў; лішак нараджэньняў у адным 1921 годзе раўняўся 724.600 нараджэньням, тымчасам як за 250 год японскай замкнёнасьці—з 1600 да 1886 году—было толькі 900.000 лішку. Гэткае раптоўнае і моцнае павялічэньне вымушае Японію перш за ўсё шукаць чужых краін і перасяляць туды масы пролетарызаваных сялян і пролетараў. Гэтак захапіла Японія Корэю і зрабіла яе цалком сваёй колёніяй; гэтак пасоўваецца яна ў Кітай, у Індыю, у паўднёвую Афрыку, гэтак засела яна ўжо ў Каліфорніі, зусім блізка ад нас. Да нашай забароны іміграцыі і цяпер яшчэ стаіць Каліфорнія перад небясьпекай зрабіцца японскай колёніяй. Ужо ў 1922 годзе было ў Каліфорніі 110.000 японцаў, да якіх належала больш як дзьве трэці высокакаштоўнай зямлі пад пшаніцай.

„Ну, а пытаньне аб магчымасьці для Японіі здабываць сабе сыравіну!

„У тым часе, калі Японія сама небагата на вугаль, Кітай і Корэя значна забясьпечаны і вугалем і жалезнай рудой. Калі лічыць запас вугалю ў Японіі каля 1.600 мільёнаў тон, дык кітайскі лічыцца да 15 мільярдаў тон. Таксама даходзяць кітайскія запасы жалезнай руды да 45.000 мільёнаў тон, а японскія толькі да 4.000 мільёнаў тон. Пасуваньне Японіі ў Кітай, якое выяўляецца ў сувязі ды ўдзеле японцаў у жалезнай і сталёвай продукцыі, пагражае ўжо стаць вялікай небясьпекай для нашага гандлю! Для Англіі Японія ўжо стала небясьпечна! На гэтых падставах ангельска-японскі дагавор ня быў больш адноўлены. А пабудова базы Сынгапур з боку Англіі можа мець значэньне толькі для Японіі. З прычыны гэтага мы павінны сапраўды гаварыць аб жоўтай небясьпецы, і гэтым небясьпека будучай вайны яшчэ больш набліжылася“.

Вось.

Вось з трэскам уляцела вестка:

„Перамог Дэмпсэй-Кнокут Фірпо пасьля двух кругоў, у барацьбе было шмат нечаканых момантаў...“

Крык вуліцы ўзмацняўся.

Проста вадаспад людзей...

Франка і Томаса гнала без старна ўначы, як праз краіну зданяй...

„Часта здаецца мне“, загаварыў перш Франк, „быццам пролетарыят усіх краін, гэтае колектыўнае цела вялізных чалавечых мас набіта магнэтычнымі токамі і пастаўлена сярод сталёвай навальніцы, каб разраджаць і прымаць на сябе маланкі з заблытанага хаосу нашых форм грамадзтва... Як вандруючы громаадвод...“

„А мы? а мы павінны з сілай у дзесяць раз большай узяцца за працу! Нам трэба зараз заўтра-ж прыйсьці да сапраўднага выніку!..“

## IX

„Я прапаную“, узяла слова таварыш Грын, „калі мы зараз заслухалі грунтоўныя даклады таварышоў Морова і Бутлэра, вынесьці рэзолюцыю і прапанаваць яе ўсім рэволюцыйным рабочым організацыям сьвету і настойна прасіць прыняць і ажыцьцявіць. Таварыш Болэв з нашай балгарскай сэкцыі зрабіў некалькі дакладных заўваг, якія мы павінны ўлічыць. Мы, соцыялістыя Амэрыкі, краіны, якая пайшла далей за ўсіх у імпэрыялістычнай тэхніцы вайны, павінны быць на чале барацьбітоў з самай магчымасьцю імпэрыялістычных воен і дзяліцца нашай практыкай з усімі сэкцыямі. Наша камісія па наглядзе за імпэрыялістычным ваенным узброеньнем працавала добра. Яна цесна зьвязана, як і раней, з нашымі нелегальнымі організацыямі дый будзе і далей выконваць сваё заданьне. Рэзолюцыя, якую мы распрацавалі, такая:

Некалькі важных дадаткаў да таго, што было сказана аб барацьбе проці імпэрыялістычнай вайны.

„Да галіны барацьбы проці імпэрыялістычнай вайны належыць таксама і найдакладнейшае азнаямленьне са зброяй, якая ёй напэўна будзе ўжывацца ў будучай вайне. Мы, бязумоўна, павінны сыстэматычна і дакладна знаёміць масы са станам сучаснай ваеннай тэхнікі, каб ім і з гэтага боку было вядома, чым пагражае ім сапраўды будучая вайна.

„Сусьветная вайна была рэволюцыяй для ўсёй ваеннай тэхнікі.

„Нельга адмаўляць, што да гэтага часу ўся наша антымілітарыстычная пропаганда была надта прыстасавана да ўмоў мінулай вайны, што яна зьяўлялася надта консэрвацыйнай, што мы ня ўмелі са здавальняючай праніклівасьцю, на падставе практыкі, вызначыць ступень разьвіцьця сучаснай ваеннай тэхнікі і ў пасьляваенны пэрыод, ня здолелі належным чынам сачыць за ёю і такім спосабам адзначыць рашучы і паваротны пункт ва ўсёй тактыцы ваеннай справы. Але мінулае цікавіць нас настолькі, паколькі яно мае ўплыў на сучаснае і на будучае. У адносна вельмі бедных зьвестках па гэтым пытаньні, якія дае нам буржуазны друк, усё-ж ткі ёсьць невычарпальны агітацыйны матэрыял. Калі мы скарыстаем яго належным чынам, дык ён, на нашу думку, можа ў пераважны момант мець вялікі ўплыў на шырокія колы насельніцтва.

„Прапануецца з няйвялікшай увагай сачыць за посьпехамі ваеннай тэхнікі ва ўсіх краінах, каб мець магчымасьць паказаць пролетарыяту малюнак будучай вайны у навочнай форме, якая можа зрабіць значны ўплыў. Побач з гэтым нам канечна трэба энэргічна цікавіцца пытаньнем аб узброеньні, уважна выўчваць сабраныя матэрыялы і самім ствараць адпаведныя апорныя пункты для нашай барацьбы проці вайны.

„Мы—вашы амэрыканскія таварышы—запрашаем вас, таварышы, з 1-га жніўня гэтага году пачаць растлумачальную пропаганду па пытаньні аб хэмічнай вайне ў найшырэйшым маштабе (даклады, мітынгі, брошуры і г. д.). Пры гэтым прапануецца асабліва падкрэсьліць, што польская ўлада 9-га траўня 1925 году ўпяршыню ўжыла газы ў клясавай барацьбе проці рэволюцыйных рабочых. Па вестках, якія ў нас маюцца, гэта першы выпадак, калі ў грамадзянскай вайне ўжылі хэмічныя матэрыялы. Але мы думаем, што не памылімся, калі скажам толькі, што ўжываньне газаў у грамадзянскай вайне распаўсюдзіцца, калі абвострацца клясавыя ўзаемаадносіны. Буржуазія, натуральна, не паказвае пакуль сваёй найлепшай зброі, бо ня хоча раней часу выдаць свой сакрэт. Але для нас была-б вельмі небясьпечнай памылка, што ў пераважны момант буржуазія наогул не скарыстае гэту зброю проці нас, калі ў нас ня будзе належнай падрыхтоўкі да гэткай барацьбы.

„Дзеля гэтага мы заклікаем вас, таварышы, зрабіць усё ад вас залежнае для конкрэтызацыі мэтодаў барацьбы проці імпэрыялістычнай вайны...“

„Ці не жадае хто з таварышоў слова па пытаньні аб гэтай рэзолюцыі?“

Выступіў балгарскі таварыш.

„Таварыш Болэв!“

Балгарскі таварыш выказаў жаль, што рэзолюцыя сама па сабе недаволі конкрэтная і, прапануючы другім конкрэтнасьць, сама не здавальняе гэтаму вымаганьню. На яго думку, у рэзолюцыі трэ‘ было-б зачапіць і махінацыю з разброеньнем, паказаць, што прамысловасьць, якая вырабляе хэмічныя баявыя матэрыялы, тоесамая, як і вырабы фарбавальных матэрыялаў, і што надзвычайнае разьвіцьцё прадпрыемстваў, якія вырабляюць фарбы, роўназначна колёсальнаму павялічэньню ўзброеньняў па ўсіх краінах. „Як найлепшы прыклад, можна было-б падаць Амэрыку, дзе да вайны было 7 хэмічных фабрык, а зараз, пасьля вайны, ужо 118! Потым трэба таксама адзначыць, што ўсе цяжкія газы вырабляюцца, як дадатковыя продукты, пры вырабе фарбаў ці лекавых матэрыялаў. Такім чынам, рабочы ня ведае зараз, што ён фактычна вырабляе: якіясь бясскрыўдныя лекі, фарбы ці вельмі небясьпечны атрутны газ. Пры гэтым вельмі востра выяўляецца контр-рэволюцыйная мана 2-га Інтэрнацыяналу, які патрабуе не вырабляць пры ўзьніканьні вайны ўзброеньня і тым рабіць вайну немагчымай. Тут дасканала ясна, што гэтая мана мае мэтай толькі адхіліць пролетарыят ад разуменьня сапраўдных рэальных шляхоў вайны проці вайны. Трэба прыняць пры гэтым пад увагу і тое, што і пэрсонал рабочых на гэтых фабрыках яны пастараюцца набраць з надзейных элемэнтаў. Рэзолюцыя, апрача таго, павінна яшчэ падкрэсьліць важнасьць працы нашых ячэек на гэткіх фабрыках і канечную патрэбу газэт нашых ячэек на такіх прадпрыемствах...“

Другім узяў слова амэрыканскі таварыш.

У рэзолюцыі прапушчаны тыя факты, што амэрыканская паліцыя ўжо шырока карыстаецца ручнымі газавымі бомбамі проці так званых злачынцаў, ужывае газы ў вастрогах на выпадак паўстаньня арыштаваных і што ўжо робяцца досьледы, каб замяніць кару сьмерцю на электрычным крэсьле атручэньнем газамі. Але, ня кажучы ўжо аб гэтым, у рэзолюцыі трэба было-б яскрава выказаць, што барацьба проці імпэрыялістычнай вайны роўназначна барацьбе за апанаваньне прыладай вырабаў, што сутнасьць справы ёсьць—апанаваньне гэтай прыладай. І што дзьве магчымасьці — соцыялізм ці зварот да барбарства,—набываюць у залежнасьці ад вынікаў нашай барацьбы востраактуальны характар.

„Мне здаецца“, дадаў таварыш Моров, „што трэба адзначыць яшчэ дзьве акалічнасьці. Першая—гэта тая, што самая наяўнасьць у нас вестак аб тых ці іншых баявых сродках ці матэрыялах ужо даводзіць, што яны даўно ўжо адкінуты зацікаўленымі коламі, што ў выпадку сур‘ёзнай барацьбы нам давядзецца лічыцца з матэрыялам куды больш моцным і шкодным... Другая, што мы ўсімі спосабамі павінны перашкаджаць спробам паказваць будучую вайну утопічнай і нерэальнай пры

дапамозе ўсялякай фантастычнай лухты, як праменьняў сьмерці, мэханічных байцоў і г. д. Гэтымі няпэўнымі і хібнымі весткамі прымушаюць людзей непаважна адносіцца да рэальнай сапраўднасьці і тым паслабляюць надзею на посьпех усёй нашай барацьбы. Буржуазія вельмі зацікаўлена тым, каб прадставіць тое, што яна ня можа схаваць, у комбінацыі з глупствам дурным, няшкодным і нават несапраўдным. На гэта нам, памойму, трэба таксама зьвярнуць увагу...“

Гэтым скончыліся спрэчкі наконт рэзолюцыі. Была зроблена прапанова дадаць да рэзолюцыі, як тлумачэньне, два дакладныя артыкулы, адзін пад загалоўкам: „Будучая вайна і хэмічная індустрыя сьвету“, другі—„Хэмічная зброя ў будучай вайне.“ Гэтыя работы павінны быць напісаны (па магчымасьці) сьцісла, падмацаваны пераканаўчым фактычным матэрыялам і па магчымасьці дакладна і ясна формуляваны. Распрацоўка іх была даручана таварышом Франку Морову і Томасу Бутлэру.

X

Здарэньні хутка разгортваліся.

Многія з лепшых комуністых няправільна разьлічылі тэмп іх.

Ваенная небясьпека навальваецца на народы, як морскі наплыў...

Пачаліся вялікія манэўры амэрыканскае флёты ў Ціхім акіяне. Магутная ваенная дэмонстрацыя проці Японіі.

Сем месяцаў знаходзіцца эскадра ў плаваньні.

Пірль Габур на Гаваях:

12 лінейных крэйсэроў, 6 крэйсэроў, 56 згубнікоў, 6 падводных лодак, 1 эскадра самалётаў, 2 караблі-базы для самалётнай эскадры прызначаны ў наступленьне.

Гаваі акружаны полем міннай загароды і небясьпечнай зонай з падводнымі лодкамі. Самі Гавайскія выспы—жарало, якое выкідвае агонь і жалеза...

Чым бліжэй насоўваецца ваенная небясьпека, тым больш энэргічна дзяржавы розных краін перасьледваюць комуністых. Расьце і рэволюцыйная пагроза. Усе комуністычныя сэкцыі прымушаны перайсьці на нелегальнае становішча. Выдаюцца законы спэцыяльна проці комуністых, раздаюцца заклікі змагацца з неспакойным элемэнтам. Парляманты без ваганьня пазбаўляюць недатыкальнасьці комуністычных дэлегатаў. Улада дэмократаў хістаецца. Яны трымаюць уладу толькі дзякуючы лютым выключным законам... Усюды паднімаюць голас эксплёатаваныя масы. Соцыял-дэмократы ўсіх краін разьяднаюцца...

Ліга нацый займаецца барацьбой з комуністычнай небясьпекай.

Хіба здолее „сьвятая вайна“ проці Савецкай Расіі яшчэ раз злучыць разрозьненых з-за супярэчнасьці інтарэсаў капіталістых? Ёсьць парываньне адкласьці растлумачэньне сваіх конфліктаў да прыдушэньня „чырвонай небясьпекі“.

Барацьба за зьнішчэньне комуністых арганізуецца ў сусьветным маштабе.

Дзяржавы адкрыта паставілі комуністых па-за законам, пастанавілі зьнішчыць іх арганізацыі, як пацукоў. Армія, міліцыя, паліцыя, групы запасных афіцэраў высочваюць вядомых ім комуністых ды забіваюць іх...

У Нью-Ёрку разьбіраецца процэс па абвінавачваньні ў дзяржаўнай здрадзе Мэры Грын і 26 таварышоў. Ім ставіцца ў віну выраб атрутных газаў і атрыманьне пры дапамозе падкупленых дактароў ды хэмікаў халерных і атрутных бацыль, і пры гэтым у такой вялікай колькасьці, каб магчыма было на працягу аднэй начы атруціць поў Амэрыкі. Тры забойствы атрутай ужо прыпісаны гэтай арганізацыі, а таксама далейшыя замахі на Моргана, Форда ды інш. Знойдзены быццам вялізны склады зброі з толуолам, дынамітам, нітрогліцэрынам і нават вялікі склад матэрыялаў для вырабу прылад для кіданьня бомб з самалётаў. Але ніводным словам не закрануў дзяржаўны прокурор спробы купіць падводныя лодкі, каб падарваць амэрыканскую баявую флёту, бо гэта было зьвязана са злоўжываньнем па службе буйных службоўцаў.

Сапраўдным вінавайцам гэтай вялізарнай камэдыі, арганізаванай на прыклад усіх падобных процэсаў, быў выключна добра працаваўшы апарат провокатараў. Абвінавачаным проста пералічылі злачынствы, у якіх яны абвінавачваліся. Усе зьвяны довадаў былі сьцісла зьвязаны адно з адным без прамежку.

Абаронцы гвалтоўна былі выдалены з салі пасяджэньня...

Газэты равуць. Раздаюцца трывожныя перасьцярогі.

Дзень абвяшчэньня прысуду набліжаецца...

Ня верыш сваім вушам, некалькі разоў перачытваеш загалоўкі экстраных лістоў газэт:

„Мэры Грын і трое яе таварышоў засуджаны да сьмерці“.

Ужо праз поўгадзіны пачынаюцца сутычкі з рабочымі.

Увечары абвяшчаецца агульная забастоўка.

Уся Амэрыка раптам становіцца вялізарнай магілай. Людзі ходзяць ціха, на пальцах.

„Цяпер толькі не здавацца! Напралом! Інакш палічаць гэта за нашу кволасьць“, падбухторвае суд.

Армія і флёта мобілізаваны.

Паветраная флёта выконвае пакуль выведку.

Лёгкія Амэрыкі працуюць толькі на чвэрць нормальнай сілы.

Вяла апушчаны мускулы.

Некаторыя кажуць:

„Ня трэ' было-б засуджаць іх да сьмерці... ня трэба ствараць мучальнікаў... проста ліквідаваць... гэта вядзе нас да вялікіх выдаткаў...“

Да вастрогу не падыйсьці. Кулямёты страляюць у чалавечыя масы...

У той час, калі каля вастрога дажджом сыплюцца кулі, Мэры Грын абвяшчаюць, што заўтра ў пяць гадзін раніцы прысуд над ёй будзе выкананы.

На момант яна нібы ашаломлена... далёка чувацъ залпы.

Пяць гадзін раніцы.

Па доўгаму залітаму цэмантам калідору вядуць Мэры Грын у „габінэт сьмерці".

Яна ціха пяе.

Далёка, далёка, зусім далёка чуецца ёй быццам адказ:

„Уставай..."

Другі голас...

Трэці...

Далёкія галасы складаюцца ў воддальны хор.

Далёкі хор пераходзіць у масавае пяяньне.

Масавае пяяньне—у гураган.

Погляд Мэры Грын накіраваны ўдаль, у будучыну:

З шумам насоўваюцца тыя магутныя часы, калі чалавек адпакутуе апошняе і выканае ўсё, што ён здолее выканаць. Вялічны і багаты на афяры будзе гэты час, як ніводны да яго; але аднача́сна будзе ён люты, нізкі ды ўбогі. Гэты час грыміць, шалее, грукае, як магутны, усёруйнуючы агнёвы віхор. Людзі, вогнішчы пакуты, запаляюцца самі сабой. Неба, скляпеньне распаляецца і скідае вадкі агонь, зямля шуме, робіцца лявай і сьцякае цераз край кругавіду.

І ўсе гэтыя людзі будуць бязыменныя і будуць адрозьнівацца толькі клясавай адзнакай. Па-за клясай чалавечае існаваньне немагчыма больш. Усё адчувае, мысьліць, змагаецца поруч з клясай, змагаецца не на жыцьцё, а на сьмерць за найважнейшыя, найгрунтоўнейшыя інтарэсы сваёй клясы.

Надыйдзе час, калі зноў сярод белага дня на пляцох гарадоў будуць будавацца шыбельніцы і гільётыны. З усіх бакоў будуць зьбірацца сюды на ўласных самаходах шматмільённыя прадстаўнікі магнацтва— паны і пані. Але на зямлі ня хопіць крыві, каб прагнаць іх смагу... У іх руках біноклі і фотографічныя апараты, быццам сабраліся яны на вялікае спортыўнае сьвята. На пляцу кары сьмерцю расстаўлены шэрагі кіноапаратаў. О, некалі гэтакая міралюбная буржуазія,—яна зараз спраўляе крывавую оргію помсты і нязьмерна ўпіваецца рознастайнымі садыстычнымі зьверствамі.

Паліцэйская ўлада больш не пасылае свае афяры ў астрогі, прытулкі для інвалідаў, начлежныя дамы: толькі на могілкі...

Надыйдзе і час уваскрашэньняў катаваньняў.

Цяжкімі жалезнымі ланцугамі закуюць цела зьняволеных: Будуць біць гумовымі кіямі, вырываць пазногці пальцаў, забіваць цьвікі ў ногі, крышыць цела і рэбры. І гэта будзе не навіна. Зьняволеных будуць

вывозіць з гарадоў, прымушаць рыць сабе магілы, іх будуць закопваць жывымі... Утончанымі навуковымі мэтодамі будуць павялічваць іх пакуту, даводзіць зьнясіленых да вар'яцтва, вымушаць прызнаньні і занасіць у пратаколы.

Аб гэтым гавораць шыбельніцы, гільётыны, прылады пытак.

...Шыбельніцы пранікаюць усюды.

Круцяцца па ўсёй Эўропе.

Круцяцца па ўсіх пяці часьцінах сьвету...

У кожным кірунку неба вырастаюць з зямлі вялізныя шыбельніцы, адна за аднэй.

Стол пад ёю перакуліўся.

Труп на намыленай вяроўцы, з белым каптуром на галаве, паволі круціцца і калыхаецца, як маятнік...

І трупы пад шыбельніцамі і шыбельніцы самі гавораць:

„Слухайце! і вучэцеся!

„У грамадзянскай вайне няма месца літасьці.

„Ніякай літасьці!

„Хто ня ўмее біць моцна клясавага ворага, таго ён зьнішчыць...

„Яны ці мы...“

Пакуль у прысутнасьці тузіны добранадзейных амэрыканскіх грамадзян чытаюць Мэры Грын яшчэ раз прысуд, погляд яе пільна і непарушна накіраваны ў далячыню.

Сорак паважаных грамадзян гораду Нью-Ёрку прымаюць удзел у падрыхтоўцы да кары. Гэта цягнецца тры хвіліны.

Ужо Мэры Грын прывязалі да электрычнага крэсла.

Але зьлёгку прыпаднімаючыся, паколькі дазвалялі скураныя рамні, яна цьвёрда вымаўляе:

„Ленін памёр...

„Ленінізм жыве!..

„Ленін жыве!..

„Мы ў ім...

„Хай жыве сусьветная рэв...“

Яе голас перапыняецца на поўслове.

Тры амэрыканскія грамадзяніны стаяць за пераборкай. Кожны націскае на кнопку: сьмяротны ток прапушчаецца...

Дзе толькі ні паказваецца паліцыянт у рабочым квартале, яго забіваюць. Цяпер дзейнічае закон клясавай помсты...

Выходзяць толькі тры-чатыры газэты. Памяшканьне іх занята ўрадовымі войскамі. Работа выконваецца аддзеламі штрэйхбрэхэраў.

Друк гаўкае:

„Канец атручальніцы“. Зноў гаворацца байкі пра бацылі і недарэчныя легенды аб газах. Але вера ў гэта ўжо значна падарвана ў народа Амэрыкі...

І Японія пільна прыслухваецца да здарэньняў у Амэрыцы.

Японская ваенная рада аддае загад аб мобілізацыі.

Амэрыканскія банкіры ашаломлены.

Яны ўжо ня людзі, а толькі чалавечыя маскі бяз крыві, быццам высечаны з граніту.

„Гэта канец сьвету... Гэта заняпад Амэрыкі...“

Урад апавяшчае адозву:

„Амэрыканцы! Абараняйце сваю сьвятую маемасьць! замежны вораг... Прымусьце змоўкнуць вашы ўнутраныя сваркі на час гэтай абароннай вайны проці жоўтай небясьпекі... Зьмена ўраду... Новы ўрад гатоў... Агульнае дабро нацыі патрабуе... За зброю!..“

На адозву новага ўраду адгукнулася духавенства з амбонаў:“ „Паднімайцеся, сыны Амэрыкі! Штыкі ў рэбры ворагу! У імя бога...“

Амэрыканскія рабочыя адказваюць адмаўленьнем.

Агульная забастоўка ідзе далей...

## XI

У рабочым друку ўсяго сьвету зьяўляецца цяпер наступны артыкул:

## *ХЭМІЧНАЯ ЗБРОЯ Ў БУДУЧАЙ ВАЙНЕ*

### 1. Газавая і паветраная вайна

Дзякуючы лётным апаратам, газ робіцца сапраўды страшэннай баявой зброяй... Злучэньне газу з лётніцтвам робіць іх разам фактарам, які рашуча мяняе ўсю баявую тактыку і стратэгію. Самае істотнае пры гэтым ёсьць зьнішчэньне розьніцы паміж фронтам і тылам. Тыл робіцца фронтам. Зусім ясна і адкрыта гавораць ваенныя аўторытэты ўсіх дзяржаў, што галоўнай мэтай і об'ектам нападу ў бліжэйшую вайну будзе ня фронт, г. зн. ідучая наперад ці ўзад, ці стоячая на месцы лінія варожых войск, але ў значна большай ступені буйныя гарады ды прамысловыя асяродкі і г. д. Такім чынам, цэнтр вагі пераносіцца на зьнішчэньне не варожай арміі, але часткі пролетарыяту, занятога на прадпрыемствах, якія вырабляюць ваеннае ўзброеньне, г. зн. новай формы арміі, найбольшай часткі пролетарыяту. У гэтым ужо выяўляецца аснова зьмененай ваеннай тэхнікі. Газавай і паветранай вайне патрэбна толькі невялічкая армія спэцыялістых, інакш: у сувязі з разьвіцьцём клясавай самасьвядомасьці пролетарыяту, ён усё мацней адсоўваецца буржуазіяй ад зброі.

Побач з гэтым значна павялічана паветраная абарона. Француская ваенная флёта, напрыклад, мае больш, чымся 5.000 лётных апаратаў, з іх 3.000 у поўнай баявой гатоўнасьці. Зараз Францыя будуе 150 самалётаў кожны месяц. Цяпер гавораць аб самалёце, як аб лётнай гармаце, аб газе, як аб мікроскопічных кулях. Француская лётная продукцыя організавана з разьлікам выпушчаць, калі трэба будзе, па аднаму апарату ў гадзіну... Трэба зьвярнуць асобную ўвагу на спэцыяльнае прызна-

чэньне некаторых апаратаў. Іх будуюць з асобнымі прыладамі для выпуску газаў праз сыстэму трубак, якія сеюць іх па зямлі. Дзякуючы вялікаму ахаладжэньню пры выцяканьні, газы і пары вельмі хутка, як раса, як тонкі туман, зьніжаюцца на зямлю. Адсюль і назва іх: „раса сьмерці“. Пры досьледах на полігоне каля Абэрдына ў Злучаных Штатах у 1922 годзе гэткім самалётам распылена нашкодная пахнучая вадкасьць. Менш чым у хвіліну пах гэты распаўсюдзіўся па зямлі на плошчы больш як 50.000 квадратовых мэтраў. Трэба тут зазначыць і тое, што даўно ўжо былі зроблены ўдалыя досьледы з лётам апаратаў бяз лётнікаў, апараты гэтыя кіраваліся з зямлі. Так ужо 15 лістапада 1923 году „Артылерыйскі Агляд“ паведамляе аб удалым лёце на працягу 20 кілёмэтраў апаратаў, якія бяз лётніка кіраваліся па радыё.

## 2. Атрутныя газы

Аб самых матэрыялах для вырабу атрутных газаў паасобныя імпэрыялістычныя дзяржавы, натуральна, захавалі, найпаўнейшае маўчаньне. З тых-жа прычын яны зьмяншаюць значэньне газаў, а ўжо вядомыя газы выдаюць за вельмі малакаштоўныя. Надзвычайна праўдападобна, што к пачатку новай вайны ці на працягу яе зьявяцца зусім новыя злучэньні з абсолютна няведамай зараз сілай дзеяньня. „Ідэальны газ“, які шукаюць і хочуць знайсьці паасобныя імпэрыялістычныя краіны, павінен быць зусім няпрыкметны, выклікаць раптоўную сьмерць і ўплываць на цела чалавека незалежна ад яго дыханьня. Але пакуль што гэтыя „ідэальныя“ заданьні разьмяжованы, і ў першую чаргу досьледы ідуць па двох кірунках: першае, каб знайсьці газ бяз паху і смаку, які выклікае абсолютную сьмерць, і, другое, каб гэты газ паражаў чалавека праз скуру, руйнаваў знадворнае пакрыцьцё. „Ідэальны газ“ першага тыпу ёсьць вугляны моноксід (CO), які здабываецца пры няпоўным згараньні вугалю. Гэты газ абсолютна сьмяртэльны. Здаецца, што амэрыканцам удалося дапасаваць яго да ваенных мэтаў. Другія газы, якія нязвычайна моцна паражаюць скуру чалавека—гэта іпрыт (гарчычны газ) і люізыт. Напэўна абодва гатункі ўжо застарэлі, але найноўшыя газы таго самага тыпу.

Іпрыт і люізыт, ці падобныя да іх газы, будуць ужываць для зьнішчэньня прамысловых цэнтраў, і тады яны з відавочнасьцю выявяць усю сваю вялізарную руйнавальную сілу. У час вайны 1914—1918 гадоў рух у заражоных газамі мясцовасьцях быў магчымы толькі пры ўмовах, калі на людзей, апрача масак, надзяваць яшчэ шчыльныя, не прапускаючыя газ, абаронныя вопраткі. Няцяжка ўявіць сабе іх дзеяньне ў сьціснутых дамох пролетарскіх кварталаў і на фабрыках, дзе згрудзіліся масы людзей бяз жадных абаронных сродкаў. Тады і ўцякаць адтуль будзе абсолютна немагчыма з прычыны вялікае плошчы атручанай газам. І няўхільным вынікам гэтага будзе зьнішчэньне значнай часткі пролетарыяту.

### 3. Атрутныя газы і хэмічная індустрыя

Асабліва важны пры сучаснай газавай тэхніцы той факт, што ўсе гэтыя атрутныя газы зьяўляюцца продуктамі, якія здабываюць пры вырабе фарбаў і мэдыкамэнтаў. Дзеля гэтага задачай паасобных краін зьяўляецца не павялічэньне магчыма больщых запасаў, а найвялікшае павялічэньне вытворных магчымасьцяй. Гэта, як мы ўбачым, робяць усе імпэрыялістычныя дзяржавы. Усюды назіраецца нябывалае разьвіцьцё хэмічнай прамысловасьці, якая атрымлівае вялікі прыбытак і дапамогу ад дзяржаў. У Злучаных Штатах, напрыклад, было ў 1914 годзе сем хэмічных фабрык. У 1918 годзе—118 з капіталам у 200 мільёнаў доляраў. У 1914 годзе выраблялася фарбаў усяго на суму 6,6 мільёнаў фунтаў, у 1922 годзе на 64,6 мільёнаў фунтаў, у 1923 годзе на 93,7 мільёнаў, так што фарбовая продукцыя за дзевяць год падвысілася больш, як у 14 раз. За гэты-ж час завоз зьменшыўся з 46 мільёнаў у 1913 годзе да трох мільёнаў у 1923 годзе пры вывазе у 17,9 мільёнаў. У мытным тарыфе вызначаны надзвычайна высокія мыты і на фарбы. Тымчасам, паводле вестак Вашынгтонскай гандлёвай канторы, Англія выраблялa ў 1913 годзе толькі 14 процантаў свайго спажываньня, цяпер яна пакрывае сама 80 процантаў сваёй патрэбы. Ангельскі ўрад сам абавязаўся купляць адну шостую продукцыі. Француская хэмічная вытворчасьць падвысілася яшчэ ў большай меры. У той час, як яшчэ ў 1920 годзе Францыя ўвозіла 46 процантаў агульнай патрэбы, у першым поўгодзьдзі 1924 г. ўвоз зьменшыўся ужо да 5 процантаў. Значыць, продукцыя за гэтыя чатыры гады ў Францыі падвоілася. І сапраўды, агульная колькасьць продукцыі Францыі за 1920 год—7.000 тон, а за першыя поўгода 1924—8.000 тон. Падобнае-ж разьвіцьцё назіраецца і ў другіх краінах.

Напэўна такое хуткае разьвіцьцё вырабаў фарбаў тлумачыцца тым, што большасьць газаў зьяўляецца або напоўфабрыкатамі, якія здабываюцца ў фарбавальнай вытворчасьці (а таксама і пры вырабе мэдыкамэнтаў), або фарбавальныя матэрыялы самі зьяўляюцца тым продуктам, з якога могуць быць выраблены газы. Так, напрыклад, у арсыне, газе тыпу люізыту, мы бачым тыя асноўныя матэрыі, як і ў сальварсане. Іпрыт і люізыт вырабляюцца з тых-жа напоўфабрыкатаў, як і шмат ужыванае індыго. Фосгэн і сьлёзавыклікаючыя газы здабываюцца з тых-жа напоўфабрыкатаў, як і ружовыя, сінія ды лілёвыя фарбы. Пікрынавы квас, з якога вырабляецца шэраг атрутных фарбаў, ужываецца і ў тэхніцы выбуховых матэрый—праз простае хлёраваньне ён робіцца надзвычайна атрутным хлёрпікрынам. З аніліну таксама адначасна вырабляюць і іпрыт і розныя анілінавыя фарбы і лекавыя матэрыі.

### 4. Атрутныя газы і пролетарыят

Тут мы бачым другі істотны вынік ужываньня газаў на вайне. Пролетарыят, які раней вырабляў панцыр, гарматы, выбуховыя матэрыі,

аснаду, ведаў дакладна іх прызначэньне. У эпоху-ж газавых воен рабочаму на фабрыцы ўжо невядома, што ён вырабляе—бяскрэўныя лекі, якуюсь фарбу ці надзвычай небясьпечны атрутны газ.

Тут выяўляецца з поўнай яснасьцю контр-рэволюцыйнае патрабаваньне другога Інтэрнацыяналу, каб пры выбуху вайны рабіць яе проста немагчымай тым, што спыніць выраб узброеньня. Тут ясна, што гэты лёзунг мае мэтай стрымаць пролетарыят ад няўхільнай канечнасьці—барацьбы проці буржуазіі, стрымаць яго ад „вайны вайне“.

Будучую вайну будуць весьці галоўным чынам проці вялікіх гарадоў ды індустрыяльных цэнтраў. Пролетарыят у сваёй масе ў будучай вайне зьвязаны з месцамі продукцыі. Галоўныя ўдары рыхтуюцца проці месц продукцыі, фабрык, якія маюць асаблівае значэньне з той прычыны, што вырабляюць атрутныя матэрыялы і лётныя апараты.

Бліжэйшую вайну будуць весьці невялічкімі групамі спэцыялістых, ня зьвязаных з пролетарыятам, і такою зброяй, пры вырабе якой рабочы ня ведае, што ён вырабляе зброю. Такім чынам, вынікае, што пролетарыят, з аднаго боку, не дапушчаецца больш да карыстаньня зброяй, але, з другога боку, гэтая-ж зброя яшчэ больш, чымся раней, знаходзіцца ў яго руках, бо яна сконцэнтравана вялікімі масамі ў мясцох вырабу ваенных сродкаў, якія набываюць яшчэ большае значэньне. Гэтым ясна паказваецца і адзіная магчымасьць для пролетарыяту ці сустрэць, ці ліквідаваць будучую вайну. Толькі захапіўшы ў свае рукі кіраўніцтва продукцыяй, толькі заўладаўшы прадпрыемствамі, можа ён перашкаджаць вырабу ваенных матэрыялаў. Дзеля гэтага яшчэ больш настойная канечнасьць ператварэньня капіталістычнае гаспадаркі ў пролетарскую. А гэта здарыцца толькі тады, калі буржуазія будзе скінута, калі пролетарыят возьме ў свае рукі кіраўніцтва продукцыяй і, наогул, уладу. Такім чынам, сучасная ваенная тэхніка выклікае неадкладную патрэбу хутчэй скончыць з ёю, зрабіць вайну вайной пролетарыяту проці буржуазіі да поўнага яе зьнішчэньня. А гэта, у сваю чаргу, патрабуе ад пролетарыяту належнай папярэдняй падрыхтоўкі“.

## XII

Пролетары ведалі цяпер, што ім рабіць.

„Вось, значыцца, чаго прышлося-б нам чакаць ад гэтага чалавечага сьмяцьця. Тьфу, чорт!..“

Усюды раскідаліся проклямацыі. Урады вызначалі прэміі за выказ тых, хто распаўсюджваў проклямацыі. Нішто не дапамагала.

Сакрэт будучай вайны быў раскрыты. Дайшлі да страшнага прызнаньня.

„Хто-ж сапраўдны фабрыкант атрутных газаў!? Хто-ж сапраўдны масавы забойца праз бацылі?..“

Мільёны скрыгалі зубамі ад ярасьці.

„Як справа ў Эджвудзе!? Хіба можам мы спадзявацца на дапамогу паветранай эскадры для кіданьня бомб!? Ці зброеўні ў парадку!?“

Весткі былі няпэўныя.

Пералом зацягваўся ўсё тужэй, як вяроўка, на шыі фінансавых магнатаў. Хварэлі на жываты ад нястраўнасьці. Шмат падважнікаў урадовага апарату ўжо зусім не працавалі. Шмат якія мясцовасьці зусім не адказвалі. Стала вядома, што ў арміі ёсьць ужо чырвоная ячэйка. Паніка хутка распаўсюджвалася. Т. С. Р. А.

Што гэта Т. С. Р. А.? Таемны Саюз Рэволюцыйных Афіцэраў.

... Кіраўніцтва рухам цалком адышло ад рук рэакцыйна настроеных правадыроў профэсыянальных саюзаў...

Урад даў загад выступіць мэханічным аддзелам арміі:

Батальёнам цяжкіх танкаў, батальёнам сярэдніх танкаў, брыгадам мэханічных гармат, кулямётным ротам.

... Спадзяваліся на іх застрашаючы псыхолёгічны ўплыў.

Дарэмна.

Рабочыя стаяць са стрэльбамі напагатове.

Мы ўзброеныя.

Мы гатовы да спробы агнём...

Мы чакаем толькі сыгналу да наступленьня.

Позыцыі супраціўніка дакладна вядомы нам.

Ня быць больш ніякім перамаўленьням.

Цяпер ясна:

Пытаньне, якое ставіць пролетарыяту гісторыя, ёсьць ня выбар між вайной і спакоем, а між імпэрыялістычнай вайной і вайной проці гэтай вайны...

Як нярухома ў гэты момант Амэрыка! Толькі некалькі мускулаў рухаюцца яшчэ, як пры сударгах.

„Далоў чалавечую бойню!“ урачыста гучыць нейчы голас.

„На сёньня і на заўсёды!“

Мільёны вачэй кінуліся ўгору.

Ці адважацца яны... Ці пашлюць проці нас лётнікаў...

„І—...“

„І...“

„Выканаюць нашы ў Эджвудзе свой абавязак...

Ні гуку.

Горад быццам застыў...

Вось...

Праз пляц баявым крокам ужо нясуцца батальёны рабочых.

„Гатуйся! марш-марш!“

„Мы можам страціць больш чым толькі нашы ланцугі, мы можам страціць будучыну сьвету!“

Уперад! кругом! марш!

Можа пачацца!

*(Працяг будзе)*

Пер. з нямецкае мовы **Ю. Зэмаль.**

# СТРАХ

*Апавяданьне*

**Е. Цэхановіч.**

Прысьвячаю герою гэтага праўдзівага здарэньня А. П. Лазовіку.

*Аўтар.*

I

Разьюшаным зьверам ляцеў уперад цягнік. Бразгаталі яго сталёвыя прылады. Тросься ён, як у лютай ліхаманцы.

Чорны комін без перастанку чмыхае едкімі брудна-цёмнымі камочкамі дыму. Дым выпірае праз агарожу драцяной сеткі на прастору—глуха бомкне, спыніцца на момант угары цёмнай хмарай. Хмара паволі, лагодна распаўзаецца, ахінае цягнік, радзее і, разрываючыся малымі сьветлымі лапікамі, апускаецца долу зямлі; цалуе квола-ружовыя расткі руні і мурожную атаву—мяккую, васеньнюю, што іскрыцца буйнымі пацеркамі расы,—пасьля тае і нікне бяз сьледу.

Калёсы на стыках рэек-зьмеяў сьлізкіх пасьпешна выбіваюць аднастайны недакучлівы рытм.

Насустрач цягніку адзін за адным лагодна бягуць розныя малюнкі. Выплыве каёмка лесу цёмнага, наблізіцца—прамільгнуць перад вокам хвойкі стромкія з каронай цёмна-зялёнага гальля, клёны купчастыя з кучаравай шапкай залатой, асіны дупляватыя, старыя лапатухі, бярозы белыя з гальлём разьвіслым, увабраным у каляровую шату яркага пажоўклага лісьця, кусты ляшчэўніку, лазы, гаёк алешніку з пабруднелым, цьмяным лістам-сьмецьцем. Палеткі з руньню прабягуць, сенажаці і ўзьмежкі, ручаі, канаўкі прамільгнуць.

Зачараваны сумным малюнкам васеньняй прыроды, на які жыцьцё ўжо палажыла сваю пячатку сьмерці, я стаяў у вагоне цягніка, гледзячы ў вакно. Потым адарваўся ад вакна і глянуў на Алеся—свайго прыяцеля. Ён сядзеў насупраць мяне—шырокі, кражысты і крэпкі, як дубовы пень. Яго буйны квадратовы лоб з глыбокімі рысамі змаршчакоў, насупленыя калматыя бровы, з-пад якіх пабліскавала пара маленькіх цёмна-шэрых, з затоеным сумам, вочак,—сьведчылі аб нейкім упартым разважаньні і задуменьні.

Я падзяліўся з ім сваім сумным настроем.

— Ведаеш, Алесь, праз вакно я наглядаў за тым, што зрабіла восень з малюнкамі прыроды. Якімі правамі яна карыстаецца над жыцьцём!.. Нудныя палеткі пабруднелага, страціўшага сваю пазалоту іржышча... Хмурны лес, што атрасае сваё пажоўклае адзеньне... Зарунелыя шнуры, змочаныя потам сялянскай працы... Дым паравозу, што сьцелецца на ўзьмежках, нізінах, і гіне... Усе гэта разам выклікала ў мяне нявыразны сум і разважаньні аб жыцьці ды сьмерці... Сёньня жыве, заўтра памірае — зьмяняе свой выгляд і форму. Мяне ня зьдзіўляе гэта адвечная зьмена выглядаў і форм, але вось я ня маю адказаў на тое, дзеля якога сэнсу адбываецца гэта зьмена, да чаго імкнецца яна, паводле якіх пэўных законаў утвараецца. Наша ўласнае жыцьцё мне здаецца нязначным, мізэрным, і тады мяне ахапляе вялікі жаль і сум, нават страх. Вось і цяпер — я ня ведаю, як мне вырабіцца ад суму, які запанаваў нада мной.

— А ты, Алесь, чаго задумаўся?—запытаў я ў таварыша. — І ты сумуеш?

— Мы бадай аб адным і тым-жа думалі, толькі я на другі спосаб разважаў, чым ты. Ты калі-небудзь перажываў страх? Ці быў калі з табой такі выпадак, каб якое-небудзь слабае стварэньне—якая-небудзь прыгожая маладая дзяўчына — дзіцянё яшчэ зусім — ды прымусіла цябе перажыць такі страх, якога ты потым праз усё сваё жыцьцё не забудзеш?

— Не,—адказаў я яму, зьдзіўлены такім зваротам.—Але чаму ты гэта пытаеш?

— А таму, што ў жыцьці часта здараюцца такія выпадкі, аб якіх нават ува сьне ня сьніш.

— А што, з табой хіба здараўся які-небудзь падобны выпадак?

— Здараўся, браце!

— Ты раскажаш?

— Сорамна ўспамінаць, але, калі ўжо табе так хочацца—раскажу,— згадзіўся ён.

II

У той час, як здарыўся са мной гэты выпадак, я адбываў пры 16-й арміі вайсковую службу. Жыў у Магілеве. Каля году ўжо праслужыў. З працай спраўляўся, ціха і паважна цягнуў яе, як той вол ярмо, і нічога асабліва неназаляла.

Але вось вышла такі закаклюка. Ужо пад самы канец году нечакана закарцела к бацьком да хаты. Сьпярша мала непакоіла гэта думка, стараўся адганяць яе. Але дзень-ада-дня ўсё больш і больш лезла яна ў голаў і так назольліва, не раўнуючы, як муха к восені да жывёлы. Урэшце так прычапілася, што ня ўрымсьціў і мусіў ехаць.

Падабраў добры дзень—каляды якраз надыходзілі. Папрасіў сваіх хлапцоў, навучыў іх, як і што адказаць, калі неўспадзеўкі начальства запытае пра маю асобу. А сам—без дазволу і дакумэнтаў—сеў на цягнік і махнуў зайцам да Віцебску.

Ужо якая ў той час прычына надала больш ахвоты і сьмеласьці ўдраць такую штуку—ня ўцямлю. Помню, што розных іх багата сабралася. Хацелася кут наведаць свой, старых, пагаманіць з імі аб тым-сім, расказаць, што і мы, мужычыя сыны, ня лыкам шытыя. Яшчэ я лавіў сябе на думках і аб цёмных—нібы ноч у восень позьнюю—вочках аднае лёсам пакрыўджанае вясковае дзяўчаці.

Але ўсё-ж, мусібыць, больш ад усяго гнала мяне да хаты пустата ў жываце. Ні мільёны, якіх я багата ў той час атрымліваў па сваёй пасадзе, ні паёк,—пры ўсёй эканоміі аніяк не здавальнялі гэтае паганае чалавечае машыны—жывата. Вельмі часта прыходзілася галадаць. А пабыўшы дома, маніў я сабе, што-колечы на месяц—другі прыдбаю. Вось, разважаючы такім чынам, цераз суткі я і дома быў.

## III

Агледзеў сваё старое гняздо, гаспадарку, распытаў старых пра жыцьцё-быцьцё, як дужы-крэпкі. Наведаўся да прывабных вочак дзяўчаці. Не забыўся і на самае галоўнае, але тут маці больш клапацілася,—напакаваў клумак скаромнінай, уклаў сала, масла, каўбасы, яшчэ тыхсіх прысмакаў (бацькі хоць і войкалі, але ня так бедна жылі) ды на трэці дзень і назад на службу выправіўся.

Вечарам ужо і ў Віцебску быў, але к цягніку спазьніўся. Трэ' было чакаць раніцы. А ты-ж мо' ведаеш, як добра і прыемна чакаць у вакзале цягніка якіх-небудзь 12—14 гадзін? Цяпер дык гэта любата зайсьці ў віцебскі вакзал, а ў 21 годзе—сьвінушнік быў, а не вакзал. Холад страшэнны. Абедзьве салі станцыі паўнютка набіты натоўпам рознага стану і выгляду. Брудныя, замызганыя лавы і сталы, нібы мяшкамі, былі запоўнены чалавечымі целамі ў рызьзі і лахманох.

Большасьць люду складалі вайсковыя, яны кучамі, на падлозе, лавах, сталах, шчыльна тулячыся адзін да аднаго, у покат клаліся—спалі: хто на клумку, хто на скрынцы, хто бяз нічога на халодных плітах падлогі.

Зрэдку траплялiся мужчыны і кабеты лепш і чысьцей апранутыя. Гэтыя ў адзіночку—прыкурнуўшы хто стоячы, хто седзячы—вадзілі акунёў.

Сярод гэтага натоўпу снавалі абшарпаныя падшывальцы—кішэньшчыкі. Цікавалі і сталыя асобы за тым, дзе што кепска ляжыць.

Паўзгаловы людзей поўзала сызавата-сіняя хмара вільготнае пары, зьмешанае з дымам тытуну і копацьцю падсьлепаватых газовак—яна лезла ў нос, разьядала вочы. Папсутае паветра кіслага паху—прэлых ануч, дзёгцю і выпарваньня чалавечага цела—сьпірала дыханьне, выклікала сьпякоту і млявасьць.

Каля дзьвюх гадзін, зmoраны, я блукаў сярод вялых разаспаных людзей, шукаючы прытулак. Урэшце, у праходным пакоі пад лесьвіцай, што к выхаду вядзе, адшукаў месца—прысеў. Тут-жа каля мяне на падлозе, зьмясьцілася двое чырвонаармейцаў. Яны паклалі свае вінтоўкі

блізка каля мае торбы, прыляглі на іх. Супраць, на кашы, з клумкам паміж ног, сядзела старая яўрэйка.

Па праходу час-ад-часу шпацыравалі розныя невядомыя асобы. Некалькі разоў, уткнуўшы свой прамы тонкі носік у коцікавы каўнер паліта, да нас наведвалася маладая вельмі прыгожая дзяўчына. Яна раз і другі кінула свой погляд у бок яўрэйкі, на яе кош і клумак. Пасьля жывыя, бойкія вочкі яе гульліва і вольна прабеглі па мне, на момант спыніліся на вінтоўках, чырвонаармейцах,—потым яна зьнікла.

Мяне марыў сон. Некалькі разоў я ўздрыгваў, лыпаў вачыма, запэўняў сябе, што не засну, і колькі ні сіліўся, усё-ж павекі змыкаліся, ацяжэўшая галава зьвісала на грудзі.

Раз, лыпнуўшы вачыма, я заўважыў, што клумак крануўся з-пад ног яўрэйкі. Я крыкнуў:—„Цётка! Клумак“. Яшчэ ня скончыў усяго сказу, як усхапілася мая цётка.

— Ой-ой-ёй-ёй-е!!! Мае рэчы... мае!—загаласіла звар'яцеўшая яўрэйка.

Зьбягаліся людзі.

— Дзе, у каго, хто?—сыпалі з усіх бакоў. Узьняўся цэлы байрам.

Але зараз увесь узьняты шолам спыніў агент Ч. К., які зьявіўся з клумкам у руках.

— Цётка, гэта твой клумак? Бяры! Ну і разьвялося гэтае шпаны, так і сачы за падлюгамі, на вачох ўварве. Шальмец пад паху праскочыў, адно клумак у руках застаўся,—апавядаў ён.

Гэта падзея разагнала мой сон. Я прайшоў у другі пакой, гляджу—там ужо сядзяць мае ранейшыя суседзі—чырвонаармейцы з вінтоўкамі. Я зьняў торбу з плеч і толькі разьмясьціўся—прысеў каля іх на лаве, як падыходзіць знаёмая ўжо асоба ў паліце з коцікавым каўнерам.

— Тут вольнае месца, можна прысесьці?—пытае яна.

— Сядайце, пакуль не занята,—адказаў я і ўзьняў вочы на сваю новую суседку.

Пасьпешным калючым поглядам сваіх жывых вочак кінула яна мне насустрач. Я вытрымаў гэты погляд, і выраз вочак яе зараз-жа зьмяніўся. У іх засьвяцілася цікавасьць і бесклапотнасьць наіўна-гульлівага бяз хітрыкаў дзіцяці, а чулыя крамяна-пунцовыя вусны яе ўжо склаліся ў чароўную ўсьмешку.

— Выбачце, калі паперашкодзіла чым. Ведаеце? Я аніяк не знаходзіла сабе месца, дзе-б можна было пасядзець, адпачыць, а так стамілася, блукаючы з кута ў кут.

Яна гаварыла ласкава, з далікатнай усьмешкай сарамлівасьці. І далей яе звонкая вясёлая гутарка без перапынку і зусім вольна перабягала з аднае тэмы на другую.

Яна апавядала пра сябе, выпытвала, адкуль, куды, за чым еду я. Я адказаў, што вось быў тут па справах; бацькі блізка жывуць, заглянуў і да іх, харчамі крыху назапасься, а цяпер варочаюся ў Магілеў у часьць-

— У якой-жа часьці вы служыце, які чын маеце?—чапілася яна.

Я пастараўся зьвесьці гутарку на другое, і яна зноў запытала мяне:

— Дык вы едзеце ў Магілеў? Во добра, значыць, будзем падарожнікамі,—я тож еду ў Магілеў. На якіх-небудзь пяць-шэсьць хвілін спазьнілася к цягніку, і вось цяпер больш дзьвюх гадзін блукаю. Ой, як абрыдла і надакучыла ў гэтым вакзале! У мяне тут цётка жыве, я гасьціла ў яе, але цяпер позна, няма каму правесьці, а адна ісьці—баюся. Мабыць, прыдзецца тут марнавацца да раніцы,—уздыхнула яна з жалем.

— Чаму-ж да раніцы? Такую прыгожую дзяўчыну хоць хто правядзе дахаты. Гэта-ж ужо каб і да мяне зьвярнуліся і я з ахвотай правёў-бы,—пажартаваў я.

— Я і хацела зьвярнуцца да вас з гэтай просьбай, але незнаёмы вы—саромілася і неяк баялася. А скажэце, вы сапраўды правядзеце мяне, не жартуеце?

— А чаму не? Правяду.

— Ой, як я рада! Шчыра, шчыра дзякую вам!

А сама руку маю цісьне.

— Ведаеце, што: цётка мая чалавек добры... Месца хопіць... Застаньцеся начаваць у нас... Заўтра разам і паедзем... А ўжо я сама адплачу вам за ўслугу, будзеце здаволены.

Гаворыць так, а сама хвалюецца, і вочкі яе масьляныя іскрацца-гараць дзіўнымі агоньчыкамі—прывабнымі і страшнымі такімі. Пал нейкі пранікае ў нутро мне, казыча нэрвы, распальвае кроў. Сэрца маё ад гэтага мацней застукала, і ад яго хвалі мяккія і цёплыя закалыхаліся, папылілі па ўсяму целу.

А дзяўчына за рукаў тармошыць.

— Пойдзем-жа, пойдзем,—падганяе яна.

## IV

Чыстае сьвежае паветра і мароз сваімі вострымі калючкамі абдалі мой разгарачаны твар.

Ноч—сьветлая, звонкая і ціхая. Дзенны сіверны жорсткі вецер заціх каля нізу зямлі, а ўгары яшчэ хутка гнаў рэдкія лапікі-хмаркі з белае воўны і, гонячы іх на поўкруг яснага ветаха, кожную хвіліну зьмяняў формы ценю ад гарадзкіх будынкаў.

Цішыню начы парушалі кволыя і нудныя мэлёдыі накерпанага па гораду дроту ды стары блазан дзядуля-мароз, які ляскаў пазаўгольлю сваёй спрытнай пугай-дратаванкай.

* * *

— Чык-чык, чык-чык,—чыкаюць стройныя ножкі дзяўчыны.

— Скрып-скрып-скрып,—працягла і гучна скрыпяць сьледам за імі мае тупаносыя вялікага памеру ангельскія новыя чаравікі, якія я нядаўна атрымаў разам з новай вопраткай. Звонкае паветра падхоплівае гэтыя

нястройныя гукі, разносіць іх па соннай прасторы амярцьвелага гораду і дысонансам адбівае ў цішы начное музыкі-спакою з кволымі, ледзь чутнымі мэлёдыямі проваду.

Палахлівыя, нязграбныя цені насупленых і фантастычных цяпер камяніц з вялізнымі бельмамі сьляпых вачэй—няпрыхільна спаткалі пару людзей, што адважыліся парушаць назольлівым скрыпам сваіх чаравік патаемную ціш гораду. Яны зданьню паўсталі ў ваччу. Казачнымі асілкамі з важкай булавой у руках нікаюць пазаўгольлю. Чалавечкамі малымі з доўгай барадой, што, як памяло, па зямлі цягаецца,—скачуць, мітусяцца, дражняцца і зьнікаюць... Зноў выскакваюць з панадворкаў—цёмных ямін, пастак-варот,—круцяцца кругам, зубы скаляць і дражняцца сваім рыпучым языком.

— Куды і з кім так позна ў невядомае ідзеш? Ой, не пакладайся ты на здрадніцкую ціш начы!..

— Што вы застаецеся, хіба не пасьпяваеце за мной?—спынілася мая падарожніца.—Хадзеце бліжэй да мяне,—запрашала яна далікатным спагадлівым тонам.—Бярэце пад руку! Ды ня бойцеся! Во так!..

А сама шчыльна прытулілася да мяне сваім падатлівым ды паслухмяным станам, і пачала апавядаць пра свае дзіцячыя гады.

Я, слухаючы не апавяданьне, а прыемны музычны голас дзяўчыны, блізка адчуваючы маладое гнуткае крамянае цела, яе ласкавасьць да мяне—разьмякаў, слабеў, траціў волю над сабой, думкі аддаваў у абладу гэтай красуні. Так і не заўважыў, як падышлі да канца Гогалеўскай вуліцы, як спыніліся каля расчыненых варот старога, з аблупленым карнізам дому.

— Праходзьце, калі ласка,—прапанавала яна і дадала:—цётка жыве там, далей, у двары.

## V

У глыбіні прасторнага двара, у самым яго канцы, прыліпшы да двухпавярховага вялікага дому процілеглае вуліцы, цямнела сваімі нявыразнымі формамі цагляная будыніна. Ні агню, ні іншых якіх-колечы сьлядоў жыцьця ў ёй ня відаць было,—туды вяла толькі мала пратаптаная вузенькая сьцежка па сьнягу.

— Ідзеце гэтай сьцежкай!—загадала мая падарожніца.

Мы падышлі да нізкага памяшканьня, з двума квадратовымі ваконцамі і цёмнай уніз ямінай лесьвіцы замест дзьвярэй.

Памяшканьне гэта было падобна і да хлява, і да сьвірна, і да пограба, а ўвогуле—ні да чога.

Зьдзіўлены і зьбіты з панталыку такім выглядам будынку, дзе мелася пражываць цётка мае красуні, я спыніўся на самым краю лесьвіцы ня ведаючы, што рабіць далей. Дзяўчына схапіла мяне за рукаў і са словамі.—Ды ня дзівецеся вы!—пацягнула ўніз.

Бесьсьвядома сьціскаючы ў кішэні шынэлі ручку нагана, я аддаўся на волю дзяўчыны і без разважаньня пайшоў сьледам за ёю. Мы спусьціліся ўніз па лесьвіцы на 3 сходкі. Прайшлі 5—6 крокаў па цёмнаму калідору. Абвыклыя рукі дзяўчыны бяз шуму і скрыпу—спрытна адчынілі абітыя лямцам дзьверы.

Падзямельле дыхнула на нас сваім распараным пахам зямлі, плесьні, мачалы і дрэва. Гнілое сьпёртае паветра кружыла галаву.

Паралiжаваны поўнай цішынёй і змрокам, страціўшы здольнасьць што-колечы ўявіць сабе, я стаяў на адным месцы. Дзяўчыны каля мяне ўжо ня было.

Неўзабаве пачуўся шолах. Чыркнула сярнічка. На вакне загарэўся агарак сьвечкі. Замігаў палахлівы язычок полымя. Заскакалі нязграбныя недалугія цені па асьлізлай зацьвілай сьцяне, ледзь асьвятляючы запусьцелае логава і яго бедную абстаноўку: у вадным куту — кучу сьмецьця, дзьве-тры прэлыя рагожы і скрынку ад мыла; у другім кутку—пустую бочку ад селядцоў, і насупроць вакна—голы, як касьцяк, чырвонаармейскі тапчан і каля яго чыгунную печку.

Наглядаючы за ўсёй гэтай неахайнай абстаноўкай акінутага месца, я аніяк ня мог уцяміць, дзе я знаходжуся, дзеля чаго сюды прышоў. Я ўсё яшчэ быў у палоне аслупяненьня, але з яго вывела мяне сама гаспадыня.

— Што вы стаіце? Праходзьце бліжай, грэйцеся, во—печка яшчэ гарачая!—клікала яна.

— Грэйцеся,—абудзілася мая думка.—Значыць, тут ужо нехта быў, калі печка гарачая.—Куды-ж, урэшце, я папаў? Тапчан... Падзямельле... Ніякай цёткі няма... Прыгожая дзяўчына... Удваіх...

— Ці не прастытутка?—мільганула новая думка. Я ўзьняў вочы на дзяўчыну. У гэты час яна распранулася і, нахіліўшыся да сьцяны, вешала на цьвік паліто. Узьнятыя з палітом рукі сьцягнулі са стану дзяўчыны пояс флянэлевай матроскай кофты, з-пад кофты белай каймой глянула чыстая сарочка; з-пад корсажу спадніцы бліснула варанёнай стальлю дзяржака браўнінга.

— А, браўнінг!—нячутна працадзіў я скрозь сьцятыя зубы.—Знаць, не для забаўкі яго носяць за поясам...

І далей у маіх вачох з хуткасьцю маланкі пранесьліся адзін за адным жудасныя малюнкі.

— Засада!..—Больш нутром адчуў я гэту небясьпеку, чым уявіў яе розумам, і, каб упэўніцца, міжвольна павярнуўся да дзьвярэй. Ад павароту шурснула нешта пад нагамі, па сьцяне, убачыў—зашавяліўся мой уласны цень; мне ліха ведае што здалося. Здалося, прышоў канец жыцьцю. Вось ужо чыесьці рукі цягнуцца да горла, хапаюць, душаць. Сьмяртэльны страх праняў мяне ўсяго. Я хацеў крыкнуць аб ратунку і ня мог, язык не варушыўся. Кроў адліла да сэрца, зьледзянела, спыні-

лася, па скуры дрыжака агідная прабегла сваімі шурпатымі халоднымі калючкамі. Як у віхры, у вачох прамільганула саля вакзалу з яе рознашэрсным людам, яўрэйка, агент ЧК з клумкам, газэта... У Віцебску опэруе неўлавімая кучка рабаўнікоў-сутэнэраў, у розных мясцох бадай кожнай раніцай знаходзяць голых скалечаных мерцьвякоў—так чыталася ў газэце.

— Знаць, я папаўся ім у пастку... Прыдзецца разьвітацца з жыцьцём...

Пакуль нада мной панаваў гэты страх, гаспадыня тымчасам рабіла сваю справу: яна павесіла паліто, папправіла спадніцу, абцягнула кофту, прысела на край тапчана і кліча:

— Ідзеце да мяне! Распранайцеся, ды скіньце торбу з плеч! Я хачу быць удзячнай за ўслужлівасьць. Дайце—я памагу распранущца!

Яна паднялася з тапчана. Твар яе гарэў. Вочкі яе іскрыліся ўрачыстым і злым сьмехам. Грудзі ўздымаліся—яна хвалявалася, дарэмна стрымліваючы сваё хваляваньне.

Я стаяў на адным месцы. Мой розум—гэты гонар чалавека—у самую крытычную хвіліну служыць адмовіўся. Я разумеў, што патрэбен ратунак, а як яго знайсьці—ня ведаў. Чамусьці я быў упэўнены, што за дзьвярыма падзямельля нехта страшны бязьлітасны вартуе мяне, сочыць за маім кожным рухам і, калі я асьмелюся крануцца, асьмелюся зрабіць хоць адзін крок да дзьвярэй, як ужо буду ахвярай некага страшнога невядомага.

Што-ж, прыдзецца загінуць. Ратунку няма... Але за што, за каго?

І пры гэтай думцы злосьць мяне пачала забіраць. Кроў ажыла, зноў захвалявалася, прыліла да твару. А далей раптоўна і зусім нечакана вось што здарылася. Убачыўшы, што мая гаспадыня паднялася з тапчана і мае намер ісьці да мяне, я інстынктыўна, зусім бесьсьвядома выхапіў з кішэні наган, навёў супроць лобу красуні і не сваім—дзікім і страшным голасам крыкнуў:—Рукі ўгору!

Поўная бязуважнасьці цішыня спаткала мой загад. Не чакаючы такога звароту, мая гаспадыня ўздрыганулася ўсёй постацьцю свайго зграбнага цела. Гарачыя агенчыкі яе воч патухлі. Твар зьбялеў, але яна хутка саўладала з сабой і пытае:

— Вы хіба жартуеце?

А сама замест таго, каб узьняць рукі ўгору, прабуе лезьці імі за пояс спадніцы, туды, адкуль блiснула была сталь рэвольвэру.

Нэрвовая дрыготка праняла мяне—калянула ўсяго, як токам электрычнасьці. Я ня ўстрымаўся і так-жа бесьсьвядома націснуў на сабачку.

Бліснуў струмень сьвету. Пачуўся глухі трэск. Мяккі камяк шлёпнуўся на прэлую зямлю склепу. Гук стрэлу асьлізлыя сьцены падзямельля паглынулі бяз водгульля; ні крыку, ні стогну я не пачуў.

Не разважаючы аб тым, што здарылася, як няпрытомны, кінуўся я вон з падзямельля. У калідоры спаткнуўся—паляцеў, разьбіў да крыві лоб, руку разадраў, але болю не адчуў. Ужо к вуліцы падбягаў, адно засталося пераступіць вароты, як пачуў крокі і стрыманыя галасы людзей. Я адскочыў назад, схаваўся за вароты, прыслухаўся.

— Агонь ёсьць?..

— Гарыць!

— Значыць наш?..

— Ды я-ж кажу, цікаваў... ад станцыі сьледам пёр... Убачыў, зайшлі на двор... пабег... Кацька ачухацца ня дасьць... Эх, і языкаватая-ж крутахвосьціца... маладзец!..

— А як, тлусты?..

— Кацька казала—скарбнік, з грашыма, яна не памыліцца... Казала—армейцы з вінтоўкамі каля яго...

На двор увайшлі двое мужчын. Твару і вопраткі іх я не разгледзеў, адно заўважыў, як яны шпаркай хадой накіраваліся да падзямельля.

Сваё месца за варотамі я пакінуў толькі тады, як яны схаваліся ў тэй пастцы, адкуль я толькі што вылецеў.

— Ну, Алесь, сказаў я сам сабе:—шчасьлівы ты, аднак,—яшчэ адна хвіліна і ты замест Магілеву к заўтрашняму дню апынуўся-б на дне якога-небудзь рову Лісоўскага... А цяпер—намазвай пяткі і ходу!..

## VI

Дык вось як было.. Здаецца-ж, і ня трусьлівы я, і здарэньні бачыў, ня раз стаяў перад сьмерцю, ня раз стралялі ў мяне, а перажываў усё бяз страху, усё скора забывалася, праходзіла. Гэты-ж выпадак яшчэ і цяпер мяне часта муштруе. Успомню пра красуню, і жах зноў ахапляе, а тут і сумленьне прачынаецца, напамінае аб учынку, аб згубе чалавека і не дае супакою.

У разважаньнях і да гэтага часу не разьбяруся, што такое я зрабіў: добрае ці благое?

# ВОСТРАЎ

### Браты Чапковэ

Калісь жыў у Лісабоне Дон Люіс дэ-Фарыа, які потым адплыў у сьвет і, пазнаўшы яго як найболей, памёр на найдалейшым востраве, які толькі мы можам сабе ўявіць. За сваё жыцьцё ў Лісабоне быў гэта чалавек вялікага розуму і значэньня, жыў от-жа, як такія людзі жывуць, так, каб задаволіць сябе і не пашкодзіць другім, і займаў для сябе столькі месца, колькі хацеў, па сваёй уроджанай пысе. Але і тое жыцьцё яму дадзела і стала цяжарам; ён перавёў сваю маемасьць на грошы і першым караблём адплыў у сьвет.

Так плылі на тым караблі спачатку да Кадзісу, потым да Палермы, Канстантынополю і Бэйруту да Палестыны, Эгіпту і наўкола Арабіі аж на Цэйлён; потым абагнулі Індакітай і вастравы, як Яву, а пасьля гэтага накіраваліся зноў у шырокае мора на ўсход сонца і на поўдзень. Часамі спатыкалі землякоў, якія варочаліся дадому і плакалі ад радасьці, калі распытваліся аб бацькаўшчыне. Ва ўсіх тых краёх бачыў Дон Люіс так многа дзіўнага і амаль цудоўнага, так што яму здавалася, быццам ён аб усім забыў. Калі яны так плылі, на тым шырокім моры застала іх навальніца, і іх карабель качаўся на хвалях, як корак, які ня мае ні кірунку, ні пэўнасьці. Тры дні завіруха ўсё ўзмацнялася, а на трэцюю ноч наскочыў іх карабель на коралевы рыф. Дон Люіс адчуў, як пры страшэнным трэску ён быў падкінуты ўгару, а потым упаў у ваду; але вада выкінула яго назад няпрытомнага на абломкі карабля. Калі ён прачнуўся, то пабачыў, што быў ясны поўдзень і што ён сам адзін плыве на вораху разьбітых бярвеньняў па ціхаму мору. У гэтую хвіліну ён першы раз адчуў радасьць ад жыцьця. Потым ён плыў аж да вечара і ўсю тую ноч і цэлы наступны дзень, але нідзе ня бачыў зямлі. Апрача таго, бярвеньні, на якіх ён плыў, вада размывала і адрывала ад іх кавалак за кавалкам, і дарэмна іх Люіс зьвязваў шкуматамі свае адзежы. Нарэшце, яму засталіся тры благенькія бервяны, а сам ён траціў апошнія сілы, пераможаны стомленасьцю і самотаю; тады разьвітаўся Дон Люіс з жыцьцём і паклаўся на волю бога.

На трэці дзень на сьвітаньні ён бачыў, што хвалі нясуць яго да прыгожага вострава, які нібы ўзносіўся над вадой са сваімі цудоўнымі гаямі і зялёным маладняком. І вось ён, урэшце, ступіў на зямлю, пакрыты сольлю і шумам. У гэтую хвіліну вышла з лесу некалькі дзікуноў, але

Дон Люіс гукнуў да іх варожа, таму што іх баяўся. Потым ён прыкленчыў на пацеры, схіліўся на зямлю і заснуў на беразе мора.

Перад заходам сонца яго прабудзіў голад. Пясок наўкола быў пакрыты сьлядамі плоскіх босых ног, і Дон Люіс уцешыўся, што кругом яго сядзелі ў прысядку дзікуны, дзівіліся з яго і гаманілі аб ім, а яму нічога не зрабілі. Тады ён пайшоў шукаць сабе пажыву, але ўжо было цёмна. Калі абышоў скалу, пабачыў дзікуноў, седзячых у кругу за вячэраю; бачыў у тым кругу мужчын, жанчын і дзяцей, але сам стаў паводдаль і не адважваўся падыйсьці бліжэй, як жабрак з чужой грамады. Тут паднялася сярод апошніх маладая дзікунка і прынесла яму кош поўны садавіны. Люіс кінуўся на кошык, і еў бананы, сьвежыя і сухія фігі ды іншую садавіну, сырых сьлімакоў, сушанае на сонцы мяса і салодкі хлеб, іншы чым наш хлеб. Дзяўчына прынесла яму яшчэ жбан крынічнае вады і, седзячы ў прысядку, глядзела, як ён есьць. Калі Люіс напіўся і наеўся, ён адчуў палёгку ва ўсім целе і пачаў голасна дзякаваць дзяўчыне за яе дары і ваду, за яе міласэрнасьць і міласэрнасьць усіх іншых. Пакуль ён так гаварыў, расла ў ім удзячнасьць, ад якой соладка сьціскалася яго перапоўненае сэрца, і ён рассыпаўся ў такіх словах, якіх ніколі дагэтуль ня ўмеў гаварыць; дзікунка-ж сядзела перад ім і слухала.

І думаў Дон Люіс, што мусіць сваю падзяку паўтараць, каб яна яе зразумела і дзякаваў ёй так горача, быццам маліўся. Потым усе дзікуны пайшлі ў лес, і Люіс баяўся, што застанецца сам з такою радасьцю ў сэрцы, пакінуты на зусім незнаёмым месцы; таму пачаў дзяўчыне апавядаць, каб яе затрымаць, хто ён і адкуль узяўся, як разьбіўся карабель і якія мучэньні ён перанёс на моры; а дзікунка ўвесь час ляжала на жываце і ціхенька слухала. Тут пабачыў Люіс, што яна заснула тварам да зямлі і, сеўшы недалёка, глядзеў на зорнае неба і слухаў шум мора, пакуль на яго ня прышоў сон.

Прачнуўшыся рана, ён шукаў дзікунку, але яна ўжо зьнікла, толькі сьлед ад яе застаўся на пяску і было там бачна цэлае яе цела, доўгае і роўнае, як зялёны прут, і калі Люіс ступіў у тую ямку, была яна цёплая і нагрэтая сонцам. Потым ішоў уздоўж усяго берагу, каб аглядзець той востраў. Часамі мусіў ісьці лесам або зарасьнікам, часамі абыходзіў балоты, пераходзіў праз валуны. Часамі спатыкаў дзікуноў, але не баяўся іх. Бачыў мора такое сіняе, як нідзе на сьвеце, і цьвітучыя дрэвы і асаблівую лагоду расьлін. Так хадзіў ён увесь дзень і глядзеў на красу гэтага вострава, найпрыгажэйшага ад усіх, якія яму давялося бачыць, і зьвярнуў увагу на жыхароў, што яны былі прыгажэйшымі за іншыя дзікія народы. На другі дзень прадоўжваў аглядзіны, так што абышоў увесь востраў, абдараваны цурочкамі ды кветкамі і лагодна сформаваны, такі, якім мы маглі-б уявіць сабе нейкі рай, пакуль ня прышоў зноў на тое месца, дзе вышаў з мора, а там сядзела маладая дзікунка сама і запляла косы. Каля яе ног ляжалі бярвеньні, на якіх ён прыплыў, і аж да

тых бярвеньняў дакатваліся хвалі бясконцага мора, так што ён ня мог ісьці далей; тады сеў Дон Люіс ля яе і глядзеў на тыя хвалі, як яны адносяць яго думкі хваля за хваляй. Калі так перамянілася многа сот хваляў, яго сэрца перапоўнілася бясконцаю тугою, і ён пачаў наракаць, як хадзіў два дні і абышоў цэлы востраў, але не знайшоў нідзе ані месца, ані прыстані караблёў, ані чалавека да сябе падобнага; што ўсе яго сябры загінулі на моры і што ён кінуты на востраў, з якога няма павароту; што ён застаўся адзін паміж нізкімі істотамі дзікунамі, што гавораць іншаю мовай, у якой ня можна распазнаць ні слоў, ні сэнсу,—так жаліўся, а дзікунка яго слухала, лежачы на пяску, пакуль не заснула, як улюляная нараканьнямі яго жалю. Тады змоўк Люіс і ціха дыхаў.

Рана сядзелі разам на скале над морам, адкуль быў відаць увесь небасхіл. Таму ўспомніў Дон Люіс усё сваё жыцьцё, хараство і прыгожасьць Лісабону, сваё каханьне, свае падарожы і ўсё, што бачыў у сьвеце, і закрыў вочы, каб у сябе знайсьці пекныя вобразы свайго жыцьця. Калі потым зноў адкрыў, пабачыў дзікунку, якая, седзячы на пятках, глядзіць перад сабою касымі, якімісьці незразумелымі вачыма, убачыў, якая яна прыгожая, з маленькімі грудзьмі і з тонкімі рукамі ды нагамі, гнедая, як глінка, і пекна выпрастаная.

Там на тэй скале сядзеў ён часта, каб выглядзець які-колечы карабель; бачыў сонца, выходзячы з мора і заходзячы ў ім, і прызвычаіўся да яго і да ўсяго іншага. Пазнаваў салодкасьць таго вострава і яго клімату, што быў, як на востраве каханьня. Часамі да яго прыходзілі дзікуны і шанавалі яго і садзіліся там у прысядку кругом, як пінгвіны; былі паміж іх татуяваныя і вельмі старыя, і прыносілі яму долю ежы, каб яго падрымліваць. Калі-ж надышла пара дажджоў, пасяліўся Дон Люіс у дзікуновым будане. Так жыў паміж дзікуноў і быў голы, як і яны, але пагарджаў імі і не навучыўся аніводнаму слову іхняе мовы. Ня ведаў, як завецца востраў, на якім жыў, страха, што яго крыла, і жанчына, якая была перад богам яго адзінаю дружкаю. Калі ён вяртаўся ў шацёр, знаходзіў там прыпраўленую ежу, пасьцель і ціхія абнімы гнедае жанчыны. Хоць аб ёй думаў, што, мабыць, ня ёсьць людзкай істотай і што яна падобна да іншага зьвяр'я, аднак быў да яе такі, што ёй апавядаў сваёй мовай і быў задаволены, што яна яго ўважна слухае; і так апавядаў ёй усё, што ўвесь час займала яго думкі—аб жыцьці ў Лісабоне, аб сваёй хаце, аб драбніцах сваіх падарожаў; спачатку яго дратавала, што дзікунка не разумее ні слоў, ні сэнсу таго, што ён гутарыў, але пасьля прызвычаіўся і да таго, і апавядаў ёй усё ўвесь час аднолькавымі словамі і зваротамі, і заўсёды потым абнімаў яе, як сваю жонку.

Але з часам былі яго апавяданьні ўсё карацейшымі і больш перарыўнымі, здарэньні губіліся ў Дон Люісе, быццам ня здараліся, быццам наогул нічога ня здарылася. Увесь дзень ён ляжаў на ложку задуманы і маўчаў. Прызвычаіўся да ўсяго так, што бязустанку сядзеў на сваёй

скале, але не выглядаў ужо ніякага карабля. Так мінула некалькі год, і Люіс забыўся аб павароце, аб мінулым і аб сваёй роднай мове, і яго думка была аднолькава нямая, як і яго мова. Заўсёды вечарам ён вяртаўся да свайго будану, але не пазнаёміўся з дзікунамі бліжэй, чым у першы дзень, калі высадзіўся на бераг.

Аднойчы ўлетку ён быў глыбока ў сярэдзіне лесу і раптам на яго напаў такі непакой, што ён выбег з лесу і там угледзеў на моры прыгожы карабель на якары. Тады ён пабег з б'ючымся сэрцам да берагу, каб узьлезьці на сваю скалу, а калі да яе прышоў, пабачыў на узьбярэжжы гурток матросаў і афіцэраў, і ён схаваўся за камень, як дзікун, і прыслухоўваўся. Іхнія словы дакраналіся яго памяці і ён зразумеў, што прышлыя гавораць яго мовай. Падняўся тады і хацеў да іх загаварыць, але толькі голасна выкрыкнуў. Прышлыя спалохаліся, а ён выкрыкнуў другі раз і яны паднялі карабіны; тут разьвязаўся яго язык і ён гукнуў: „Сэньёры, літасьці!“ Усе закрычалі ад радасьці і сьпяшаліся да яго, але на Люіса напала дзікунскае пачуцьцё, што ён мусіць ад іх уцячы, яны яго, аднак, абступілі, абнімалі па чарзе і закідвалі пытаньнямі. Так стаяў ён паміж іх, голы і перапалоханы, аглядваючыся, куды-б схавацца.

„Ня бойся“, сказаў яму стары афіцэр, „і ўспомні, што ты—чалавек. Прынясеце яму мяса і віна, бо ён выглядае худым і няшчасным. Ты потым пасядзі з намі і адпачні, каб зноў прызвычаіўся да чалавечае мовы, а ня крыкаў, якімі, мабыць, гавораць малпы“. І яны прынесьлі Дон Люісу салодкае віно, прыпраўленае мяса і сухары, ён-жа сядзеў паміж іншымі, як у сьне, і еў ды адчуваў, што да яго вяртаецца памяць. Таксама другія елі і пілі і гутарылі весела, радуючыся, што знайшлі земляка. Калі-ж Люіс наеўся, напоўніла яго салодкае пачуцьцё ўдзячнасьці, як у той раз, калі яго накарміла дзікунка, таксама і радасьць ад прыгожае мовы, якую чуў і ўжо разумеў, і ад прыхільных да яго людзей, што з ім гутарылі, як з братам. Таму словы прышлі яму самі на язык і ён усім дзякаваў, як толькі мог.

„Адпачні яшчэ“, сказаў яму стары афіцэр, „а потым нам скажаш, хто ты і як сюды прышоў. І вернецца тады табе найдаражэйшы дар мовы, бо нічога няма найпрыгажэйшага за тое, што чалавек можа гутарыць, апавядаць свае здарэньні і выказваць свае пачуцьці“.

Пакуль так гутарыў, настроіў адзін малады матрос свой голас і пачаў паціху сьпяваць прыгожую песьню аб чалавеку, як выехаў за мора і як яго каханка просіць мора, ветры і небасхіл, каб ёй яго вярнулі; пры тым яе туга была выказана найпякнейшымі словамі, якія-б толькі хто мог знайсьці. Пасьля яго другія сьпявалі або дэклямавалі іншыя вершы падобнага зьместу, і чым далей, тым сумнейшыя; тыя песьні апявалі тугу па мілым, караблі, што выплываюць у далёкія краіны і вечна пераменьлівае мора; урэшце, усе ўспаміналі дом і ўсіх, каго там пакінулі. У Дон Люіса цяклі сьлёзы, і быў ён аж да болю шчасьлівы ад пережытых мук

і ад таго, што ўсё так скончылася, што, адвыкнуўшы ад усіх моў, чуў цяпер прыгожую музыку вершаў і ад таго, што было ўсё, як сон, за які яму было боязна.

Потым падняўся стары афіцэр і сказаў: „Дзеці, цяпер агляньма гэты востраў, які мы знайшлі тут на моры, а перад захадам сонца тут сойдземся, каб пераправіцца на карабель. Ноччу паднімем якары і пад божай абаронай паплывем назад. Ты-ж“, зьвярнуўся ён да Люіса, „калі маеш тут нешта, што табе належыць і што хочаш узяць з сабою, як памятку, прынясі гэта сюды і пачакай тут нас перад захадам сонца“. Маракі тады рассыпаліся па ўзьбярэжжу, а Дон Люіс — да дзікунчага будана; чым далей, тым болей марудзіў, клапоцячыся ў думках, як сказаць дзікунцы, што ён мусіць паехаць і пакінуць яе. І сеў па дарозе на камень ды развважаў, што ня можа ён проста так уцячы бяз жаднай удзячнасьці, калі пражыў з ёю дзесяць гадоў; ён успомніў аб усім, што яму, калі зрабіла і як яго карміла і служыла яму сваім целам і сваёй працай. Потым пайшоў у яе шацёр, сеў ля яе і гаварыў вельмі многа і няроўна, як-бы хацеў яе тым пераканаць; апавядаў ёй, што па яго прыехалі і што ён мусіць адплыць па пільных справах, якія прыдумаў у вялікім ліку. Потым прытуліў яе да сябе і дзякаваў ёй за ўсё, што яна яму зрабіла, і абяцаў, што ён хутка вернецца, даводзячы гэта прысягай і бажбой. Калі ўжо доўга гутарыў, заўважыў, што яна яго слухае бяз жаднага разуменьня, і тады надта разгневаўся, страціў цярплівасьць і паўтараў усе довады найупарцей і тупаў пры гэтым нагою, так быў нецярплівы. Раптам яму здалося, што, магчыма, маракі ўжо адплываюць, не чакаючы на яго, і выбег сярод гутаркі з будану ды пасьпяшыўся на бераг.

Але ня было там яшчэ нікога, і ён сеў, каб чакаць, і вельмі яго пачала мучыць думка, што, магчыма, дзікунка яго добра не зразумела, што, мабыць, ня ведае, што ён ёй сказаў аб тым, што мусіць паехаць; і гэта яму было так страшна, што раптам пабег назад, каб ёй яшчэ раз усё растлумачыць. Але не ўвайшоў у яе будан, а глядзеў праз шчыліну, што яна там робіць. Бачыў, што яна нарвала сьвежае травы і выслала ёю яго ложка, гатуючы яму ноч, бачыў, як раскладала для яго садавіну і першы раз заўважыў, што сама ела благія кавалкі, недасьпелыя або папсаваныя, а для яго выбірала найлепшыя плады, самыя вялікія і сьвежыя, а потым села нярухомая, як статуэтка, і чакала на яго. Тады зразумеў Дон Люіс зусім ясна, што мусіць яшчэ зьесьці прыгатаваную садавіну, легчы на прыпраўленую пасьцель і скончыць яе чаканьне, пакуль не ад'едзе.

Тымчасам заходзіла сонца, і маракі сышліся на беразе, каб адплыць; толькі Дона Люіса не хапала, а таму яго гукалі: „Сэньёр, сэньёр!“ Калі-ж ня прыходзіў, разьбегліся па краю лесу і шукалі яго гукаючы. Два матросы беглі зусім блізка ля яго і ўвесь час гукалі, але ён схаваўся ў гушчары, і сэрца яго ў грудзёх білася ад страху, каб яго там не знайшлі.

Потым усе галасы сьціхлі і настала цемра; плёхаючы вёсламі, адплылі маракі на карабель і голасна шкадавалі згубленага няшчасьніка. Потым надышла цішыня, і Дон Люіс вышаў з гушчару і вярнуўся ў шацёр; дзікунка сядзела там непарушная і цярплівая; Дон Люіс зьеў садавіну, лёг на сьвежую пасьцель, узяў яе, чакаючую, к сабе.

Калі рана разьвіднівалася, Дон Люіс ня спаў і глядзеў праз дзьверы будану, дзе за дрэвамі лесу было відаць яснае мора, а на тым моры плыў прыгожы карабель у кірунку ад вострава. Дзікунка спала ля яго, але ня была ўжо пекная, як калісь, а была брыдкая і страшная; і сьляза за сьлязой капалі на яе грудзі, калі Дон Люіс шэптам, каб яна ня чула, паўтараў прыгожыя словы дзіўных вершаў, апаваючых жаль тугі і марнае, вечнае прагненьне.

Потым карабель зьнік за небасхілам, а Дон Люіс, застаўся на тым востраве, але ня вымавіў ад таго часу аніводнага слова праз усе гады, што яшчэ пражыў да сьмерці.

# НА ШЛЯХОХ ВОЛІ

*(Урывак з поэмы)*

**Якуб Колас**

V

Вось ён той міг, часіна тая,
Што ставіць грозную мяжу!
У полк заклікалі Дзяжу.
Ён з першых рук загад чытае...
Прашчай ты, служба тылавая!
На фронт, у цёмную імжу!
Адно Барыса тут зьдзівіла:
Яму здавалася раней
Мінута гэтая страшней,
І хоць-жа фронт глядзеў ня міла,
Але знайшлася ў яго сіла
На рэчы глянуць спакайней.
І мабыць так усё ў жыцьці тым:
Значней, складаней здаляка—
Мільгае думка ў юнака,—
Туманам рэчы апавіты,
А ўсутыч стаў—і маска зьбіта:
Відаць ня тое, што чакаў.
А зьмена тым ня менш адчута,
Адчута моцна, ўсім нутром,
Як-бы хто гакнуў тапаром...
Была-ж ўсяго адна мінута,
Каб павярнуць яго лёс крута—
Чыркнуць разок, другі пяром!
І ён ужо ня тут, ня ў тыле,
І вырысоўваецца ўраз
Малюнак іншы і абраз,
Другія мысьлі захадзілі
І гэны тыл загарадзілі,
Хоць ён і быў тут значны час.
А ў сэрцы родзіцца жаданьне

Паведаць людзям навіну—
Ён заўтра едзе на вайну!
Пачуць ён хоча спагаданьне.
І ў ім такое адчуваньне,
Як-бы ўжо сам на сьмерць зірнуў.

І ён з узрушаным настроем
Ідзе на вольны сьвет з палка.
Навокал тая-ж талака:
Праходзяць роты з мерным боем
Пад барабан, пад песьні, ў зброі,
Пад звон лапат і кацялка.
Абеду час. Ідуць з вучэньня
З усіх канцоў, з усіх дарог.
Салдат разводзяць па шатрох,
І тая-ж муштра, пастаўленьне,
З закрасай пэўнаю злучэньне
Дзядзькоў сярдзітых, не дай бог,
А тыя прапаршчыкі, брава
Правёўшы роты пад шатры,
Ідуць па пары і па тры,
Ідуць-чаканяць левай-правай,
Як вымагаецца „уставам"
І на манер—усё з гары!
Яны жывуць праграмай тылу
І носяць мысьлі ўпатайку
Адбыць і ўсю вайну у палку,
Бо фронт, позыцыі пастылы
Глядзяць варожа і ня міла,
Што ні кажы, што ні талкуй.

Глядзіць Барыс і адчувае,
Што ён адсечаны ад іх,
А гэты час прайшоў, як міг,
І гэта служба тылавая
Кудысь далёка адплывае—
У край нямы хвілін былых.
І паўстае ў яго пытаньне:
Куды-ж маршрут яму дадуць?
І думкі розныя брыдуць.
Ён зноў чытае прадпісаньне—
І чуе ў сэрцы хваляваньне
К Валыні лёсы павядуць:
Паўднёвы захад, дзе Брусілаў!
Ён гэты фронт гадаў даўно,

І так выходзіць, вось, яно!
Расьце надзея з новай сілай
Знайсьці *яе* ў краіне мілай,
І мары спраўдзяцца... Дзіўно!
  І гэта дзіўнае злучэньне
Тлумачыць ён, як добры знак,
І веру песьціць тут юнак
У лёс, у тое прызначэньне,
Што іншы раз дасьць палягчэньне,
Трывога-ж цісьнецца, аднак.
Ну, што-ж? Даволі стаяць збоку,
Ліпець з дня ў дзень, як на калу!
І прыкра быць ужо ў тылу
Ды на вайну глядзець здалёку,
У франтавых на відавоку,
І слухаць кпіны іх, гулу.
Пара й яму зазнаць акопы.
Ня ён адзін—такіх мільён.
Пануе жудасны палон
На страшных могілках Эўропы,
Дзе курганы растуць, бы копы,
Бяз жадных напісаў, імён.
  І ў падсьвядомасьці сукрыта
Ўстае супроць вайны протэст,
Дзе сьмерць крывавы ладзіць фэст,
Дзе ўсё заблутана, завіта,
І сэнс дзе нейкі ёсьць, нібыта,
І мудрасьць нейкая і зьмест.
У гэтым прыкрым перамоце
Пачуцьцяў, ўражаньняў і дум
Надзенны нікне клопат, шум.
Жыў-быў Дзяжа у пятай роце,
Цяпер на грозным павароце,
Дзе шлях адзін—сыйсьці на глум...
Ды што гадаць? К чаму гаданьне?
Нашто наперад забягаць,
Ад смутных думак зьнемагаць,
Калі няма ім апраўданьня?
Далоў хірлявае ваганьне,
Хірлявай спадчыны пячаць!
  Пачуць ён хоча голас мужны,
Махнуць рукой на цёмны вір,
Бо ў ім ты—бурбалка-пухір:

Пакуль пануе звон ланцужны,
То твой протэст—крык недалужны,
І ты ў істоце—дэзэртыр.
У гэтых думках-разважаньні,
Мінуўшы Слудзкай плошчы рог,
Ступае ён на свой парог...
Зьнімай і складвай рыштаваньне—
Пара зыходзіць з скрыжаваньня
На момант сьцішаных дарог!
Ды невялікія тут зборы,
Не накладзеш і чамадан:
Бінокль ды корцік, ды наган,
Бялізны пары дзьве-тры, шпоры—
Фарсіў у іх праз час каторы,
Каб больш густы пусьціць туман,
Кніжок сякіх-такіх з дзесятак,
І „Кніга прапаршчыка“ то-ж,
Хоць ёй цана ламаны грош,
Ды пісьмы, некалькі нататак,
І дэсэртацыі пачатак
На тэму штось пра Запарож.
Ён іх складае дзелавіта
І штось высьвіствае пад нос.
Дзяньшчык яго, Лузгін Фядос,
Стаіць разважліва, бы ўрыты,
Такім учынкам з тропу зьбіты,
І моўчкі ўзважвае свой лёс.
Спытацца хоча і ня сьмее,
Маўчыць, пакуль ня скажа „сам“:
Пачын належыць „гаспадам“—
Ён этыкеты разумее
І абыходзіцца умее,
Каб дагадзіць „афіцарам“.

ДЗЯЖА

Дык так, Фядос: на фронт, брат, еду,
І не пабачыш майго сьледу!

ЛУЗГІН

На фронт?! Эх, ваша благародзе!
Шкада, шкада, шкада, ей-права!
І чалавек вы ў сваім родзе...
Жывым вярнуцца вам, у славе!

ДЗЯЖА

Дзякуй, браце!

ЛУЗГІН

Рад старацца!..
Зрабіць-бы, ваша благародзе, замірэньне—
Даволі пакармілі вошай,
Патрацілі таксама грошай,
А толку што? Зьнішчэньне, разбурэньне!

ДЗЯЖА

Ня тое кажаш ты, нябога:
Тады канец прыдзе вайне,
Калі на нашай старане
Выяўна стане перамога.
Так пастаноўлена ўжо строга,
І лёс той немца ня міне.

ЛУЗГІН

Што так яно, то так,
Усё то справядліва,
Ды немец ня дурак,
І б'е нас, б'е на дзіва.
Бракуе нам чагось,
Чагосьці не стае.
Эх, рускае авось!
На справе-ж... не тае.
Паваліш напралом—
Калі, сячы і рэж!
Але сьцяны ілбом,
Не, дудкі—не праб'еш!

ДЗЯЖА

Сказаць, ня надта ты ваяка,
А ведаеш ты воінскі статут?
Сказалі—і ўсё тут,
І мусіш зьбіць, брат, немца, аўстрыяка,
І ўсё варожае атродзьдзе.

ЛУЗГІН

Так точна, ваша благародзе.

Ў канцы, пагутарыўшы гэтак,
Ён адпускае дзяньшчыка,
А сам, як злодзей, спатайка
Пераглядае амулеты,

Яе лісты, яе портрэты,
Дзе сьлед пакінула рука,
Рука Галутавае дочкі.
У соты, тысячны ўжо раз
На гэты моліцца абраз,
Глядзіць на губкі яе, вочкі,
На бровы, тонкія шнурочкі,
Што цалаваў калісь ня раз.
Ї ўсё ў ёй міла і павабна.
Ї дабрата, і строгасьць рыс,
Ї косы, спушчаныя ўніз,
Што з плеч на грудзі віснуць зграбна,
Ї стужка сіняя ядвабна,
Ї твару ветлага абрыс.
Глядзіць уважна, пранікліва
На рысы любыя яе,
Ї шмат што ў памяці ўстае
З пары мінулае шчасьлівай,
Калі жыцьцё ім так жычліва
Суліла радасьці свае.
Ї вынікаюць, як жывыя,
Ї вечары і тыя дні,
Калі між блізкіх і радні
Мінуты бавіў веснавыя...
Эх, сьцежкі, межы палявыя!
Юнацтва зорныя агні!
Ї безразважныя парывы
Ї чары далечаў нямых...
Эх, колькі сонца была ў іх!
Расьлі, рунелі буйна нівы
Надзей і мар яго імклівых,
Вайна-ж зьмяла ўсё ў адзін міг.

Ён чуе холаду дыханьне,
Як-бы ўзьвіліся груганы,
Ї паўстае прывід вайны.
Душа прыходзіць ў садрыганьне—
Няўжо прапала ўсё дазваньня?
Ї страх шугае патайны.
Жыцьцё і сьмерць, сьвятло і цені...
Як многа ў тым жыцьці дарог,
Ї хараство ў яго вірох,
Дзе ў нясупынным ходзе-зьмене
Бліскочуць ясныя праменьні.

І далі сьцелюцца ў вянкох!
Дакуль-жа будзеце вы, людзі,
Цярпець, трасьціся і дрыжаць,
Як пад касою сенажаць,
У гэтым жаху і аблудзе?
Хто вас падыме, хто абудзіць,
Каб зьбіць крывавую пячаць?
Над гэніямі будзе гэній,
Непараўнаны і дзіўны,
Хто зьнішчыць жудасы вайны
І вырве ўсе яе карэні
Ды кіне засеў поўнай жменяй,
Каб згоды колас рос буйны.
У гэтым віхры дум, развагі,
Ўспамінкаў сьветлых аб былым
Зьявіўся Далін перад ім.

ДАЛІН

Здароў, Барыс, здароў, міляга!
Куды складаешся, брацяга?
Аб чым задумаўся? аб чым?
Дзяжа прыходзіць ў замяшаньне,
Хавае торапка партрэт,
Каб замясьціі яго і сьлед.

ДЗЯЖА

Да вось... дарога, вандраваньне...
Я думаў сам на разьвітаньне
Табе занесьці свой прывет.

ДАЛІН

На фронт? Ну, што-ж? віншую, брат!
З „Георгіем“ варочайся назад,
З „Георгіем“, ядры яго качан!
І чын цягні ня ніжай капітана,
На славу нам, на радасьць англічан,
На зло турэцкаму султану.

ДЗЯЖА

Да ўжо-ж трэба пастарацца,
Немца трохі пашчапаць,
Каб нашага сэрба-братца
Аўстрыяк ня сьмеў чапаць.

ДАЛІН

Так, брат, едзеш... Жалка, жалка!..
А скажу табе, Барыс:
Фронт, акопы—мой дэвіз!

Хоць бываюць перапалкі,
Выбрык Бэртачкі [1])-нахалкі,
„Чамаданны" [2]) бэнэфіс,
Хоць у кожную мінуту
Там чакае цябе сьмерць,
Хоць пазнаеш жорстка-люта,
Па чым таго ліха чвэрць,—
Ï ўсё-ж на фронце прыямней,
Інтымней, ведаеш, дружней.

Падходаў, хітрыкаў і подкапаў няма,—
Там аднолітная і дружная сям'я.
Ï людзі там шчырэй—
Такая ўжо абстаўка:
За шкурны добрабыт
Ня лепяцца, як п'яўка.

Ня цягнуцца адзін перад другім.
Ï той-жа чалавек, а выглядзіць ня тым.

А тыл? О, гнойны тыл!
Падседжваньне, жучэньне.
Ï гэтае агіднае лаўчэньне,
Стараньне з усіх жыл
Ï здольнасьцяй, і сіл,
Каб мець забесьпячэньне,

Каб у тылу прымазацца на векі,
Вайну адбыць у якасьці калекі.

Узяць—хоць ротны наш:
Муштроўшчык, ну, сьмех чысты,
Дзе трэба—ляжа лістам,
Прыходзіць проста ў раж
Ï чыніць ералаш,
Каб спраўным быць службістым.
Пытаньне: а на што
Камэдыя ўся гэта?
Адказ адзін—
Прабыць тут яшчэ з лета!
А там, глядзіш, і кончыцца вайна...
Наскрозь відаць яны,
Прахвоставы сыны,
Хоць мысьль іх патайна!..

---

1) „Бэрта"—аўстрыяцкая 16-цалёвая гармата.

2) „Чамаданамі" называлі набоі ад гэтае гарматы, снарады.

Да ворагаў нянавісьцю гараць,
Ваякі ўсе на словах...
„Ваюе“, седзячы па сховах,
Іх шкурная, трусьлівая ўся рацы!..
Абрыдла ўсё тут мне,
Праціўным стаўся тыл—
Колекцыя гандлярскіх рыл,
Нажыва на вайне...
Ды досыць на той конт!..
На фронт, Барыс, на фронт!

## ДЗЯЖА

Паручык сёньня злы бяз меры.
Ня быў-бы то ён франтавік:
Як брытву, вывастрыў язык!
Я рад за гэтую паперу:
Няма падставы кавалеру
Мяне аднесьці ў той-жа лік.

Але нашто вініць агулам
І гэтак жорстка нападаць?
Каму ахвота прападаць
І стравай быць чарвям, акулам?
І ясна: лепей дзе за шулам
Вайну-вар'яцтва пераждаць...

Калі ўжо быць тут прокурорам,
То трэба браць маштаб шырэй:
А хто ў тылу вядзе ўвесь рэй?
Чаму пад варажым напорам
Мы так адкочваемся скора,
Краіны трацячы, людзей?
Чаму у нас маўчаць гарматы?
А Сухамлін? а Мясаед?
Палёг бяз толку лепшы цьвет,
Мільёны страчаны салдатаў!
А што ў сталіцы робяць хваты,
Распуцін,—сорам на ўвесь сьвет?

Сярод салдат нездаваленьне,
З народу выжмалі ўвесь сок!
Паручык, жарты з ім на бок!
Народ наш прагне замірэньня,
Няма ў ім веры, ні цярпеньня...
Вось дзе завязаны клубок!

ДАЛІН

А ну цябе к чарцям—
Ты ліха ўсё варожыш,
Ну, прыдзе ліха к нам,—
Яго не пастрыножыш.
Начхай ты на яго,
Ня будзь такім прарокам.
А тыл, брат,—ого-го!
Падкруцім мы яго,
Падкруцім ненарокам!
Там будзе лепш відно,
Куды махнуцца нам...
Скажу табе адно,
І будзе так яно:
Расіі не аддам,
Нікому не аддам!..
Атрутны тыл,
Паганы тыл!
Ўсё на адзін
Пароблена капыл!..
На фронт!
На фронт—
Разьвеяць брудны пыл!

24-I—30-III—1928 г.

## СЕБЕЖ

**Ал. Дудар**

Точыць возера бераг высокі
з дня ў дзень, з году ў год—без спачыну.
Аглядаецца горад навокал,
ўспамінае калішнія чыны.

Нарадзіўся ў крывавай прыгодзе,
ў няціхоту ваяцкіх паходаў...
А гады, як прышлі—адыходзяць
па адвечнасьці каменных сходах.

Колькі сьцягаў было, столькі моваў,
столькі-ж раз, мабыць, сьцены палілі,
каб ізноў у прыгожасьці новай
вырас горад турботаю пільнай.

Летапісы нашчадкам казалі,
як Масква тыя сьцены граміла,
як праз лёд недасяжныя хвалі
дакрануў ваявода Няміра *).

Горад мералі людзі на грыўні,
як тавар прадавалі, куплялі...
Толькі горад з мурамі сваімі
ўсё глядзіцца ў вазёрныя хвалі.

Ішлі людзі праз Себеж на Захад,
ня згубіўшы, шукалі чагосьці—
і пад замчышчам сохнуць і чахнуць
беларускія белыя косьці.

---

*) У XVI стагодзьдзі кіеўскі ваявода Няміра аблажыў Себеж. Маскоўцы, зрабіўшы вылазку, прымусілі Нямірава войска адступіць на лёд возера: лёд паламаўся і бадай што ўсё войска ў ліку 20.000 чалавек загінула ў возеры.

А з-пад Нёмну з агнём і крыжамі
несьлі людзі дурныя галовы...
Захавалі адно себяжане—
сваё возера толькі ды мову.

Захавалі бяскрайную сілу,
навучыліся жыць без апекі:
сьцяг чырвоны над возерам сінім,
шлях мінуўшчыны чэзьне і меркне.

Точыць возера бераг высокі
з дня ў дзень, з году ў год—без спачыну.
Аглядаецца горад навокал—
забывае мінулыя чыны.

1927 г.

# У ШКОЛЕ

**Зіна Бандарына**

Сьветларусыя, белыя, цёмныя
Галавёнкі навокал мяне,
І зьвіняць серабрыстыя звонікі,—
Кросны ткуць, ткуць аснову вясьне.

Ой дарма, што палатаны сьвіткі
І нагі не падняць ў чабатах,—
Сёньня думкі турботамі зьвіты,—
Лемантар-бы хутчэй прачытаць.

— ... А ўчора занятнае ў школе
Нам настаўніца наша прачла,
Як маленечкі хлопча Мікола
Свайго тату ад пана схаваў...

Хтосьці хваліцца, раптам сьціхае
І над сшыткам галоўку схіліў.
А ў стэпах зара дагарае,
Захад ў шыбах агні запаліў.

Патанулі у шэрані далі,
Чую плач ціхі леры ў палёх...
Сэрца смутак няведамы паліць,
Словы стынуць ў асьмяглых грудзёх.

О, мая дарагая краіна!..
Зьнітавалася прага і боль.
„Нам казалі, што вы нас пакінеце“,
Палахліва зьвініць галасок.

І адразу, як пчолы ў вульлі,
Зазьвінела мая дзетвара:
„Мы буквар ваш увесь прачытамы,
Будам скора задачкі рашаць.

Мы ў Сібіры жывем і ня мерзьнем,
Будам наскія кніжкі чытаць,
Мы запішамся ўсе ў піонэры,
Мы у школу ня пойдзем бяз вас...“

Ї дакорліва-мілыя русыя
Галавёнкі навокал мяне,
Ї зьвіняць серабрыстыя звонікі,—
Кросны ткуць, ткуць аснову вясьне.

Ї чамусьці забілася сэрца,
Захацелася ўсіх прыласкаць...
Я гляджу і дзіўлюся—ня верыцца...
Сьветлых мар зацьвіла сенажаць.

Няхай сэрца нядоляю змучана,
У вачох павуціньнем туга.
Навучу я маленечкіх вучняў
Родны край свой нязьмерна кахаць.

Распрыгоршчу палкасьць і веру,
Хай разьвеюць вятры па сьнягох.
Мо‘ у далях імжыста-завейных
Запалаюць агні на ільдох!..

. . . . . . . . . . . .

... А у стэпах віхуры гуляюць,
Сьнежны баль—у ваччу конфэці.
Квола ў небе зара дагарае,
Ї так хочацца жыць і любіць...

25-XII—1927 г.
Сібір.

# І ВЯТРЫ І ЗОРЫ...

**Зіна Бандарына**

І вятры і зоры раскідаюць пэрлы,
І вятры і зоры навяваюць сон...
Скрыжаваных сьцежак і дарог ня зьмерыць.
Атулі мінулае мглістым туманом.

І вятры і зоры раскідаюць пэрлы,
Завіваюць жэмчуг у похадні надзей.
Дзесьці адчыніліся Будучыні дзьверы,
Дзесьці Невядомае блізіцца-ідзе...

І вятры, і зоры раскідаюць пэрлы,
Засьцілайце сьцежкі белым паркалём,
Сінія заранкі ў небе дагарэлі
І вітае усход новым днём.

І вятры і зоры раскідаюць пэрлы,
Залаціцца усход, залацісты дзень...
Дзесьці адчыніліся Будучыні дзьверы,
Завіліся жэмчугі ў похадні надзей.

Сібір. 29-II—28 г.

# ШТО РОБІЦЦА Ў КІТАІ

*(Да характарыстыкі кітайскіх падзей апошняга году)*

**Л. Каган**

Вялікая Кітайская рэволюцыя на новым цяжкім перавале. Яшчэ нядаўна падначаленая Гоміндану і рушымая наперад блёкам пролетарыяту, сялянства, дробнай і часткова буйнай буржуазіі, яна была страшнай пагрозай для чужаземных імпэрыялістых і ўласных мілітарыцкіх клік Кітаю. Але ў процэсе ўпартай барацьбы расьлі і клясава формаваліся рухаючыя сілы рэволюцыі. Расла клясавая самасьвядомасьць пролетарыяту і сялянства, рабілася „цьвярозай“ унутраная, тамтэйшая буржуазія Кітаю. Пераломным момантам у рэволюцыі быў уваход войск Чан-Кай-Шы ў Шанхай, у часе пераможнага руху на Пекін. Рабочыя батальёны, моцна начыненыя „бальшавіцкім порахам“, добра з'організаваныя профсаюзы—усё гэта паказалася вельмі не да смаку праваму гомінданаўцу Чан-Кай-Шы. Зрада гэтага генэрала рэволюцыі, наступныя зрады рэволюцыі Фын-Юй-Сяна, Уханскага ўраду ў цэлым, перасьледваньні комуністых, аднолькава жорсткія, як у вотчынах Чжан-Цзо-Ліна, так і ў царстве „Сун-Ят-Сэнізму“ (Чан-Кай-Шы, Ван-Цзі-вей ды іх прыхільнікі сваю політыку зьверскага прыдушэньня рэволюцыі праводзяць імем выкананьня прынцыпаў сунізму—зусім як Носке імем марксызму душыў Нямецкую рэволюцыю і зьнішчаў комуністых)—усё гэта выражэньне факту адыходу тамтэйшай кітайскай буржуазіі ў лягер контр-рэволюцыі. Але адначасна са зрадай буржуазіі, з агаленьнем клясавых адносін, з набыцьцём вялікай рэволюцыяй характару няпрыкрытай ужо ніякімі ілюзіямі барацьбы дзьвюх спрадвечна варожых сіл—пролетарыяту і буржуазіі, мы наглядаем зьяўленьне ў Кітаі на арэне барацьбы новага магутнага рэволюцыйнага фактару—сялянства. Зразумела, памылковым было-б дапушчэньне, што да зрады Чан-Кай-Шы кітайскае сялянства ў рэволюцыі зусім ня прымала ўдзелу. Шматмільённае сялянства Кітаю ня было ні хвіліны пасыўным у рэволюцыйнай барацьбе Кітаю — недарма жывуць у ім прыгожыя традыцыі тайпінаў і баксёраў і нянавісьць да „белых д'ябалаў“ у кітайскага селяніна органічная,—але падзеі лета 1927 году (зрады генэралаў і буржуазіі) зрабілі ў сялянстве надзвычай популярнымі ідэі і лёзунгі кітайскай компартыі, зрабілі непарушна-моцным саюз пролетарыяту і сялянства Кітаю супроць адзінага фронту эўропэйскіх імпэрыялістых, учараш-

ніх саюзьнікаў Чан-Кай-Шы, Ван-Цзі-вея і тых, што з імі, мілітарыстых У-Пэй-Фу, Сун-Чуан-Фана ды інш. Праўда, і сярод ворагаў рабоча-сялянскага Кітаю поўнага адзінства покуль што яшчэ няма. Для праформы яшчэ вядзецца барацьба „рэволюцыйнага“ Нанкіна са старарэжымнымі Пекінам і Мукдэнам, але гэта барацьба пазбаўлена ўжо рэволюцыйнай напышлівасьці вялікага паўночнага паходу, які застаўся ад Суна, як тэстамэнт. Напышлівасьць выяўляецца ў аднолькавай меры і Чжанам і Чан-Кай-Шы, і Сун-Чуан-Фанам толькі ў расправе з комуністымі: тут Кітай апошніх дзён пакінуў ззаду лепшыя ўзоры сярэднявяковай гісторыі. Але гэтыя зьверскія расправы ані не запалохваюць рабочых і сялян Кітаю. Яны змагаюцца з мужнасьцю і роспачай, яны тым мацней штурмуюць контр-рэволюцыю, чым, здавалася-б, больш рашуча гэта апошняя наносіць ім удары. Апошнія месяцы даюць нам шэраг поўных вялікага трагічнага сэнсу момантаў кароткачасовых перамог і жорсткіх паражэньняў рабоча-сялянскіх рэволюцыйных сіл Кітаю: Чанша, барацьба Іе-Ціна і Хо-Луня, Кантон. Кожны раз, як толькі сусьветная буржуазія напоўніць сьвет урачыстымі рэляцыямі аб канчатковым прыдушэньні рэволюцыі ў Кітаі, то ў тым, то ў другім кутку краіны выплываюць бадзёрыя, рэволюцыйныя атрады і абвяшчаюць то тут, то там Савецкую ўладу. Іх разьбіваюць, выціскаюць, зьнішчаюць усіх, хто меў хоць якое дачыненьне да чарговага савецкага перавароту — але ад перамог рэволюцыйныя сілы Кітаю толькі выйграюць: расьце загартаванасьць рабочых, расьце і ўзмацняецца нянавісьць нязьлічонага сялянства Кітаю, рашуча стаўшага ў апошнія месяцы пад сьцягі Кіткомпартыі. „Пераможная“ кітайская рэакцыя ў адчаі: „пераможаныя“ ўпарта абвяргаюць сваімі перамогамі ў розных кутках Кітаю распаўсюджваныя па ўсяму сьвету паведамленьні аб тым, што з рэволюцыяй у Кітаі скончана. Больш таго—рэволюцыйная актыўнасьць стала выяўляцца ў апошні час там, дзе яе ня было нават у дні Суна і паўночнага паходу: заварушыліся, і вельмі энэргічна, паўстанцкія атрады „Чырвоных Пік“ у тылу Чжан-Цзо-Ліна.

Рэволюцыя ў Кітаі зараз на новым рубяжы. Дзякуючы адыходу ад яе буржуазіі, узмацніліся позыцыі паўночных мілітарыстых, больш бадзёра пачалі адчуваць сябе чужаземныя інтэрвэнты. Але затое ўзмацніліся сілы рабочых і сялян Кітаю. Гэтыя не пасварацца, гэтыя зьвязаны адзінствам клясавых інтарэсаў, крывёю тысяч закатаваных рэволюцыянэраў. Яны—тая чырвоная здань, якая аднолькава страшна і для „рэволюцыянэраў“ з Нанкіну, і для мілітарыстых разам з інтэрвэнтамі. Добра ведаюць ня толькі сябры Кітаю ў СССР, але і ворагі кітайскай рэволюцыі, што сілы рабочых і сялян Кітаю, якія кіруюцца компартыяй— не пераможаныя сілы. Ім можна яшчэ наносіць паражэньні, іншы раз вельмі цяжкія, але „заўтра“ — бясспрэчна за імі, бо на іх баку сымпатыі поўмільярднага змучанага Кітаю, яны—яго сапраўдныя гаспадары, а цяперашнія гаспадары Кітаю трымаюцца ў ім толькі сілаю. Кепская пад-

става, нават калі яна падмацоўваецца дрэдноутамі і звышдрэдноутамі Старога і Новага Сьвету.

Крыху разьвіць зьмест тых зрушэньняў, што адбыліся ў кітайскай рэволюцыі за апошні час і, галоўным чынам, высьветліць прычыны і сутнасьць сучаснага сялянскага руху—вось задача гэтага невялічкага нарысу [1]).

I

Крыху географіі: бяз гэтага нам цяжка будзе разабрацца ў пярэстым клубку кітайскіх падзей.

Прастора Кітаю—9 мільёнаў квадратовых кілёмэтраў, насельніцтва—прыблізна поўмільярда, значыць, разоў у тры больш, як у СССР. Па „кітайскай констытуцыі", у склад Кітаю ўваходзіць, апроч унутранага, яшчэ і знадворны Кітай, які займае каля паловы яго тэрыторыі, але фактычна зусім адасоблены ад рэшты краіны. Знадворны Кітай складаецца з: унутраной Монголіі, якая знаходзіцца пад прыгнечаньнем Чжан-Цзо-Ліна і часткова Фын-Юй-Сяна; Тыбэту, дзе гаспадаром зьяўляецца ангельскі імпэрыялізм; Народна-рэволюцыйнай Знадворнай Монголіі, якая вызвалілася некалькі год таму назад ад прыгнечаньня імпэрыялізму і ўласных генэралаў; провінцыі Сінь-Цзян (Кітайскі Туркестан), якая мяжуецца з Савецкім Туркестанам.

Унутраны Кітай звычайна падзяляюць на тры часткі: Паўночны, Цэнтральны і Паўдзённы. Паўночны Кітай складаецца з провінцый: 1) Гірынскай, з галоўным горадам Гірынам; у гэту провінцыю ўваходзіць горад Харбін, дзе знаходзіцца кіраўніцтва Ўсходня-Кітайскай чыгункай, якой кіруюць разам СССР і Кітай. 2) Мукдэнскай (Фын-Цян), якая складаецца з трох провінцый. Сталіца гэтай провінцыі—Мукдэн—рэзыдэнцыя манчжурскага дыктатара Чжан-Цзо-Ліна. 3) Хэйлудзянскай (Цыцыкарскай), якая мяжуецца з нашай ДУВ. Названыя 3 провінцыі, узятыя разам, носяць назву „Манчжурыя" і знаходзяцца пад уладай Чжан-Цзо-Ліна. 4) Чжылі з гарадамі: Пекінам, сталіцай Кітаю і Цян-Цзінам, галоўным портам Паўночнага Кітаю, дзе сконцэнтраваны концэсіі і сэтльмэнты [2]) чужаземцаў. 5) Шаньдунь, з гарадамі Цын-Дао, Чы-фу і Цзінань. 6) Шансі—вотчына рэакцыйнага генэрала Ен-Сі-Шана. Сталіца провінцыі—Тай-Юань. 7) Хэнань, якая знаходзіцца пад уладай Фынь-Юй-Сяна. Сталіца провінцыі—горад Кай-Фынь.

Цэнтральны Кітай падзяляецца на провінцыі: 1) Цзян-Су з галоўнымі гарадамі: Шанхаем—буйнейшым прамысловым цэнтрам Кітаю—і Нанкінам—былой сталіцай былога рэволюцыянэра, а зараз ката кітайскай рэволюцыі—Чан-Кай-Шы. 2) Чжэцян з галоўным горадам Хан-Чжоу.

---

[1]) Мы маем на ўвазе асабліва падкрэсьліць у гэтым нарысе сялянскае пытаньне бо рабочае пытаньне ў Кітаі досыць поўна было высьветлена ў папярэдніх нарысах аб Кітаі (гл. „Полымя" № 8 за 1926 г. і нашу кніжку „Нац. вызв. рух у краінах Усходу").

[2]) Чужаземныя кварталы, куды ўваход кітайцам забаронены.

3) Фу-Цзян, з горадам Фу-Чьоу. 4) Ань-Хуой, з горадам Янь-Цын. 5) Цзян-Сі, са сталіцай Нанчан, дзе ў жніўні 1927 году генэралы Іе-Цін і Хо-Лунь паўсталі супроць стаўшага рэакцыйным Уханскага ўраду. 6) Хубэй з трыградам Ханькоў-Учан-Ханьян, які іначай называецца Ухан,—зараз сталіцай уханскага ўраду. 7) Хунань, са сталіцай Чанша, цэнтр сялянскага паўстанцкага руху. Як і Нанчан—Чанша кароткі час знаходзіўся ў руках чырвоных, якія пад націскам сіл ворага прымушаны былі адступіць з яго ў провінцыю. 8) Шэнь-Сі, з горадам Сі-Ань. 9) Тань-Су, з горадам Лан-Чжоу. 10) Сы-Чуань, з горадам Чжы-Ду. Цэнтральны Кітай—самы багаты прамысловы раён краіны. Тут у вадазборы найвялікшай кітайскай ракі Ліцзыцзяна, жыве дзьвесьце мільёнаў насельніцтва—амаль палова ўсяго насельніцтва Кітаю. Нарэшце, Паўднёвы Кітай распадаецца на провінцыі: 1) Гуан-Дун, са сталіцай Кантонам—калыскай кітайскай рэволюцыі. Па дзіўнай гіроніі гісторыі тут падрыхтоўваўся і адсюль пашырыўся антыімпэрыялістычны паход на Пекін і тутжа, у сьнежні 1927 году, пасьля 3-х дзён існаваньня Савецкай улады, пачаўся ды ідзе дагэтуль дзікі разгул рэакцыі; западазроных у прыналежнасьці да компартыі паляць жывымі, вешаюць, ім сьсякаюць галовы. Побач з Кантонам—Ганконг, ангельская экономічная і вайсковая крэпасьць, цэнтр ангельскага імпэрыялізму ў Паўднёвым Кітаі—2) Гуань-Сі з горадам Юнь-Юань. 3) Гун-Чжоу. 4) Юнань, якая мяжуецца з колёніяй францускага імпэрыялізму—Індакітаем.

---

Далей—крыху экономікі кітайскай вёскі.

Трэба, паперадзе, адзначыць, што статыстыка ў Кітаі яшчэ надзвычай кульгае і тыя лічбы, якія мы тут будзем падаваць, маюць толькі прыблізную дакладнасьць.

Пачнем з даных статыстычнага бюро пры Міністэрстве Земляробства і Гандлю ў Кітаі адносна колькасьці і груп зямельных уладаньняў у 1917 годзе.

| Колькасьць уладаньняў | Менш 10 му | 10—30 му | 30—50 му | 50—100 му | 100 і больш му | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пекінскі раён . . . . | 125.013 | 128.534 | 148.337 | 121 823 | 64.000 | 587.767 |
| Чжылі . . . . . | 1.364.265 | 1.087.100 | 707.417 | 501.665 | 216.315 | 3.966.761 |
| Провінцыя Мукдэн . . | 395.954 | 357.876 | 401.632 | 336.731 | 254.453 | 1.686.646 |
| Гірынская провінцыя . | 52.475 | 96.891 | 109.775 | 121.901 | 157.856 | 583.893 |
| Хэйлудзян . . . . . | 24.962 | 30.999 | 57.985 | 67.092 | 143.117 | 324.156 |
| Шаньдунь . . . . . | 2.106.970 | 1.551.611 | 957.640 | 497.413 | 341.096 | 5.454.730 |

| Колькасьць уладаньняў | Менш 10 му | 10—30 му | 30—50 му | 50—100 му | 100 і больш му | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Хэнань . . . . . . | 1.597.265 | 1.568.984 | 1.524.916 | 876.726 | 562.524 | 6.130.415 |
| Шаньсі . . . . . . | 282.787 | 359.685 | 397.780 | 337.505 | 151.789 | 1.529.546 |
| Цзянсу . . . . . . | 2.726 001 | 1.312.268 | 487.017 | 260.024 | 86.674 | 4.871.984 |
| Аньхой . . . . . . | 1.130.775 | 987.108 | 343.692 | 208.624 | 175.815 | 2.846.014 |
| Цзянсі . . . . . . | 336.326 | 984.819 | 2.174.072 | 507.007 | 62.623 | 4.064.347 |
| Фуцзянь . . . . . | 870.609 | 508.988 | 176.015 | 56.722 | 9.018 | 1.621.352 |
| Чжэцзянь . . . . . | 1.689.940 | 999.045 | 375.389 | 150.878 | 30.963 | 3.256.215 |
| Хубей . . . . . . | 1.485.700 | 994.697 | 651.534 | 391.583 | 147.257 | 3.670.771 |
| Хунань . . . . . . | 354.862 | 346.321 | 385.987 | 244.920 | 105.707 | 1.437.797 |
| Шэнсі . . . . . . | 615 848 | 368.777 | 188.529 | 98.038 | 63.984 | 1.335.176 |
| Ганьсу . . . . . . | 284.957 | 221.916 | 162.568 | 125.795 | 69.881 | 865.137 |
| Сіньцзян . . . . . | 156.519 | 157.484 | 63.758 | 56.351 | 17.628 | 451.738 |
| Гуандун . . . . . . | 2.082.452 | 962.107 | 553.222 | 243.040 | 83.586 | 3.925.207 |
| Жохоль . . . . . . | 160.120 | 199.199 | 128.146 | 99.722 | 28.250 | 615.437 |
| Суйюань . . . . . | 7.692 | 10.017 | 13.158 | 15.699 | 18.021 | 64.587 |
| Чахар . . . . . . | 12.833 | 14.039 | 23.627 | 29.065 | 35.847 | 115.411 |
| Усяго . | 17.805.125 | 13.248.474 | 10.122.214 | 5.348.314 | 2.835.464 | 49.359.591 |

Тут няма лічбаў аб провінцыях Сычуань (50 мільён. жыхароў), Гуансі (13 мільёнаў жыхароў), Юнань (16 мілвёнаў жыхароў) і Гуй-Чжоу (11 мільёнаў жыхароў).

Аднак з гэтай табліцы нельга рабіць яшчэ сталых вывадаў, бо вялікае значэньне мае пытаньне—аб якой зямлі—„сухой“ ці „воднай“—ідзе справа, або лёэсавая гэта зямля ці не лёэсавая. Так, у провінцыі Чжэцзян, прыкладам, звычайная зьява—тры ўраджаі ў год з „воднага“ поля (2 ўраджаі рысу і адзін—гародніны).

Такім чынам, там 50 му зямлі па сваёй прыбытковасьці могуць раўняцца 150—200 му „сухой“ зямлі ў якой-небудзь іншай провінцыі.

Аб колькасьці „водных“ і „сухіх“ палёў у розных провінцыях Кітаю дае нам уяўленьне наступная табліца (даныя ў ёй датычаць 1917 году).

| ПРОВІНЦЫІ | Вод. палі (му) | Сухія палі (му) | Агародн. і сады (му) | Агульная плошча (му) |
|---|---|---|---|---|
| Пекінская акруга . . . | 71.423 | 16.733.549 | 2.294.556 | 19.099.528 |
| Чжылі . . . . | 4.037.388 | 73.022.300 | 4.946.500 | 82.026.248 |
| Мукдэнская провінцыя . | 152.024 | 43.915.306 | 1.126.845 | 45.194.175 |
| Гірынь . . . . | 42.216 | 83.124.251 | 2.819.301 | 85.985.768 |
| Хэйлудзян . . . . | 3(?) | 35.373.457 | 1.791.554 | 37.165.014 |
| Шаньдун . . . . | 850.273 | 121.773.487 | 4.473.827 | 127.097.587 |
| Хэнань . . . . | 26.329.614 | 321.583.580 | 51.311.398 | 399.226.592 |
| Шаньсі . . . . | 3.979.350 | 45.841.551 | 959.536 | 50.780.437 |
| Цзянсу . . . . | 21.651 766 | 48.350.868 | 7.093.197 | 77.095.831 |
| Аньхой . . . . | 15.250.126 | 23.762.810 | 2.414.605 | 41.427.541 |
| Цзянсі . . . . | 19.026.565 | 16.817.446 | 4.536 899 | 40.380.910 |
| Фуцзян . . . . | 12.874.821 | 9.580.859 | 1.857.751 | 24.313.431 |
| Чжэцзя . . . . | 17.014.265 | 10.028.748 | 5.916.595 | 32.959.608 |
| Хубей (частка) . . . | 117.900.746 | 36.133.574 | 6.379.940 | 160.414.290 |
| Хунань (частка) . . | 15.587.464 | 3.117.492 | 3.319.150 | 22.024.106 |
| Шэньсі . . . . | 1.984.629 | 29.543.036 | 1.193.987 | 32.727.712 |
| Ганьоу . . . . . | 7.539.273 | 19.432.891 | 416.408 | 27.388.570 |
| Сіньцзян . . . . . | 496.066 | 10.219.976 | 1.088.823 | 11.804.865 |
| Сычуан . . . . . | — | — | — | — |
| Гуандун . . . . . | 13.517.041 | 9.388.582 | 3.096.277 | 26.001.905 |
| Гуансі . . . . . | — | — | — | — |
| Юнань . . . . . | — | — | — | — |
| Гуйчжоу . . . . . | — | — | — | — |
| Жохоль . . . . . | 300.057 | 15.908.620 | 686.645 | 16.895.322 |
| Суйюань . . . . . | 1.709.052 | 3.330.415 | 168.982 | 5.208.449 |
| Чахар . . . . . | 615.574 | 11.141.884 | 17.653 | 11.775.111 |
| Усяго . | 280.453.670 | 977.910.766 | 106.821.664 | 1.365.186.100 |

*Увага*. У табліцы даныя анкеты Кітайскага Міністэрства Земляробства і Гандлю, праведзенай у 1917 годзе.

Даныя тэй-жа анкеты 1917 году аб колькасьці „землеробаў“ у Кітаі (па паасобных провінцыях лічбаў падаваць ня будзем, каб ня вельмі заграмаджаць наш нарыс) у сем'ях: урабляючых уласную зямлю—24.857.585, арандатараў — 13.825.546, напалову арандатараў — напалову ўласьнікаў—10.494.722, а ўсяго—48.907.853 сям'і.

Тут пад землеробамі, якія працуюць на сваёй зямлі, трэба разумець уласьнікаў, маючых сотню і болей му. Трэба, аднак, прыняць пад увагу што вельмі буйных зямляўласьнікаў у Кітаі (якія маюць 10.000 му і болей—даныя кітайскага профэсара—комуністага Чжэн-Ту-Сіу) у сярэднім ня болей дзесятку на адну провінцыю; паводле тых-жа даных—маючых 1.000 і болей му—прыблізна 10 тысяч на провінцыю і жыве гэта катэгорыя пераважна ў гарадох; што-ж да тых, што маюць 100 му і болей, то гэта пераважна сельскія джэнтры (асобы, якія ў сёлах маюць пасады).

Зараз зробім падрахунак вышэй паданых лічбовых даных, якія датычаць усяго Кітаю, за выключэньнем провінцый Сычуань, Гуй-Чжоу, Юінань і Гуансі[1]).

| Зямляўласьнікаў | Сухіх палёў (му).[2]) | Водных палёў (му) | Агарод. і сад. палёў (му) | Агульная плошча |
|---|---|---|---|---|
| 48.907.853 | 977.910.763 | 280.453.670 | 106.821.664 | 1.365.186.100 |

| Землеробаў уласьнікаў | Арандатараў | Напалову арандатараў, напалову ўласьнікаў | Лік арандаванай зямлі | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Сухіх палёў | Водных палёў |
| У | С | Е | М' | Я Х |
| 24 587.585 | 13.825 546 | 10.494.722 | 344.568.461 | 127.711.497 |
| | | | Разам 472.279.958 | |

| Маючых меней 10 му сем | 10—30 му | 30—50 му | 50—100 му | 100 му і больш | Разам |
|---|---|---|---|---|---|
| У | С | Е | М | Я | Х |
| 17.805.125 | 13.805.125 | 10.122.214 | 5.348.314 | 2.835.464 | 49.359.591 |

---

[1]) Лічбовыя даныя запазычаны намі з працы Івіна „Чырвоныя Пікі“.

[2]) Му—прыблізна $^1/_{16}$ частка дзесяціны, хаця ў некаторых провінцыях крыху больш.

Вывады?

1) На сям'ю (а кітайская сям'я — не эўропэйская па колькасьці) у кітайскай вёсцы прыпадае ў сярэднім 1.365.186.100 : 48.907.653, г. зн., прыблізна 30 му—каля 2 дзесяцін.

2) Лік безьзямельных і малазямел. сем'яў—13.825.546+10.494.722= 24.320.268, што складае каля 50 проц. агульнай масы сялянства Кітаю.

3) Гэтыя 50 проц. кітайскага сялянства арандуюць на самых цяжкіх умовах 472.279.958 му зямлі, што дае, прыблізна, 20 му на сям'ю. Становішча гэтай катэгорыі сялянства можна сабе ўявіць, калі прыняць пад увагу, што пражыць пажабрацку, нават у кітайскіх умовах можна minimum на 20 му зямлі.

4) Сельскі пролетарыят, якому ў нашай табліцы асобнай графы няма гэта тыя 17.805.125 сем'яў, якія ўладаюць меней 10 му. Сапраўды іх больш, бо і 13.805.125 сем'яў, якія ўладаюць па 10—30 му—таксама напоўпролетарыят. Наогул-жа мяжа паміж эксплёататарамі і эксплёатаванымі праходзіць па лініі зямельнага ўладаньня плошчаю ад 50 да 100 му. Калі прыняць сярэднюю сялянскую сям'ю ў 5,5 чалавек, то мы для эксплёатаванага сялянства Кітаю атрымаем вялізную лічбу—5,5×41.733.164= 226.466.471 чалавек.

5) Вышэйшая група, якая жыве з рабаўнічай арэнды, у Кітаі параўнальна невялікая—яна складаецца з тых асоб, што ўладаюць сотняй і болей му, бо, як правіла, асобы, што ўладаюць меншай колькасьцю зямлі, амаль абыходзяцца бяз найміцкай працы. Адносіны на поўжабрацкіх арандатараў і гэтай вышэйшай групы—найбольш вострае выяўленьне клясавай барацьбы ў кітайскай вёсцы.

Агульны вывад—у Кітаі звыш 17 мільёнаў сем'яў абяздоленага сельска-гаспадарчага пролетарыяту і каля 14 мільёнаў сем'яў мізэрных зямельных уласьнікаў, якія маюць 1—2 дзесяціны зямлі. Гэта вельмі добры сухі порах для рэволюцыйнага выбуху, натуральны саюзьнік дзесяткаў мільёнаў індустрыяльнага пролетарыяту Кітаю з зарплатай у 5—15 доляраў у месяц*).

Лёгка зараз зразумець шырокія сялянскія рухі ў сярэдзіне 19-га веку (тайпіны), пачатку 20-га (баксёры), сучасныя нам рухі „Чырвоных Пік“ ды іншых сялянскіх організацый Кітаю. Да апісаньня характару і дзейнасьці апошніх мы і пераходзім.

---

„Чырвоныя Пікі“—не адзінае тайнае таварыства кітайскага сялянства. Ёсьць яшчэ „Вялікія Нажы“, „Моцныя Жываты“, „Веера“ ды інш., Але „Чырвоныя Пікі“ найбольш многалікія, найбольш актыўныя, чым іншыя тайныя таварыствы і таму спынімся мы на іх больш падрабязна. Цэнтр найбольшай актыўнасьці сялянскага руху—Хэнань, далей у пасту-

*) Мы яшчэ раз падкрэсьліваем, што становішча кітайскага пролетарыяту ўжо высьвятлялася намі на старонках „Полымя“.

повым парадку ідуць Шаньдунь, Цзянсу, Аньхой, Хубей, Шансі. У даны час, між іншым, амаль няма такое провінцыі ў Кітаі, дзе-б ня было добра організованых тым ці іншым тайным таварыствам сялянскіх аддзелаў. Яны зьявіліся ў апошні час нават у такіх раёнах, як Манчжурыя і Чжымі.

Мы вызначылі ўжо экономічную падставу сялянскага руху. Возьмем зараз гэты рух у разрэзе фактаў.

Лішне, вядома, адзначаць тое, што калі сумны малюнак экономічнага становішча кітайскіх сялян паводле даных 1917 году, дык ён быў яшчэ больш сумным у часе абсолютызму, г. зн. у пачатку нашай эры і нават у „да-хрысьціянскую эпоху". Надбудова часта моцна адарвана ў сэнсе формальным ад базісу—яе сапраўдны зьмест звычайна ня столькі ў лёзунгах, колькі ў актыўнасьці мае, якія наўкола іх яднаюцца. Вось чаму пад некалькі дзіўным лёзунгам—барацьбы за „вучэньне ўсеагульнага міру"—пачаў у канцы II веку нейкі Чжан-Цзяо організаваць сваё містычнае па форме і рэволюцыйнае па сутнасьці справы першае ў гісторыі Кітаю сялянскае тайнае таварыства „Жоўтых Цюрбанаў", „людзей, якія надзявалі на галовы жоўтыя хусткі". Дзесяць год пазьней пасьля свайго заснаваньня „Жоўтыя Цюрбаны" ўжо здолелі выставіць армію ў поўміл'ьёна чалавек і амаль ня скінулі магутную ханскую дынастыю.

Другі, больш блізкі, прыклад масавага сялянскага руху—гэта сялянская рэволюцыя, якая кіравалася таварыствам „Белага Лётосу". „Організатар" „Белага Лётосу", паводле кітайскіх акалаў, будыйскі манах Мао-Цзы-Юань, які называў сябе „настаўнікам Белага Лётосу"—адсюль назва таварыства. Узьнікла яно ў XII сталецьці. Лік членаў „Белага Лётасу" хутка расьце, ня гледзячы на перасьледваньні ўраду, і ў 1351 годзе гэтае таварыства організуе ў вадазборы ракі Янцзы вялізнае рэволюцыйнае паўстаньне.

Таварыства „Белага Лётосу"—надзвычай жывучае: пры імпэратары Цянь-Цы (1621—1627) яно зноў організуе паўстаньне, на гэты раз у Шаньдуні, пад кіраўніцтвам Сун-Хун-Жоу.

У 1793 годзе „Белы Лётос" зноў організуе вялізнае паўстаньне, ахапіўшае Аньхой, Хубей, Сычуань, Шэньсі. Гэта паўстаньне скончылася зьверскай расправай з членамі таварыства—за 4 месяцы іх пакаралі звыш 20 тысяч чалавек—і ўсё-ж, каб прыдушыць паўстаньне, патрэбна было каля дзесяці год. Але „Белы Лётос" не памёр: яго карэньні—„Блакітны Лётос", „Нябесны розум", Пау-Куа—распаўсюдзіліся па ўсіх провінцыях Кітаю.

Наступнае вялікае паўстаньне сялян пад кіраўніцтвам „Белага Лётосу" было ў 1815 г. ў Шэньсі. Далей ідзе вялізнае тайпінскае паўстаньне, якое пачалося ў 1851 годзе. Гэты рух ахапіў увесь вялізны Кітай і быў прыдушаны толькі дзякуючы ўмяшаньню ангельцаў. І тайпіны *)—адна з галін „Белага Лётосу". Нарэшце, як сьведчыць аб гэтым

*) Глядзеце цікавую працу Шпільмана—„Тайпінскае паўстаньне".

большасьць кітайскіх крыніц, і выдатныя „баксёры“, якія перапалохалі насьмерць эўропэйскі імпэрыялізм у Кітаі ў пачатку XX сталецьця—галіна вышэй памянёнага „Пау-Куа“ *).

„Чырвоныя Пікі“, „Вялікія Нажы“, „Моцныя Жываты“, „Веера“, ды іншыя сялянскія організацыі, якія вядуць бязьлітасную барацьбу з контрэволюцыяй і, інтэрвэнцыяй у Кітаі, разглядаюцца кітайцамі, як адмена „баксёрызму“ і, значыць, таксама зьяўляюцца познымі разгаліненьнямі таго-ж „Белага Лётосу“.

Радзіма „Чырвоных Пік“—Лаянскі павет. Адкуль яны пайшлі—невядома нават самім лаянцам: яны толькі памятаюць, што незадоўга да рэволюцыі 1911 году ў Лаяне зьявіліся людзі, якія называлі сябе „Жалезнымі Бронямі“, бо, нібы ведалі заклінаньні, дзякуючы якім не баяліся ні кулі, ні нажа. З 1917 году гэткія-ж людзі зьявіліся ў вёсках пад новым імем „Цьвёрдых Бабоў“. „Чырвонымі-ж Пікамі“ таварыства називалася толькі сем-восем год таму назад. Згодна слоў мясцовых сялян, яго заснавальнік жыве і дагэтуль, але хаваецца на легендарнай „гары дзевяці драконаў“. „Чырвоныя Пікі“ падзяляюцца на два „вучэньні“: адно носіць назву чырвонага вучэньня, другое—сярэдняга.

Прыхільнікі першага надзяюць на галаву чырвоную хустку, прыхільнікі другога—жоўтую, і тыя, і другія на сваіх піках, іх галоўнай зброі, носяць чырвоныя кутасы.

Абедзьве галіны „Чырвоных Пік“ маюць свае заклінаньні і малітвы, дзякуючы якім яны могуць, паводле іх глыбокага перакана्ньня, зрабіцца няўразнымі.

Хто такія прадстаўнікі Вялікага Чырвонага Вучэньня і Малога Чырвонага Вучэньня (Вялікія Пікі і Малыя Пікі)?

„Людзі як колечы адукаваныя“, „саступаючыя пры спатканьні з ворагам“—мясцовыя зямляўласьнікі, значыць, зграя ўрадовых асоб, халопы павятовага ямыня—гэта „Вялікія Пікі“.

„Неадукаваная“, „несьвядомая моладзь“, г. зн. дзеці бядняцкага сялянства, „наступаючыя на ворага“—гэта „Малыя Пікі“.

Наўрад ці існуе „тэорэтычная розьніца“ паміж „вучэньнямі“ абедзьвюх галін „Чырвоных Пік“—у нянавісьці „Малых Пік“ да Вялікіх і наадварот проста знаходзіць сваё выражэньне клясавая барацьба на вёсцы.

Сучасны сялянскі рух у Кітаі, рух „Чырвоных Пік“, „Вялікіх Нажоў“ ды іншых тайных сялянскіх організацый па размаху і адноснай вазе можна параўнаць хіба толькі з тайпінскім паўстаньнем. Але часы зараз у Кітаі ня тыя, што былі ў сярэдзіне XIX веку. Зараз у Кітаі кіруе барацьбой компартыя, зараз рух у руках шматмільённага організованага пролетарыяту і сялянства—толькі магутны яго рэзэрв. Вось чаму на гэты раз ангельскім гарматам не задушыць рэволюцыі ў Кітаі: у рэволюцыянэраў

*) А баксёрскім паўстаньні гл. цікавую кніжку Янчэўскага—„У врат недвижного Китая“ і „Общество Ихэтуань“ А. В. Рудакова.

Кітаю, апрача пік, ёсьць на гэты раз і гарматы. Розьніца яшчэ і тая, што і ў мэтрополіях імпэрыялістых ёсьць магутны хаўрусьнік кітайскай рэволюцыі—пролетарыят гэтых краін.

Якія-ж карані мае сучасная аграрная рэволюцыя ў Кітаі?

Яе экономічныя папярэднія ўмовы мы ўжо высьветлілі. Назавём яшчэ некалькі фактараў. 1) Концэнтрацыя зямельнай уласнасьці: ужо ў 1918 г. менш як 3 міліёны зямляўласьнікаў мелі зямлі больш, чым 31 міліён малазямельных і бядняцкіх сямей. У Кітаі ў сучасны момант гэты процэс бязумоўна пайшоў яшчэ далей. 2) Рост гандлёвага капіталу ў Кітаі. Аб гэтым сьведчаць вялізныя лічбы кітайскага ўвозу і вывазу, якія растуць, ня гледзячы на грамадзянскія войны апошніх двух амаль дзесяцілецьцяў. У сучасны момант значная частка буйнага зямляўладаньня ў Кітаі знаходзіцца ў руках цо-мой-май-дзі, г. зн. гандляроў. 3) Цяжар падатковага прэсу. Ён адчуваецца ў кітайскай вёсцы, як, мусіць, нідзе на сьвеце. Падаткі зьбіраюць і агенты ўраду, і мілітарыстыя-дудзюны, зьбіраюць за некалькі год наперад, і часта, каб павялічыць падаткі, заводзіцца прымусовая культура опіуму. 4) Рост дэклясаваных элемэнтаў. Яго папаўняе абезьзямеленьне шырокіх мас сялянства, бясконцая грамадзянская вайна, эпідэміі.

## II

Пераходзім да кароткага агляду здарэньняў Кітайскай рэволюцыі ад моманту зрады Гоміндану *). Галоўнымі кіруючымі організацыямі ў Кітайскай рэволюцыі былі Гоміндан і кітайская комуністычная партыя, самастойная партыя кітайскага пролетарыяту і бяднейшага сялянства, з тактычных меркаваньняў уваходзячая ў Гоміндан. Справа ў тым, што ў першапачатковы пэрыод разьвіцьця нацыянальнага руху ў Кітаі, Гоміндан быў масавай рэволюцыйнай організацыяй, якая ахапляла пролетарскія сялянскія, дробна-буржуазныя і часткай буйна-буржуазныя элемэнты. Праўда, былі ў Гоміндане ўжо і тады рэакцыйныя групоўкі: група Дай-Чы-Гао, ідэолёга буйнай кітайскай буржуазіі, якая адыграла вялікую ролю ў часе перавароту Чан-Кай-Шы 12 красавіка 1927 г.; была яшчэ больш правая так званая Сішаньская кліка, якая ў часе паўночнага паходу нават адкалолася ад Гоміндану, але зараз, калі Гоміндан перайшоў у лягер контррэволюцыі, зноў злучылася з ім. Але, наогул, Гоміндан на пэўнай ступені разьвіцьця Кітайскай рэволюцыі, стаяў на чале блёку пролетарыяту і сялянства, быў організацыяй рэволюцыйнай. Спачатку рэволюцыйна настроена былі (вядома ня шчыра—гэта быў з іх боку тактычны крок) і ішлі пад лёзунгам сунізму нават кантонскія гѐнэралы, бо і кітайская буржуазія і гэтыя генэралы разумелі, што без падтрыманьня кітайскіх працоўных мас ім не перамагчы паўночныя варожыя групоўкі У-Пей-Фу,

*) А папярэдніх этапах Кітайскай рэволюцыі гл. нашы артыкулы „Вялікі Сун"—Полымя № 3 за 1925 г.; „Апошнія падзеі ў Кітаі"—„Полымя" № 8 за 1926 г.

Чжан-Цзо-Ліна, Сун-Чуан-Фана і ня выгнаць чужаземны імпэрыялізм з краіны, а значыць, і ня зьдзейсьніць свайго ідэалу—стварэньня ў Кітаі нацыянальна-буржуазнае дзяржавы. Але генэралы і буржуазія ня „вытрымалі“: яшчэ ня скончыўшы добра пачатага паходу на Пэкін, галоўнакамандуючы рэволюцыйнай арміі Чан-Кай-Шы спалохаўся актыўнасьці рабочых і сялян і зрадзіў рэволюцыі. Спачатку больш „левы“ лідэр Гоміндану Ван-Цзі-Вей абурыўся вельмі пагрозным загадам аб заарыштаваньні зрадніка Чан-Кай-Шы. Даемо літаральны зьмест гэтага загаду: „Цзян-Чжун-Чжэн (Цзян-Кай-Шы) вінны ў збойстве мас, прыдушэньні партыйных органаў, пераходзе на бок рэакцыі, гэтым выключаецца з шэрагаў партыі Гоміндану і зьвальняецца з усіх сваіх пасад, згодна рэзолюцыі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту. Гэтым загадваецца, каб усе афіцэры і салдаты нашай арміі і рэволюцыйныя організацыі народу далажылі ўсіх стараньняў да яго арышту і перадачы цэнтральнаму ўраду, згодна закону аб контррэволюцыянэрах“ (з загаду Уханскага ўраду, ад 15-га красавіка 1927 г.).

Нанкін быў абвешчаны новым фронтам, вялася значная падрыхтоўка да барацьбы з Чан-Кай-Шы ў Ухане. Але гэтая барацьба так і не пачалася,—справа ў тым, што дробная буржуазія, прадстаўніком інтарэсаў якое стаў Уханскі ўрад, таксама спалохалася вялікага ўздыму рабочага і асабліва сялянскага руху. Апошні пачынае быць асабліва актыўным з вясны 1927 году.

Так, у аднэй толькі Хунані ў сялянскіх саюзах аб'яднана $5^1/_2$ міліёнаў чалавек, і яны пачынаюць энэргічную барацьбу і з хуліганствам і з джэнтры.

Калі пераварот Чан-Кай-Шы сыгналізаваў адыход буйнай буржуазіі ад рэволюцыі, наступная зрада глаўкома Уханскага ўраду генэрала Фын-Юй-Сяна абазначае адыход ад рэволюцыі буржуазіі дробнай. Вось невялікая вытрымка з ультыматуму Фына Ухану (цытавана па „Правде“): „купцы, гандляры, уласьнікі прамысловых прадпрыемстваў і зямляўласьнікі (foctory and land owners) прыгнятаюцца рабочымі і сялянамі. Кітайскі народ ня хоча такога дэспотызму. Нават сем'і салдат на фронце прыгнятаюцца, іх маемасьць конфіскуецца, і шэраг злачынстваў робіцца ад імя нацыяналістычнай партыі. Некаторыя чырвоныя праклалі сабе дарогу ў партыю, каб захапіць у свае рукі гоміндаяаўскі рух“. Тут усё зразумела, нават і тое, як армія, што ішла пад лёзунгамі нацыянальна-вызваленчага руху, абярнулася ў армію прыдушэньня рабочых і сялян Кітаю. Справа ў тым, што камсклад арміі сам цалкам з джэнтры, і калі да яго дайшлі весткі аб захопе сялянамі буйнага зямляўладаньня, гэта іх вельмі абурыла. Часта асобныя вайскаводы пачалі казаць, што барацьба за свае зямельныя ўладаньні з паўстаўшым сялянствам для іх задача больш актуальная, чым барацьба з паўночнымі мілітарыстымі. Паколькі салдаты Фына—наймiты і здараліся выпадкі конфіскацыі сялянскімі саюзамі гро-

шай, што пасылаліся салдатамі на радзіму,—загітаваць гэтых салдат проці сялянскага руху было ня вельмі цяжка.

Ухан вельмі мякка рэагаваў на ультыматум Фына: урад падзяляў страхі свайго глаўкома перад ростам актыўнасьці сялян і рабочых, урад капітуляваў. Праўда, адзін вельмі кароткі час хісталіся два больш левыя яго члены Ван-Цін-Вей і Чан-Ха-Куй, а адзін з членаў ураду Да-Нін-Да, начальнік політычнага кіраўніцтва уханскай арміі, каб ня зрадзіць рэволюцыі—уцёк. Але Ухан у цэлым здаецца Фыну. Ухан перасьледуе комуністых, апошніх выключаюць з Гоміндану. Першыя ластаўкі антыкомуністычнай дзейнасьці Ухану: камандзір 35-га корпусу прапануе комуністым-салдатам выйсьці з партыі, і, каб прыстрашыць, карае сьмерцю 9 комуністых-салдат; у Чанша адбываецца афіцэрскі пераварот, і Тан-Шэн-Чы, які быў пасланы туды для росьследу справы, пакараў сьмерцю 4 комуністых, якія былі далі адпор гэтаму перавароту. Момант зрады Ухана, аб'яднаньня супроць рабочых і сялян генэральскага фронту ад Чжа-Цзоліна да Фын-Юй-Сяна*) супадае з момантам больш цеснага аб'яднаньня аграрнай рэволюцыі ў Кітаі з рухам гарадзкіх рабочых. І першае і другое зараз падпадае пад значны ўплыў компартыі, якая вырасла і акрэпла ў барацьбе. Што сялянскі рух перастаў быць стыхійным і неорганізаваным, што ён організацыйна аформіўся, сталі адчуваць нават ворагі. Вось адрывак з паведамленьня Фына аб дзейнасьці „Чырвоных Пік“ у яго „вотчыне“: „Рух „Чырвоных Пік“ набывае небясьпечныя разьмеры. Лік узброеных ацэньваюць у чвэрць міліёна чалавек. Саюз „Чырвоных Пік“ магутна расьце і пранізаны комуністычнымі агітатарамі, якія ўдасканальваюць організацыю, вядуць пропаганду комунізму і організуюць комуністычны рух, які разбурае ўласьнасьць і дае адпор усялякай уладзе. „Чырвоныя Пікі“, калі ня ўжыць у стасунку да іх вялікай строгасьці, хутка могуць стаць нацыянальнай небясьпекай“ (цытавана па „Правде“, ліпень 1927 г.).

Некалькі наўдачу ўзятых фактаў з гэтага магутнага руху, які да гэтага часу ні на мінуту не заціхае ў Кітаі. Зьвернемся да газэт: „13 ліпня. Сялянскі саюз у провінцыі Хубей організаваў аддзелы абароны“. „15 ліпня. Чэн-Чы-Хо на чале сялянскіх аддзелаў падышоў да Сяо-Гуаню“. Такіх кароткіх тэлеграфных паведамленьняў можна даць сотні за пэрыод з ліпня 1927 г. па сучасны момант.

Каб апраўдаць сваю зраду рэволюцыі, уханскія „правадыры“ пачынаюць выдумляць дэкларацыі, у якіх імкнуцца сасватаць сунізм з контррэволюцыяй. Такімі зьяўляюцца дэкларацыі Ван-Цін-Вея і профэсара-гоміндануаўца Гоў-Мен-Ю (абедзьве зьмешчаны ў „Правде“ ад 15 ліпня).

*) Тав. Бухарын так характарызуе тагачасныя грамадзкія групоўкі у Кітайскай рэволюцыі: 1) Фэўдальныя дзяржыморды на чале з Чжан-Цзо-Лінам 2) Лібэральна-буржуазны блёк на чале з Чан-Кай-Шы. 3) Радыкальна-буржуазныя і дробна-буржуазныя групы Ухана. 4) Рабоча-сялянскі блёк. Зараз Нанкін і Ухан аб'яднаціся.

Асабліва цікавая профэсорская дэкларацыя, дзе Гоміндан і яго політыка абвяшчаюцца конструкцыйным соцыялізмам, а бальшавізм—„нігілізмам бакуніцкага характару“.

Паказальны факт: ад моманту зрады Чан-Кай-Шы і Фына пачынаюцца няўдачы на франтох барацьбы з „паўночнымі фэўдальнымі дзяржымордамі“ і, паралельна з гэтым, заляцаньне да іх, якое, трэба лічыць, хутка скончыцца поўнай згодай для сумеснай барацьбы з рабоча-сялянскай рэволюцыяй. Так, ужо 21 ліпня „маленькі Чжан“ (сын Чжан-Цзо-Ліна—Чжан-Сюэ-Лян) прыяжджаў дзеля перамаўленьняў у Ухан. Тады гэтыя перамаўленьні скончыліся нічым.

29 ліпня адбываецца аформленьне разрыву компартыі з Гоміндаанам: ЦК КПК выпускае дэкларацыю, у якой загніла зрадніцкую ролю Гоміндану і абвесьціла сапраўды рэволюцыйным толькі рух рабочых і сялян Кітаю.

Нібы ў адказ на гэтую дэкларацыю 2 жніўня адбываецца ў Ухане расстрэл рабочай дэмонстрацыі, а 9 жніўня арыштавалі 200 комуністых, з якіх 4 пакаралі сьмерцю.

Адначасна даецца загад ўсім арміям ліквідаваць у іх дзейнасьць компартыі. Два камандармы Хо-Лун (камандарм 28) і Іе-Цін (камандарм 24) ня выконваюць гэтага загаду і паднімаюць паўстаньне супроць Ухану. 8 жніўня яны захопліваюць горад Нанчан, пасьля пад напорам вялікіх сіл Чан-Фа-Гуэя ачышчаюць Нанчан і адступаюць у Вучжоу. Пад іх загадам—20 тысяч чалавек. Хо-Лун і Іе-Цін абвяшчаюць новы ўрад і старшынёй яго высоўваюць (праўда, ня ўзгодніўшы пытаньня з Сун-Цзін-Лін асабіста) удаву Сун-Ят-Сена. Яны імкнуцца злучыцца з паўстаўшым сялянствам Гуандуну, і пры актыўным падтрыманьні сялян пачынаюць прасоўвацца ў гэтую провінцыю. Відаць, пад уплывам гэтага паўстаньня 14 жніўня ствараецца ваенная згода паміж Нанкінам і Уханам, і на нейкі час Чан-Кай-Шы, як вельмі ўжо правая фігура, зыходзіць з політычнай арэны.

Момант скарысталі і паўночныя мілітарыстыя: Сун-Чуан-Фан заняў Пукоу, што стварыла непасрэдную пагрозу самому Нанкіну.

А Хо-Лун з Іе-Цінам прасоўваліся наперад, на поўдзень. 20 жніўня яны забралі Учжоу (павятовы горад у провінцыі Цзянсі), 25 жніўня яны ўжо увайшлі ў Гуандун і там злучыліся з раскіданымі па ўсёй провінцыі аддзеламі „Чырвоных Пік“. Пры гэтым яны перамаглі генэрала Чэн-Да-Чуна і забралі горад Цінчжоу. Пад уплывам посьпехаў Хо-Луня і Іе-Ціна расьце сялянскі рух: ён значна разрастаецца ў Хунані, Хубеі, Цзянсі. У пачатку верасьня пад пагрозай захопу чырвонымі аказваецца горад Сватоу. У Хунані організуецца сялянская рэволюцыйная дывізія. якая захапіла горад Пандзян і злучылася з адным аддзелам Хо-Луня. 13 верасьня Іе-Цін і Хо-Лунь перамаглі кантонскага дыктатора Лі-Цін-Сіна.

Посьпехі чырвоных выклікаюць выбух белага тэрору па поўдні Кітаю: адбываюцца масавыя кары сьмерцю комуністых, асабліва у Сватоу і Чанша, дзе, як быццам, была раскрыта „комуністычная змова".

15-га верасьня ў рукі комуністых трапляе транспарт срэбра ў сто тысяч доляраў.

27 верасьня рэволюцыйная армія забрала Сватоу. Рэволюцыйная ўлада агаласіла дэклярацыю, якая кліча да конфіскацыі панскай зямлі і да перадачы яе бяднейшаму сялянству. Не пасьпелі яшчэ як сьлед асталявацца Іе-Цін і Хо-Лунь у Сватоў, як туды прыбылі ангельскія канонэркі. Сватоу нядоўга заставаўся ў руках рэволюцыйнай арміі, яго прымушаны эвакуаваць, і арміі Хо-Луня і Іе-Ціна зьліваюцца з рэволюцыйнымі сялянскімі аддзеламі, якіх поўна ў Гуандуне, Цзянсі, Фудзяне.

16 лістапада на некалькі дзён у рукі чырвоных трапляе Чанша. 13 сьнежня незабытны дзень у гісторыі Кітайскай рэволюцыі. У гэты дзень асьмялеўшыя, дзякуючы паўстанцкаму руху ў Паўднёвым Кітаі, сяляне і рабочыя, разам з часткай рэгулярных войск, захапілі ў свае рукі ўладу у Кантоне. (Цытуем па тэлеграме агенцтва ТАСС). Была выпушчана адозва, якая канчалася лёзунгамі „Прэч Лі-Цін-Сіна, Ван-Цзі-Вея, Чан-Фан-Гуя! Прэч Гоміндан, які бароніць інтарэсы контррэволюцыі! Зямля—сялянам! Рыс і мяса—рабочым! Чырвоныя сяляне і войска—адзіная сіла, якая можа бараніць масы!" Быў створаны Савецкі ўрад у Кантоне. Склад гэтага ўраду: старшыня Сю-Цзяо-Цзен (член ЦК КПК), міністр працы Чжоу-Вен-Сюн, зямляробства—Пан-Пай, чужаземных спраў Хуан-Ін, юстыцыі Чэн-Ю, грашовых спраў Хэ-Лай, вайсковых і морскіх спраў Чан-Гай-Лай, кіраўнік справамі Юн-Тай-Йін, глаўком Іе-Цін. Пачала выдавацца газэта „Хундзі" („Чырвоны Сьцяг"). Да паўстанцаў далучылася флёта. Савецкая ўлада праіснавала ў Кантоне 2 дні. 15-га сьнежня войска Лі-Фу-Ліна прарвалася ў Кантон, але рэволюцыйнага войска яно не перамагло: яно прарвалася і выйшла ў провінцыю. З гораду войска выходзіла са словамі: „Мы хутка вернемся".

Расправа з рэволюцыйным Кантонам, пасьля таго як ён быў забраны войскамі Лі-Фу-Ліна,—адна з самых крывавых старонак Кітайскай рэволюцыі. У той дзень, калі горад быў забраны, было зьнішчана больш 1.000 чалавек. Кары сьмерцю не прыпыняюцца, хоць ужо больш месяца прайшло з часу савецкага перавароту ў Кантоне. Рэволюцыянэраў і проста „падазроных" зьвязваюць групамі, абліваюць газай і паляць, іх топяць у моры, сякуць галовы і на вуліцах і на пляцох.

Мудры Чан-Кай-Шы бачыць у кантонскім пераeasіроце зламысную руку Масквы. „Кожнае савецкае консульства—штаб комуністычнай агітацыі; кожны аддзел Дальбанку—фінансавая організацыя для падтрыманьня антыўрадавай дзейнасьці ў Кітаі"—„сказаў" гэты мудры муж, які ня ўгледзеў унутраных прычын Кітайскай рэволюцыі. Ergo—зьнішчай усё з СССР у Кітаі. У выніку нячуванае ў гісторыі дыплёматы

забойства віцэ-консула СССР у Харбіне, т. Хасіса, кара сьмерцю яшчэ 13 рускіх, арышты і зьдзекі над работнікамі нашага консульства ў Кантоне, разрыў дыплёматычных зносін паміж Паўднёвым Кітаем і СССР. Дрэнны рэцэпт для зьнішчэньня рэволюцыі ў краіне, дзе паводле наказу Суна, ўсё сапраўды рэвалюцыйнае з надзеяй глядзіць на краіну Саветаў, гэтага „сапраўднага і адзінага сябра новага Кітаю", паводле выразу Суна.

Добры адказ Чан-Кай-Шы дала пасьля ўсіх гэтых здарэньняў на яго запросіны вярнуцца ў Кітай удава Сун-Ят-Сена Сун-Цзін-Лін. „Калі я вярнуся,—тэлеграфуе яна Чай-Кай-Шы,—дык толькі з мэтай далучыцца да барацьбы рабочых і сялян, якіх зараз забівае азьвярэлая рэакцыя, якая нахабна прыкрываецца сьцягам Гоміндану. З тэй вышыні, на якую падняў рэволюцыю наш незабыты правадыр, дзякуючы дапамозе рэволюцыйных сіл усяго сьвету, вы апусьцілі яе, даўшы ёй магчымасьць абярнуцца ў зброю для дробных, подлых мілітарыстых, на словах як быццам паважаючых Сун-Ят-Сена. Я іду па шляху рэволюцыі. Гэта адзіны шлях, ідучы па якому можна шанаваць памяць нашага правадыра, і з гэтага шляху я не зьвярну. Аб гэтым я казала ў сваёй дэклярацыі перад ад'ездам з Ханькоу і ў гэтым я моцна зьяднана з міліённымі працоўнымі масамі маёй краіны, якія перамогуць сучасную крывавую рэакцыю. Здрада справе рэволюцыі—справа ня новая, здрада разьбіла сэрца нашаму правадыру, але яна ня можа зьнішчыць рэволюцыю".

---

У заключэньне аб памылках опозыцыі ў ацэнцы апошніх здарэньняў у Кітаі. Тав. Сталін у артык. „О Китае" (НККИ и ВКП(б) по кит. вопросу) зьвёў іх да наступных момантаў:

1. Рух у розных краінах нельга шаблёнізаваць агульнымі для ўсякай краіны і ўсякай рэволюцыі формуламі; патрэбен прынцып абавязковага падліку нацыянальнага спэцыфічнага ў кожнай асобнай краіне пры выпрацоўцы кіруючых заўваг Комінтэрну для рабочага руху гэтых краін. Опозыцыя якраз і робіць гэту памылку, калі высоўвае для Кітаю формулу расійскай рэволюцыі 1905 году: прэч усякія згоды з буржуазіяй (у красавіку 1926 г.). Опозыцыя „забылася", што становішча ў Кітаі да здрады Гоміндану было зусім не такім, як у Расіі 1905 году, што Кітайская рэволюцыя—буржуазная рэволюцыя антыімпэрыялістычнага тыпу, і на пэўным яе этапе буржуазія саслужыла рэволюцыі добрую службу. Тады блёк з буржуазіяй быў канечна патрэбны. 13 красавіка 1927 г. опозыцыя сама прызнала сваю гэту памылку.

2. Опозыцыя парашыла, што фэўдалаў у Кітаі няма, а значыць, і барацьба сялянства асаблівага значэньня ня мае, як барацьба супраць нязначных у Кітаі перажыткаў фэўдалізму. Грандыёзны размах аграрнай рэволюцыі ў Кітаі паказаў зусім адваротнае—і опозыцыя моўчкі прызнала і гэту сваю памылку.

3. Опозыцыя часовую няўдачу Кітайскай рэволюцыі тлумачыць памылкамі комінтэрнаўскага кіраўніцтва. Гэта відавочна не марксыцкая пастаноўка пытаньня, і ў гэтым абвінавачваньні самы цяжкі „грэх“ опозыцыі. „Толькі людзі, якія парвалі з марксызмам,—гаворыць Сталін,—могуць патрабаваць, каб правільная політыка вяла заўсёды і абавязкова да *непасрэднай* перамогі над ворагам. І тав. Сталін падае прыклады з 1905 г. і ліпня 1917 г., калі кіраўніцтва партыі было бязумоўна правільным, але перамога па об‘ектыўных прычынах *тады* не *далася*. Непасрэдная перамога,—правільна зазначае т. Сталін далей,—тлумачыцца ня толькі правільнай політыкай, але і, перш за ўсё, і галоўным чынам суадносінамі клясавых сіл, відавочнай перавагай сіл на баку рэволюцыі, распадам у лягеры ворага, спрыяльнымі міжнароднымі абставінамі“.

---

Якія-ж пэрспэктывы вялікай Кітайскай рэволюцыі? Іх коратка адзначыла войска кантонскага савецкага ўраду ў словах: „мы яшчэ вернемся“, з якімі яна пакінула гэты горад—калыску рэволюцыі ў Кітаі. Так, яны вернуцца, і не ў адзін толькі Кантон. Яны захопяць увесь Кітай, яны ўвесь вялізны Кітай зробяць Савецкім. Бо Кітай ужо паспрабаваў кераншчыны, пэражыў сваѐ ліпнёвыя дні. Але Кітай вельмі вялікі, клубок барацьбы у ім вельмі заблытаны, контррэволюцыя знаходзіць актыўнае падтрыманьне з боку эўропэйскага і амэрыканскага імпэрыялізму. А сялянства, якое з чырвонымі гальштукамі на грудзях вядзе барацьбу поплеч з рабочымі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, яшчэ ў некаторых мясцох настроена містычна, яно яшчэ організуе аддзелы „няўразных“, якія вераць у тое, што ні куля, ні меч іх ня возьмуць. Вось чаму, пераконаныя ў перамозе савецкага прынцыпу ў Кітаі, мы можам толькі варажыць аб тэрмінах. Што рэволюцыя ў Кітаі пераможа—сьведчыць рост Кіткомпартыі, надзвычайны рост яе популярнасьці сярод дзесяткаў міліёнаў паўстаўшых сялян і рабочых Кітаю, разам з заходам славы апэцкаўшага свае рукі ў крыві рэволюцыянэраў—Гоміндану. Калі рух трымаецца на актыўнасьці міліёнаў і міліёнаў рабочых ды сялян Кітаю, калі ў яго правільнае Ленінскае кіраўніцтва Компартыі Кітаю і Комінтэрну—дык ён абавязкова пераможа.

# „ЗАПАДНО-РУССКАЯ“ ШКОЛА І ЯЕ ПРАДСТАЎНІКІ*)

**Аляксандар Цьвікевіч**

## IV. Характарыстыка эпохі 70-х і пачатку 80-х гадоў

Эпоха пасьля другога польскага паўстаньня на Беларусі, пачынаючы ад канца 60-х гадоў і да сярэдзіны 80-х гадоў, зьяўляецца эпохай надзвычайнага заняпаду грамадзкага і культурнага жыцьця. Мы ведаем, які выключны ўздым навуковай і літаратурнай мысьлі характарызаваў Вільню перад самым паўстаньнем і за некалькі год да яго. Канец 50-х і пачатак 60-х гадоў былі ў гэтым сэнсе пэрыодам усебаковага ўзросту культуры краю, праўда, культуры польскай, але слаўнай і адбіваўшай прамень свайго росквіту далёка на ўсход і на захад. Побач з разьвіцьцём польскай культуры, ў Вільні паволі вырастала і беларуская ідэя, пакуль што ў так званым „літоўскім“, або „крывіцкім“ абліччы, але безварункова ў мясцовым, этнографічна-беларускім. І нямаведама, хто яшчэ ўзяў-бы гару ў далейшым разьвіцьці краю,—плынь на Польшчу, на Варшаву, ці літоўска-беларускі этнографізм. Калі прыгледзецца да тае „літоўскае“ партыі, якая гуртавалася каля Нарбута, калі дазнаць глыбіню працы і захопленасьць ёю, чым адзначалася гэтая партыя ў асобах Адама Кіркора, Сыракомлі, Адынца і іншых,—дык прыдзецца згадзіцца, што яна такі брала гару над чыстай польскасьцю, і раней ці пазьней, але запанавала-б у Вільні.

У беспасрэднай сувязі з гэтай групай былі першыя спробы беларускай літаратуры, што выявілася ў творчасьці Вінцука Марцынкевіча і Яна Баршчэўскага, якія хоць і ня жылі ў Вільні, але безварункова духова былі з ёй зьвязаны. Мы ведаем, што паміж гэтай краёвай „літоўскай“ групай і прэтэнзіямі чыста польскімі ўжо адбывалася ў тыя часы барацьба. Аб гэтай барацьбе сьведчыць, між іншым, мала дасьледваны эпізод з так зв. „Віленскім Альбумам“. Album Wileński быў складзены мясцовай групай літаратараў і публіцыстых у 1858 г. пад час прыезду ў Вільню Аляксандра II. Гэта быў год жывых надзей, лібэральных настрояў у грамадзтве і прадчуваньня надыходзячай сялянскай рэформы. На чале групы стаяў Адам Кіркор, які і паднёс альбум Аляксандру. Вінцук Каратынскі зьмесьціў у ім „Песьню з паклонам“ ад імя

*) Гл. „Полымя“ № 2.

„літоўска-русінскай мужыцкай грамады“; песьня пачыналася так (падаем яе ў орыгінальнай ортографіі) [1]):

Вставаймо, братцы, да дзѣла, да дзѣла.
Зъ повначы пѣвень залопавъ крыломъ.
Нуже, каб жыво работа паспѣла,—
Выслаць гасьціняцъ жовцянькім пяскомъ,
Дружно, громадо, въ сердечнуй ахвоцѣ,
Духам насилки на плечы узьдзѣнь.
Ох! только ноччу неспорно въ рабоцѣ.
Узыдзи нам, совняйко! прывядзи намъ дзѣнь!

Альбум сустрэў жорсткія нападкі і памфлеты з боку палякаў Царства Польскага, якія ўбачылі ў выступленьні „літвіноў“ нацыянальную зраду. Аднак гэтыя нападкі мала ў чым зьмянілі тагачасных польска-беларускіх патрыётаў: Адам Кіркор, прыкладам, так і застаўся на ранейшай мясцовай позыцыі, вельмі далёка ад настрояў і жаданьняў Варшавы [2]).

Аб разыходжаньні сьведчыць і слабы ўдзел памянёнай групы ў паўстаньні і літаратурныя сваркі на віленскім грунце ласьне ў зьвязку з беларушчынай. Адам Плуг (А. Петкевіч) папераджаў Вярыгу-Дарэўскага, што польскае чыстакроўнае панства ставіцца да яго з варожасьцю,—за сымпатыю да „Беларускай дуды“:

...Крыкнуць на цябе паноўе,
Што ты здраднік і місьцюк,
Страціш гонар і здароўе
І дуду упусьціш з рук [3]).

І хто ведае, кажам мы, чым-бы скончыліся гэтыя разыходжаньні, калі прыняць пад увагу, што вызваленьне сялянства зьнішчала галоўную перашкоду да выйсьця на арэну беларускай сялянскай інтэлігенцыі, і што ўсьцяж разьвіваныя працы па мясцовай гісторыі і этнографіі ўсё больш і ўсё шчыльней набліжалі сьвядомасьць мясцовага грамадзтва да пераконаньня, што тутэйшы край ня ёсьць Расія і ня ёсьць Польшча, а ёсьць Беларусь. З-пад старых польскіх забабонаў а „правох“ Польшчы на гэты край, з-пад мацнейшага слою польскіх культурных уплываў, створаных тут праз вякі,—у Вільні пры канцы 50-х і пачатку 60-х гадоў яскрава пачала выбівацца беларуская нацыянальная ідэя. Цяжэйшы экономічны стан краіны, які выклікаўся жахлівай беднатой беларускага

---

[1]) Поўны тэкст гэтага рэдкага вершу гл. Карский: „Белоруссы“, т. III, стар. 70—71; таксама т. II, 3, стар. 319—321. Аб гэтым-жа гл. у А. Пыпіна: „Истор. русск. этногр.“, т. IV, стар. 64, прым.

[2]) Гл. Янчук: „А. Киркор.—Краткий очерк жизни и деятельности“. („Древности“, том XII).

[3]) Гэты верш у Карскага, т. III, стар. 68. (паданы ў няпоўнай рэдакцыі) прыпісваецца Францішку Караффа-Корбу (Jaheli Prancisz Wul). Па нашых вестках, ён быў напісаны А. Плугам у альбум Вяр.-Дарэўскаму, які (альбум) да вайны знаходзіўся ў Віленскім Museum T-wa Przyjaciół Nauk.

сялянства і адсутнасьцю ў краі прамысловасьці, мусіў пасьля скасаваньня прыгону і пры нормальных абставінах зьмяніцца на лепшае і даць экономічны грунт для нацыянальна-культурнага адраджэньня.

Паўстаньне 63 году і агульная рэакцыя, што пачалася ў імпэрыі хутка пасьля правядзеньня рэформаў, рашуча спынілі разьвіцьцё падзей ласьне ў гэтым кірунку. Разгром Муравьёва і той рэжым гвалту ды тэрору, якім ён нішчыў „пальшчызну" на Беларусі, зьнішчыў і кволыя пачаткі беларускага культурнага руху. У Вільні, як і ва ўсім краі, запанавала офіцыяльная казённая „русская народность", расійскае войска, паліцыя, жандармэрыя, расійскі чыноўнік і яго мова. Пачалося змаганьне за „душу" беларускага насельніцтва, за яго веру і будучыню, змаганьне шляхам штучнага насыланьня „истинно-русского" настаўніцтва, расійскай кнігі, адкрыцьця расійскіх кніжных крам, школ і бібліотэк.

Усе гэтыя ўрадовыя „меры к восстановлению русской народности" на Беларусі, якія пачаліся за Муравьёвым і цягнуліся пры бліжэйшых яго памоцніках, агульна вядомы. Перш за ўсё, яны былі накіраваны на Вільню, і праз які-небудзь год-два дасягнулі сваёй мэты: усё жывое, усё зьвязанае з краем, з яго думкамі і настроямі, усё, што працавала над яго мінулым і аддавала сілы сучаснасьці, усё гэта як-бы зьнікла нямаведама куды. „Пад час апошняга пагрому, яны быццам былі змыты з аблічча зямлі, іх як-бы зьмяла нейкая нявідная рука. Хто памёр, хто выехаў. Засталася толькі нярухомая старасьць—паміраць", пісаў адзін староньні сьведка пасьля паўстанчых падзей, якому давялося быць у тыя часы ў Вільні [1]).

У 1864 годзе памёр „патрыярх" Нарбут; за год перад ім, у самы разгар паўстаньня, зышоў са сцэны Міхал Балінскі, аўтар „Старажытнай Польскі" і друг Лелевэля; „граючы на ліры", памёр у 1864 г. Сыракомля, на хаўтурах якога быў шматтысячны натоўп віленскай моладзі ў сялянскіх народных вопратках; Кіркор пераехаў у Пецярбург, а потым у Кракаў; Крашэўскі бадзяўся па чужыне; памёр Ігнат Ходзька, а Аляксандр Ходзька старым чытаў лекцыі па славяназнаўству ў парыскай Сорбоне; Адынец, Круповіч і Каратынскі дажывалі сваё жыцьцё ў Варшаве. З ўсёй гэтае плеяды ў Вільні заставаўся семідзесяцілетні Паўла Кукальнік, напоў славак, напоў расіец, сябра Сыракомлі і адзін з заснавальнікаў віленскага музэю [2]). Рэшта была зьмецена рукой гісторыі з Вільні і з краю, хто куды, і не падавалі вестак аб сваім існаваньні. „Як перад політычнай бурай, так і пад час яе грозных праяў сьмерць гвалтоўна павырывала з ліку віленскага грамадзтва найбольш выдатныя адзінкі, нібы хацела пазбавіць іх няшчасьцяў і гора",—піша А. Кіркор у сваіх „Успамінах" [3]).

---

[1]) П. Безсонов—„Белорусские песни", прадмова, стар. XXVIII.

[2]) А. Шверубович: „Братья Кукольники", Вильно, 1885 г.

[3]) „Ze wspomnień wileńskich", A. Kirkor, „Kraj", 1884, № 3.

На месца старых працаўнікоў пачалі прыходзіць новыя людзі, якія нібы-то хацелі пераняць на сябе ролю правадыроў культурнага руху і быць прадстаўнікамі новых ідэй. Заснаваўся „Северо-Западный отдел русскаго географическаго общества“ [1]), які „асабістым складам сваіх заснавальнікаў забясьпечваў новую ўстанову ад „вторжения“ шкодных людзей“ (§ 4 статута); папячыцелі Корнілов і Батюшков, адстаўны флёт-капітан Шанурін, Нікітін,—начальн. канц. ген.-губ. Энгель—цэнзар, протоерэй Гомоліцкі ды інш. ня менш вядомыя асобы,—вось хто стаў ці, бліжэй кажучы, хацеў стаць на чале мясцовага жыцьця. Амаль за дзесяць год існаваньня (1867—1876 г. г. памянёны аддзел меў некалькі дзесяткаў пасяджэньняў, але толькі пад канец свайго існаваньня, і то дзякуючы Е. Раманаву ды Н. Нікіфароўскаму, сабраўся выдаць 1-шы і апошні том сваіх „Запісак“; пуставала віленская публічная бібліотэка, паціху працаваў „цэнтральны архіў дрэўніх актыўных кніг“, дзе заселі Шолковіч са Спрогісам і пазьней Снітко,—ды вось, здаецца, усё, чым магла пахваліцца Вільня ў першыя дзесяцілецьці пасьля паўстаньня.

Аднак перамога, якую сьвяткаваў над краем Муравьёў, былі для яго і для ўсёй яго справы кароткай. Ня здолеў ён выбіць 1 студзеня 1865 г. мэдаль у адзнаку замірэньня паўстаньня, як павінен быў выяжджаць з Вільні. Пад націскам прыдворнай антымураўёўскай партыі ў Вільні пачалася ґенэрал-губарнатарская „чэхарда“: адзін год гаспадарыў Каўфман, які стварыў, паводле водзыву дасьведчаных сучасьнікаў, „немагчымую распусту сярод расійскіх чыноўнікаў на Беларусі“ [2]); за ім прышоў гр. Баранаў, які зьдзівіў усіх тым, што быў лютаранінам; урэшце, як вынік канчатковай перамогі ворагаў Муравьёва, лёс краю быў пераданы ў рукі ген.-губ. Потапова.

Назначэньне Потапова было пачаткам новай паласы жыцьця Беларусі, якая (паласа) ў патрыётычнай літаратуры так і завецца „патапаўскай“. Яшчэ ў бытнасьць сваю памоцнікам Муравьёва па грамадзянскай часьці, Потапов заявіў сябе выключна бяспрынцыпным чалавекам, які найбольшую смагу меў не да палітыкі, але да віленскіх буфэтчыц, харыстак і кавярак. „Скандальны валацуга, вядомы ў той час усёй Вільні, аб якім знаходзім шмат паліцэйскіх протоколаў, Потапов быў ня раз расьпяканы суровым у гэтым сэнсе Муравьёвым. Усе ведалі і аб яго сувязі з „Юдіфью з-над берагоў Дзьвіны“—граф. Марыяй Плятар,

---

[1]) Аб двейнасьці яго гл. Д. Довгяло: „К истории Северо-Зап. Отдела“ (Материал и заметки), „Записки Сев.-Зап. Отдела Рус. Геогр. Общества“ кн. 1, 1910 г. Стар. 10—33 і кн. 2, 1911 г. Стар. 17—47; таксама А. Пыпин, т. IV, стар. 147—148.

[2]) У „Новым Времени“, 1870 г. № 15, знаходзім малюнак адміністрацыйнай разьюшанасьці, якому цяжка даць веры: „Былі гэткія дзеячы, якія адважваліся строіць радамі ксяндзоў на гандлёвым пляцу горада. Надзявалі ім на галаву каскі пажарных салдат і казалі ім, што з іх вышлі-б добрыя салдаты. Для паўнаты малюнку ззаду ставілі іхніх ахмістржыняў і ў дзьве шэрэнгі прымушалі маршыраваць па горадзе“.

якая, па чутках, трымала яго ў сваіх руках[1]). „Я ніколі, ні ў чым і нікому ў жыцьці сваім ня верыў, і ніколі ня меў прычыны ў гэтым каяцца", казаў пра сябе Потапов мітр. Аляксандру. Ёсьць сьведчаньне, праўда ня зусім бесстароньняе, нібы-то, на сваё назначэньне ён глядзеў з пункту погляду асабістай карысьці, а ня з пункту погляду задач расійскай улады ў краю: „Палякі-памешчыкі, казаў ён, заўсёды дадуць мне палажэньне і значэньне ў грамадзе і па службе; яўрэі—грошы, а мясцовыя праваслаўныя папы нічога, апрача клопатаў, мне не прынясуць" [2]).

У гэтай характарыстыцы адно праўдзіва: муравьёўская сыстэма абрусеньня Беларусі, стаўка на „истино-русский" элемэнт і праваслаўе была Потаповым ліквідавана і заменена цярпімымі адносінамі да мясцовых палякаў. „Месца „истино-русских" людзей,—скардзіцца адзін з гісторыкаў потапоўскага рэжыму,—занялі ў лепшым выпадку добрыя выканаўцы-чыноўнікі. Пачалася нячуваная трагі-камэдыя: паперы, як звычайна, пачыналіся словамі: „вследствие", „во исполнение", нават „в дальнейшее развитие" тых або іншых мерапрыемстваў Муравьёва ці Каўфмана,—а на справе выходзіла руйнаваньне іх плянаў і пачынаньняў" [3]).

Гэта адбілася і на практыцы: найбольш выдатныя і ўпартыя мураўёўскія супрацоўнікі—І. Карнілаў, Батюшков, Шэстаков (граж. губарнатар, пазьней морскі міністар)—хутка зьляцелі са сваіх пасад і былі заменены нявыразнымі ў гэтым сэнсе Сергіевскім (папячыцель вуч. акругі) і Стеблін-Каменскім (гражданскі губарн.). Яшчэ больш характарна выявіліся абыякія адносіны Потапова да задач абрусеньня краю ў конфлікце, што ўзьнік паміж ім і Сямашкай, які жыў тады яшчэ ў Вільні. За год да назначэньня Потапова, Сямашка, як-бы адчуваючы зьмену ўрадовага курсу, пісаў у сынод: „усё вяшчуе для літоўскай паствы добрую будучыню, калі таму не перашкодзяць якія-небудзь, барані божа, непрадугледжаныя акалічнасьці". Гэтыя „акалічнасьці" здарыліся: 2 лютага 1867 г. ў Вільні зьявіўся Потапов, і ўся саракагадовая ўпартая дзейнасьць Сямашкі была як-бы пастаўлена пад знак запытаньня. Пры канцы свайго жыцьця правадыр праваслаўя на Беларусі, „першы, паводле выразу А. Белецкага [4]), сур'ёзны абрусіцель заходняга краю, у самым высокім, шляхетным значэньні гэтага слова"—Сямашка ўбачыў пагрозу сваёй ідэі і магчымасьць крушэньня зробленых дасягненьняў. Нязвычайная роспач, выкліканая гэтай акалічнасьцю, безварункова прычынілася яго хваробе і прысьпешыла яго сьмерць.

---

[1]) Гл. А. Владимиров: „Как пишется история", „Русское Обозрение", 1896 г., т. XLVII; М. М. Коялович: „Юдифь с берегов Двины", дад. да „Нов. Времени", 1895 г.

[2]) М. Коялович: „Поездка в середину Белоруссии", 1887, стр. 15.

[3]) „Славянское Обозрение", 1892 г. Январь, артыкул П. Жуковіча аб М. С. Кояловичу.

[4]) А. Белецкий: „Іосиф, м. литовский, как первый поборник русских интересов в Сев.-Зап. крае", Вил. Календарь, 1886 г., стар. 218.

У нявыданых „Запісках“ Сямашкі і ў справах літоўскай дух. консысторыі знаходзяцца надзвычайна цікавыя матэрыялы, з якіх відаць этапы барацьбы паміж гэтымі двома заклятымі ворагамі: Сямашка ня меў прычыны і ахвоты хаваць свае антыпатыі да Потапова і імкнуўся зваліць на яго віну ў тым, што пасьля яго назначэньня пачаўся масавы пераход ранейшых уніятаў у каталіцтва. У сваю чаргу Потапов, умываючы рукі ў рэлігійных справах, казаў, што ў гэтым вінавата праваслаўнае духавенства. На справе выходзіла, што вінавата ў гэтым паліцыя, якая ня ішла насустрэч праваслаўным папом: „Дзеля таго, што з пачатку далучэньня да праваслаўя (вуніятаў) гражданская ўлада і паліцыя прыймалі ў гэтым жывы і чынны удзел, а цяпер, ужо больш году „не оказывают ни малейшего содействия в присущих беспорядках“, дзеля гэтага становішча і ход праваслаўя прадстаўляецца вельмі сумным“,—так жаліўся Сямашцы адзін з провінцыяльных папоў і прасіў „дапамогі ад вайсковых начальнікаў віленскага павятовага спраўніка і „господина пристава“. Ніякай дапамогі, паводле загаду Потапава, гэтыя „господа“ агентам Сямашкі—не давалі [1]).

Наадварот, найбольш рашучыя і адданыя супрацоўнікі Сямашкі былі зьняты тады са сваіх пасад, у тым ліку ў 24 гадзіны быў зьняты і сасланы ў Канстантынопаль загадчык Віленскага духоўнага вучылішча Смарагд.

Школьная справа, якая была пры Муравьёве найбольшым засабам дэнацыяналізацыі Беларусі і якая зьяўлялася найлепшым выражэньнем русыфікацыйнага напору, пры Потапаве, таксама як і пры яго наступніках—Альбедінскім і Тотлебене, да пачатку 80-х гадоў, занепадае. Вось табліца заснаваньня школ, якая найлепш нас у гэтым пераконвае [2]).

(Для параўнаньня мы падаем лічбы па Смаленскай губ.):

| ГУБЭРНІ | Заснавана школ | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Да 1861 г. | З 1861 да 1863 г. | З 1864 г. да 1868 г. | З 1869 г. да 1873 г. | З 1874 г. да 1880 г. |
| Віцебская | 7 | 24 | 105 | 20 | 12 |
| Менская | 30 | 93 | 128 | 48 | 38 |
| Магілеўская | 19 | 20 | 56 | 35 | 51 |
| Смаленская | 30 | 10 | 14 | 36 | 122 |

З паданых лічбаў відаць, што, пачынаючы з 1861 г. і да 1868 г., лік школ у трох беларускіх губэрнях надзвычайна хутка ўзрастаў. Гэта быў

[1]) Гл. Киприянович: „Жизнь и деятельность митр. Иосифа“, стр. 412.

[2]) Семенов: „Верхнее Поднепровье и Белоруссия“. гл. IV, „Народное Образование“, стар. 122—123.

пэрыод урадаваньня віленскай акругай кн. Шырынскага-Шахматава, пры якім на Беларусі было заснавана каля 200 новых народных школ і потым (ад 1864 да 1868 г.) пад час урадаваньня Корнілова. Спыненьне ўзросту ліку школ, пачынаючы з 1869 г., тлумачыцца, зразумела, ня тым, што Беларусь была ўжо „насычана“ расійскай школай, але моцным паслабленьнем тэмпу русыфікацыі. Характэрна пры гэтым адзначыць, што, як відаць з паданай табліцы, побач з памяншэньнем ліку па Менскай, Віцебскай і Магілеўскай губ., лік школ па Смаленшчыне з 1874 г. па 1880 г. нязвычайна ўзрос. Гэта тлумачыцца тым, што Смаленшчына, як тэрыторыя ня „инородческая“, атрымала земствы і ў школьнай справе хутка пайшла ўгору. Беларусь у народнай асьвеце ў гэты пэрыод ішла ўніз.

Можна з пэўнасьцю сказаць, што ў глухую пару 70-х гадоў расійская палітыка ня цікавілася Беларусьсю; яна як-бы забылася аб яе існаваньні і спыніла гутаркі а пагрозах палёнізму і лацінства. Таксама, як і пасьля першага паўстаньня 31 г., Пецярбург у гэты час быў здаволены адным фактам прыналежнасьці Беларусі да імпэрыі і лічыў, што даволі агульна-адміністрацыйнага аб'яднаньня яе з цэнтрам.

Падобныя адносіны мелі, бязумоўна, свае глыбокія прычыны З аднаго боку, расійскаму ўраду было занадта сваіх унутраных клопатаў, каб задавацца актыўнай русыфікацыяй і барацьбой з палёнізмам. Саслоўная монархія ў асобе дваранскіх станаў у гэты пэрыод цяжка ператраўляла тыя рэформы, што адбыліся, падцягвала свае сілы і рабіла перагрупоўку іх у сувязі з новым экономічным парадкам, які быў выкліканы вызваленьнем сялян і нараджэньнем цэнтральна-расійскай прамысловасьці. Дзякуючы ўзросту прамысловасьці, пачалі складацца першыя кадры расійскага пролетарыяту і пачаў вырастаць першы расійскі соцыялістычны рух. 70-ыя гады адзначаліся ў Расіі моцным ўздымам рэволюцыйных настрояў, які знаходзіў сваё выражэньне ў шырокай хвалі народніцтва, у „хождении в народ“. Уся эпоха была поўна водгаласкаў пропаганды Герцэна і Бакуніна, утварылася „Народная Воля“; Лавроў, Некрасов і малады Плеханов цалкам панавалі ў настроях расійскай моладзі і асабліва студэнцтва. У літаратуры ішла апошняя зацятая барацьба паміж западнікамі і славянафіламі, і падняўшая галаву рэакцыя, перапалоханая ўзростам опозыцыйна-рэволюцыйных настрояў, заклікала вуснамі Леонтьева да патрэбы „замарозіць Расію“, каб выратаваць яе ад пагібелі і заходня-эўропэйскага соцыялізму.

Сталіцы імпэрыі былі захоплены нячуваным грюндэрствам: усе 70-ыя гады былі пэрыодам росквіту банкавае справы, будаўніцтва чыгунак, заводаў і фабрык; ствараліся і лопаліся, як мыльныя пузыры, вялізарнейшыя капіталы з удзелам загранічных фінансыстых,—уся Расія абярнулася ў нейкую біржу, дзе здавалася ўсё можна было прадаць і купіць.

І побач з гэтым, на мануфактурах, заводах, чыгунках зьяўляліся проклямацыі „Зямлі і Волі“, „Чорнаго Передела“. „Охранительная“ сыстэма, як наказ папярэдняй эпохі „вялікіх рэформ“, уваходзіла ў поўныя свае правы, і вонкавая і тайная паліцыя мела даволі работы, каб абараніць ад рэволюцыі сьвяшчэнную асобу цара і пачаўшы завальвацца дваранска-памешчыцкі быт.

Дзе-ж тут было думаць і клапаціцца аб „Северо-Западном крае“— Беларусі! Муравьёўскія шыбеніцы і семашкаўскія гвалты нарабілі столькі гармідару ў Эўропе, што Пяцербург з неахвотай успамінаў аб учарайшай расправе. А галоўнае, у Пяцербургу зразумелі, што душыўшы паўстаньне Мураўёў занадта перагнуў палку, калі абвесьціў ў мэтах русыфікацыі Беларусі амаль „сьвяшчэнную вайну“ мясцоваму польскаму дваранству.

Як у свой час за Паўла І, а потым за Аляксандрам І і Мікалаем І, так і цяпер расійскі ўрад убачыў сваю гістарычную беспараднасьць у гэтым краі, дзе народныя масы былі быццам сваімі, блізкімі, „в основе русскими“, пераважна праваслаўнымі, а вышэйшая кляса нацыянальна чужая і політычна варожая. І як заўсёды, так і ў гэты пэрыод колізія інтарэсаў дзяржавы з інтарэсамі дваранскае клясы знайшла компроміс: здушыўшы паўстаньне, Пяцербург адразу пачаў шукаць прымірэньня з польскім дваранствам на Беларусі.

Польская арыстократычная партыя, бараніўшая яго інтарэсы, не патрабавала дакладаць да гэтага вялікіх натуг. Аляксандар ІІ сам добра разумеў патрэбу зьмяніць гнеў на міласьць у стасунку да лёяльных польскіх памешчыкаў.

Па ўсёй лініі быў даны адбой папярэдняй політыцы. Хоць па інэрцыі некаторыя мясцовыя справы яшчэ каціліся ў папярэднім кірунку,— галоўна, расійская зямляўласнасьць, аднак і яны штодзень пазбываліся свайго агрэсыўнага зьместу. Зьмену прысьпешыла спроба некаторых лібэральных міравых пасрэднікаў завесьці на Беларусі грамадзкі (абшчынны) парадак уладаньня зямлёй. У гэтай справе мясцовыя памешчыкі, а за імі і міністэрства ўнутраных спраў, угледзелі „комуністычную пропаганду“, называючы аўтараў соцыялістымі-комуністымі, якія ставяць сабе рэволюцыйныя мэты. Пачалося ўсё большае адхіленьне ад ранейшых заданьняў сялянскае рэформы на Беларусі. Замест таго, каб вызваляць беларускага мужыка з-пад улады польскага пана, што карысталася такой популярнасьцю тры—пяць год таму назад, ад мясцовых чыноўнікаў па зямляўпарадкаваньні з пачатку 70-ых год пачалі вымагаць перш за ўсё легальнасьці ў адносінах між памешчыкамі і сялянамі, разумеючы пад гэтым часьцей за ўсё абарону памешчыцкіх інтарэсаў; пачалі вымагаць добраахвотных міралюбных актаў, ня хочучы ведаць таго, што нельга прымірыць непрымірымае, што адносіны паміж вёскай і дваром набылі пасьля рэформы зусім адменны характар.

„Цяпер“, пераказвае адзін з тагачасных міравых пасрэднікаў, „па губэрнях віленскага генэрал-губарнатарства з канца ў канец толькі і чуваць адно патрабаваньне ўлады: „мірэце, панове, мірэце!“[1])

І сапраўды,—паміж уладай і ўчарайшымі „мятежниками“ запанавала па клясавай лініі поўнае прымірэньне.

Да ўсяго, расійскі ўрад быў спакойны за „Заходні край“. Як ніяк, але мураўёўскі разгром сапраўды выкараніў тут у пень організаваную польскую проціўрадовую партыю. Усё было ўзята ў такія яжовыя рукавіцы, што ні аб якай фрондзе польскі элемэнт нават і думаць не адважваўся. Толькі з боку сялянства і толькі на грунце зямельных адносін здараліся выпадкі, а часам і бунты (гл. так зв. „прозоровское дело“), для заспакаеньня якіх патрабавалася аружная сіла.

Лік расійскага войска на Беларусі ўзрос у тую эпоху да надзвычайных памераў. Калі пад канец 60-х гадоў мы бачым у Вільні толькі штаб 27 пях. дывізіі, штаб мясцовых войск з артылерыйскім складам ды губэрскі батальён з абознымі камандамі, дык у пачатку 80-х гадоў тут было ўжо каля дзясятка акруговых вайсковых упраўленьняў усялякага тыпу, штаб армейскага корпусу, артылерыйская брыгада, чатыры пяхотныя палкі, кавалерыйская дывізія, саперны батальён, палявы жандарскі эскадрон і г. д. і г. д.—вялізная колькасьць войск, як-бы цэлая крэпасьць на заходнім сэктары вялізнай імпэрыі [2]). Выклікаць войскі з сярэдзіны дзяржавы, як гэта было ў часы паўстаньня для яго прыдушэньня цяпер у выпадку чаго ня прыходзілася: „Северо-Западный край“ мог са збыткам пазычыць гэтай сілы для прыдушэньня непарадку ў сталіцах. Апрача таго, войска на Беларусі, дзякуючы заведзенай 1 студзеня 1874 г.

---

[1]) Д. М—кий (Миропольский): „Из Северо-Запад. края“, „Беседа“, 1871 г. № 11, стар. 193. Тут-жа цікавыя весткі аб памянёнай вышэй спробе завесьці у краі расійскую „общину“. Спраектаваў гэтую рэч зьезд міравых пасрэднікаў у Коўне ўлетку 1865 г. На зьезьдзе было прызнана магчымым замест таго, каб аддаваць памешчыцкія землі сялянам на аснове падворнай уласнасьці, перадаваць іх у супольнае карыстаньне сялянскай грамадзе („сельскому обществу“). Па прызнаньні ўдзельнікаў зьезду, проект іхні „ня меў у сабе нічога фантастычнага і быў абаперты на прынцыпах закону 19 лютага 1861 г. Аднак і мясцовая ўлада і ўрад паглядзелі на справу зусім інакш. У зьезьдзе ўбачылі руку „Народнай Волі“ і, перапалохаўшыся, пачалі вострыя перасьледваньні ня толькі супроць аўтараў проекту, але наогул супроць корпорацыі міравых пасрэднікаў, адзінага больш-менш прызвaітага інстытуту, які заправадзіла ў тыя часы на Беларусі расійская ўлада. Прызнана было патрэбным закрыць шмат якія паверачныя камісіі, членаў іх—міравых пасрэднікаў—пачалі звальняць і высылаць з краю па 3 пункту: без тлумачэньня прычыны, часам проста па тэлеграме, пагражаючы арыштамі. Потым пачалі высылаць корэспондэнтаў сталічных газэт, якія крытычна ставіліся да расправы адміністрацыі. Калясо палітыкі на Беларусі пачало круціцца літаральна ў адваротны бок.

[2]) Памятная книжка Виленской губ., 1889 г. Не забудземся, што 1 студзеня 1874 г. была заведзена агульная вайсковая павіннасьць.

ўсеагульнай вайсковай павіннасьці, з посьпехам выконвала вялізную русыфікуючую ролю [1]).

Рэвалюцыйны рух у 70 гадох быў на Беларусі параўнаўча з іншымі краінамі, як-то цэнтральнай Расіяй, Украінай і Польшчай, слабы. Экономічны і нацыянальна-культурны стан краіны быў гэткі, што ён ня мог вытварыць тыпа „разночинца“ на расійскі манер: дробнае дваранства на Беларусі было з моцным польскім ухілам, калі ня зусім польскае, а адсутнасьць прамысловасьці і гарадзкой буржуазіі не давала магчымасьці зьявіцца гэтаму „розночинцу“ з шэрагаў гарадзкога жыхарства. Таго „хождения в народ“, якім адзначаюцца 70 гады ў Расіі, а таксама на Украіне, дзе рух з гораду на вёску быў часам мацнейшым, чым у цэнтральных губэрнях, на Беларусі ня было. Толькі сярод нячысьленых колаў мясцовай моладзі, пераважна з духоўных сэмінарый, здараліся часам народніцкія гурткі, прасоўвалася нелегальная літаратура, якую прывозілі з Пецярбурга і Масквы тутэйшыя студэнты.

Насколькі можна бачыць па захаваўшымся дакумантам, мала чаго прынесьлі на Беларусі і падзеі 1 сакавіка 1881 году,—забойства Аляксандра II. Адзіна, што можна заўважыць у сакрэтнай перапісцы, гэта жалобныя рамкі губэрнатарскіх цыркуляраў „об обращении внимания на нераспространение в народе ложных слухов“, ды дзесятак-другі дробных спраў з сялянамі, якіх абвінавачвалі ў „абразе імяні яго вялікасьці“ [2]).

Была і другая прычына, чаму расійская політыка 70—80 год пазбылася ў стасунку да Беларусі сваёй папярэдняй плянавасьці і напорыстасьці. Гэтая прычына была ў памяншэньні палёнізуючых уплываў на Беларусі,

---

[1]) На русыфікацыйнае значэньне войска на Беларусі здаўна зьвярталі ўвагу зацікаўленыя дасьледчыкі. Так, прыкладам, аб гэтым сьведчыць у 40-ыя гады Чачот, кажучы, што „ў Навагрудчыне хлопцы з ахвотай навучаюцца ад жаўнераў расійскіх песьняў, гэтыя песьні чуваць, прыкладам, каля Шчорсаў, ад едучых у начлег на конях, а часам яны заўважваюцца у вуснах жанчын пры жніве“ (Piosnki wieśniacze, прамова, XXX); Эркерт, бравы прусак, які даслужыўся у Расіі да чына ген.-лейтэнанта і ўсё-ж такі пакінуў яе дзеля сваёй каханай Прусіі, пісаў у прадмове да свайго вядомага атлясу: „Важнейшай сувязьзю, якая з 1831 г. практычна яднала расійскі захад з расійскім усходам, лепшым нацыянальным (!) зьвяном паміж імі і самым ажыўляючым павевам паветра з Вялікай Расіі, стала захоўваючым сваю чыстату і сьвежасьць, было прабываньне вялізнага ліку войска ў Заходнім краі, якое прыходзіла ў самае непасрэднае і блізкае дачыненьне з тамтэйшым рускім сялянствам“; гл. атлас: „Взгляд на историю и этнографию западных губерний“, 1864, стар. 60.

[2]) Трэба, аднак, агаварыцца, што гэткі малюнак атрымліваецца дзякуючы адсутнасьці патрэбных дакумантаў. У менскіх архівах, якія былі нам даступны дзякуючы асьвечанай ласкавасьці дырэктара Беларускага Цэнтрархіву М. Мялешкі, мы мала чаго маглі знайсьці на цікавячую нас тэму, бо шмат архіўных матэрыялаў загінула ў пэрыод вайны і окупацый. Толькі ў сакрэтнай перапісцы менскага губарнатара захаваліся некаторыя справы, з якіх можна што-небудзь выкарыстаць (прыкл., справа № 61 ад 2-IV—21. V. 1881—2 году). З цыркуляраў губарнатараў і загадаў міністэрства ўнутраных спраў відаць, што на Беларусі мелі месца „попытки злонамеренных лиц“ распаўсюджыць шкодныя чуткі аб тым,

у зьмяншэньні да мінімуму актыўнасьці польскай культурнай і політычнай экспанзыі. У сваю чаргу зьмяншэньне экспанзыі адбылося ў сувязі з тым глыбокім экономічным зрухам, які адбываўся ў тыя часы ў самай Польшчы, і ў зьвязку са стратай унівэрсальнага ўплыву, які меў у прыгонную пару польскі панскі двор на Беларусі.

Буйнае разьвіцьцё прамысловасьці, якое пачалося ў 70-х гадох у цэнтральнай Расіі, з яшчэ большым тэмпам адбывалася ў Польшчы. Правядзеньне чыгунак і ўстанаўленьне высокіх увозных мытных збораў, якія, згодна закону 1877 году, павінны былі выплачвацца загранічнымі прамыслоўцамі ў золаце, далі польскай прамысловасьці надзвычайна моцны імпульс для росквіту. Нямецкаму фабрыканту было выгадней збудаваць фабрыку пры граніцы на тэрыторыі Польшчы і адгэтуль заваёўваць расійскі рынак, чым мець тую-ж самую фабрыку ў Прусіі і плаціць у расійскі скарб высокі залаты мыт. І Польшча літаральна на вачох пакрываецца сеткай новых прамысловых прадпрыемстваў, а яе ранейшая прамысловасьць набывае буйны капіталістычны размах. Лодзь, Саснавіцы, Чэнстахова, Дамброўскі раён, ня кажучы аб Варшаве,—усё гэта пачало ўзрастаць проста, як у казцы (фабрычнае места Калюшкі вырасла ў некалькі месяцаў).

Адпаведна хутка выраслі кадры рабочых. Вось малюнак росту польскай прамысловасьці ў лічбах *):

| Гады | Кошт продукцыі ў тыс. руб. | Лік фабр. | Лік рабоч. |
|---|---|---|---|
| 1870 | 63.943 | 6.518 | 63.892 |
| 1872 | 170.000 | 7.060 | 119.900 |
| 1884 | 210.000 | 6.580 | 130.000 |

быццам новае царстваваньне (Аляксандра III) прынясе з сабой узварот прыгоннага права, што забойцы цара—дваране, незадаволеныя вызваленьнем сялян і г. д. (Гл. цыркуляр мін. внутр. дел № 1387 ад 27 марта 1881 г.).

У сакрэтных справах таго-ж менскага губарнатара (Цэнтрархіў, Гіст.-Рэволюц. Сэкцыя, дело канцелярии минского губернатора № 45) намі знойдзена даволі грунтоўная перапіска па абвінавачаньні студэнта С.-Пецярбурскага унівэрсытэта Гаховіча і інш. у прыналежнасьці да партыі „Зямлі і Волі". Гурток Гаховіча і быў адным з народніцкіх гурткоў на Беларусі ў 1879 годзе. У яго знайшлі значную кіпу нелегальнай літаратуры, праклямацый „Зямлі і Волі", нумары „Вперед", картку Веры Засуліч, вершы Некрасава і інш. Сам Гаховіч пры обыску і далейшым сьледзтве скрыўся заграніцу ў Жэнэву; можна дагадвацца, што ён там зышоўся з вядомым гуртком Драгаманава; вярнуўся назад на Беларусь у пачатку 80 год легальна. Са справы відаць, што ўвесь гурток складаўся са знаёмых Гаховічу студэнтаў і слухачоў менскай духоўнай сэмінарыі (Гаховіч таксама быў гадунцом гэтае сэмінарыі). Наскалькі мы ведаем, справай Гаховіча цяпер бліжэй заняўся і апрацоўвае яе паважаны Я. Віткоўскі.

*) St. Koszutski: „Rozwój ekonomiczny Królewstwa Polskiego w ostatnim trzydziestoleciu 1870—1900. Warszawa, 1904.

Росту польскай прамысловасьці ў поўнай меры адпавядалі процэсы, якія адбываліся ў польскай зямельнай гаспадарцы. Зямельная рэформа, зьвязаная з вызваленьнем сялян і надзелам іх зямлёй, выклікала ў Польшчы значна большую парцэляцыю памешчыцкай маемасьці, чым гэта было ў Расіі і на Беларусі. У апошніх краінах памешчыцкая гаспадарка трымалася даволі моцна да крызісу 80-х год, калі амэрыканскі хлеб пачаў заваёўваць эўропэйскі рынак, і калі цэны на продукты сельскай гаспадаркі, а разам з тым на зямлю, пачалі катастрофічна спадаць. У Царстве Польскім крызіс памешчыцкага маёнтку пачаўся значна раней, калі цэны на зямлю стаялі яшчэ высокія,—ён пачаўся з моманту выданьня закону 19 лютага 1864 году аб зямельнай рэформе ў польскіх губэрнях. Расійскі ўрад, як-бы жадаючы памсьціцца на польскіх „панох“ за паўстаньне і прыдбаць сымпатыі да сябе з боку польскага „хлопа“, надаваў гэтым законам польскаму сялянству цэлы шэраг прывілеяў у набыцьці памешчыцкай зямлі. Над гэтай проблемай працавала спэцыяльная ўрадовая камісія ў складзе Мілюціна, кн. Черкаскага і Юр. Самарана. Дзякуючы яе захадам, на аснове закону 1864 г., у Польшчы быў створаны вялікі лік так званых „карлікавых“ сялянскіх гаспадарак (разам да 200 тысяч), якія мелі вучастак у якіх-небудзь 2-3 маргі. Калі прыняць пад увагу натуральны прырост насельніцтва, дык будзе зразумела, што бязьзямельле і перанаселенасьць на сялянскіх гаспадарках, якое пятлёй пачало душыць сялянства ў Расіі і на Беларусі ў 70-х і 80-х гадох, у Польшчы пачалося раней і дасягнула надзвычайных памераў. Пры канцы 80-х год у Царстве Польскім на 8 мільёнаў жыхароў мы бачым да 2-х мільёнаў бязьзямельнага пролетарыяту.

Падобны стан рэчаў як нельга лепш спрыяў разьвіцьцю прамысловасьці ў Польшчы, бо танная рабочая сіла была ўсюды пад рукой. Польшча сапраўды робіцца ранейшай з аграрнай краіны, краінай прамысловай; у той час, калі ў пачатку 70-х год яна экспартавала заграніцу зярно,—у канцы 80-х год яна прымушана была ўжо ўвозіць хлеб; у гэты час сума краёвага прыбытку ад індустрыі ў 4 разы перавысіла прыбытак ад сельскае гаспадаркі *).

Грунтоўная зьмена экономічнай сітуацыі Польшчы выклікала адпаведныя зьмены ва ўсім яе грамадзкім і культурным жыцьці. Ранейшы дваранска-памешчыцкі быт трашчэў па ўсіх швах. Месца польскага зямельнага пана з яго спрадвечнымі традыцыямі пачала займаць маладая польская буржуазія. Яна прыносіла з сабой і новы сьветапагляд, абапёрты на модны тады позітывізм, і новую мараль, і новыя ідэалы. Ранейшаму польскаму романтызму, які зьвязваў пакаленьні 60-х гадоў з пачаткам веку, з героічнай барацьбой за незалежнасьць айчызны пры першым паўстаньні 31 г., і крывёю быў злучаны з другім паўстаньнем,—гэтаму

*) З. Ленский: „Польский вопрос“ (1863—1892), гл. „История России в XIX в.“, т. VI, стар. 254.

славутаму романтызму настаў канец. Morituri—казаў аб прадстаўнікох старога пакаленьня Крашэўскі,—„вы засуджаны на сьмерць!“

Прыходзіцца дзівіцца, з якой лёгкасьцю пазбылося польскае грамадзтва ўчарайшых ілюзій, учарайшай сваёй мары аб самастойнай Рэчы Паспалітай і як рэзка пайшло яно новай дарогай. Нідзе мо' залежнасьць грамадзкіх рухаў ад экономічных прычын ня выявілася так выразна, бо нельга думаць, каб рашучае адмаўленьне польскага грамадзянства ад вызваленчай барацьбы з расійскім самаўладзтвам была вынікам *толькі* таго заняпаду энэргіі і расчараваньнем, якое зьявілася ў выніку няўдачы паўстаньня. Выклікаць падобны заняпад і нарадзіць падобны зрух маглі толькo глыбокія экономічныя прычыны.

У Польшчы цалкам запанавала эпотэоза капіталу, якому пакланіліся публічна, адкрыта, прынцыпова. Чыста амэрыканскі росквіт прамысловасьці стварыў гэткі амэрыканскі мэркантылізм, практычнасьць і пагоню за рублём. Як звычайна, гэтая пагоня была вытлумачана і апраўдана высокай тэорыяй, якая ў пакланеньні новаму ідэалу бачыла адно толькі дадатнае зьявішча. Героям польскай літаратуры зрабіўся ўласьнік капальні, кіраўнік фабрыкі, інжынэр, адвакат, доктар. У гэтым быў сэнс тагачаснага ўгадоўства і популярнай партыі „органічнае працы“. Імкненьні ўсіх ранейшых пакаленьняў былі абвешчаны прыхільнікамі „органічнай працы“ дурнымі забабонамі, дзіцячымі забаўкамі. Над лёзунгам „незалежнай Польшчы“ пачалі адкрыта і бяз сораму сьмяяцца; барацьба з царызмам,— тым самым царызмам, які даваў магчымасьць буйна разьвівацца польскім фабрыкам і адкрываў перад польскай прамысловасьцю неабсяжныя рынкі збыту,—барацьба з ім была абвешчана нерэальнай і нацыянальна шкоднай. „Усходнія рынкі для нас важней газардовай політычнай гульні“—сказаў Сьвентахоўскі, лідэр „органічнай працы“, і гэтыя яго словы захапілі ўсю Варшаву, зрабіліся лёзунгам эпохі.

„Мы жадаем сапраўднага жыцьця і рэальнага шчасьця, а з нашай горкай навукі мы вынесьлі пераконаньне, што забясьпечыць іх ня могуць ні гульня ў вайсковаю лётарэю, ні загранічныя мілосьці, але цяжкая, спакойная і ўпартая праца. Нас ня могуць больш вабіць ляўры Сьцяпанаў Баторыяў, але для нас адкрываецца шырокая магчымасьць гандлёва-прамысловых заваёў“,—вось якая была програма дробнай польскай буржуазіі, што ўзяла ў свае рукі руль жыцьця Польшчы ў момант яе экономічнай перабудовы*). Проблема „мірнага прогрэсу“, спакойнай эволюцыі, абапёртай на „здаровай гаспадарчай дзейнасьці“—вось заданьні польскай прогрэсыўнай політыкі таго часу. Толькі што народжаны польскі буржуа зусім не хацеў пазбывацца свайго пануючага становішча ў краі, зусім не хацеў адмаўляцца ад прывабных пэрспэктыў узросту свайго клясавага зыску, прад якімі, ён бачыў, мусілі скланіцца ўсе іншыя клясы грамадзтва; ён зусім не хацеў рызыкаваць сваім буйна расквітаўшым матэрыяльным

*) „Політычныя дырэктывы“ А. Сьвентахоўскага ў „Ognisko“, 1882 г.

дабрабытам дзеля якіхсьці ілюзорных, напоў-містычных імкненьняў да ідэалу незалежнасьці, і таму сьвядома ад іх адмовіўся. Замест таго, каб ажывіць традыцыйныя нацыянальныя надзеі, Польшча 70-х год пасылае расійскаму цару адрас угоды і пакланеньня. Konec lat siedmdziesiątych—pamiętamy—to czas smutnego upadku aspiracyj narodowyh w całej Polsce“,—кажа гісторык польскай палітычнай мысьлі*). Цяперашнім польскім буржуазным гісторыкам „сорамна“, маўляў, успамінаць аб гэтай цікавай эпосе, але ад фактаў яны ўцячы ня могуць.

Праўда, быў, ці, бліжэй кажучы, нараджаўся ў тыя часы і другі лягер польскага грамадзтва,—адбывалася павольнае накапліваньне сіл маладой пролетарскай Польшчы. У 1876 годзе прыехаў да Варшавы і пачаў працу бацька польскага рэволюцыйнага марксызму Л. Варынскі; польскі пролетарыят упяршыню пачуў тады гарачыя словы аб інтэрнацыянальнай салідарнасьці і заклік да соцыяльнага змаганьня: „сёньня чужымі для нас зьяўляюцца ідэалы славянскіх фэдэрацый, аб якіх марыў Бакунін, усё роўнымі для нас зьяўляюцца тыя або іншыя граніцы Польскай дзяржавы. Мы члены адзінага народу—пролетарыяту, і бацькаўшчына наша—цэлы сьвет“. Як бачым, для Варынскага таксама, але з процілежных прычын, не існаваў ідэал незалежнай Польшчы і, яму былі „ўсёроўнымі“ яе граніцы на ўсходзе; не ў буржуазнай незалежнасьці ўглядаў ён збаўленьне польскіх працоўных ад перыжыванай няволі, а ва ўсеагульнай соцыяльнай рэволюцыі.

Адзіна толькі патрыотычна-соцыялістычная група Бол. Ліманоўскага, вяшчуна сучаснай ППС, не адкідала ў тыя часы думкі аб „вялікай Польшчы“. Ліманоўскі быў родам з Інфлянтаў, і справа ўсходніх граніц была яму ня ўсёроўнай. Але яго бледная пропаведзь мала імпонавала польскім работніцкім масам. Яны не захапляліся праграмай нацыянальна-польскага соцыялізму ў незалежнай буржуазнай Польшчы, ды, па сутнасьці, не маглі ёй захапіцца. Па сутнасьці гэтая праграма занадта аддавала духам „органічнае працы“, каб мець які-небудзь посьпех. Дарма Ліманоўскі імкнуўся ўзбудзіць у польскім грамадзтве ўспаміны аб ролі Польшчы на Беларусі, дарма пісаў аб граніцах 1772 г., што ён „ня хоча накідаць гэтых граніц сілай, але шчыра хоча, каб унія, калісьці падпісаная ў Любліне вышэйшымі станамі, была адноўлена ў поўнай сваёй меры самымі народамі“. (Ліст да Драгоманава ў Жэнэву ў 1878 г.). Для гэшэфтмахерскай польскай буржуазіі і для тагачаснай польскай інтэлігенцыі, якая сумленна выконвала ролю ідэолёгічнага афармленьня буржуазных захопленьняў,—падобная пісаніна была і няцікавай і незразумелай.

Пры гэтых варунках няма чаго дзівіцца, што ў Варшаве забыліся часова на Беларусь. Бо што значыла для польскай прамысловасьці граніца 1772 года, калі перад ёй адкрываліся прасторы — Кубані, Уралу,

---

*) Wilh. Feldman: „Dzieje polskiej myśli politycznej w okresie porozbiorowym“, 1920; аб гэтым-жа W. Studnicki: „Sprawa Polska“, стар. 410 і інш.

Сыбіру і нават Пэрсіі? Што значылі для варшаўскае буржуазіі маёнткі на Беларусі, з іх стагодняй гэральдыкай, з графскімі і князкімі гэрбамі і тытуламі, калі яны не зьяўляліся масавым спажыўцом фабрычнай вытворчасьці і калі сама гэтая буржуазія не магла пахваліцца сваёй генэалёгіяй. Для новай прамысловай Польшчы пакупная здольнасьць беларускага сялянства і павялічэньне яго патрэбы ў лодзінскай мануфактуры былі больш важнымі, чым утопічнае імкненьне да Польшчы „ад мора і да мора“. У гэтым сэнсе польскія маёнткі на Беларусі, якія з давендаўна прывыклі жыць сваёй натуральнай гаспадаркай, якія прымушалі сваю службу хадзіць у саматканых палотнах і асьвятлялі свае палацы сьвечкамі з уласнага воску, замест галіцыйскай газы, былі хутчэй непажаданы варшаўскім прамыслоўцам, чым сымпатычны. Яны стаялі бервяном на дарозе разьвіцьця прамысловага капіталу, і за іх уплывы на Беларусі абаронцы „органічнай працы“ не хацелі паднімаць змаганьня. Расійскі прамысловы капітал у 70-х гадох яшчэ не заявіў сваіх прэтэнзій на беларускі рынак, і варшаўскі буржуа быў спакойны. Адпаведны конфлікт быў яшчэ наперадзе.

Што-ж прадстаўляла ў тую эпоху з сябе Беларусь? Які быў яе быт і ў якім кірунку ішло яе разьвіцьцё?

Пакінутая бяз увагі Пецярбургам і Варшавай, гаспадарча падарваная дзякуючы апошняму паўстаньню, зьбітая са старой культурнай астоі, Беларусь у гэтую пару зьяўлялася папраўдзе глухім кутком расійскай імпэрыі.

Мы паказалі вышэй *), што, ня гледзячы на зямельную політыку расійскага ўраду, ня гледзячы на ўрадовае „насаждение“ расійскай зямляўласнасьці на Беларусі, мясцовы польскі маёнтак імкнуўся пераҗыць усе політычныя ліхія гадзіны. Аднак яму было не да моднага грюндэрства і не да прамысловага захапленьня. Польскі дваранскі стан на Беларусі на сваіх плячох вынес жахі паўстаньня, перад ім дзеля спэцыфічных мясцовых умоў не зарысоўваліся спакусныя пэрспэктывы прамысловасьці, і таму ён моцна трымаўся за свой двор, за свой палац і дзядоўскі парк. У гэтай сядзібе і ў рэакцыйнай традыцыі было збавеньне яго, як клясы. Ён сьвята перахоўвае гэтыя традыцыі, жыве романтычным мінулым і ня спыняе глядзець на сваё прабываньне на Беларусі, як на гістарычнае прызначэньне. Маўкліва, але ён быў пэўны, што на ім ляжыць абавязак вярнуць „каханай айчыне“ забраную Масквой беларускую провінцыю, і ласьне з гэтых нацыянальных, політычных меркаваньняў ён так упарта трымаўся за зямлю, ня гледзячы нават на няспрыяльную экономічную кон'юнктуру. Толькі ў самым крайнім выпадку, пры поўным гаспадарчым бязладзьдзі, асабліва пад цяжарам неаплачаных іпотэк, польскі памешчык на Беларусі выпускаў маёнтак з сваіх рук і выкідаў зямлю

*) Гл. „Полымя“, № 2.

на рынак. Жаданьне мець гатоўку для гандлёвага ці прамысловага ўжытку грала пры гэтым меншую ролю.

Аднак пахваліцца сваім становішчам беларускі двор 70-х і пачатку 80-х год ня мог. Ён, як кажуць, адстаў ад веку, і стылем свайго жыцьця, спосабам гаспадаркі і наогул вонкавым і ўнутраным бытам рабіў уражаньне нейкага анахронізму, якое цудам трымалася ў провінцыяльнай глушыні. Вось як апісвае тагачасны польскі маёнтак на Беларусі М. Доўнар-Запольскі, які асабісьце блізка яго вывучыў:

„Панскі двор таго часу і па спосабах кіраваньня, і тэхніцы гаспадаркі нагадваў сабой яшчэ далёкую прыгонную эпоху. Натуральны парадак панаваў. У гаспадарцы грошы ўжываліся толькі для зносін са скарбам і з вонкавым сьветам. Праца аплачвалася выключна натурай, нават парабкі, прыказчыкі і ўпраўляючыя не атрымлівалі пэнсіі сваёй грашыма, а звыш харчу атрымлівалі хлебам, статкам і г. д. Не пераводзячы продуктаў на грошы і ня лічачыся з рыначнай цаной, памешчык па сутнасьці дорага аплачваў усе гэтыя паслугі. Нават тэрміновыя рабочыя працавалі ці на адработкі, ці за натуральную аплату“.

„Лічылася самым важным і гаспадарча карысным усе запасы вырабляць у двары, на што ішло шмат непатрэбнае і дорага каштаваўшае працы. Падам гэткі прыклад: усе служачыя экономіі атрымлівалі спажытак усіх відаў, у тым ліку і сальныя сьвечкі для асьвятленьня, якія выраблялісь там-жа ў двары, як гэта рабілася ў XVIII сталецьці. Зразумела, служачыя прадавалі сальныя сьвечкі яўрэям і куплялі газу. І ўсё-ж ткі ўпарта і далей выраблялі гэты нікому непатрэбны продукт“.

„Панскі двор, нават сярэдняга дастатку, быў абцяжаны непатрэбным пэрсоналам прыжывальшчыкаў. Гэта астаткі служыўшай некалі пры пане шляхты, невядома дзеля чаго жыўшай пры ўжо няіснуючым панскім палацы (дзеля таго што і пан часта жыў тады ў Варшаве ці Пецярбургу); яна карысталася поўным салярыумам ад двара, часам і дзеці яе вучыліся ва унівэрсытэтах на той-жа панскі кошт“.

„Калі мне прышлося, кажа М. Доўнар-Запольскі, працаваць у нясьвіскім архіве, я быў зьдзіўлены, калі трапіў у прыдворную атмосфэру XVIII ст.: усё засталося пастарому, толькі кантушы васалаў Радзівіла замяніліся доўгаполымі сурдутамі і на прыдворных ня блішчэла зброя“ *).

Так захаваў польскі панскі двор на Беларусі сваю старую, але парадкам струхнелую фізыономію.

Ня менш ярка расказвае аб гэтым Аляксандар Ельскі. Пры ім радзівілавы замак яшчэ ня быў прыведзены ў належны парадак і „сьвяціў пусткамі“: былі некалькі дзесяткаў пакояў, занятых усякага гатунку афіцыялістымі, альбо архівамі. Цэлыя рады вакон ня мелі шыб. У шмат якіх пакоях валяліся цэлыя штосы старасьвецкіх абразоў і ўсялякіх ма-

*) М. Довнар-Запольскі: „Народное хозяйство Белоруссии“, стар. 63.

наткаў... Усё выяўляла аплаканы від дзяёвай руіны, астаткаў вялікапанскага мінулага і зьнікаючай славы сьмертных“ [1]).

Ня ўсе, бязумоўна, польскія маёнткі на Беларусі мелі ў тыя часы гэткі заняпалы выгляд, але пячатка старасьвецкасьці, адарванасьці ад жыцьця, знак павольнага адміраньня, ляжаў на іх усіх. Ласьне гэткім настроем павявае ад старонак Кіркора, калі ён у сваіх вядомых працах аб Літоўскім і Беларускім Палесьсі апісвае радзіму Адама Міцкевіча, Ігн. Ходзькі, Ст. Манюшкі ды інш. [2])

Стары польскі быт на Беларусі паміраў, але новы яшчэ не нарадзіўся. У ногу з памешчыцкім маёнткам ішоў і беларускі горад, асабліва мястэчка, якое ў беларускай гісторыі заўсёды значыла больш, чым горад.

„Мястэчка ў другой палове XIX ст. ня шмат у чым адышло ад мястэчка XVIII ст. Тагачасныя аўтары ахвотна апісвалі старажытнасьці нашых беларускіх гарадоў і скромна маўчалі аб горадзе, як цэнтры гандлёва-прамысловага жыцьця; відаць, ня было чым пахваліцца“ [3]). Па сьведчаньні А. Сементоўскага [4]) беларускі горад выглядае надзвычайна бедна і брудна. Для Віцебска, прыкладам, былі вялікай навіной двохпавярховыя мураваныя будынкі, але і яны не вызначаліся прыгожасьцю архітэктуры, унутраным убранствам. Аб унутранай аздобе кватэр не клапаціліся; нават аб шпалерах (абоях) ня ведалі. Усюды цёмна, вільготна і няпрытульна, а галоўнае—брудна. Брукаваных вуліц амаль ня было. Асьвятленьне жалю годнае. Можна сабе ўявіць, колькі сьвятла давалі 220 ліхтароў на 7 кв. вёрст. Садоў ня было,—і толькі рэкі ды помнікі старасьветчыны ўпрыгожвалі нашы тагачасныя гарады і мястэчкі“.

Што да сялянства, як асноўнае клясы насельніцтва, дык і яно, ня гледзячы на вызваленьне ад прыгону і іншыя тагачасныя перамены, у штодзённым быту мала чым адрозьнівалася ад сялянства прыгоннага. Адно, у чым дадатна адбілася рэформа 1861 году, дык гэта ў пэўным палепшаньні экономічнага становішча беларускага сялянства. Палепшаньне было безварунковае, аб гэтым сьведчыць шмат усялякіх крыніц, а лепш за ўсё сьведчаць лічбы ўзросту насельніцтва Беларусі і вытворчасьці сялянскай гаспадаркі.

---

[1]) A. Jelski: „Nieswież Radziwiłłowski przed czwierć wieku a dziś“.

[2]) Сустраканыя ў літаратуры заўвагі (між іншым у Карскага. I, 230), што выданыя ў 1884 г. ў „Живописной России“ працы А. Кіркора аб Беларусі як-бы замерзьлі на 60-х гадох і аддаляюць чытача на 10—20 год назад, да пэўнай меры справядлівы. Кіркор бачыў Беларусь апошні раз у 1871—72 г.; артыкулы, якія малююць беларускае жыцьцё і якія ўвайшлі ў „Жив. Рос.“, зьяўляюцца расійскім перакладам яго монографіі, зьмешчанай ў 1875 г. ў „Opiekun Dorowy“, з гэтага відаць, што ў яго апісаньнях адбіўся сапраўдны стыль тае эпохі.

[3]) М. Довнар-Запольскі. op. cit., стар. 21.

[4]) А. Сементовский. „Витебск и уездные города Витебской губернии“. Вельмі цікавыя малюнкі культуры беларускіх павятовых гарадоў знаходзім часам у „Вил. Вестнике“ за другую палову 70-х год. Гл., прыкл., таленавітую корэсп. з Ваўкавыску, 1879, № 235.

Калі ў 1863 г. лік насельніцтва ў пяцёх беларускіх губэрнях (Віленскай, Менскай, Горадзенскай, Віцебскай і Магілеўскай) быў роўны 4.496 тыс. чал., дык у 1873 г. ён быў роўны—5.299 тыс., і ў 1883 г.—6.404 тысячы чал. Збор хлеба ўсіх відаў павялічваўся так: 1864—6 г.—15,2 міл. чэцьв., 1870—75 г.—18,6 міл. чэцьв. і ў 1877 г.—20,2 міл. ч.

На жаль, падобнае палепшаньне было зьявішчам часовым. Хоць беларускі селянін вышаў пасьля скасаваньня прыгону вольным і хоць ён быў, параўнаўча з расійскім і украінскім селянінам, надзелены крыху большай колькасьцю зямлі, аднак гэта колькасьць была занадта малой, каб задаволіць патрэбы гаспадаркі пад канец першага дзесяцілецьця пасьля рэформы. Надзельнае зямлі хапіла толькі для першага пакаленьня—і ўжо ў сярэдзіне 70-х год мы бачым, як беларускі селянін церпіць ад малазямельля, як слаба ён забясьпечаны быдлам, які малы капітал уложаны ў яго ўчастак і які вялікі доўг выкупных плацяжоў на ім ляжыць. У той час, як лік насельніцтва па ўсіх беларускіх губэрнях вырас з 1873 г. па 1883 г. на 1 міл. з лішкам, збор зернавых продуктаў нават у 1886 г. і пазьней быў роўны 20,5 міл. чэцьв.—той самы, як і ў 1877 годзе.

Хоць у меншым памеры і ня ў гэткім жудасным выглядзе, як гэта было пад канец 50-х год, але і цяпер сялянская гаспадарка на Беларусі знаходзіцца ў благім становішчы. Тэхніка старая, дапатопная; трохполка—зьявішча агульнае, а шматпольле—выключнае і рэдкае здарэньне. Зямля родзіць слаба, і ўгнаеньне за адсутнасьцю быдла звычайна зусім нездавальняючае; усюды сялянскую гаспадарку душыць цераспалосіца, сэрвітутныя правы цалкам залежаць ад памешчыка.

Адзін з аўторытэтных дасьледчыкаў сялянскай гаспадаркі, проф. Янсон, пабываўшы ў 70-х гадох на Беларусі, сумнымі штрыхамі малюе становішча беларускае вёскі. Апрача сплаву лесу ў Палесьсі, ніякіх другіх староньніх заработкаў у сялян няма; у Менскай, Віленскай і Віцебскай губэрнях няразьвіты і промыслы, няма фабрык, заводаў. Хадзілі сяляне адзін час на будоўлю чыгунак, але цяпер і гэтага ня чуваць. Арэнда памешчыцкай зямлі, за адсутнасьцю капіталаў, разьвіта сярод беларускага сялянства значна меней, чым у вялікарускага. Памешчык, як буйны, так і дробны, здае арэнду ў большасьці толькі мясцовай шляхце. У тых паветах, дзе, як, прыклад, у Навагрудзкім, памешчыкі або іх арандатары самі займаліся гаспадаркай, адзіным заработкам селяніна была батрацкая служба ў эканоміі. Разам з тым цэны на рабочыя рукі стаялі ў той час на Беларусі значна ніжэй, чым у вялікарускіх губэрнях.

Наогул трэба сказаць, што беларуская вёска 70—80 гадоў рабіла сумнае, прыгнятаючае ўражаньне: пахілыя, бедныя хаты, прымітыўныя прылады, худая скаціна, шмат гаспадарак бяз коняй, гэтак-жа беднае, дрэнна апранутае і брудна жыўшае насельніцтва. Адно толькі—большая самастойнасьць і асабістая незалежнасьць, большая ўпэўненасьць у сваім праве кідаецца ў вочы пры знаёмстве з беларускім селянінам у пасьля-

рэформенныя гады. Ён ня так нізка скідае пры сустрэчы з панам сваю белую шапку і ня падае парабску, як раней, да панскіх ног, калі прыходзіць да яго з просьбай.

Аб работніцкай клясе, як новай сіле краю, у тыя гады гаварыць ня прыходзіцца. Прамысловасьць на Беларусі знаходзілася ў 70—80 гадох ящчэ ў пачатковым стане: так, прыкладам, у 1880 г. лік рабочых у „Белорусской области“ (паводле тэрмінолёгіі П. Семенова—усходнія беларускія губэрні разам са Смаленшчынай) дасягаў толькі 14—15 тыс. чалавек, што складала 1 проц. насельніцтва краю. Лік работнікаў у заходнябеларускіх губэрнях быў ящчэ меншы. Сума вытворчасьці, паводле афіцыяльных даных, была за гэты год роўнай ва Ўсходняй Беларусі 18,9 міл. руб., а ў Заходняй—15—16 міл., прычым першае месца займалі гарэлачныя заводы і бровары. Толькі ў канцы сталецьця прамысловасьць на Беларусі набывае пэўныя сталыя формы, і лік мясцовага пролетарыяту ўзрастае да значнай велічыні. Калі-ж узяць параўнальныя лічбы за 1866 г. і 1882 г., дык за гэты час лік рабочых павялічыўся толькі на 10 проц., а сума вытворчасьці павялічылася на 52 проц. У параўнаньні з рэштай Расіі, ня кажучы ўжо аб Польшчы, Беларусь у гэтую пару зьяўлялася выключна аграрнай краінай і моцна адставала ў прамысловым стасунку [1]).

Адзінае ажыўленьне ўносілі ў жыцьцё краю чыгункі. Разгляданы пэрыод зьяўляецца акурат пэрыодам шпаркага будаваньня чыгунак на ўсёй прасторы Беларусі: Пецярбурска-Варшаўская чыгунка прарэзала Віленскую і Горадзенскую губ. у канцы 60-х год, тады-ж была адкрыта чыгунка з Лібавы на Рамны, Маскоўска-Берасьцейская адкрылася пры пачатку 70-х г. таксама, як і Рыга-Арлоўская; урэшце, Палескія чыгункі закончыліся будаваньнем у 1882—83 годзе. Шалёная спэкуляцыя, якая была выклікана гэтым будаўніцтвам, мала захапіла Беларусь: у мясцовага памешчыка было занадта мала вольнага капіталу дзеля падобных прадпрыемстваў; што-ж датыча беларускага селяніна, які наогул быў вельмі слаба зьвязаны з вонкавым рынкам, дык пэрыод чыгуначнага будаўніцтва даў яму некаторы заработак, але даў залішне дарагой цаной.

Эксплёатацыя таннай беларускай рабочай сілы, якую давала вёска, пры пабудове чыгунак была зазвычай проста нялюдзкай. Не дарма Некрасов у сваім вядомым вершы „Інжэнэры“—успамінае ласьне беларускага гаротнага мужыка. Чыгункі на Беларусі толькі ў канцы 90 гадоў атрымалі належную нагрузку і пачалі дадатна ўплываць на экономічнае разьвіцьцё краю [2]).

---

[1]) П. Семенов: „Белорусское Полесье в современном состоянии“, т. IV, „Жив. Россия“, очерк X, стар. 482 і далей.

[2]) Першая соцыялістычная брошура на беларускай мове—„Пра багацтва ды беднасьць“, выданая Драгаманавым у Жэневе ў 1881 г. (гл. „Беларускі сьцяг“, 1922, № 1—2), вельмі ўдала ў мэтах пропаганды трактуе цяжкае становішча беларускіх сялян пры будаваньні чыгункі.

Як сумна было гаспадарчае становішча Беларусі ў разгляданую эпоху, так-жа далёка ад пацяшаючага быў і яе культурны стан. На жаль, па існуючых крыніцах можна толькі выпадкам знайсьці патрэбныя характарыстыкі. Памятныя кніжкі, якія выдаваліся пасьля паўстаньня па губэрскіх гарадох і ў Вільні, надзвычайна бедны на адпаведны матэрыял. Гэта сухія даведнікі з паказаньнем рангаў і чыноў усіх службовых асоб, табель-календары, адрасы ўсялякіх адміністрацыйных установ, мясцовыя таксы ды інш. Ня лепшай крыніцай зьяўляецца тагачасная пэрыодычная прэса—„Губернские Ведомости“ і перш за ўсё „Виленский Вестник“. З усяго відаць культурная ўбогасьць жыцьця. Хоць памятныя кніжкі Віленскай губ. і налічаюць у Вільні ў той час цэльных 3 вучоных таварыствы, аднак бліжэйшае азнаямленьне з імі паказвае, што гэта былі за „вучоныя“ ўстановы: першае—„северо-западный отдел русского имп. географического общества“ існаваў толькі на паперы; другое—„виленское отделение русскаго музыкального общества“, якое да „вучоных“ установ залічыць вельмі цяжка, і трэцяе—„медицинское общество“, аб навуковай дзейнасьці якога ў тыя гады не захавалася ніякага сьледу.

Памятная кніжка на 1886 г. гаворыць аб тым, што на працягу 1885 г. Вільна ўзбагацілася заснаваньнем „віленскага музыкальна-драматычнага гуртка“,—якім кіравалі нейкія барон Остен-Сакен, драматург Слезкін і музыкант Нечаев,—людзі занадта мала вядомыя ў гэтай галіне. Існавала яшчэ, праўда, віленская публічная бібліотэка, але яе стан быў далёкі ад таго, каб ім ганарыцца.

Яе „русский отдел“, аб якім гэтак аддана клапаціліся ўсе ранейшыя „обрусители“ Вільні, налічаў па каталёгу больш чым 3 тыс. кніг, але ў сапраўднасьці іх ня было і 500. „Адкрыты гэты аддзел“, піша адзін з тагачасных віленскіх корэспондэнтаў, „для публікі офіцыяльна з 12 да 7 гадзін, але ўжо а 3 дня загадчык ідзе да хаты і забірае ключ з сабой. Займаліся ў бібліотэцы толькі яўрэі і то толькі таму, што можна было чытаць газэты; але і гэтыя адзіныя чытачы, з прычыны вышаўшай цяпер забароны выдаваць газэты, прымушаны ад яе адстаць. У рукапісным аддзеле новага цяпер ёсьць толькі рахункі тутэйшых памешчыкаў да сваіх эономаў, ды казаньні уніяцкіх сьвяшчэньнікаў. Памяшканьне, дзе да гэтай пары зьмяшчаўся склад кніг, цяпер адбіраецца ад Віленскай Бібліотэкі, а кнігі ў ліку некалькіх тысячаў будуць звалены ў дрэннае і вільготнае памяшканьне“ *).

Працы па археолёгіі і археографіі, якімі год перад тым з адданасьцю займаліся мясцовыя работнікі, таксама пайшлі на нішто. „Археолёгія і археографія разьбіліся на тры асобныя бюрократычныя часткі: на бібліотэку, цэнтральны архіў і камісію для разбору старажытных актаў.

*) „Новое Время“, 1870 г. № 79 “О Виленской Публичной Библиотеке“.

Калі дадаць сюды віленскую духоўную сэмінарыю, настаўніцкую сэмінарыю ў Маладэчыне ды некалькі гімназій у акрузе, дык будзе і ўсё, што было асьветнага і культурнага на Віленшчыне ў тыя часы.

А бібліотэках на провінцыі нідзе ўспаміну няма проста дзеля таго, што іх фактычна і ня было. Затое вайсковы стан у краі трываў шмат гадоў пасьля паўстаньня і, як паказана вышэй, край моцна нашпігоўваўся войскам усялякага роду зброі.

Крыху лепш было на Меншчыне. Хоць і тут вайсковы стан быў скасаваны позна (ў 70-х гадох), але ўсё-ж такі грамадзкае і культурнае жыцьцё было, відаць, у тыя часы разьвіта тут крыху шырэй. Гэта можна вытлумачыць толькі тым, што Менск у параўнаньні з Вільняй ня так быў падазроны ў польскай пропагандзе і ўспаміны аб нядаўнім паўстаньні былі тут ня так жывы. Гэтым можна тлумачыць і той факт, што параўнальна з Вільняй Менск пачаў хутчэй паднімаць беларускую ідэю і паволі, як убачым ніжэй, гуртаваць навокал сябе беларускія сілы першай генэрацыі.

Але і тут процэс культурнага разьвіцьця паводле некаторых даных ішоў ня ў гору, а ўніз. Прынамсі лічбы а бібліотэках і кніжных крамах нас у гэтым пераконваюць. Так, прыкладам, за 1878 г. па Менску і павятовых гарадох Менскай губ. налічвалася 32 кніжныя крамы, 2 бібліотэкі (у Бабруйску і Слуцку) і 1 кніжны габінэт. У самым Менску бібліотэкі ня было, а крам, што гандлявалі кнігамі, было 15. Праз дзесяць год лік кніжных крам замест таго, каб павялічыцца—значна паменшыўся: у Менску іх засталося толькі 5, а па ўсёй губэрні—20 [1]). А бібліотэках на гэты раз няма ніякіх вестак, зноў ткі, відаць, таму, што іх і ня было.

Вышэй мы паказалі на сумны стан народнае асьветы на Беларусі ў разгляданы пэрыод. Тут толькі дадамо, што на падмогу слаба разьвіваным народным школам і гімназіям на Беларусі, у пачатку 80-х г. прышлі так зв. „царкоўна-прыходзкія школы“, адкрываныя на кошт сыноду з прыходзкіх сум і меўшыя сваім заданьнем „узмацняць у народзе праваслаўную веру і, побач з разьвіцьцём першапачатковай веды, непадзельна з царквой і пад непасрэдным наглядам архірэя, „внушать“ дзецям любоў да царквы і да службы божыяй“. Царкоўна-прыходзкія школы пачалі засноўвацца вельмі шпарка,—па 1 красавіка 1885 г. у аднэй толькі Віленскай губ. іх было адкрыта 461 з агульным лікам вучняў 9.326 [2]).

Тое, што зьяўлялася галоўным сродкам разьвіцьця асьветы ў масах, як і наогул культурнага і грамадзкага поступу насельніцтва,—земствы на Беларусі адсутнічалі. Расійскі ўрад не адважыўся распаўсюдзіць земскае палажэньне 1864 г. на беларускія губэрні галоўным чынам з прычыны „инородческого“ складу іх жыхарства. Земствы, як ведама, былі па гэтаму палажэньню станавымі дваранскімі, а польскаму дваранству на Беларусі расійскі ўрад ня меў ніякай веры аддаваць гэтакую важную

[1]) Памятные книжки Минской губ. за 1878 г. і 1889 г.

[2]) Пам. книжки Виленск. губ. за 1886 г.

галіну дзяржаўнага кіраўніцтва. Каб чым-небудзь дапамагчы цяжкаму становішчу мясцовай земскай гаспадаркі, у 1874 г. была зроблена спроба завесьці ў заходніх губэрнях нешта падобнае да земстваў у выглядзе „губэрскіх распарадчых камітэтаў“. Але гэтыя адміністрацыйныя органы, складаныя з губарнатара, губэрскага маршалка, управляючага казённай палатай ды гарадзкога галавы губ. гораду, пры спэцыяльным чыноўніку ад ураду, ніякай карысьці ня прынесьлі і былі хутка скасаваны. Самі губарнатары ў сваіх справаздачах зазначылі „няпрыгоднасьць“ гэтае няўдалае навэлы [1]).

Зьмест грамадзкага жыцьця тагачаснай Беларусі цалкам адпавадаў яе глухой провінцыяльнасьці, экономічнай адсталасьці і агульнаму культурнаму заняпаду. Грамадзтва губэрскіх гарадоў, ня кажучы ўжо аб павятовых, пазбаўлена якіх-бы то ні было духовых ці ідэйных інтарэсаў. Яно складалася з шэрай чыноўніцкай масы, якая акуратна адбывала свае ўрадовыя гадзіны ў палатах, прысутцтвах і судох; з яўрэйскага мяшчанства, занятага дробным гандлем, ды невялікага ліку ваколічных памешчыкаў. Кожная з гэтых груп нічым паміж сабой ня было звязана, нічым, апрача штодзенных турбот па службе, мясцовымі плёткамі і інтрыгамі, ня цікавілася. Пачынаючы губарнатарам і канчаючы памешчыкам—усе знаходзілі ўцеху толькі ў віне, сустракаліся дзеля гутаркі за „зялёным сталом“ па клюбах.

„Менск абруселы прымусова, ня меў ніякіх культурных установ, дзе можна было знайсьці харч для душы і сэрца“, успамінае адзін з беларускіх старых работнікаў [2]). Ніякіх навуковых таварystваў, ніякіх бібліотэк ці музэяў у той час ў Менску ня было і, апрача клюбу, дзе можна было рэзацца ў карты і напівацца да ўтраты прытомнасьці, іншых культурных установ не існавала“. Тое самае кажа і другі сучасьнік: „Сумны від і становішча Менску... Я ня мог сабраць для гутаркі двох-трох чалавек разам; усе адзін аднаго цураюцца. Па ўсіх павятовых гарадох Беларусі завяліся клюбы, і ў іх унівэрсальны сродак чалавечай сувязі—карты... У людзях зусім няма таго ажыўленьня, таго ўзбуджаньня да выясьненьня і вырашэньня істотнейшых задач жыцьця, якое было некалькі год таму назад. Усе пачынаньні разарваны, не аб'яднаны ўнутрана“ [3]).

Гэткай была Беларусь пасьля паўстаньня у 70-х і пачатку 80-х год, калі ў ёй, у асобе Францішка Багушэвіча ўпяршыню пачала абуджацца сьвядомасьць сваёй нацыянальна-культурнай асобнасьці і калі паралельна гэтаму ўсьведамленьню разьвівалася дзейнасьць ідэолёга „западно-руссизма“—М. О. Каяловіча.

*(Працяг будзе).*

---

[1]) Гл. В. Грыбоўскі: „Предполагаемое земское управление в неземских губерниях“.
[2]) Юры Алеськавіч: „Стары Менск у беларускіх успамінах“. „Беларусь“, 1920 г. № 2.
[3]) М. Каяловіч: „Поездка в середину Белоруссии“, стар. 11.

# АБ НАШАЙ МОВАЗНАЎЧАЙ ТЭРМІНОЛЁГІІ *)

М. Байкоў

Выпрацаваньне навуковай тэрмінолёгіі наогул становіць нялёгкую задачу. Апрацаваньне-ж дакладнай і з усіх бакоў бясспрэчнай беларускай навуковай тэрмінолёгіі ўскладняецца яшчэ агульным станам літаратурнай беларускай мовы, якая знаходзіцца ў стадыі пакуль-што незакончанага сформаваньня. Адсюль, як лёгічны вывад, вынікае больш проектны, чымся канчаткова-зацьвярджальны, характар выпускаў „Беларускай Навуковай Тэрмінолёгіі". Такім спосабам, зусім слушна ў прадмове да „Граматычна-Лінгвістычнай тэрмінолёгіі" ад імя Галоўнай Тэрмінолёгічнай Камісіі Інбелкульту сказана: „Даць дакладную і дасканалую тэрмінолёгію для тае ці іншае галіны навукі, якая-б у поўнай меры адпавядала навуковасьці і практычнасьці—справа нялёгкая, і Камісія лічыць, што ўдасканаліць сваю работу яна зможа толькі ў тым выпадку, калі на помач ёй прыдзе актыўная праца ўсіх зацікаўленых асоб і ўстаноў".

Сама граматычна-лінгвістычная тэрмінолёгія, ня гледзячы на тое, што яна апрацована пасьля шэрагу год працы інбелкультаўскіх мовазнаўцаў у тэрмінолёгічным кірунку, можа зьявіцца яскравым пацьвярджэньнем заўвагі Камісіі.

Наогул—у нас справа з граматычнай тэрмінолёгіі, як і з граматыкай беларускай мовы, стаіць ня зусім так, мякка кажучы, як яна павінна была-б стаяць.

Аўтарам першай выдрукаванай у часе рэволюцыі беларускай школьнай граматыкі Бр. Тарашкевічам былі ўстаноўлены амаль усе асноўныя граматычныя тэрміны, аднак, шмат якія з іх зьявіліся няўдалымі і былі заменены на іншыя другім беларускім граматыстым Яз. Лёсікам, а афіцыяльна ў проекце граматычнай тэрмінолёгіі, апрацованай былой Навукова-Тэрмінолёгічнай Камісіяй Наркамасьветы і выдрукаванай у часопісі „Весьнік Нар. Кам. Асьветы БССР" за 1921 г., № 2. Такім чынам, замест вытвараных Бр. Тарашкевічам тэрмінаў, зьяўляюцца новыя, напр.,—

---

*) З некаторымі вывадамі аўтара артыкулу, асабліва ў справе перакладаў асобных тэрмінаў, рэдакцыя ня згодна. У вогуле-ж артыкул узьнімае асабліва важнае пытаньне і заслугоўвае да сябе вялікае ўвагі. *Рэдакцыя.*

замест *„імя“* (существительное)—„імя назоўнае“, а потым „назоўнік“, замест *„прымета“* (прилагательное)—„імя прыметнае“ і „прыметнік“, замест *„чысло“* (числительное)—„імя лічэбнае“ і „лічэбнік“ і г. д. Найбольш важнае значэньне мае, бязумоўна, зьмена тэрмінаў, што азначаюць часьціны мовы. Да гэтай катэгорыі, апрача паказаных, належаць новыя Лёсікавы тэрміны: „займеньнік“ (замест „займя“), „злучнік“ (замест „злуч“), „выклічнік“ (замест „кліч“). Далей зьяўляюцца „прыназоўнік“, як замена „прыймя“ і „прыйменьнік“, „дзеяпрыметнік“, „дзеяпрыслоўе“ ды інш. З асноўных граматычных тэрмінаў, уведзеных Тарашкевічам, да гэтага часу засталіся толькі два тэрміны: „дзеяслоў“ і „прыслоўе“. Шмат якія з новаўведзеных Яз. Лёсікам і Навукова-Тэрміналёгічнай Камісіяй Наркамасьветы тэрмінаў зьявіліся больш удалымі за тыя, што бачым у „Пачатковай граматыцы“ Бр. Тарашкевіча. Сюды належыць большая частка тэрмінаў, што азначаюць асноўныя граматычныя паняцьці,—часьціны мовы, склоны і формы зьмен дзеясловаў.

Аднак, першы проект граматычнай тэрміналёгіі выклікаў супроць сябе шмат нараканьняў. Гэтыя нараканьні маюць пад сабою пэўны грунт. Адзін з найгалоўнейшых недахопаў проекту—неадпаведнасьць яго сучаснаму стану граматычнай навукі, неадпаведнасьць прынцыпам так званай фармальнай граматыкі. Да таго далучаюцца непаўната тэрмінаў, непаступовасьць і наогул павярхоўнасьць распрацоўкі проекту тэрміналёгіі. Адсюль, сярод чыста граматычных тэрмінаў у проекце, выдрукаваным у „Весьніку НКА“, бачым псыхолёгічныя тэрміны, мала датычныя да граматыкі, як „обоняние—нюх“ і „осязание—датыканьне“.

Зусім зразумела, што ў рэорганізаваным Інстытуце Беларускай Культуры было высунута пытаньне аб пераапрацаваньні ранейшага проекту граматычнай тэрміналёгіі. Пераапрацоўка была даручана аўтару ранейшага проекту члену Інбелкульту Яз. Лёсіку.

У новым проекце злучаны граматычныя і лінгвістычныя тэрміны. Гэта, магчыма, і натуральна, бо граматыка мае цесную сувязь з лінгвістыкай і для выкладаньня мовы ў вышэйшай і спэцыяльнай пэдагогічнай школе аднымі граматычнымі тэрмінамі абмежавацца нельга.

Іншае пытаньне,—аб тым, наколькі ўдалося ў новым проекце даць дакладную і зусім здавальняючую, зносную з навуковага і пэдагогічнага поглядаў тэрміналёгію граматыкі і лінгвістыкі.

У прадмове да проекту, паміж іншым, сказана, што „перад выпускам у сьвет тэрміналёгія школьнага характару зачытвалася на сходзе менскіх настаўнікаў і выкладчыкаў беларускае мовы, прычым настаўнікі давалі шмат цэнных уваг і паправак, але за бракам часу разгледжаны былі толькі тэрміны на літары А, Б, В, Г і Д“.

Прыходзіцца пашкадаваць, што, *калі* разгляд тэрмінаў на настаўніцкіх сходах даваў „шмат цэнных уваг і паправак“, у Галоўнай Тэрміно-

лёгічнай Камісіі не хапіла цярплівасьці і часу, каб давесьці гэты разгляд да канца.

Адсюль, у шмат якіх адносінах можа быць карысным разгляд граматычна-лінгвістычнай тэрмінолёгіі на старонках друку; ён можа дапоўніць той недахоп, які быў дапушчаны ў стадыі апрацаваньня тэрмінолёгіі.

Нельга адмаўляць, што новы проект граматычнай тэрмінолёгіі мае дадатныя бакі ў параўнаньні з ранейшым. Гэта, папершае, большая паўната тэрмінолёгіі:. 1592 нумары паасобных тэрмінаў супроць 307 нумароў ранейшага проекту. Праўда, нельга не заўважыць таго, што сярод 1.592 тэрмінаў часта трапляюцца паўтарэньні адных і тых самых тэрмінаў,— а гэта належыць бязумоўна да недахопаў тэрмінолёгіі; наогул яна вышла *раздутай*,—аднак, калі нават адкінуць лішне запісаныя тэрміны, дык усё-ж граматычных тэрмінаў у новым проекце будзе значна болей, чымся ў старым. Падругое, знаходзім у новым проекце і істотныя папраўкі да старой тэрмінолёгіі, выдрукаванай у „Весьніку Наркамасьветы". Напр., апроч „лемантар", рускае „букварь" перакладаецца і словам „буквар"; замест: „вносное предложение—уласнаслоўны сказ" бачым: „чужаслоўны сказ"; „косвенный падеж" апрача „залежнае пытаньне" перакладаецца яшчэ „няпростае пытаньне"; побач з тэрмінамі „пытальнік" і „клічнік" уведзены „пытальны знак"; і „клічны знак"; „замыкальны" (заключительный) заменена на „заключны"; нязграбнае словазлучэньне: „зьмена подлуг ступеняў прыраўнаваньня" заменена адным больш-менш зручным для вымовы тэрмінам „ступеняваньне". Другія істотныя замены: „местоимение" перакладаецца не „займя", а „займеньнік", „междометие" ня „выклічча", а „выклічнік", „подчиненное предложение" не „падлеглы", а „падпарадкаваны залежны сказ", „подчинение предложений" не „злучэньне залежных сказаў", а „падпарадкаваньне сказаў", „придаточное предложение" не „дадатковы", а „даданы" сказ; „связка" ня „сувязь", а „зьвязак"; „сказуемое" ня „сказьнік", а „выказьнік"; „сослагательное наклонение" ня „ўмоўны", а „сувязны" лад. Адны з найбольш істотных зьмен,—увод тэрміну „назоўнік" замест больш вузкага „іменьнік" і адпаведна гэтаму ўстанаўленьне тэрміну „прыназоўнік" („предлог") замест ранейшых „прыймя" і „прыйменьнік". Папраўкай супроць старой тэрмінолёгіі зьяўляецца і тое, што выкінуты непатрэбныя тэрміны, як, напр., „буква вставная", „буква конечная", „из'яснительний период", „общий залог", „обоняние", „осязание" ды інш. тэрміны, што, як непаразуменьне, трапілі ў ранейшы проект. Як рэцыдыў да граматычнай тэрмінолёгіі Бр. Тарашкевіча, можна разглядаць замену „абвяшчальны лад" на „абвесны (у Бр. Тарашкевіча—абвестны) лад".

Значным поступам наперад зьяўляецца і імкненьне ўкладальнікаў проекту прыстасавацца да патрабаваньняў фармальнай граматыкі. Праўда, зусім занядбаць старую лёгічную граматыку нашым тэрмінолёгістым пакуль што ня прыходзіцца. Граматычная тэрмінолёгія можа спатрэбіцца

і пры выкладаньні паводле прынцыпаў старой граматыкі, напр., хаця-б маючы за падручнік „Практычную граматыку“ Яз. Лёсіка. У новым проекце граматычнай тэрмінолёгіі побач з сучаснымі граматычнымі тэрмінамі даюцца і застарэлыя тэрміны з адзнакай *ст. тэр.* (хоць у большасьці выпадкаў замест *„ст. тэр.“* у тэксьце бачым *„гр. тэр.“).*

У гэтай адзнацы *„ст. тэр.“*, а таксама ў спасылках на ранейшыя тэрмінолёгіі (выпускі другі, чацьверты і сёмы) і слоўнік Насовіча выяўляецца, хаця-б і ў *пэўнай* меры, імкненьне да навукова-мэтодолёгічнай апрацоўкі тэрмінолёгічнага слоўніка.

Адным словам, ёсьць значны поступ наперад у параўнаньні з ранейшымі. Расьце дасьведчанасьць укладальнікаў тэрмінолёгіі, і згодна гэтаму ўдасканальваецца самая граматычная тэрмінолёгія.

Што да ўласна-лінгвістычнай тэрмінолёгіі, дык і тут даны больш-менш трапныя пераклады большасьці асноўных паняцьцяў сучайнай лінгвістыкі.

Аднак-жа, ці можна палічыць новы проект граматычна-лінгвістычнай тэрмінолёгіі дасканалым і нават больш-менш здавальняючым вымогі навукі разьвязкам пытаньня беларускай мовазнаўчай тэрмінолёгіі?

Хацелася-б адказаць на гэта пытаньне „так“, але нават павярхоўны разгляд тэрмінолёгіі прымушае нас даць адмоўны адказ.

Першае, што кідаецца ў вочы пры азнаямленьні з сьцісла-граматычнай часткай тэрмінолёгіі, гэта тое, наколькі слаба проект граматычнай тэрмінолёгіі здавальняе навуковыя патрабаваньні адносна тэрмінолёгіі такога роду.

Паказальна, што ў проекце ўзяты, як грунт для перакладу, *расійскія* тэрміны. Натуральна запытаць: чаму ня польскія або з іншых суседніх моваў? Накіраванасьць на расійскую тэрмінолёгію была-б зразумелай, калі-б мова ішла аб сучаснай тэрмінолёгіі, перакладзенай, напр., з нямецкай або французскай моў. Іначай стаіць справа з граматычнай тэрмінолёгіяй, якая і да гэтага часу ў корані зьяўляецца *лацінскай.* Відаць, што гэтага факту не маглі абмінуць ні ўкладальнік граматычнай тэрмінолёгіі, ні члены Галоўнай Тэрмінолёгічнай Камісіі. Гэтым, ма‘быць, тлумачыцца, што „для найбольш ужываных граматычных тэрмінаў было пастаноўлена дадаць лацінскі тэкст“. Гэтак сказана ў прадмове да тэрмінолёгіі. У дужках пры некаторых тэрмінах сапраўды і даюцца лацінскія назвы. Гэтыя назвы ў тэрмінолёгіі даны не на сваім месцы, пасьля беларускага, а не расійскага, як трэба было-б чакаць, тэрміну; аднак, важна і тое, што сама Тэрмінолёгічная Камісія Інбелкульту не магла зусім занядбаць лацінскай тэрмінолёгіі,—і толькі выпадковымі прычынамі магчыма растлумачыць, што лацінскія тэрміны стаяць не на сваім месцы. Для далейшага бязумоўна патрэбна апрацаваньне беларускай граматычнай тэрмінолёгіі на грунце клясычнай лацінскай граматыкі. Гэта—conditio, sine qua non, без якой ня можа быць строга навуковай

граматычнай беларускай тэрмінолёгіі. Навукова-ж апрацаваная беларуская граматычная тэрмінолёгія, як паветра, патрэбна для ўдасканаленьня беларускай мовазнаўчай навукі.

Адхіленьнем ад мэтодаў навуковай распрацоўкі тлумачацца і іншыя недахопы проекту тэрмінолёгіі.

Сюды належыць, папершае, пропуск канечна патрэбных граматычных тэрмінаў. Невядома, якімі меркаваньнямі кіраваліся пры ўкладаньні проекту тэрмінолёгіі, падвойчы і патройчы перапісваючы такія тэрміны, як інфінітыў—„неопределенное наклонение“ (№№ 359, 503 і 544), перфект (perfectum)—„совершенный вид глагола“ (№№ 80, 746, 1059) і не даючы зусім такога важнага для граматыкі славянскіх народаў тэрміну, як *„аорист“*. Відаць, што гэта істотнае граматычнае паняцьце заставалася па-за ўвагай пры разглядзе тэрмінаў.

Асабліва шмат якія тэрміны прапушчаны ў лінгвістычнай часьціне тэрмінолёгіі. Напр., ня знойдзем важных мовазнаўчых тэрмінаў, як „аномалии языка“, „идиотизмы языка“, „солецизм“, „условный язык“, „язык жестов“, „феномены языка“ ды інш. Наагул, кідаецца ў вочы нейкая дзіўная *непаступовасьць* у апрацаваньні тэрмінолёгіі. Напр., ёсьць „аграфия“ і няма „афазия“, бачым „агглютинативные языки“ і ня знойдзем тэрміну такой-жа самай катэгорыі „изолирующие языки“. Аналізуючы зьмест лінгвістычнай часьці тэрмінолёгіі, можна ўстанавіць, што ўкладальнік проекту кіраваўся нібы выключна тымі тэрмінамі, якія знайшоў ён у элемэнтарнай кніжцы Д. Ушакова „Краткое введение в науку о языке“. Аднак тэрміны, што знайшліся і ў гэтай кніжцы, прапушчаны ў проекце. Вось, напр., няма тэрміну „мышление вслух“. Дзівіць пры гэтым якаясь выпадковасьць і адсутнасьць лінгвістычнага, я сказаў-бы, чуцьця ў падборы тэрмінаў. Вось яскравы прыклад такога выпадковага выбару,—пад № 256 даецца другарадны і больш-менш лёгкі для перакладу тэрмін „жизнь языка“: кожнаму зразумела, што тут будзе ў перакладзе „жыцьцё мовы“. Аднак-жа па-за ўвагай укладальніка проекту засталіся такія першарадныя і зусім нялёгкія для перакладу тэрміны, як „развитие (эволюцыя) языка“ або „возникновение языка“. Думаецца мне, што пры знаёмстве з асноўнымі лінгвістычнымі працамі Herder'a, Renan'a, Bleck'a, Wackernagel'я і інш. такога прыкрага пропуску не магло-бы быць у *навуковаапрацаванай* тэрмінолёгіі. Правільны лінгвістычны падыход падказаў-бы і іншую асаблівасьць мэтоду пры апрацаваньні тэрмінаў лінгвістыкі: як для граматычных тэрмінаў зьяўляюцца абавязковымі лацінскія супаставы, так для лінгвістычных паняцьцяў патрэбны супаставы з *нямецкай* мовы. Спэцыялістых мовазнаўцаў, якім быў пераданы проект граматычна-лінгвістычнай тэрмінолёгіі для папярэдняга разгляду, можна ўпікнуць, што яны не заўважылі хібаў проекту.

І яшчэ адзін адмоўны бок выступае ў проекце тэрмінолёгіі, калі мы разглядаем яго з боку аб'ёму: пры недахопе патрэбных граматычных і

лінгвістычных тэрмінаў знаходзім пэўны процант тэрмінаў непатрэбных, якія ня маюць непасрэднага дачыненьня ані да граматыкі, ані да лінгвістыкі. Напр., чаму фігуруюць сярод тэрмінаў: „курсив“ і „курсивный шрифт“? Ці гэтыя тэрміны не датычаць друкарскай тэхнікі? І ці не вымагала паступовасьць, каб былі паказаны і іншыя друкарскія шрыфты? Больш да тэорыі і практыкі літаратурнае творчасьці маюць адносіны такія тэрміны, як „аноним“, „перевод“, „переводный“, „пересказ“, „поговорка“, „пословица“, „послесловие“ ды інш. Зусім не адносяцца да катэгорыі тэрмінаў такія словы, як „подражать“, „подчинять“, „построенный“, „погрешность“ і інш. Невядома, якім спосабам маглі апынуцца сярод навуковых тэрмінаў такія чыста жыцьцёвыя словы, як „наизусть—напамяць“ і „например—напрыклад“. Невядома, таксама, дзеля чаго з усіх назваў расійскіх літар даюцца толькі: „ять“, „ёр“ і „ёрь“. Чаму, напр., няма „ижицы“?

На прыкрыя заўвагі напрашваецца і мэтод цытаваньня, які праводзіцца ў проекце. Што тут зроблены спасылкі на ранейшыя тэрмінолёгічныя працы, гэта вельмі добра. Але нядобра тое, што гэтыя спасылкі занадта пераблытаны і часам не адпавядаюць крыніцы, на якую робіцца спасылка. Напр., чытаем пад № 389 „конкретный—прадметны (Н. Т. 2)“, а разгортваючы сшытак з другім выпускам Навуковай Тэрмінолёгіі, прыходзіцца пераканацца, што такога тэрміну тут няма; таксама няма тут і „сугалосьсе“ ў сэнсе „консонанс“ і „зданьнёвы“ ў сэнсе „мнимый“; з другога боку, задарма пры тэрмінах: „лексикографический—словапісны“, „лексикография—словапісь“, „лексикон—слоўнік“, „лингвистический—мовазнаўчы“ знаходзім спасылкі на чацьверты выпуск Навуковай тэрмінолёгіі. Таксама няправільныя спасылкі даюцца пад №№ 441, 469, 484, 649, 650 ды інш. Поўным непаразуменьнем можна палічыць спасылку пад № 283: „затвор губ—створ губ (Нс)“. Нямаведама, што надало ўкладальнікам тэрмінолёгіі прыпісваць Насовічу тое, чаго нельга знайсьці ў яго слоўніку. А ў Насовіча дакладна сказана вось што: „*Створ*, у, с. м. Закрывание, запирание, говорится о дверях и окнах. Створ ваконниць. Дзверям створу нема отъ госцей“. Недакладнасьць цытаваньня значна зьніжае цану імкненьня падвесьці пэўны грунт пад пераклады тэрмінаў у беларускую мову.

І ўжо ў гэтай недапушчальнай недакладнасьці выяўляецца рыса, якая вельмі шкодзіць проекту ў абедзьвюх яго, граматычнай і лінгвістычнай, часьцінах,—пэўная павярхоўнасьць і, я сказаў-бы, *неахайнасьць* апрацоўкі. Вось конкрэтныя прыклады такой неахайнасьці. Пад № 285-м бачым: „звательный падеж—клічны склон *(ст. тэр.)*“, а пад № 717,—„падеж звательный—склон клічны“. Натуральнае пытаньне: чаму ў адным месцы „звательный падеж“ апыніўся сярод тэрмінаў старой (?) тэрмінолёгіі, а ў другім ён ідзе па-за гэтай катэгорыяй? Чым іншым, як не адсутнасьцю паступовасьці і ахайнасьці апрацоўкі можна вытлумачыць дзіўную блытаніну ў перадачы паасобных тэрмінаў? А менавіта, чытаем

пад № 65: „буквальный—літаральны“. Значыць, беларуская мова ня ведае слова „буквальны“? Аднак-жа, пад № 423 да слова „литеральный“ чытаем пераклад: „літаральны, буквальны“. Іншы прыклад,—пад № 397 „косвенный вопрос“ перакладаецца, як „залежнае пытаньне“, а пад № 99 для таго-ж самага тэрміну даюцца два пераклады: „пытаньне залежнае, няпростае“. Цікавай зьяўляецца блытаніна з паняцьцямі: „предложение“, „сказ“, „фраза“. Чытаем пад № 817: „предложение—сказ“; пад № 1005: „сказ—фраза“; пад № 1303: „фраза—*см.* предложение“. Па праўдзе, без тлумачэньня да сэнсу не дабярэшся! І гэта зусім не адзіночныя выпадкі. Напрыклад, пад № 1195 „твердый знак“ перакладаецца толькі, як „цьвёрды знак“, а раней пад № 250 чытаем „Ер (твердый знак)—ёр (цьвёрды знак)“.

Да неахайнасьці апрацоўкі і нагляду за друкам трэба аднесьці і памылкі друку, якія заўважаюцца пры праглядзе тэрмінолёгіі. У канцы сшытку на асобнай старонцы пад загалоўкам „памылкі друку“ (а цікава, што ў тэрмінолёгіі пад № 639 „опечатка“ перадаецца, як „друкарская памылка“,—дзе-ж тут лёгіка?!) паказваецца ўсяго пяць такіх памылак. Але іх значна больш. Напрыклад, не адзначаны памылкі: на стар. 12 „прызнак“ (у рускім тэксьце), на стар. 19 „кирилица (у рускім), на стар. 33 „психологчиеское суждение“, на стар. 38 „дапаса́ваньне“ замест „дапасава́ньне“ ды інш. У шмат якіх выпадках зусім прапушчаны націскі над беларускімі словамі. Памылковыя азначэньні *гр. тэр.* замест *стар. тэр.* трапляюцца заўсёды. Цікава, што нават беларускі слоўнічак не адпавядае расійска-беларускаму. На стар. 73 чытаем: „Ятованы 362“, „ятаваць 364“, „ятацыя 361“, „ятованыя буквы 363“ і тутака-ж у падрадковай увазе нататка: „у словах пад №№ 363, 362, 361, 364 першай літарай павінна быць Ё“. Чытаеш і мімаволі паўстае пытаньне: ці гэта—ня глум з карыстальнікаў тэрмінолёгіі? І зноў пытаемся, як *такая* тэрмінолёгія магла зьявіцца ад імя Інстытуту Беларускае Культуры?

Пераходзячы да разгляду перакладнай часьціны тэрмінолёгіі, можна было-б высунуць пытаньне аб правільнасьці паасобных перакладаў тэрмінаў. У кожным выпадку, ня з усімі перакладамі магчыма згадзіцца. Напр., „архаизм“ перадаецца, як „застарэласьць“ адкуль, далей, „архаистический—застарэлы“. Больш правільнымі былі-б пераклады: „нясучаснасьць“ і „нясучасны“. Бязумоўна, няправільна пад № 45 „аттрибут“ пераданы, як „азначэньне“. Невядома, чым кіраваліся творцы тэрмінолёгіі, перадаючы такім спосабам гэты тэрмін? Спрэчным зьяўляецца і пераклад: „многократный—шматразовы“. Чаму ня проста „многакратны“ або „многакротны“? Ці беларуская мова не дапушчае такога ўжываньня? Пад № 106 „временный“ перакладаецца, як „часоўны“. Гэты нязграбны нэолёгізм цалкам трэба аднесьці да гонару творцаў тэрмінолёгіі. Пад № 141 і 537 перакладаецца: „глагол недостаточный—недахватны, дэфэктыўны“. Чаму для перакладу рускага тэрміну патрабавалася

скарыстаць чужаземнае, прытым—ня зусім дакладнае слова? Няма ўзгодненасьці ў перакладзе пад №№ 238 і 239: „дополнение косвенное“ і „простое“—„дапаўненьне няпростае“ і „нясустаўное“. Было-б больш паступова казаць: „дапаўненьне простае і няпростае“. Ня можна згадзіцца з перакладам: „дробное числительное—дробны лічэбнік“ (№ 242). Тут задарма выпраўлены добры пераклад з ранейшага проекту тэрмінолёгіі: „дробавы лічэбнік“. Полёнізмам можна лічыць пераклад: „заключительный—высноўны“ (ад польск. wysnowywać). Уплыў з боку польскай мовы выдае і тэрмін „клінопісь“ з націскам на другім складзе (№ 380). „Знаменательное слово“ і „значимое слово“ (пад №№ 309 і 313) аднолькава перадаецца праз „называльнае слова“,—тут—пэўнае непаразуменьне, якое, бязумоўна, тлумачыцца зусім ня беднасьцю мовы, а іншымі прычынамі. „Имя отвлеченное“ перакладзена: „імя разумовае“. Лепш было-б: „імя мысьлёвае, уяўнае“ або, проста, „абстрактнае“.

Пад № 373 даецца: „кавычки—лапкі“. Гэта стварэньне яшчэ раней знайшло сабе месца ў працах Лёсіка, але яно залішне фігуральнае і больш дакладным магчыма лічыць тэрмін Бр. Тарашкевіча „чужаслоў“ або тэрмін ранейшага проекту „двукосьсе“.

„Картавость“ і „картавый“ перакладзена: „гаркавасьць, гаркавы“; Гэта—ня зусім так: паводле Насовіча, „гаркавы (горкавый)—„горьковатый“ (Горкавая капуста)“. Правільна і пабеларуску будзе: „картавасьць, картавы“. Чаму без патрэбы калечыць жывыя народныя словы? „Ложность“ ня проста „памылковасьць“, як сказана пад № 438, а „няпраўдзівасьць“ або „амыльнасьць“; „памылковасьць“ будзе толькі „ошибочность“. У наступным нумары перадаецца: „ложный именительный“ як „несапраўдны назоўны склон“. Лепш было-б казаць: „нібы-назоўны“, а падставы для гэтага маюцца ва ўжываньні „Ботанічнай тэрмінолёгіі“; „ложная ось—нібы-вось“ і „ложный плод—нібы-плод“. Пад № 530 чытаем: „начертаньне (буквы)—напіса́ньне“. Гэта троху ня тое, лепей было-б „рысунак“.

Пад № 557: „непроизвольное движение—неадвольны рух“. Гэта—простае пераймaньне з расійскай мовы, зусім непатрэбнае пры існаваньні добрага беларускага слова „мімавольны“. Зусім няўдалы пераклад пад № 581 тэрміну „носитель языка“—„моўны суб‘ект“. Колькі-б ні мудрыць, а горш гэтага ня вымудруеш! Пад № 602 „обращение“ перадаецца: „зваротак або клічнае слова“. Задарма дадана тут: „або клічнае слова“, што будзе роўнaзначна тэрміну „выклічнік“ („междометие“). Досыць нязграбны пераклад пад № 603: „обстоятельственное слово—акалічнасьцёвае слова“. Занадта дакладна перадана „орфоэпия—праваслоў“ (№ 658). Чаму не казаць: „правільная вымова“? Невядома: чаму „очертание“ перакладзена якімсь дзіўным словам „вобрыс“, пры тым з двума націскамі: калі націск рабіць на *рыс*, дык як можа выйсьці *воб*? Пад № 808 „праязык“ перадаецца, як „першамова“: лепш было-б ужыць „прамова“ супастаўна

іншым тэрмінам, як прыкладам: „прачалавек“, „прарадзіма“ ды інш.; гэтаму ўжываньню, як здаецца мне, ня можа быць перашкодай падвойны сэнс, які набывае такім чынам слова „прамова“ (—„праязык“ і „ораторская речь“). Ня зусім ёмка пераданы: „предполагаемый—прыпушчальны“ і „предположение—прыпушчэньне“,—уплыў з боку польскай мовы відавочны (польскія словы: przypuszczalny, przypuszczenie). Пад № 876 „причинное отношение“ перакладзена: „прычынныя суадносіны“. Вось тут баяцца перайманьня з польскай мовы, на мой погляд, ня трэба,—і больш удалым зьяўляецца пераклад у IV в. Беларускай Навуковай Тэрмінолёгіі: „прычынны стасунак“.

Непаразуменьнем трэба лічыць пераклад (№ 914): „разговорный язык—размоўная гутарка“: ужо лепш было-б казаць „разгаворная мова“, хаця ў беларускім народным ужываньні спатыкаецца вельмі ўдалае азначэньне „звычайная мова“.

Да няўдалых перакладаў можна далей аднесьці: „расчленить—пачленаваць“ і „расчлененный—пачленаваны“ (№№ 939 і 940); „речевой такт—моўны такт“ (№ 948); пад № 975 „руссицизм—расіізм“; пад № 1006 „сказуемое—выказьнік“ (лепш было-б „выслоўнік“ і, адпаведна гэтаму, „предложение—выслоўе“); пад № 1011 „склад речи—уклад мовы“ (а чаму-ж часам кажуць: „гаворыць ні да складу, ні да ладу“?); „скобки—дужкі“ (лепш было-б проста „скобкі“, як і ўжываецца Бр. Тарашкевічам); „супин—дасягальная форма“. Аб адсутнасьці чуцьця мовы могуць сьведчыць такія пераклады, як: „увеличительное имя—збольшаны іменьнік“ і „уменьшительное имя—зьменшаны іменьнік“. Бо, зразумелая справа, што ня самы іменьнік пабольшваецца (трэ' было-б казаць,—„павялічваецца або зьменшваецца“), а той прадмет, да якога ён дадаецца, адсюль правільны пераклад: „павялічальны“ або „зьмяншальны“ іменьнік.

Спрэчным на мой погляд, зьяўляецца і прыняты ў тэрмінолёгіі пераклад лац. substantivum у тым сэнсе, у якім ён ужываецца ў сучаснай граматыцы, а гэтак сама створаныя на падставе гэтага перакладу словы. Ясная справа, што „імя назоўнае“, а потым Лёсікавы „назоўнік“ не адпавядаюць лацінскаму „substantivum“, якое дакладна ў расійскай мове перакладзена „существительное“, а ў польскай „rzeczownik“; правільна і Бр. Тарашкевіч, прымаючы пад увагу nomen, ужывае ў гэтым сэнсе „імя“. Уведзеныя Лёсікам „імя назоўнае“ і „назоўнік“ маглі-б адпавядаць nomen nominativum,—„имя нарицательное“. Думаецца, што калі-б наш тэрмінолёгісты зьвярнуў увагу на лацінскую мову, то ўхіліўся-бы такога перакладу. Лічачыся толькі з расійскай мовай, ён правільна передае „именительный падеж (casus nominativus)—назоўны склон“, але бачачы ў расійскім тэксьце „нарицательный“, адступае ад свайго ранейшага формальнага перакладу і дае пераклад ад сэнсу. На мой, прынамсі, погляд назвы, прынятыя для азначэньня „существительного“, патрабуюць рэвізіі. Магчыма было-б прыняць або проста „імя“ або „іменьнік“, або „рэчнік“,

ці „імя рачоўнае“. Зразумела, што няпрыймальны і нязграбны тэрмін „прыназоўнік“. Старое „прыйменьнік“ было куды лепшым. Аднак-жа трэба заўважыць, што беларуская мова дапушчала-б ужываньне і тэрміну „прадлог“ ці, прынамсі, „прыкладнік“, што адпавядае лацінскаму „praepositio“.

Заўвагі выклікаюць і nomina, даныя ў назвах паасобных моў. Невядома чаму „древне-индийский язык“ перакладаецца, як „старажытная індыйская мова“, „древне-греческий“, як „старажытная грэцкая мова“ і г. д. Ці не дапушчае беларуская мова ўжываньня: „стараіндыйская, старагрэцкая“ і г. д. мова? Цікава, што „новоперсидский язык“ так і перакладзена „новапэрсыдзкая мова“. І яшчэ больш цікава, што „древне-церковно-славянский язык“ перакладаецца як „старажытная царкоўна-славянская мова“, але для перакладу „старославянский язык“ так і прымаецца: „старaславянская мова“, хаця гэты апошні тэрмін пад двума нумарамі тэрмінолёгіі пішацца розна,—пад № 1162 „старaславянскае“, а пад № 1553 „стара-славянская мова“(?!).

Такім спосабам, бачым, што апрацаваны Інстытутам Беларускае Культуры проект мовазнаўчай тэрмінолёгіі ні ў якім сэнсе ня можа быць названы дакладным. Проблема беларускай мовазнаўчай тэрмінолёгіі ўсё яшчэ застаецца неразьвязанай проблемай,—і для разьвязаньня яе патрабуецца самы актыўны ўдзел як у апрацаваньні тэрмінаў, так і ў іх разглядзе з боку компэтэнтных спэцыялістых. Патрабуецца новая, ужо трэцяя, пераапрацоўка проекту на новых, *навуковых* падставах,—і гэту справу ня можна адкладаць на доўгі час.

Пры такіх умовах зьяўляецца незразумелым вымаганьне, якое ставіцца ў прадмове да проекту ад імя Галоўнай Тэрмінолёгічай Камісіі: „але для настаўнікаў і аўтараў падручнікаў гэтая тэрмінолёгія зьяўляецца абавязковаю, покі ня будуць зроблены зьмены самою Камісіяй прынятым у Інбелкульце парадкам“.

Мімаволі паўстае пытаньне: ці настаўнікі і аўтары падручнікаў такія *„безответные люди“*, каб прымаць за абавязковую для сябе тую тэрмінолёгію, хібы і неахайнасьці апрацоўкі якой кожнаму кідаюцца ў вочы?

# РЭВОЛЮЦЫЙНЫМ ШЛЯХАМ [1])

*(Да дзесяцілецьця літаратурнай творчасьці Міхася Чарота)*

**Зьм. Жылуновіч**

Чарговым пасьля „Завірухі“ этапам у творчасьці М. Чарота ёсьць час, які супадае з напісаньнем поэтаю свае знатнае поэмы „Босыя на вогнішчы“. Ідэя поэмы крышталізуецца ўжо часткаю ў зборніку „Завіруха“. Яе асноўная думка прамігае ў шэрагу яго вершаў. Поэма яе разгартае ва ўсю шырыню і адшліфоўвае да бляску. Гэта думка—аб клясавасьці, як рэгулючай, рухаючай сіле ў справе Кастрычнікавай рэволюцыі на Беларусі.

Да зьяўленьня поэмы „Босыя на вогнішчы“ ў беларускай літаратуры ня было ніводнага твору, дзе-б так выразна выпуклялася пролетарская сутнасьць вялікага Кастрычніка. У вершы „На чырвонай дарозе“ („Завіруха“) М. Чарот падкрэсьліў сілу еднасьці паміж рабочым і селянінам, якія „стары сьвет агнём паляць, руйнуюць і на вогнішчы новы будуюць, панаваць у якім будуць—молат і плуг“. Але ў гэтым вершы няма пакуль тае моцы пераконаньня, няма тае глыбіні і вялікасьці вобразаў, якія перад намі разгарнула поэма „Босыя на вогнішчы“. Болей таго, эфект памянёнага вершу аслабляецца частым ужываньнем поэтаю расплыўных тэрмінаў „народ“, „грамада“ ды інш., у якіх клясавасьць сьціраецца. Таксама ім раз-ад-разу падкрэсьліваецца сваё мужыцкае, сялянскае пахаджэньне.

> Ведай сьвет, што я сын мужыка-бедака,
> Які доўга ў няволі стагнаў [2]).

„Босыя на вогнішчы“ правялі мяжу паміж ранейшай і новаю ўстаноўкаю поэты. Поэта пераконана выставіў на пролетарскую сутнасьць у літаратурнай творчасьці сваімі героямі „басоту“, бач, тую сілу, якая ў рэволюцыі на Беларусі адыграла найвыдатнейшую ролю.

Босыя замяняюць песьняру пролетарaў у праламленьні беларускіх умоў. Гэта ў вялікай долі адпавядае сутнасьці рэчаў. Маючы пераважна сялянска-гаспадарчы адбітак, Беларусь у гістарычных падзеях Кастрычніка выстаўляла ў першыя шэрагі сялянскую беднату. Невялікай колькасьці рамесьніцтва і дробна-прамысловага пролетарыяту ня старчыла для дасягненьня перамогі. Усё-ж трэба сказаць, што на Беларусі, як і

---

[1]) Гл. „Полымя“ № 2.

[2]) „Завіруха“, стар. 43.

па ўсяму Саюзу, перадавым авангардам, увасобнікам клясавай сьвядомасьці былі гэтыя невялікія кадры беларускага рамесьніцтва і дробнапрамысловага пролетарыяту. Зачынак вызваленчага руху заўсёды ішоў з гарадоў ды мястэчак, цягнучы за сабою сёлы і вёскі. Вось гэтае рысы і не адзначаецца выразна ў „Босыя на вогнішчы" М. Чарота. Таму і даводзіцца заключаць, што ім схоплена дынаміка падзей у пэўнай меры праз туль імпрэсыянізму. Тым ня менш поэма ня траціць свае надзвычайнае сілы і свайго багатага хараства. Аўтар у ёй дасягнуў вялікіх здольнасьцяй і з боку мастацкага афармленьня. Напісаная рознымі памерамі, поэма пераліваецца ўдалымі рытмамі, цьвёрдымі, як сталь, і музычнымі, як рэволюцыйны гімн.

Ня дзіва, што выйсьце ў сьвет *) „Босыя на вогнішчы" падняла столькі гутарак вакол сябе, фактычна ўзрушыўшы ўсё беларускае літаратурнае жыцьцё. На поэму панясьліся водгукі ў шэрагу крытычных артыкулаў, у дыскусыях, у знарочыстых „судох над поэмай".

Выданьне „Босыя на вогнішчы" ў ліку дзесяці тысячаў экземпляраў разышлося на працягу аднаго году. Зацікаўленасьць поэмаю, як і сьлед, галоўным чынам згушчалася вакол яе зьместу. Аб форме ніхто не хацеў казаць, разумеючы, што яна бясспрэчная.

Датыркаючыся „Босыя на вогнішчы", і крытыкі і судзьдзі стараліся як найпаўней выявіць у ёй яе пролетарскую сутнасьць. Тут ня будзе лішнім спыніцца крыху на зьмесьце крытыкі поэмы, як на выдатным моманце ў гісторыі беларускай літаратуры. Проф. У. Ігнатоўскі ў сваім крытычным нарысе „Босыя на вогнішчы", даданым да поэмы, так адзываецца аб гэтым творы М. Чарота. „Выдатнейшым па форме і зьместу творам песьняра зьяўляецца поэма „Босыя на вогнішчы". У гэтай поэме аўтар сконцэнтраваў, як у крышталe, усе свае думкі і пачуцьці, і яна яшчэ чакае свайго філёзофскага і мастацкага разгляду... Поэма дае нам абгляд усясьветнай сучаснай рэволюцыі ў тым відзе і ў тым настроі, як яна адбывалася і перажывалася ў нас на Беларусі. „Босыя" (лапкі У. Ігнатоўскага) запалілі ўсясьветнае вогнішча, усясьветны пажар. Беларусь у часе гэтага пажару апынулася на мяжы яго. Гасіцелі пажару шмат разоў душылі рэволюцыю ў Беларусі крывёю рабочых і сялян.

Рэволюцыя на Беларусі перарывалася белымі окупацыямі чужаземнага капіталу, што налажыла на падзеі рэволюцыі на Беларусі асаблівую мясцовую пячатку". Далей ідзе растлумачэньне ды ілюстрацыя выняткамі з поэмы тых пэрыодаў у жыцьці Беларусі і тых найяскравейшых здарэньняў з рэволюцыі, якія песьняром зачэплены ў сваёй поэме. Праца на пана і стан жыцьця босых; ашуканства босых папамі, цэрквамі ды іх бунтоўны настрой; окупацыя, беларуская рада (белы дом) і яе праца; змаганьне босых адных; дапамога з усходу; вызваленьне з-пад панскае

*) Поэма першым выданьнем вышла ў 1922 г. ў выдавецтве „Адраджэньне", Менск.

няволі; паход рэволюцыі, яе процэс і выгляд; урачыстасьць перамогі і настрой босых. І ў заключэньне проф. У. Ігнатоўскі кажа: „Поэма згуртавала ў сваім зьмесьце сутнасьць настрояў песьняра і зьяўляецца праўдзівым вянком творчасьці яго. *Магчыма лічыць* (падкрэсьленьне наша. *З. Ж.*), што поэма „Босыя на вогнішчы“ для выяўленьня сутнасьці вялікай рэволюцыі на Беларусі зрабіла тое самае, што зрабілі поэмы А. Блока „Двенадцать“ і „Скифы“ для выяўленьня сутнасьці агульнарускай рэволюцыі. Паміж поэмаю М. Чарота і поэмамі А. Блока ў гэтым напрамку ёсьць нейкая сувязь, якая павінна мець свае асобныя гісторыка-літаратурныя досьледы“.

Тут, як бачым, проф. У. Ігнатоўскі абмінуў кратаць самае сутнасьці поэмы, гэткім чынам пакінуўшы „босых“ без акрэсьленага погляду на іх. Толькі ўкосна ім кінута думка асноўнага характару, якая гаворыць аб падабенстве значэньня і гістарычнасьці поэм М. Чарота і А. Блока. Сваю ўвагу проф. Ігнатоўскі ўсяго аддаў поэме „Босыя на вогнішчы“, як „выдатнейшаму па форме і зьместу твору“ М. Чарота.

Бязумоўна, што гэтым пытаньне ня вычэрпвалася. Чытач шукаў расшыфроўкі зьместу і клясавай выразнасьці поэмы. Проф. У. Ігнатоўскі гэтага не зрабіў.

Паўней і глыбей ахарактарызаваў поэму „Босыя на вогнішчы“ т. В. Кнорын у маленькім нарысе, даданым таксама да поэмы, поруч з крытычным нарысам проф. У. Ігнатоўскага.

Тав. В. Кнорын вось што гаворыць аб „Босыя на вогнішчы“: „Босыя на вогнішчы“—гэта не поэма організаванага гарадзкога пролетарыяту буйных прадпрыемстваў, гэта поэма босых,—нашай сялянскай беднаты, нашага поўпролетарыяту і нязначнага (лікам) пролетарыяту. Але на Беларусі гэта і ёсьць самая перадавая і самая рэволюцыйная сіла“. „М. Чарот прачуў і выказаў, як гэтыя босыя падуладаюцца сьветаваму рэволюцыйнаму руху, дыктатуры гарадзкога пролетарыяту, як іх жыцьцё пачынае бегчы ў новых гарадзкіх рытмах“. У заключэньне: „Вядома, поэма „Босыя на вогнішчы“ павінна быць толькі першым этапам у разьвіцьці беларускай пролетарскай поэзіі і самога поэты, але, як гэткую, яе трэба ацаніць павінным чынам. Мы не сумняваемся, што беларуская пролетарская літаратура ад гэтае поэмы пойдзе далей шпаркімі крокамі“.

Апрача паданых думак аб поэме „Босыя на вогнішчы“ знаходзіліся і выказваліся на яе і другія погляды. Сярод апошніх трэба заўважыць тыя, у якіх босыя М. Чарота адносіліся да люмпэн-пролетараў. Падставу гэтым поглядам знаходзілі ў параўнаньнях босых з чыннымі асобамі ў поэме А. Блока „Двенадцать“, у вострых лёзунгах босых, як:

Каго зловіш—разарві,
Хто ня наш—таго даві.

Або—

На вогнішчы басанож,
У руках вінтоўка, нож...

Ці калі—

На вогнішчы стала пячы.
На вуліцы вецер, бура...
Трэба ўцячы,
Каб была цэлая шкура—
А мы босыя адступаем.

Гэтыя і цэлы шэраг іншых лёзунгаў і чыннасьць босых сапраўды дазваляюць думаць аб іх, як аб маласьвядомай сіле ў рэволюцыі, аб сіле, якая стыхійна трапіла ў рэволюцыйны вадакрут.

Поэме не хапае зусім нямнога асобных рысаў, якімі-б выразнасьць босых стала яскравей і паўней. Увесьці-б аўтару гэтыя рысы і тады далёка ясьнейшы выгляд мела-б і сама крытыка твору.

Але, ці знарок, ці па недагляду, поэта прапусьціў іх, і разуменьне яго босых, як клясавае катэгорыі, стала рознасэнсным. Зараз мы дапускаем тую думку, што М. Чарот, ужываючы тэрмін „босыя" меў на ўвазе беларускую сялянскую галоту, а ўкладаючы ў іх вусны жорсткія і часта нерэволюцыйныя лёзунгі і выказы, хацеў гэтым падкрэсьліць іх векавую злосьць на прыгнятальнікаў-окупантаў. Але разам з гэтым, бясспрэчна, што ўплыў А. Блока, які бязумоўна меўся, захапіў сабою нашага песьняра і з боку адзеньня ім тулю сымболізму і лёгкай містычнасьці на герояў свае поэмы—босых. Дзякуючы апошняй акалічнасьці, так і засталося не ўсталяваным, ці поэма „Босыя на вогнішчы" пролетарская па зьместу, ці ўсяго яна толькі рэволюцыйная. І дагэтуль думкі падзяляюцца надвае...

Аднак, тое ўражаньне, якое пакінула па сабе поэма і ў чытача і ў беларускай літаратуры, сьведчыць нам, што гэты твор М. Чарота ёсьць надзвычайным зьявішчам у беларускай літаратуры. Ён падняў аўтара на значную вышыню, выявіў у ім багатыя творчыя здольнасьці і сілу поэтыцкага натхненьня. „Босыя на вогнішчы" ўзбагацілі беларускую поэзію новымі дасягненьнямі і ў справе музычнасьці беларускага вершу.

Праўда, тут нельга згадзіцца са словамі Тодара Глыбоцкага, які кажа: „Поэма „Босыя на вогнішчы" М. Чарота канчаткова вырашыла ідэёвы напрамак беларускае літаратуры і паставіла на яе чале новыя сілы" *). Праўдзівей будзе, калі сказаць, што фактычна сама поэма зьяўляецца творам, для напісаньня якога аўтар атрымаў штуршок ад акрэсьленых к таму часу новых ідэй. Гэтыя новыя ідэі, у сваю чаргу, ня толькі высунулі (а не паставілі) новыя сілы, а і аднавілі старыя сілы ў беларускай літаратуры. „Босыя на вогнішчы" бадай што былі яскравым выяўленьнем творчасьці новых і абноўленых сіл... Гэта об'ектыўна і ўвогуле ў стасунку да беларускае літаратуры. У стасунку-ж да самога творцы, М. Чарота, пакуль „Босыя на вогнішчы" ёсьць апотэознай нотай у яго творчай сымфоніі.

*) „Шляхам жовтня" Тодара Глыбоцкага ў украінскай часопісі „Молодняк", лістапад 1927 г., № 11, Харкаў.

Так. Да апошняга часу, вось ужо на працягу пяці год, поэта нам ня даў ніводнага твору, які-б па сваёй сіле і багацьцю гармоніі раўняўся з поэмай „Босыя на вогнішчы“. Гэта, вядома, ня значыць, што далейшая творчасьць М. Чарота не паказвае тых ці іншых адзнак свайго разьвіцьця. З боку ўдасканаленьня формы, многія вершаваныя творы поэты пайшлі шмат наперад ад „Босыя на вогнішчы“. Іх музычнасьць блізка не перагнала ўсе лепшыя ўзоры ў беларускай поэзіі. Дый зьмест пазьнейшых твораў М. Чарота ня траціць сваёй сілы і глыбіні. Так, у поэты надалей не наглядаецца ніводнага прыкладу ўхілу ад грамадзка-соцыяльных тэм. Наадварот, у Чаротавых творах, што напісаны ім пасьля „Босых на вогнішчы“, як і ў ранейшых, думка цесна зьвязана з падзеямі сапраўднага жыцьця. Каб шчыльней быць з ім зьвязаным, М. Чарот паранейшаму цьвёрдымі крокамі ўступае ў вір жывое чыннасьці.

Поэта выбірае сабе грамадзка-літаратурную арэну. Ужо з 20 году ён становіцца сакратаром і неадменным супрацоўнікам газэты „Савецкая Беларусь“. На гэтай пасадзе пясьняр працуе да восені 1921 году.

Разам з тым, маючы нахіл да тэатру, ён піша п‘ескі („Слуцкая варона“, „Мікітаў лапаць“ ды інш.) і п‘есу-поэму „На Купальле“. А каб самому ўдасканаліцца ў тэатральным мастацтве, ён з восені 1921 году залічаецца ў беларускую тэатральную студыю ў Маскве. Але ў студыі М. Чарот працуе ўсяго да восені 1922 году, калі парывае з думкаю аб тэатры і варочаецца ў Менск, дзе зноў ідзе на газэтную працу. Калі залажылася часопісь „Полымя“, ён прызначаецца сябрам рэдакцыйнае колегіі...

Да гэтага ў наступным 1923 годзе М. Чарот к памянёнай працы далучыў сабе новыя абавязкі—аформленьне першага беларускага пісьменьніцкага аб‘яднаньня „Маладняк“.

„Маладняк“ паставіў сваёю мэтаю згрупаваць вакол сябе выяўленыя маладыя сілы ў беларускай літаратуры, выхаваць з іх кадры пролетарскіх ідэолёгаў у ёй, паставіць далейшае яе разьвіцьцё водлуг разьвіцьця соцыялістычнага будаўніцтва.

Адначасна „Маладняк“ узяў на сябе заданьне „пераацэнкі каштоўнасьцяй у поэтаў-нашаніўцаў“. І, нарэшце, дадаў да сваіх функцый вынаходку новых літаратурных здольнасьцяй сярод моладзі, гуртуючы апошнюю вакол „Маладняка“ і маладняцкай літаратуры.

Трэба заўважыць, што для выпаўненьня гэткіх шырокіх заданьняў патрабавалася много сіл і стараннасьці. М. Чарот меў іх у сябе, а таму рашуча і здаволена аддаўся гэтай адказнай працы. Зразумела, што гэта праца пачала адбівацца на яго літаратурнай рабоце. Грамадзкія элемэнты выпіралі наперад і адсувалі назад элемэнты літаратурнай творчасьці.

Але чамусьці якраз на гэты час прыпадаюць найінтэнсыўнейшыя моманты ў працаздольнасьці М. Чарота. Ён пасьпявае спраўляцца з ор-

ганізацыйна-грамадзкімі заданьнямі па аб'яднаньні „Маладняка" і знаходзіць часу на пісаньне многалікіх твораў. Пры гэтым яны ў яго рознастайнага жанру: лірычныя вершы, соцыяльныя поэмы, апавяданьні з новага быту і п'есы. Друкуе іх па часопісах і газэтах, ня маючы магчымасьці сабраць і сыстэматызаваць усё для зборніку. У часопісі „Полымя" за 1922 і 1923 гады і ў часопісі „Маладняк" за 1923 г., якое М. Чарот стае рэдактарам, зьявіўся цэлы шэраг дробных вершаў поэты.

У аднэй частцы гэтых вершаў адзначаецца бадзёры песенны лірызм, насычаны радасьцю жыцьця. Мотывам, якія ў поэты абвеяны сонцам, асалодаю існаваньня, любаваньнямі прастораў—адпавядае мастацкі дасканалая рытміка і багацьце ценькіх машастовых фарбаў. Пад іх атуленьнем забаўкай робіцца халадэча зімы, зацярушаныя сьнегам галы.

Балотам сьнежным праз сасоньнік,
Які смалёвым пахам вабіць,
Прастор балот зімою соннай
Люблю санямі разухабіць...
Пукаты стог люблю аб'ехаць,
Сьляды наўкол зрабіць палозьзем,
І сена выскубнуўшы вехаць,
Люблю раскідаць па дарозе *).

З кожнага радку, як бачым, павявае насычанасьцю шаўковае мяккасьці. Адчуваеш настрой, нібы абясьцяжанай постацьцю лунаеш ты ў крышталёвых хвалях зімовага паветра. І ў той-жа момант над табою „довлеет" выразна ачулае блажэннае жыцьцё. У гэткіх-жа далікатных фарбах паказваецца поэтаю падобны вобраз у іншай композыцыі (верш „Сенажаці і палі асьнежаны". Выбраныя вершы М. Чарота, выданьне „Маладняк", Менск). Тут выгляд асьнежанага лесу, вуліц вёскі; коўзаньне дзяцей на санках, гульня воўка каля вёскі, асалода любаваньня дзяцей зімнім хараством.

Дзеці пальцамі шыбы вузорамі
Размалёўваюць, тулячы плечы.
Згорнуць ў жменю сьняжыначкі зоры
І бягуць пасмактаць у запеччы.
Ноччу печ засьпявае ім комінам,
Сон салодкі ў пасьцелі ім сьніцца,
Што ў садку яны з крыкам і гоманам
На сіле ловяць гуртам сініцу.

Ні каліва суму—бо жыцьцё яго ня любіць. Рэволюцыя склала гэткія ўмовы, пры якіх чалалек стае гаспадаром жыцьця, яго валадаром. Чалавеку, як цару прыроды, павінны падначаліцца ўсе стыхіі, мора і паветра, поверх зямное кулі і яе нетры.

У гэткім стане ня могуць крануць людзкога сэрца мінорныя тоны сумаваньня. М. Чарот у нізку гэткага характару сваіх вершаў выяўляе перад намі зародкі організацыі, ячэйкі новых адчуваньняў свабоднага

*) „Полымя" № 2, люты 1923 г. Менск.

жыцьцястварэньня, яго віруючае разьвіцьцё, з гэтай мэтаю ён зрэдку кратае сымболічных прыёмаў і сьмелых, з першага разу, як-бы жорсткіх вобразаў (верш: „Зямлю цалуе неба сінь“). Але на гэты час грубыя рысы ў яго выпадковы. Туль сымболічнасьці плаўкі і ценькі. І з-пад яго выразна вызначаецца прысак рэволюцыйнага романтызму. Гэта асабістасьць характарызуе другую частку лірычных вершаў М. Чарота, напісаных ім у працягу ад канца 1922 г. па канец 1923 году. Асноўныя элемэнты іх істоты—гэта паглыблены лірызм грамадзка-колектыўных імкненьняў. Багацьце і сакавітасьць зьместу ў іх цесна пераплецена з дасканаласьцю і мастацкім раскладам муль.

Падобных гэтым вершам мала можна знайсьці ў беларускай поэзіі. А, прынамсі, з маладых пісьменьнікаў ніхто пакуль нічога роўнага ня даў.

Плывём к прыгожа-сьветлай далі...
На хвалях вогненнага мора...
А полымя ўсё плавіць, плавіць—
Палёў абшары, лес і горы...
Плывём к прыгожа-сьветлай далі... *)

Даражэй ад усяго ў гэтых вершах—гэта цесны пераплёт грамадзкага пачуцьця з яскравасьцю надзей, пазыўных воклічаў з філіграннасьцю музычных зыкаў. Гэта асаблівасьць характарызуе той посьпех, які запоўніў пераход М. Чарота ад „Завірухі“ да 1923 г.

Поле ціха шаптала калосьсем,
Як находзіла ворагаў раць.
Гэта ты у чырвоную восень
Сонны край свой пачаў вартаваць.
На шляху, на прыбітым гасьцінцы,
На здратованых коньмі палёх—
Гучны кліч твой, як водблеск зарніцы
Адгалоскам жыву. чым разьлёг...
Ты вярбою шумеў пры дарозе,
Гольлем вабячы неба блакіт,
Да тых гоняй хіліўся бярозай,
Дзе прастор быў крывёю заліт...

(Ц. Гартнаму. „Полымя“ № 2, студзень 1923 г.).

У вібрацыях гэтых пявучых гукаў да вашага вушшу выяўляюцца і мотывы нацыянальнай рэволюцыі і любасьць да радзімы.

Але іх пявучасьць далёка ад плаўкіх сэнтэнцый. Гукі акрэсьлены, загартованы агнём змаганьня. Думкі і пачуцьці, што кіпяць у нутру, абуджаныя чытаньнем гэтых надзвычайна гармонічных песьняў-позываў, не варочаюць назад, а накіроўваюць у наступнае, у будучыню, да сьветлых даляў. Пясьняр бачыць, што гэтыя далі парошчаны чырвонымі вясьнянкамі. Вершы пад гэтай назвай даюць нам суцэльны вобраз процэсаў і настрояў

*) „Полымя“ № 1, сьнежань 1922 г. Менск.

у працы пры ўмовах вольнага соцыялістычнага будаўніцтва краіны. Пясьняр малюе працу ў ружовых фарбах, у творчых парываньнях. Уся істота працаўніка сабрана ў адну кропку—увагі да сахі, да молата, да поля, да заводу.

У некаторай долі ў разгляданых вершах можна знайсьці і тэму і мотывы з пэрыоду „Завірухі". Тым ня меней вартасьць іх ні на макава зерне ня зьніжаецца. Глыбіня думкі і прыгожасьць музычнасьці, намнога ўдасканаленая М. Чаротам,—вельмі трапна адбіваюць паглыбленьні соцыялістычнасьці самое працы і набытую поэтычнасьць яе вольнасьці.

Паглядзі: на полі вораным
Сьлед пралажан калясом.
Селянін ідзе ня зmoраным,
Корміць глебу ён аўсом
І з сяўні за жменяй жменяю...
Шум насеньня, як дажджа.
Хоць загон блішчыць каменьнямі.
Верыць, будзе ураджай.
Ён палетак свой узораны
Барануе, рве дзірван.
За канём ідзе разораю.
Над сваёю працай пан [1]).

Выразныя, пукатыя вобразы, закончаныя, адрывістыя сказы і рытм поўнасьцю перадаюць сутнасьць і настрой працы-творчасьці. Кожнае слова западае ў сэрца і пакідае па сабе сьлед. Бо ў гэтых словах, апроч сілы і суцэльнасьці настрою, яшчэ заложана і глыбокая ідэя. Гэта ідэя—адраджэньне індустрыяльнай сельскай гаспадаркі, экономічная рэволюцыя ў вёсцы. Вызвалены з палітычнай і соцыяльнай няволі селянін мусіць вызваліцца і з абцугоў векавое закажанеласьці, някультурнасьці, прымітыўнага ўкладу жыцьця.

Путы старых умоў—падстава няволі. „Чырвоныя вясьнянкі" малююць нам цеганіну, пакуль яшчэ ня шырокага размаху, наступу машыны на вёску. Цікава, пры гэтым, што ў нашага песьняра рэволюцыя індустрыяльнага адраджэньня Савецкае Беларусі выглядае прыгожаю казкаю, у якой:

Змрокам ціхім сьпеў салаўіны...
Гай шапоча кустам альховым...
Ён прыехаў—рыцар машыны—
Кахацца з дзяўчынай вясковай [2]).

Музыка вясельля „рыцара машыны з дзяўчынай вясковай" мае, зразумела, і адпаведныя здарэньню мотывы, акорды. „Гудзе гудок.

---

[1]) „Полымя" № 3—4, люты—сакавік 1923 г.

[2]) „Чырвоныя вясьнянкі", „Полымя" № 3—4, люты—сакавік 1923 г., Менск.

Паўзуць машыны ў шыр і даль палёў, балот". І тут-жа новы вобраз гэтага поступу выказаны наступна:

Імчыцца раць сталёвых коняй,
Капыт-калёс чуваць іх звон.
Араты, не ўзараўшы гоняй,
Глядзіць, вачам ня верыць ён.

Сама конструкцыя „Чырвоных вясьнянак", сымэтрычна падзеленая на чатыры квадры, як-бы пазначае чатыры стадыі рэволюцыйнага процэсу індустрыялізацыі вёскі. Першая квадра—гэта пролёг; яго зьмест—урачыстасьць лета, іначай, урачыстасьць адноўленага жыцьця. Яна выглядае: у звоне рэчак крыгамі, у сьпеву жаўранка, у прывітаньні ранку лясным шумам, у прыгожасьці сенажаці, увабранай кветкамі, у хваляваньні руні... Усё гэта ў паяднаным харастве ўсьцілае шлях новай вясьне... Другая квадра праводзіць чырвоную нітку ўздымнага пачуцьця незалежнасьці, з якою селянін—„пан працы"—ідзе на сваю ніву рваць „дзірван". Трэцяя квадра перадае натхненьне прыходу „раці сталёвых коняй", захапленьня гэтым аратых, якія „у новую краіну сягоньня робяць пералёт". І, нарэшце, чацьвертаю квадрай - эпілогам—поэта засуцэльвае свой моцны, сконцэнтраваны вобраз „Чырвоных вясьнянак" эмблематычнымі рысамі пралёту срэбнага каня, які „на зямлю хоча ўпасьці". Уцалку гэты верш выяўляе сабою пэрль прыгожасьці, адшуканай М. Чаротам у прыску перапалу старога жыцьця, адшліфаванай пясьнярскай здольнасьцю і паложанай на вітрыну беларускае поэзіі...

Гэтых пэрляў, гэтых адрыўкаў лірычнае поэмы, прасычанай промэтэевым агнём, у М. Чарота некалькі. За „Чырвонымі вясьнянкамі" лёгічна ідзе некалькі вершаў, прысьвечаных маладняку, баявой работніцка-сялянскай комсамоліі, гэта: „Маладняк" [1]), „Зарунела, зарунела", „Комсамолія" [2]), ды інш. [3]). Поэта імі апявае маладую сьвежую сілу, якая прыходзіць на заараную ніву з творчай працаю. Увайшоўшы ў яе гушчу і стаўшы на чале яе баявых, ахопленых імкненьнем шэрагаў, ён з іх прыходам адчуў вялікі сэнс буйнага разьвіцьця краіны.

Бацькі рвалі дзярыну, а дзеці будуць сеяць новае насеньне. Яны яго засеюць, выхаваюць і нікому не аддадуць плёнаў свае працы. Будзь благаславеным наступны час! Тваёй вялікасьці поэта пяе натхненныя гімны. Як яны мілагучны, як зграбны і прыгожы! Слухайце:

Маладняк сваімі лісьцямі
Шапаціць нам казку-вольніцу...
Помнім-помнім, як калісьці мы
Чорных дзён стрымалі коньніцу.

[1]) Надрукован першы раз у № 1 „Маладняк", 1924 г.

[2]) Надрукован упяршыню ў № 2—3 „Маладняк", 1924 г.

[3]) Усе гэтыя вершы з некалькімі іншымі вышлі ў 1925 г. ў выданьні „Маладняка" кніжачкаю пад назвай: „Выбраныя вершы М. Чарота".

Перастаў і сумны сьпеў гусьці,
Дні прышлі—ажно ня верыцца...
Хто-ж адвагі знойдзе, сьмеласьці
З сілай моладзі памерыцца!
(„Маладняк").

І далей:

Зарунела, зарунела аксамітам...
Рэчкай срэбнай—сонцам залілося...
На палёх здратованых, прыбітых
Паглядзі!.. Вясну радзіла восень.
Маладняк зялёны, бач, кудравіць,
Ахіляе край яскравым лісьцем...
Аб здабытай вольнасьці і славе
Маладняк шапоча ў песьні-сьвісьце...
(„Зарунела, зарунела").

Комсамолія цалкам захапляе поэту,ператварае яго і глядзіць яму ў твар „раздольным жыцьцём". Праўда, яно, гэта жыцьцё, яшчэ поўнасьцю не закрасавала. Але хто можа сумнявацца, што комсамолія ня прысьпешыць яго панаваньня? Поэта тым болей упэўнены ў гэтым. Ён яскрава адчувае яго подых, яго шалясьценьне. Комсамольцы—яго вяшчуны. Не, поэта ня можа ня быць да канца самім сабою: ён далучае сябе да комсамольцаў, бо і Беларусь—комсамолія!

У той-жа час Янка Купала ў сваім памятным вершы „Арлянатам"*) выказаў ім сваё братэрскае ўшанаваньне. Ён, як-бы блаславіў іх на ўдзячную адказную працу. М. Чарот захапіўся настроем гэтае працы, дакрануўшыся яе маладых купінкаў, пушыстае руні...

Ад чыстасьці і сталёвай граненасьці формы гэтай нізкі Чаротавых вершаў, як ад сьцяны гарох, адскаквалі фальшывыя ўплывы надзенных кірункаў у літаратуры. Прыватна, імажынізм, да якога поэта наварачваў узрокі, быў чужы ўсёй яго істоце.

Постаць М. Чарота мэрам-бы мела імунітэт, якім адбівалася і адбілася ад заразы гэтай дробна-мяшчанскай богемскай плыні. Выразна відаць, як налёты імажыніцкіх настрояў, крануўшыся Чаротавай леры, рассыпаліся павуцінаю. Жывы, бліскучы, віруючы рэволюцыянізм ня мог ухавацца і пад тулем ужыванай поэтам сымболічнасьці, ці, праўдзівей— алегорычнасьці. І гэта добра. Бо тыя некалькі вершаў, на якія М. Чарот гвалтоўна нацягнуў імажыніцкай бросьні, многа страцілі ў сваёй моцы і ў сваім мастацтве. Угон за вобразнасьцю, які ў адзін, ліхое памяці, момант захапіў сабою, як ліхаманкаю, „Маладняк", прывёўшы некаторых яго сябраў да шалу, да анормальнасьцяй і да літаратурнага калецтва,— М. Чарота ўдзячна абмінуў. Ён застаўся непашкоджаным, чыстым, захаваўшы гэтым сваю сталёвую суцэльнасьць.

---

*) Упяршыню верш быў надрукаваны ў № 1 „Маладняк", 1923 г.

Да разгледжаных намі вершаў непасрэдна прылягае другая па тэрміну напісаньня поэма М. Чарота „Чырвонакрылы вяшчун“. Поэта назваў яе „поэмай-фантазіяй“. Надаў ёй асаблівы стыль, адпаведную тэхніцы (процэсу) палёту форму (пабудоўку). Поэма-фантазія „Чырвонакрылы вяшчун“ падзелена аўтарам на дванаццаць частак. Кожная з іх прысьвечана асобным момантам суцэльнае эпопеі палёту чырвонакрылага вяшчуна над земнаю куляю. Чамусьці поэтам гэтай сваёй поэме-фантазіі даны падзагаловак „Палёт першы“.

Няведама, ці хацеў ён працягнуць сваю поэму далей, ці мо' прапусьціў уставіць да тае або іншае часткі чарговыя палёты. „Першы палёт“, які абымае сабою ўвесь твор, пачынаецца над Савецкай Беларусьсю. Яго кірунак ідзе праз Заходнюю Беларусь, на Польшчу, Нямеччыну (Рур), Францыю, Алжыр, Амэрыку, Японію, выспу Сьвятое Алёны, Сандвічавы выспы ды інш. З вышыні „Сонца і зор“ чырвонакрылы вяшчун наглядае выяўленьне рознастайных форм жыцьця кожнае краіны. Сутнасьць яго амаль аднолькавая ўсюды, пачынаючы ад мяжы, якая аддзяляе Савецкі Саюз ад Польшчы. Над Польшчаю носіцца белы арол, які

> Ў паветры палошча
> Крывавыя когці...
> Уніз пазірае ён ласа,
> А там сьвежае, цёплае мяса...

Чырвонакрылы вяшчун яго зьбівае і яму адклікаюцца з зямлі словам „Пабеда!“

Яго вітаюць і—

> Ад меж Пазнані
> Да нізін Рура,

дзе „рабочыя ходзяць хмура“.

У Францыі ён вітае паўстаньне з магіл комунараў, якія—

„Сыплюць іскры ўлева і ўправа“.

Вяшчун і „чорнакожым ня страх“. Сваю іскру ён закідае ў Алжыр. Гэта выклікае—„Замест плачу—песьні, скокі“ і выгукі

> — Нам ня жаль!
> Нам ня жаль!
> Хай агонь затопіць даль...

Яму нехта крычыць з Трыполі,

— То вяшчун сусьветнай волі!

Далей, калі чырвонакрылы вяшчун пралятае над выспай Сьвятое Алёны „Над магілай Наполеона“, ён падае вокліч да яго. У гэтым вокмічы адчуваецца надсьмяяньне над вялікасьцю Наполеона, якая скончылася тым, што палкаводчы нават не валодае і невялічкаю выспай, ня толькі цэлым сьветам, які ён мерыўся падабраць пад сваю ўладу. Каб мець сілу на гэта,

> Трэба ўзьняцца
> На сінюю гладзь
> І неба павінна табе пакарацца.

Чарговы этап—у Колюмбію. Машына над фабрыкамі і заводамі вядомага Форда.

> Фабрыкі і заводы
> Гудкамі рагочуць,
> І неба чарнее ад дыму...

Чырвонакрылы вяшчун гукае:

> — Гэй, магутнейшы Форд!
> Зубамі са злосьці паляскай,
> Ня будзеш ты ўласьнікам
> Ні фабрык, заводаў, ні гораду...
> Мы пабядзілі!
> Наша ўсё, наша!
> Заводы, аўтомобілі,
> Гарадоў небаскробы...

Ї ціхаакіянскія выспы—Сандвічавы, Новая Гвінэя, контынэнт Аўстралія, над якімі вяшчун спускаецца ніжэй; яму дзікуны шлюць вітаньне сьвістам, скокамі. Апошнія станцыі палёту—Ява, Суматра, Кітай і Японія. Японія, гэта

> Краіна тая,
> Што выспай чырвонай
> У акіяне.

Яна асьвечана Фузі-Ямай, агнядышачай гарою.

Увогуле, уся дарога лётчыка запалена агнём—

> Зямля ўся ў пажары,
> Стары сьвет і новы...

Дванаццатая частка поэмы апісвае канец палёту над краем першай Вялікай рэволюцыі.

У заключэньне наступнае васьмівершша:

> — Таварыш лётчык! Як прыгожа
> Ляцець было ў блакітнай высі,
> Калі вяшчун за хмарай віўся
> Ї шлях шукаў для падарожжа!
> Вайна, пажар? Зямля і людзі?..
> Увысь імкнуцца вечна будзе,
> Хто быў у гэткім падарожжы...

Нам здаецца, што дзьве ідэі ў сваім пераплёце надалі аўтару натхненьня для напісаньня данае поэмы-фантазіі. Першая і асноўная—гэта не пакідаючае яго пачуцьцё захапленьня замацаваньнем социяльна-нацыянальных перамог у БССР і праблескі рэволюцыйна-нацыянальнага руху ў капіталістычных дзяржавах і ў іх колёніях. Час напісаньня „Чырвонакрылага вяшчуна“ якраз супадае з найбольшым уздымам адзначанага руху.

Савецкая Беларусь, у прыватнасьці, і Савецкі Саюз—увогуле ў канцы 1922 і ў пачатку 1923 гадоў рашучымі крокамі павярнулі да мірнага будаўніцтва. Апошнія патугі контр-рэволюцыі ў выглядзе кронштадзкага

паўстаньня, Антонаўшчыны, Балахоўшчыны жалезнаю рукою рэволюцыі былі прыдушаны. Новая экономічная політыка адкрыла шлях да ажыўленьня посьпешнага будаўніцтва прамысловага, гандлёвага і гаспадарчага жыцьця. За рубяжом, і якраз у Нямеччыне, існавала непасрэдна-рэволюцыйная сытуацыя. У Руры не астываў сярод рабочых рух паўстаньня. Перабягалі з месца на месца хвалі нацыянальна-вызваленчага руху. Гэтыя абставіны будзілі ўпэўненасьць, паглыблялі натхненьне, гусьцілі жаданьне.

М. Чарот, неадгінна сочачы за разгарненьнем рэволюцыйных падзей, акрыляўся сьмелай фантазіяй, малюючы сабе сусьветную рэволюцыю. Вобраз, у якім яна будзе ахапляць зямлю, вельмі трапна паў на чырвонакрылага вяшчуна. На заміlаваньне гэтага вобразу, магчыма, уплыла часткаю і другая ідэя—гэта кінуты ў той час кліч да адбудовы паветранае флёты. Замацаваньне ўлады рабочых і сялян ня можа абыйсьціся бяз іх належнай падрыхтоўкі да тэхнічнай магчымасьці ў любы момант устаць на абарону свае краіны.

Дружны водгук шырокіх гушчаў працаўнікоў на паданы кліч выяўляў сабою концэнтраваны згустак соцыялістычнага абавязку, клясавай сьвядомасьці, перад якімі нельга ня схіліцца песьняру... І ўрэшце—поэма-фантазія „Чырвонакрылы вяшчун“.

Мы не настойваем на выключнасьці гэтых ідэй у поэты, даўшых яму штуршок да пісаньня данага твору. Але бяз іх, панашаму, яго ня было-б.

Іншае пытаньне, як справіўся М. Чарот з задачаю выяўленьня самой па сабе крылатай ідэі а поступе рэволюцыі? Ці здолеў ён перадаць вялікасьць і паўнату яе? Ці досыць старчыла ў яго здольнасьці на выкананьне працы на ўзятую тэму? І, наогул, ці адпавядала яму брацца за падобную тэму?

Мы ўжо адзначылі тыя абставіны, настрой эпохі, калі поэта пісаў сваю поэму. Нельга адмовіць героічнасьці, якая прасычала эпоху. Адгукнуцца на яе так ці іначай такі пясьняр, як М. Чарот, мусіў. Аднак, зрабіўшы гэта, ён не знайшоў у сабе тых магчымасьцяй, якімі валодаў пры напісаньні „Босыя на вогнішчы“ і разабранага намі нізку лірычных вершаў. Поэме „Чырвонакрылы вяшчун“ не хапае непасрэднага пачуцьця, якога хапае ў поэты, калі ён не адрываецца ад зямлі. Нацягнутасьць струн яго леры і адсутнасьць конкрэтнай апоры ў непасрэдным адчуваньні абветрываюць поэму. Перасычанасьць яе рэволюцыйнымі фарбамі і гучнымі эпітэтамі надаюць наварот на агітку. Далей, у поэме суцэльнасьць ідэі часта парываецца і гіне ў неакрэсьленай яе асярэдзіне. Ад гэтага—сухасьць і схэматычнасьць у пабудове.

Чытаючы „Чырвонакрылага вяшчуна“, не атрымліваеш таго ўраханьня, якога, магчыма, чакаў аўтар ад чытача. Ня гледзячы на важкасьць тэмы, на яе магутнасьць, поэма застаецца лёгкаю. Раўняючы яе з „Босыя на вогнішчы“, бачым вялікую розьніцу. Рэволюцыя ў шостай частцы земнае кулі ў поэмным высьвятленьні („Босыя на вогнішчы“) пакідае

большы эфэкт, ніж поступ рэволюцыі па ўсёй земнай кулі („Чырвонакрылы вяшчун").

Вось за гэтым выйсьце гэтага твору М. Чарота было сустрэта многа цішэй ад папярэдніх. Аднак, і ціхая стрэча „Чырвонакрылага вяшчуна" ў зьвязку з яго недахопамі і самі пералічаныя намі недахопы болей выразны таму, што яны контрастуюць з шумлівасьцю і багацьцем сілы ды фарбаў у „Босыя на вогнішчы". Непасрэднае пасьля „Босыя на вогнішчы" выйсьце „Чырвонакрылага вяшчуна" не магло меаць іншага эфэкту ад таго, які атрымаўся. Праз гэту прычыну выпукляліся слабыя бакі поэмы мацней ад сапраўднай слабасьці. Ня будзь-бы гэтых акалічнасьцяй „Чырвонакрылы вяшчун" даў-бы прыметна большае ўражаньне. Даў-бы таму, што сам па сабе гэты твор М. Чарота як-ні-як, а багаты вобразамі, цікавай рытмікай, размахам думкі. Таксама гэты твор зьяўляецца адзіным у беларускай літаратуры па зьместу і задумам. Да М. Чарота ніводны беларускі пісьменьнік не чапіў гэтае тэмы. Па характву конструкцыі яго пабудовы ён першы. Можна здагадвацца, што аўтар поэмы знарок яе пусьціў такою, захацеўшы ахвяраваць у пэўнай долі і зьместам і мастацкасьцю вобразаў—сэнсу, як найдасканалейшай перадачы ў рытме вершу палёту машыны...

Бач і гэта адно, само сабою, мае дзіўную прыгожасьць, якая выяўляецца ў людзкай заўзятасьці ў змаганьні з прыродаю. Што можа раўняцца з задзёрам людзкіх імкненьняў падуладзіць сабе паветра і прасторы, скорасьць і вышыню? Ужо адзін намер выявіць вобраз імкненьняў к палёту чалавека заслугоўвае пільнае ўвагі. А пецьяго і ў сплёце рытму слоў наблізіць да адчуваньня—вялікая справа...

Няхай М. Чарот не дасягнуў патрэбнага ў гэтым кірунку эфэкту, але ён, бязумоўна, даў удалую спробу гэтага дасяганьня. Увогуле, поэмафантазія „Чырвонакрылы вяшчун" займае значнае месца ў творчасьці нашага песьняра і гаворыць сабою аб шырокім развою яго поэтычнага таленту... *).

---

Падобнай поэме „Чырвонакрылы вяшчун" і па характару, а часткаю і па форме пісьма, зьяўляецца трэцяя поэма М. Чарота „Ленін". Поэма „Ленін" напісана ім на адгоне каля двух гадоў ад часу напісаньня першых двух поэм. Але, як і першыя, поэма „Ленін" прысьвечана аўтарам аднаму з найвялікшых здарэньняў у гісторыі вялікай Кастрычнікавай рэволюцыі—сьмерці яе правадыра, Уладзімера Ільліча Леніна.

Водгук на сьмерць Леніна выказаўся ў колёсальным узрушэньні ўсяго працоўнага чалавецтва. Памеру і сіле жалобы ня было граніц. Гэтыя дні памятлівы нам сваёю трагічнаю вялікасьцю, сваёй неабдымнаю трагэдыяй. Савецкі Саюз паў на калені перад труною свайго творцы.

*) Поэма „Чырвонакрылы вяшчун" вышла ў 1927 г. асобным выданьнем у Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве ў ліку 3.000 экз.

Пахаваньне правадыра ўвабрала ў сябе ўсю шчырасьць, усю павагу, якою абнімалі працоўныя гушчы таварыша Леніна ў яго жыцьці.

Сусьветная літаратура адвяла сьмерці Ўладзімера Ільліча надзвычайную ўвагу. Дзесяткі выдатных пісьменьнікаў прысьвецілі гэтаму здарэньню свае творы.

Не засталася бяз водгуку на сьмерць Леніна і маладая беларуская літаратура. Рад твораў беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў прысьвецілі Леніну свае творы. Але значнейшым і багацейшым творам, прысьвечаным Леніну—ёсьць поэма М. Чарота „Ленін“.

Ва ўступнай частцы свае поэмы М. Чарот кароткімі моцнымі радкамі жалезнага дынамічнага вершу перадае нам тую сілу ленінскага „я“, з якою так шчыльна было злучана сьвядомае разьвязаньне справы вызваленьня беларускае вёскі:

Ленін!<br>
Ленін!<br>
Ленін!<br>
Фабрыка і завод грукоча...<br>
А вёска... блакітная вёска<br>
Нічога ня хоча...<br>
— Што нам вызваленьне?!<br>
Загнаць-бы пана ў дошку!<br>
Зямлі і волі!<br>
А болей нічога,<br>
Нічога болей!..<br>
— Бяз Леніна ні да парога...<br>
Галосяць гудкі заводаў...<br>
А поле,<br>
Наша курганнае поле:<br>
„Ад веку мы спалі“...<br>
Калосьсямі жыта заводзіць.<br>
Спаліць!.. Усё спаліць...<br>
Тысяча дзевяцьсот семнаццаты год...<br>
„Паўстане людзкі род!“

Фактычна ў гэтых радкох, у сьціслай сконцэнтраванай форме паказана поўнасьцю ідэя поэмы. Далей, цэлых дзевяць падзелаў яе адведзены разгортваньню вобразу разьвіцьця рэволюцыйнага руху, на чале якога стаяў Ленін, у аспэкце яго ўспрыманьня беларускім селянінам.

Кожны падзел поэмы „Ленін“—зьяўляецца асобным вобразам, які малюе сабою асобны пэрыяд вялікае ленінскае эпохі, пачынаючы з часоў вайны. Гэтыя падзелы-вобразы непасрэдна зьвязаны паміж сабою тым ростам уплыву і популярнасьці імя Леніна, якія настойна і рашуча заваёўвалі беларускую вёску. Гэтак, папершае, праходзіць перад намі „блакітная вёска“, у якой

Сярод васількоў-калосьсяў<br>
Жыве селянін Мікіта...

Блакіт і васількі, зразумела, не для Мікіты, які „сумна галосіць“ і „ад усходу да заходу сонца стогне“. Цяжкае жыцьцё з ўсіх бакоў націскае на селяніна Мікіту. Ён нарадзіўся ва ўмовах пякельных бядняцкіх мук і недахваткаў. Працаваў да сёмага поту, аддаючы плён свае працы і на пана, і на папа, і на прыгонны дзяржаўны апарат. Да ўсяго, нарэшце, надышла вайна, сыноў пацягнулі на вайну, войскам здраталі поле. У яго нутру раскалыхаліся трывожныя думкі:

Паны галаву гатовы скруціць нам...  
„Вайна да пабеднага канца...“  
На фронт коні і людзі...  
У імя айца  
Ї сына  
Ї сьвятога духа...  
А нам? А нам што будзе?!  
Нічога нам не пакінулі...

Гэтыя радкі выразна і маляўніча акрэсьляюць сабою той роспачны стан сялянскага жыцьця, які ставіў беларускага селяніна на парозе роспачы. У чым шукаць выйсьця, куды накіраваць думкі? Ї вось—збавеньне: асеньнім вечарам вяртаецца з войска Мікітаў сын. Ён бацьком прыносіць вестку аб загубе яго дваіх братоў і разам з гэтым кажа аб тым, хто яго перасьцярог ад загубы.

То быў—Ленін! Сын угаварвае бацьку, каб ён шанаваў Леніна.

Мікіта тварам к сьценцы  
Стаў на калені  
Ї шэпча:—Ленін... Ленін...

Далей аўтар малюе нам нясупынны рост ленінскага ўплыву на сялянства, прызнаньне апошнім Леніна сваім правадыром і збаўцам. Дзякуючы Леніну,

У блакітных вёсках-сёлах  
Новай вольнай Беларусі  
Селянін пяе вясёла:  
„Не сагнуся так, як гнуўся“.

На вокліч Леніна хутка адклікаюцца сялянскія гушчы; яны да яго накіроўваюць свае скаргі і з ім чуюць сябе гаспадарамі свае краіны.

Зразумела, што сьмерць Леніна, вестка аб чым трапляе пад шэрыя стрэхі вясковых будынкаў, сее агульную трывогу. Вёска аддаецца жалобе, яна

Таксама ў жалобных хварбах  
Ліе за сьлёзкаю сьлёзку...  
Поле, лясы і курганы  
Глядзяць сіратліва...  
Чуецца толькі: „Сьмерць паганая“.

Праз усю поэму праходзіць выразная, пукатая думка-вобраз, якая не дае ад сябе адарвацца. Ленін вырастае з яе ў магутную, уласьцівую

яму велічыню, агарнуўшую сабою разбуджаную вёску. Так і адчуваем, як нябачныя, але вакол расьцярушаныя словы і воклічы правадыра адбіваюць процэс нараджэньня новага жыцьця. З паднявольнае, здратованае вёскі на вачох вырастае вольная Беларусь, працягнуўшая братнюю руку да саюзнай Вялікарасіі, Украіны ды іншых старонак.

Гэты процэс удала ахутаны аўтарам багатымі мулямі псыхолёгічных момантаў, якія насычаюць твор адпаведнай паўнатой зьместу. Бачыш, што песьняру добра знаёмы ўмовы сялянскага жыцьця ў часы прыходу рэволюцыі, знаёмы тагочасныя настроі, і бачыш, што ён ведае дасканала зрушаную з застойнасьці пакорлівую натуру і нявыразныя жаданьні. Таму-то і характэрны падкрэсьленыя ім асабістыя рыскі, уласьцівыя селяніну ў першыя часы Кастрычнікавае рэволюцыі, накшталт таго, як

> Мікіта з Леніным раіцца,
> Як шчасьце здабыць мужыку,
> Кажучы яму пры гэтым
> Зрабі так, каб пачуць хоць пра сына!

Але не аднаму Чаротаваму знацьцю вёскі трэба прыпісаць багацьце і колёрытнасьць фарбаў яго поэмы „Ленін“. Тут многае залежыць і ад пясьнярскай здольнасьці і ад соцыяльнага характару яго музы. Пясьняр праз сваю істоту прапускае думкі і настроі паслаўшых яго ў вір змаганьня мільёнаў працоўных. З гэтае прычыны так рэльефны і так праўдзівы Чаротавы творчыя вобразы... Загэтым, далей, поўны і важкі, як вінаградныя галінкі, зьмест і ідэя кожнае яго рэчы. У Чарота нельга знайсьці тых тулявых, пушыстых, лёгкадумных слоў-сказаў, да якіх даткніся і яны рвуцца, як павуціньне. Розныя „ночна-макавыя колеры“, „прарубы вуліц ажалобіліся“, „пругка-цьвёрдыя брусьніцы буйных зор“, уласьцівыя некаторым поэтам, чужыя Чароту. Чужыя таму, што ён поэта-барацьбіт, а не староньні, хоць і актыўны глядач-сантымэнталісты. У кожным сказе Чарота адчуваецца пульс рэволюцыйнага подыху. Вось чаму зусім не падыходзяць да агульнага тону выпадковыя ноткі, накшталт „У вёсцы блакітнай“. Іх ня трэба для ўпрыгожаньня і без таго дасканалай музычнасьці Чаротавага вершу.

Поэма „Ленін“, як і іншыя поэмы песьняра, з мастацкага боку ня ўступаюць лепшым узорам у беларускай літаратуры. Багатая рыфма, перамежны тэмп рытму, пільная апрацоўка, акрэсьленасьць думкі,—усё кажа за выдатнасьць Чаротавага таленту. Адметна, як ён з кожным разам усё больш аддае ўвагі на адшуканьне памеру ў сваім вершы, які-б найпаўней перадаваў сабою акрэсьлены момант колектыўных узрушэньняў грамадзтва.

У „Леніне“, як і ў „Чырвонакрылым вяшчуне“, асабліва пуката выдаецца гэта. Уступ і заключная частка поэмы, а таксама першы і другі яе падзелы, пабудаваны так, што чытач ня можа ня спыніцца на іх моцных, адрыўных, справоджаных клічнікамі і шматкроп'ямі радкох,

якія напруджваюць яго настрой колькі мага. Уражаньне, дзякуючы гэтаму, навострываецца, ачулей робіцца пачуцьцё і ўся твая постаць калыхаецца трывогаю, надзеяй, спагадай, жаданьнем, імкненьнем...

У гэтым стасунку поэма „Ленін“ з формальнага боку як-бы крыху траціць у тым, што аўтар не захацеў правесьці яе ўсю ў тонах і рытме падобных, як ва ўступе ці ў заключнай частцы. Але, трэба здагадвацца, на гэта ў яго былі свае важкія прычыны. Гэтыя прычыны часткаю заключаюцца ў сіле і адказнасьці моманту, якога датычыць кожны падзел поэмы. Зьяўленьне Леніна і яго сьмерць выходзяць з паласы яго творчай працы, як два адпраўныя пункты. Яны і адзначаны ў поэме вагромнейшымі ўздымамі ўрачыстасьці і трывогі, для выказу якіх патрэбна было болей фарбаў і дынамікі. Творчая паласа ў жыцьці правадыра рэволюцыі вымагае іншага падыходу мастака. Ды напружанасьць, прыданая ў пачатку і ў канцы поэмы, будзь-бы яна праведзена праз увесь твор, надала-б яму аднастайнасьці. Пясьняр гэта ўлічваў, паніжаючы згушчанасьць фарбаў і дынамічнасьць настрою ў некаторых мясьцінах поэмы.

Уцалку, „Ленін“—твор на многа мацнейшы ад поэмы „Чырвонакрылы вяшчун“. Гэта яго моц захавана ў самым зьмесьце тэмы, у яе размаху і значнасьці. „Ленін“ у многім нагадвае поэму „Босыя на вогнішчы“, сьведчачы за тое, што М. Чароту рэалістычныя вобразы ўдаюцца лепей ад фантастычных. Зразумеласьць гэтага ляжыць у факце шчыльнай сувязі песьняра з апяванымі ім падзеямі ў жыцьці. Героічнасьць гэтых падзей накладае адпаведную афарбоўку і на самы твор.

Поэму „Ленін“ М. Чарота трэба залічыць да цыклю героічных поэм.

---

Да таго-ж цыклю належыць і чарговая па напісаньні поэма М. Чарота „Марына“. Сюжэт яе ўзяты аўтарам з часоў окупацыі Беларусі палякамі. Канвою, на якой разгортваецца поэма, служыць паўстаньне беларускіх працоўных супроць окупантаў. Тэму гэту, як бачым, ужо закранаў пясьняр у поэме „Босыя на вогнішчы“. Багацьце фарбаў і сілу героічнасьці гэтага процэсу змаганьня за Савецкую Беларусь аўтар выявіў у ёй дасканала. Аднак, шырызна, размах і гістарычнае значэньне паўстанцкага пэрыоду ў жыцьці Беларусі, водлуг М. Чарота, не ўлажылася ім у адну поэму.

Ён палічыў неахопленай ёю аднае рыскі эпохі—гэта ўдзелу ў паўстаньні жанчын. Тымчасам гэта мела сваё месца. Да гэтага яшчэ, бяручыся за тэму аб паўстанках-дзяўчатах, М. Чарот меў на ўвазе і поэтычна-мастацкую асабістасьць апошняе. Яго муза, меўшы доўгі час справу з іншага характару тэмамі, занудзілася па элемэнце каханьня. Для поэта-мастака цяжка прайсьці творчым шляхам, абмінуўшы гэта пытаньне.

Праз усю гісторыю літаратуры яно не абыйшлося, каб не натхніць любога з сваіх творцаў. Пачынаючы ад старагрэцкіх песьняроў, праз

стары Рым, эпоху рэнэсансу, новыя і найноўшыя вякі песьняры ўсіх станаў, розных здольнасьцяй, усякіх поглядаў так ці іначай закраналі тэму каханьня...

М. Чарот, пачынаючы з 1917 году і да напісаньня „Марыны", толькі ў лічаных вершах і ў некаторых бэлетрыстычных творах зьвяртаецца да любоўнага эпосу. І то, мэрам-бы несхаця, а таму не са шчырасьцю, уласьціваю яму. Загэтым—нядзіва, што далей ён бярэцца за „Марыну"...

Але і цяпер у думках песьняра няма намеру абмежавацца трывіальным творам з удзелам элемэнту каханьня. Не! М. Чарот, уводзячы романтычны элемэнт у новую поэму, мае намерам выпукліць героічны бок гэтага пачуцьця, каб надаць большай вобразнасьці і хараства тэй чыннасьці, якая зьвязвае яе, Марыну-паўстанку, з чырвоным камандзірам Іванкам.

Пачуцьцё каханьня, у даным выпадку, служыць для песьняра сродкам, які ўзбагачае і ўпрыгожвае і паглыбляе процэс змаганьня за вызваленьне.

Да гэтага мы звычайна сустракалі ў літаратуры розных народаў высокія ўчынкі жанчын іншага стану, якім песьняры аддавалі сваю поэтыцкую ўвагу. Многім памятаюцца вобразы Некрасаўскіх княгіняў—Трубяцкой і Валконскай, Талстоўскіх героінь-жанчын (Ганна Карэніна ды інш.), многалікія тыпы рэволюцыянэрак-інтэлігентак многіх іншых пісьменьнікаў.

У беларускай літаратуры бадай што ня было ніводнага твору, прысьвечанага цалкам жанчыне, пры гэтым у аспэкце рэволюцыйных падзей. М. Чарот першым падае нам тып прыгожай сялянкі Марыны, прадстаўніцы змагальнікаў з боку жаночага роду. У пераплёце пачуцьця каханьня да „Івана-ваяводы чырвонай дружыны" з пачуцьцём крыўды на цяжкае становішча окупацыі, у якім

Працы многа—хлеба няма...<br>
На чужынца працуй здарма...

Марына пакідае асірацелую матку ды ідзе ў паўстанцкі атрад.

З хлопцамі-малойцамі вандруе...<br>
Каб злавіць таго, павесіць,<br>
Хто разьбіў каханьне...

Хутка яна робіцца правадыром паўстанцкай грамады і сама падае воклічы.

— Гэй, да ну, паўстанцы!<br>
Ці-ж ня сорам!..<br>
Ночку цёмную ў лесе спачываць:<br>
За Бярозу гляньце!

Каханьне да Івана яна не прадала на багацьце пана-паляка; спакойнаму жыцьцю пеперадпаставіла Марына паўстанцкую чыннасьць. Гэтай апошняй заплаціла загубаю мацеры.

У віры паўстаньня Марына нарадзіла сына, якому радавалася, як новаму паўстанцу. Дзіця калыхалі дружыньнікі, яму напявалі песьню сьвісты куль...

Паўстаньне скончылася вызваленьнем Беларусі. Пачалася мірная праца. Іван, вызвалены з Чырвонае арміі, стаў работнікам-земляробам. Аднак ні Івана, ні Марыну не супакойвала тая думка, што Беларусь парэзала драцяная мяжа, за якую

Нёман ды сьлёз ня ўбірае.

З новаю сілаю аджывае ў яе нутры пачуцьцё паўстанкі. Марыне зноў нявесела. Клічуць пушчы яе песьнямі...

Сабрацца трэба ў дарогу—
Да братоў-паўстанцаў на ўспамогу.

Павіннасьць перад краінаю і працоўным перамагае ў ёй пачуцьцё мацеры, і Марына ідзе

Ратаваць краіну,
Што сьлязьмі аблітая...

У эпілёгічнай частцы поэта ўпэўняе, што ў той час, калі зьнікнуць войны, калі запануе час свабоды, на палёх і сухіх балотах Заходняе Беларусі

Народ сам поэта,
Народ пра Марыну
Зложыць казку-песьню...

Зразумела, што місія Марыны варта таго. Пясьняр не пашкадаваў фарбаў для таго, каб надаць яе вобразу вялікасьці і героічнасьці. Відаць, што тэма аб паўстанцы Марыне захапіла песьняра. Бо іначай нельга было-б тлумачыць таго замілаваньня, якое поэта аддаў ёй у сваёй поэме.

Але, ня гледзячы на гэта, чамусьці Марына не пакідае ўражаньня загартованага ваякі. Яе захапленьне змаганьнем проці окупантаў, яе адважныя гэсты, накшталт пакіданьня свайго дзіцяці і накіраваньня для барацьбы за вызваленьне Заходняе Беларусі, не даюць належнага эфэкту. Марына далёка стаіць ад сваіх сяброў—„босых на вогнішчы“. У тых, сапраўды, адчувалася сталь у хадзе і агонь у словах.

Марына-ж крыху сантымэнтальны паўстанец, штучна абгладжаны аўтарам. Штучнасьць тым болей выпірае наповерх, што М. Чарот вельмі схэматычна чапіў тае глебы, на якой вырасла яго героіня, не разьвіў паступовасьці зараджэньня ў ёй пачуцьця соцыяльнае помсты. Арышт братоў і бацькі прамігаюць перад чытачом няўпрыкмет і мэрам-бы паўз Марыніну ўвагу. Соцыяльны мотыў акрэсьлены трыма наступнымі радкамі:

Сумная песьня ў жнеек,—
Працы многа—хлеба няма...
На чужынца працуй здарма...

Пачуцьцё каханьня ня ў меру прэвалюе ў настроях паўстанкі. Яна, галоўным чынам, кіруецца ім, калі ідзе ў пушчы да паўстанцаў і калі становіцца на чале іх. Яна распальвае сваю злосьць на таго, „хто разьбіў каханьне“. Зморaная яна сьпіць і сьніць Іванку. Усяго раз ці два Марына ўспамінае а Беларусі, кажучы:

Ад пана ўлана
Будзеш ты, краіна, адабрана.

Толькі тады, калі Марына стае маткаю, пасьля звароту Івана, у яе насьпявае самастойнае пачуцьцё клясава-грамадзкага адценьня; яна кідае дзіця ды ідзе на дапамогу заходнім братом—рабочым і сялянам. Тут ужо Марына перароджаная істота. Яе ня трывожаць іншыя пачуцьці, апроч пачуцьцяў клясавых.

І ў гэтым выпадку, панашаму, зусім няўдзячны для настрою і адбітку здрэньняў падабраны песьняром стыль вершу. Яго народны песенны памер дысгармонуе з тэмпам падзей. Падобны стыль напрашаецца зусім да іншае тэмы, да тае тэмы, у якой няма вострых кутоў і жорсткіх ліній. Не пасуе з суворасьцю абставін і багатая колькасьць ласкальных эпітэтаў у поэме, як „Іванка“, „ручкі“, „песенька“, „мядок“, „каток“, „Марынка“, „расіца“ ды інш. Гэтыя эпітэты надаюць асаблівай мяккасьці і хадульнасьці, вельмі ўласьцівай казачным ці былінным апавяданьням. Вось чаму „Марына“ дае нам уражаньне зусім не падобнае „Босым на вогнішчы“. А разам, дзякуючы гэтаму, і мэта аўтара, укладзеная ў „Марыну“, крыху не апраўдана. Поэма „Марына“ вышла намнога слабейшаю за папярэднія поэмы М. Чарота.

Тым ня меней, поэма мае ў сабе шмат дадатных бакоў. Апрача ўжо адзначаных намі вышэй, да іх трэба залічыць сваяасаблівасьць вершу поэмы. Тое самае трэба сказаць і пра мову ў поэме; М. Чарот узяў для яе багатую сакавітую і популярную народную мову. Ад гэтага поэма набывае даступнасьць для школьніка і для малапасьвечанага ў літаратурны лексыкон чытача. Троха бракуе з гэтага боку вольнасьць у выразах, дапушчаная песьняром. У яго ў восьмым падзеле поэмы знаходзяцца гэткія выразы, як „абрыданы“ (замест абрыдлы) вецер, „у закоце“ (замест закаце) кудлатым, або гэткія сказы, як: „у гумне зарыпела адрына“... Праўда, падобныя сказы рэдкія і таму мала кідаюцца ў вочы.

Уцалку поэма „Марына“ займае ў творчасьці нашага песьняра асаблівае і разам з тым выдатнае месца. Яна—твор з многіх бакоў орыгінальны, які паказвае на шырокія задаткі Чаротавай тэхнікі і на рознастайны зьмест яго жанру.

# ЗВЫЧАІ І ПЕСЬНІ БЕЛАРУСКАГА СЕЛЯНІНА Ў ІХ ГАСПАДАРЧАЙ АСНОВЕ

**Проф. М. Піотуховіч**

## I. Каляды і калядкі

Беларускі мастацкі фольклёр вызначаецца вялікім багацьцем і своеасаблівай рознастайнасьцю. На тэрыторыі Беларусі да гэтай пары сабрана монумэнтальная скарбніца фольклёрных матэрыялаў. Але гэта скарбніца мала выкарыстана навуковымі дасьледчыкамі; багацьце беларускага фольклёру ў навукова-дасьледчым ужытку да нашай пары застаецца амаль мёртвым капіталам, які яшчэ чакае свайго звароту ў галіне навуковай думкі.

Кніжка ак. Карскага [1]) прадстаўляе сабою вельмі каштоўную працу, але гэта толькі агульны сыстэматычны агляд прадмету; блізка што няма спэцыяльных досьледаў, прысьвечаных монографічнаму выўчэньню пасобных пытаньняў; некаторае выключэньне прадстаўляе сабою толькі беларускае вясельле, якому прысьвечаны досьледы Доўнар-Запольскага [2]) і праца Н. З(анкеві)ча [3]). Па ўсіх іншых пытаньнях беларускі фольклёр толькі часткова прыцягваўся ў якасьці эпізодычнага матэрыялу дасьледчыкамі фольклёру агульна-славянскага і заходня-эўропэйскага (Афанасьяў, Лабада, Болтэ і Поліўка ды інш.).

Але і ў гэтай вузкай апрацоўцы беларускага фольклёру—спэцыяльнай і эпізодычнай — кідаецца ў вочы адна асаблівасьць — гэта вялікая стракатасьць мэтодолёгічнага падыходу да матэрыялу. У даных адносінах беларускі фольклёр падзяляе лёс, агульны з фольклёрам расійскім і украінскім. У галіне выўчэньня народнай творчасьці, як вядома, зьмяняліся розныя напрамкі: мітолёгічны, параўнальны, гістарычны, антрополёгічны. Зараз у Заходняй Эўропе і Амэрыцы выўчэньне фольклёру выдзяляецца ў асобную навуку — фольклёрыстыку, якая апрацоўвае свае

---

[1]) Белоруссы. т. III. Очерки словесности белорусского племени. I. Народная поэзия. Москва, 1916 г. (XIУ+557 стар.).

[2]) Исследования и статьи. т. I. Киев. 1909 г. (гл. „Белорусская свадьба в культурно-религиозных пережитках" 61—147. „Ритуальное значение каравайного обряда у белоруссов", 147—159, „Солнышко и месяц в белорусской свадебной поэзии" 346—352, „Свадебные песни пинчуков", 352—384.

[3]) Белорусские свадебные обряды и песни сравнительно с великорусскими. СПБ. 1892.

мэтоды дасьледваньня. Такімі мэтодамі, напр., зьяўляецца зараз гістарычна-геаграфічны мэтод фінскай школы, біолёгічны мэтод Геннера [1]), псыхоаналітычны, формальна-мастацкі напрамак ды інш. Але ў гэтай стракатай зьмене розных напрамкаў і зьвязаных з імі тэорый ды школ амаль адсутнічае напрамак соцыолёгічны. Ёсьць толькі паасобныя адзінкавыя спробы дапасаваць соцыолёгічны мэтод да выўчэньня фольклёру. Сярод гэтых спробаў асабліва прыкметнай зьяўляецца толькі праца Келтуялы; яго „Курс истории русской литературы“ [2]) выяўляе сталае імкненьне аўтара даць соцыолёгічнае асьвятленьне фактаў народнай творчасьці; іншыя спробы маюць спорадычны характар і пераважна датычацца былявога эпосу. Тымчасам ва ўсіх жанрах мастацкага фольклёру асабліва яскрава выяўляецца сувязь іх з гаспадарча-экономічным базісам, ва ўсіх іх яскрава выступаюць моманты соцыяльна-клясавай дыфэрэнцыяцыі грамадзтва. Навукова-об'ектыўнае дасьледваньне фольклёру немажліва без дапасаваньня соцыолёгічнага мэтоду; гэты мэтод павінен быць асноўным і домінуючым і ў галіне фольклёрыстыкі, як і наогул у галіне літаратуразнаўства. Зусім да рэчы зараз на чаргу дня ставіцца ўжо задача „перагляду тых мэтодаў, якімі да гэтай пары карысталася фольклёрыстыка, і ўстанаўленьня новых мэтодолёгічных проблем“ [3]).

З нашага пункту гледжаньня, пры асноўным і домінуючым значэньні соцыолёгічнага мэтоду, усе іншыя мэтоды маюць у галіне фольклёрыстыкі ўскоснае і дапаможнае значэньне. Так, паколькі самая форма мастацкіх твораў зьяўляецца соцыяльнай катэгорыяй, пастолькі популярны зараз формальна-мастацкі мэтод набывае значэньне гэтак сама мэтоду падсобнага: ён у канчальным выніку, у моманце тлумачэньня формальна-мастацкіх зьяў павінен быць увязаны з мэтодам соцыолёгічным. Такое-ж дапаможнае значэньне мае і мэтод параўнальны. Гэты мэтод, як вядома, меў асабліва шырокае дапасаваньне ў фольклёрыстыцы мінулага часу; ня траціць ён свайго актуальнага значэньня і зараз: фінская школа фольклёрыстыкі грунтуецца пераважна на гэтым мэтодзе. У карыстаньні ім выяўляецца крайняе захапленьне: ня прымаюцца пад увагу мясцовыя асаблівасьці, сьціраюцца нацыянальныя адзнакі, нанізваньне паралеляй пераварачваецца ў нягрунтоўную працу колекцыянэра: і можа мае рацыю Бедзье, які такіх дасьледчыкаў гіронічна прыраўнівае да колекцыянэраў паштовых марак [4]). Зараз ужо намячаецца пэўная рэакцыя гэтаму крайняму захапленьню параўнальным мэтодам. Напр., у сучаснай Нямеччыне выўчэньне фольклёру ідзе пераважна пад знакам рэгіёнізму, г. зн. мае галоўным чынам краязнаўчы напрамак. Там—„ня толькі зьбіральная ра-

---

[1]) Le folklore. Paris, 1924, стар. 33—35.

[2]) 1 кн., I т.—1906 г., 2 кн. I т.—1911 г.; гл. асабліва другое выданьне 1-й кн.—1913 г.

[3]) Юрий Соколов. Очередные задачи изучения русского фольклора. Художественный фольклор. М. 1926 г., стар. 47.

[4]) Les fabliaux, Paris, 1893, стар. 217.

бота, але і найгалоўнейшыя дасьледчыя працы адзначаны яскрава выяўленым краязнаўчым характарам" *). Гэты краязнаўчы напрамак, бязумоўна, не супярэчыць падыходу соцыолёгічнаму: выўчаючы мясцовыя асаблівасьці краю, тлумачачы гэтымі асаблівасьцямі характар народнай творчасьці, мы павінны ў першую чаргу ўлічаць мясцовыя фактары соцыяльна-экономічнага парадку. Па данай краязнаўча-соцыолёгічнай лініі, думаецца нам, і павінна накіроўвацца дасьледваньне мастацкага фольклёру; па гэтай лініі павіннаісьці паглыбленьне старога гістарычна-культурнага мэтоду, які звычайна опэруе занадта шырокімі паняцьцямі „эпоха", „народ", ня ўносячы ў гэтыя паняцьці належнай конкрэтызацыі і дэфэрэнцыяцыі.

Пераацэнка мэтодолёгічных каштоўнасьцяй патрабуецца ва ўсіх галінах мастацкага фольклёру і, у першую чаргу, у галіне абрадавай поэзіі. Да сучаснай пары мы ня маем сталага і сыстэматычнага выўчэньня гэтай поэзіі з соцыялёгічнага пункту гледжаньня. У штудзьяваньнях мітолёгаў абрадавая поэзія, як вядома, не займала самастойнага месца: мітолёгі шукалі ў ёй толькі адбіткаў міту, міт стаяў у цэнтры іх увагі; яны выходзілі яшчэ з таго апрыорнага дапушчэньня, што першабытны чалавек нібы-та ўспрыймаў прыроду поэтычна, як мастак; што ён жыў у нейкім асобным сьвеце мастацкіх вобразаў, з якіх потым і ўтварыліся міты. Прыхільнікі тэорыі запазычаньня, якая прышла на зьмену тэорыі мітолёгічнай, захапляліся шуканьнем літаратурных паралеляй і гэтак сама былі далёкі ад дасьледваньня рэальных фактаў пахаджэньня данай зьявы. На больш правільны грунт стала школа антрополёгічная: яна разглядае ўжо абрады і звычаі незалежна ад мітолёгіі, устанаўляючы іх сувязь з жыцьцём і побытам. Але антрополёгічная тэорыя, будаваўшая свае вывады, галоўным чынам, на фактах фольклёру колёніяльных народаў, папершае, мала пашырана ў славянскай навуцы, падругое, яна мае той істотны недахоп, што, опэруючы такімі шырокімі паняцьцямі, як жыцьцё, побыт, псыхолёгія, ня ўносіць у іх належнай конкрэтызацыі і соцыолёгічнага ўдакладненьня. Але пры ўсіх сваіх заганах антрополёгічная тэорыя, думаецца нам, адыграла найбольш паважную ролю ў выўчэньні абрадавай поэзіі. Пад значным уплывам Тайлара і Лэбака, заснавальнікаў антрополёгічнай школы, знаходзіўся вядомы Маннгардт, які ў сваёй капітальнай працы Wald und Feldkulte, tt. I—II, Berlin, 1875, першы паставіў выўчэньне абрадавай поэзіі на сапраўды навуковы грунт, падводзячы пад яе соцыяльна-бытавы базіс аграрнага характару. Але і Маннгардт не пазбаўлены яшчэ мітолёгічных ухілаў: лясныя і палявыя культы ён разглядае скрозь прызму народных мітолёгічных прадстаўленьняў аб розных духах расьліннасьці. Гэты мітолёгічны элемэнт значна зьніжае зараз агульную каштоўнасьць вельмі багатай фактамі працы Маннгардта. Аніч-

*) Над. Элиаш. Современная фольклористика в Германии. „Художественный фольклор". II—III. М. 1927, стар. 165.

каў з гэтага поваду зазначае: „В народной обрядности... сверхестественные существа не играют ни малейшей роли ни у германцев, ни у славян, ни даже у древних. Об'яснять поэтому обряд чрез посредство представлений об этих мифических образах, значит уже оставить твердую почву фактов и, пустившись в область ничем неоправданных сближений, дать полный простор воображению. Следуя за Маннгардтом, надо поэтому каждый раз останавливаться там, где он переходил от данных обряда к совершенно уже посторонним им представлениям“ [1]). Найноўшую і больш грунтоўную працу ў галіне дасьледваньня аграрных вераваньняў і абрадаў у заходня-эўропэйскай навуцы прадстаўляе капітальная, яшчэ не закончаная праца Рантазало. Але паколькі мы маглі пазнаёміцца толькі з першым выпускам гэтай працы [2]), нам цяжка зрабіць аб ёй пэўныя вывады. Відаць, асноўны падыход аўтара да матэрыялу чыста этнографічны: ён адпраўляецца не ад каляндарнай ды іншай народнай абраднасьці, але ад рольніцкіх процэсаў і ў параўнальным разрэзе выўчае зьвязаныя з імі абрады і забабоны. У нашай працы асноўная ўстаноўка, як мы пабачым далей, іншая: у галіне расійскай навукі асабліваe значэньне мае для нас праца Анічкава.

Анічкаў, крытыкуючы працу Маннгардта, у сваё дасьледваньне ўносіць пэўны соцыяльны момант. Ён імкнецца зьвязаць веснавую абраднасьць і песьню з умовамі натуральнай гаспадаркі [3]); гэта імкненьне прадстаўляе ў яго пэўны мэтодолёгічны прыём. Анічкаў кажа: „Изучать обрядовый обиход и связанные с ним игры, забавы и песни надо, несомненно, исходя из хозяйственных отношений. Бытовой уклад крестьянства нужно постоянно иметь в виду и на всем протяжении подобного исследования; к нему придется постоянно возвращаться, ведаться с ним придется на каждом шагу, по поводу каждой подробности. Даже в сюжетах песни, уже несколько оторвавшейся от обряда, многое ждет об'яснения именно с этой точки зрения“ [4]). Але для Анічкава, пасьлядоўніка Весялоўскага, асноўным мэтодам дасьледваньня, як паказвае ўжо самая назва працы, зьяўляецца мэтод параўнальны, а не соцыолёгічны; прыцягваньне соцыяльных фактараў у яго працы толькі эпізод, які распушчаецца ў агромністай масе паралеляй, што нанізваюцца адна на адну з чыстым захапленьнем сапраўднага колекцыянэра.

Больш пэўную і, галоўнае, сыстэматычную спробу высьвятленьня абрадавай паэзіі ў сувязі з гаспадарчым момантам земляробскай працы прадстаўляе сабой найноўшая невялічкая работа проф. Кагарава „Рели-

[1]) Весенняя обрядовая песня на Западе и у славян. ч. I. СПБ, 1903 г., стар. 34.

[2]) Der Ackerbau im Volksaberglauben der Finnen und Esten, mit entspechenden Gebräuchen der Germanen verglichen. I—IV. Sortavala, 1919, 1919, 1920—Helsinki, 1924.

[3]) Op. cit., стар. 61—64.

[4]) Jbid. стар. 62—63.

гия древних славян“ (М. 1918 г.), дзе галоўныя абрадавыя дзействы разглядаюцца на падставе тэорыі Фрэзэра, як прыёмы аграрнай магіі.

На правялікі жаль, праца проф. Кагарава прадстаўляе сабою толькі брошуру, абрадавая поэзія разгледжана там надзвычайна сумарна і схэматычна; выклад догматычны, без належнага ўгрунтаваньня.

Такім чынам, аглядаючы розныя працы па абрадавай поэзіі як у заходня-эўропэйскай навуцы, так і ў расійскай, мы можам сьмела сказаць, што даны жанр мастацкага фольклёру яшчэ ня мае сталага і грунтоўнага дасьледваньня ў соцыолёгічным разрэзе: пытаньне аб такім дасьледваньні больш ставілася, чым разьвязвалася; сьцежкі толькі намячаліся, але яны не працярэбліваліся і ня ўзгрунтоўваліся.

Што да беларускай абрадавай поэзіі, то трэба сказаць, што адзіным яе аглядам зьяўляецца нарыс ак. Карскага, даны ў яго памянёнай агульнай працы *). У адносінах мэтодолёгічных ак. Карскі—плюралісты: у яго мірна ўжываюцца старая мітолёгічная тэорыя з тэорыяй запазычаньняў, апошняя—з гістарычнай; часткова прыцягваецца і антрополёгічная. Соцыолёгічны падыход адсутнічае ў працы ак. Карскага.

Задачай нашай работы зьяўляецца запоўніць гэты прабел у фольклёрыстыцы, існуючы ня толькі ў адносінах беларускай абрадавай поэзіі, але і ў адносінах данага жанру наогул. Мы ставім сабе мэтай ускрыць гаспадарчую аснову беларускіх абрадаў і зьвязаных з імі песьняў; паказаць, як і ў данай галіне галоўнымі ды істотнымі зьяўляюцца соцыяльна-экономічныя фактары. Кіруючыся такой мэтай, мы хочам у першую чаргу прасачыць тыя беларускія абрадавыя дзействы, якія *непасрэдна* зьвязаны з умовамі вясковай гаспадаркі; усе тыя элемэнты, якія маюць такую сувязь, апасяродкаваную пры дапамозе розных прамежных зьвеньняў, намі пакідаюцца без разгляду, паколькі такія, у большасьці выпадкаў, гістарычна-культурныя напластаваньні на соцыяльнай аснове абрадавай поэзіі знайшлі ўжо сваё дасьледваньне ў фольклёрыстыцы, дзе амаль з вычэрпваючай поўнасьцю ўлічаны ўсе рэшты рэлігіі, першабытнай гісторыі сям'і ды інш. элемэнты, маючыя свой водгук у народнай поэзіі данага жанру.

Істотнай гаспадарчай асновай беларускай абрадавай поэзіі зьяўляецца ральніцтва і жывёлаводзтва. Паколькі апошняе выступае толькі як падмога ральніцтва, то можна сказаць, што наогул беларуская абрадавая поэзія грунтуецца на шырокай аграрнай аснове. Гэта аснова ва ўсіх нашых абрадах і зьвязаных з імі песьнях выступае вельмі яскрава; можна сказаць, што ў нашай абрадавай поэзіі „ўлада зямлі“ выдзяляецца на першы плян.

Але гэта „ўлада зямлі“ абумоўліваецца ня толькі экономікай сучаснага пэрыоду; у абрадавай поэзіі захавалася шмат водгукаў сівой

*) Белоруссы, т. III., вып. I, стар. 90—324.

мінуўшчыны, шмат засталося культурных перажываньняў, якія адбіваюць сабою экономічныя адносіны далёкага мінулага; адсюль вынікае патрэба зрабіць маленькі экскурс у гэта мінулае ў яго экономічнай аснове.

Можна з вялікай ступеняй верагоднасьці прыпусьціць, што тэрыторыя Беларусі была славянскай прарадзімай і што, значыць, беларусы былі аўтахтонамі ў сваёй краіне[1]). З гэтай прычыны яны маглі з асаблівай сьвежасьцю і непасрэднасьцю захаваць у сваім побыце і вераваньнях рэшты праславянскай пары. Экономіка гэтай пары, такім чынам, набывае для нас вялікае значэньне, пакольні яна служыла тым базісам, на якім узьніклі розныя абрадавыя дзействы, якія маглі часткаю ў выглядзе культурных перажываньняў дайсьці і да нас.

Усе дасьледчыкі сходзяцца на тым, што ўжо ў праславянскую пару існавалі ральніцтва і жывёлаводзтва; спрэчкі ідуць аб узаемных суадносінах гэтых элемэнтаў праславянскай гаспадаркі. Галоўны аўторытэт у даных адносінах Нідэрле лічыць, што ральніцтва ў праславянскую пару не адыгрывала значнай ролі. „Здаўна, прынамсі да распаду дагістарычнай еднасьці, славяне, кажа Нідэрле, займаліся ральніцтвам толькі з пэўнай рухавасьцю (avec une certaine mobilité). Стала яны ня былі прымацаваны да глебы, якую ўраблялі; яны пераходзілі з аднаго месца на другое, сем'ямі і кланамі, шукаючы заўжды, сьледуючы па краінах, новых месц для распашкі цаліны (à defricher), або новых пасьбішчаў для сваіх статкаў. Яны жылі—або прынамсі да расьсяленьня значная маса іх—у краіне мала спрыяючай земляробству, дзе зямля была пакрыта водамі ці глыбокімі лясамі. (Палесьсе, цэнтральная Расія). Яны ня мелі для існаваньня іншых рэсурсаў, апроч паляваньня, рыбалоўства, разьвядзеньня пчол і жывёлы; ральніцтва ў X сталецьці было яшчэ нязначным у гэтай краіне. (le travail des champs au X-e siècle etait encore insifiant dans cette règion [2]).

З расійскіх дасьледчыкаў Ражкоў лічыць, што ў славян пры пераваze ў гаспадарцы здабыўчай прамысловасьці і ў больш позьні час у сельскай гаспадарцы пераважала жывёлаводзтва, тымчасам як ральніцтва заставалася з-заду" [3]). Оганоўскі прыблізна прыходзіць да такога-ж вываду, але толькі некалькі інакш яго ўзгрунтоўвае: па яго думцы, „славяне займаліся земляробствам, але апошняе, з прычыны рэдкасьці насельніцтва, багацьця лясоў і жывёлы, не набыло колькі-небудзь прыкметнага значэньня". Украінскі гісторык М. С. Грушэўскі таксама прызнае перавагу жывёлаводзтва ў праславянскай гаспадарцы; дасьледчык пры гэтым

---

[1]) Гл. Rostafinski. O pierwotnych siedzibach i gospodarstwie słowian w przedhistorycznych czasach. (Sprawozdania Akad. Umieętn. Wydz. histor.-filoz. Kraków. 1908).

Peisker. Neue Grundlagen zur slawischen Altertumskunde. Stuttgart. 1910.

[2]) Niederle. Manuel de l'antiquité slave. T. II. La civilisation. Paris, 1926, стар. 184.

[3]) Проф. В. И. Пичета. История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии, ч. I, Минск, 1928, стар. 9.

грунтуецца на даных лінгвістыкі, констатуючы, што ў славянскай мове больш слоў, ахапляючых галіны жывёлаводзтва і параўнальна менш тэрмінаў ральніцтва [1]).

Дыямэтральна проціlежнай вывадам Ражкова, Оганоўскага і Грушэўскага зьяўляецца думка чэскага вучонага Пэйскэра, па назіраньнях якога паасобныя назвы хатніх жывёлаў у славян запазычаны імі ў немцаў і цюрка-татараў. На гэтай падставе Пэйскэр пабудаваў вывад, што да X в. славяне ня ведалі жывёлаводзтва, што яны толькі ў пазьнейшы час пачалі ім займацца пад уплывам немцаў і цюрка-татараў. Нідэрле рашуча абвяргае гэту думку Пэйскэра. Згодна яго ўласным вывадам, „разьвядзеньне жывёлы існавала яшчэ з эпохі нэолітычнай і даходзіла да індо-эўропэйскай старадаўнасьці". Нічога няма дзіўнага, што славяне здаўна ведалі хатніх жывёл [2]).

Цэлы шэраг дасьледчыкаў прызнае, што пераважную ролю ў праславянскай гаспадарцы мела ральніцтва. З гэтага поваду, напр., ак. Карскі, ідучы ўсьлед за Шафарыкам, Будзіловічам [3]), Крэкам [4]) ды інш., кажа: „главным занятием славян было земледелие, но и скотоводство находилось у них также на значительной степени развития,—на большей, нежели у соседей славян-германцев, занимавшихся больше войной и охотой. Старинным занятием у славян было также пчеловодство (отчасти известное уже неделимым индо-европейцам), доставлявшее им мед и воск. Но самым существенным занятием было все же земледелие [5]). Проф. Пічэта гэтак сама констатуе, што „славянские племена до своего выделения и обособления из праславянской семьи выступают на заре своей исторической жизни, как народ оседлый и занимающийся земледелием" [6]).

І сапраўды, шырокае разьвіцьцё ральніцтва ў славян сьцьвярджаецца, папершае, данымі лінгвістыкі. Напр., ва ўсіх славянскіх мовах існуюць аднолькавыя назвы ня толькі галоўных зямляробскіх прылад, як рала, саха, плуг, барана, але і іх складніковых частак (лямеш, градзень, полазды інш.); ёсьць далей супольныя назвы галоўных ральніцкіх продуктаў (жыта, авёс, ячмень, проса і г. д.); знаходзім мы таксама тэрміны, якія ахапляюць розныя процэсы зямляробскай працы (араць, сеяць, касіць, жаць ды інш). Даныя лінгвістычныя ў гэтым напрамку ўзмацняюцца данымі гістарычнага і археолёгічнага характару. З гэтага поваду проф. Пічэта кажа: „Территория Белоруссии в археологическом отношении еще

---

[1]) Ibid.

[2]) Op. cit, 199.

Гл. Des théories nouvelles de Jan Peisker sur les anciens slaves. (Revue des études slaves, II, 1922, стар. 19 і g).

[3]) Первобытные славяне в их языке, быте и понятиях по данным лексикальным. Киев, 1878—1879, вып. I и II.

[4]) Einleitung in die slavische Literaturgeschichte. 1887.

[5]) Белорусы, т. III, вып. I, стар. 15.

[6]) Op. cit., стар. 8.

сравнительно мала изучена, но тот материал, который имеется в распоряжении исследователя, с невызывающей никакого сомнения ясностью подтверждает широкое распространение земледелия среди восточного славянства. Так, в могилах языческой эпохи найдены серпы, а также зерна ржи, овса, ячменя и пшеницы"[1]).

У эпоху колёнізацыі гэтак сама асноваю гаспадаркі ў славян зьяўлялася ральніцтва і жывёлаводзтва з дадаткам пчалярства, рыбалоўства і паляваньня [2]). У пэрыод краёвага ладу ральніцтва набывае на Беларусі шырокае разьвіцьцё, асабліва ў Смаленскай краіне, дзе з моманту аддзяленьня Смаленску ад Кіева яно настолькі пасоўваецца наперад, што смаленская ўлада мела нават магчымасьць вывозіць хлеб у Ноўгарад і Рыгу і, дзякуючы гэтаму, рабіць уплыў на палітыку Ноўгарада. Некалькі слабей разьвіваецца ральніцтва ў краінах Полацкай і Турава-Пінскай з прычыны дрэннай глебы [3]). У эпоху Беларуска-Літоўскай дзяржавы і ў далейшую эпоху уніі з Польшчай таксама на першы плян высоўвалася ральніцтва, якое служыла асноўнай экономічнай базай гаспадарскага і прыватнага зямляўладаньня і галоўным сродкам існаваньня агромністай сялянскай масы. Натуральная гаспадарка з зямляробскай асновай, як вядома, пануе на Беларусі і ў працягу большай часьці XIX сталецьця. Толькі ўжо ў другой палове гэтага сталецьця назіраюцца пэўныя экономічныя зрухі. Проф. Доўнар-Запольскі найноўшы час у гісторыі гаспадаркі Беларусі падзяляе на тры кругабегі: „Эпоха 60—80 г. г.—эпоха полного бытования остатков крепостного права в условиях падающего помещичьего хозяйства и первых попыток самостоятельного ведения крестьянами своего хозяйства. Продукция местной промышленности не имеет значения. Эпоха 80—900 г. г.—эпоха первых сдвигов в недрах полуфеодального хозяйства, переходная. Наконец, эпоха 900 годов, последнего полуторадесятилетия, это эпоха убыстренной капитализации сельского хозяйства, борьбы с остатками средневековья" [4]).

Такім чынам абегла праведзеныя намі галоўныя лініі ў разьвіцьці беларускай гаспадаркі акрэсьліваюцца пераважна на адным агульным фоне аграрных узаемаадносін.

Характэрнай адзнакай даных узаемаадносін зьяўлялася прымітыўнасьць тэхнікі і, як яе вынік, залежнасьць ад стыхійных сіл прыроды. З гэтай прычыны, у сваю чаргу, у побыце беларуса да нашага часу яшчэ моцна трымаюцца розныя культурныя перажыткі, якія прадстаўляюць сабою выраз яго імкненьня, нібы дапоўніць гэтую прымітыўнасьць тэхнікі і зьменшыць сваю бездапаможнасьць перад магутнай прыродай.

---

[1]) Ibid.

[2]) Ibid., стар. 12.

[3]) Ibid., стар. 16 і 17.

[4]) Народное хозяйство Белоруссии, Минск, 1926, стар. 232.

Сярод такіх перажыткаў на першае месца высоўваюцца прыёмы аграрнай магіі, якія знайшлі сабе яскравы адбітак у беларускай абрадавай поэзіі—у звычаях і песьнях нашага селяніна; гэтыя прыёмы прадстаўляюць сабою бліжэйшы прадмет нашага агляду.

Магія зрабілася, як правільна зазначае Гірн, улюбёным прадметам навуковага дасьледваньня [1]). У гэтай галіне маюцца капітальнейшыя працы Фрэзэра [2]), Гартленда [3]), Беранжэ-Фэро, Бэта [4]) ды інш. Мы спынімся пераважна на поглядах ангельскага вучонага Фрэзэра, паколькі гэтыя погляды нам прадстаўляюцца найбольш грунтоўнымі і найбольш шырока ахапляючымі сутнасьць пытаньня.

Паводле тэорыі Фрэзэра, магія грунтуецца на двох прынцыпах; папершае, што падобнае вытварае падобнае, або, што вынік падобны да сваёй прычыны; і падругое, што прадметы, якія былі адзін раз у датрненьні, прадоўжваюць дзейнічаць адзін на аднаго на адлегласьці і пасьля таго, як фізычны контакт быў перарваны. Першы прынцып можа быць названы законам падабенства (the Law of Similirity), другі—законам дотыку або заражэньня (the Law of Contact or Kontagion). Чары, якія грунтуюцца на законе падабенства, могуць быць названы гомеопатычнай або насьлядавальнай магіяй (Homoeopathic or Imitative Magic). Чары, заснаваныя на законе даткненьня або заражэньня, могуць быць названы датыкальнай магіяй (Kontagious Magic [5]). У далейшым Фрэзэр, устанаўляючы на магію погляд, як на фальшывую сыстэму натуральных законаў і фальшывага правадыра паводзін, адрозьнівае тэорытычную і практычную магію, і пры гэтым падкрэсьлівае, што ў сьвядомасьці прымітыўнага чалавека магія выяўляецца з свайго практычнага боку: яна для яго першапачатковае мастацтва, а не навука. І ўжо задачай філёзофскага дасьледваньня зьяўляецца адрозьніць элемэнт веды пазадзе „ублюдачнага“ мастацтва. Ангельскі вучоны і імкнецца зрабіць гэта дасьледваньне; ён, папершае, імкнецца падвесьці пад магію пэўны лёгічны базіс; ім зазначаецца, што насьледавальная магія заснавана на асоцыяцыі ідэй па падабенству, а датыкальная магія грунтуецца на асоцыяцыі ідэй па суменнасьці. Абедзьве галіны магіі яднаюцца ім у паняцьці сымпатычнай магіі (Sympathetic Magic), бо абедзьве яны прыпушчаюць, што „прадметы дзейнічаюць адзін на аднаго на адлегласьці праз таемную сымпатыю [6]), якой яны зьвязаны паміж сабою; „вера ў сымпатычны ўплыў, які выяўляюць супольна асобы і прадметы на адлегласьці, ёсьць сутнасьць магіі...

[1]) Происхождение искусства. ГИУ. 1923 г., гл. XIX (искусство и чародейство), стар. 208—222.

[2]) The golden bough. P. I. The Magic art ant the Evolution 2 v. London. 1890.

[3]) The legend of Perseus. 3 v. London 1894—1896.

[4]) Beth. Religion und Magie. Berlin. 1927.

[5]) The golden bough. A study in magic and religion. Abridged edition. London, 1925, стар. 11.

[6]) Ibid., стар. 12.

вера ў тэлепатыю—адзін з яе прынцыпаў;... дзікун праконаны, што ня толькі магічныя абрады могуць уплываць на асоб і прадметы здалёк, але і што самыя простыя акты штодзеннага жыцьця могуць рабіць гэта..." [1]) Адсюль усё жыцьцё прымітыўнага чалавека апутваецца пэўнымі правіламі, якія маюць позітыўны і негатыўны характар; правілы позітыўныя прадстаўляюць сабою чары, правілы негатыўныя—гэта табу. Табу Фрэзэр разглядае, такім чынам, як адмоўнае дапасаваньне практычнай магіі. Позітыўная магія, або чароўніцтва, кажа: „рабі гэта з мэтай, каб тое або тое здарылася"; негатыўная магія, або табу, кажа: „не рабі гэтага, каб тое і тое ня здарылася". Мэта позітыўнай магіі, або чароўніцтва, ёсьць—вытварыць жаданы выпадак, мэта негатыўнай магіі, або табу,—унікнуць нежаданага" [2]).

Даючы такую зграбную тэорыю магіі, Фрэзэр адначасна імкнецца зазначыць месца апошняй у агульным рытме культурнай эволюцыі чалавецтва. У даных адносінах ангельскі вучоны, папершае, збліжае магію з навукай, і падругое, зазначае на яе процілежнасьць рэлігіі. Супольнай адзнакай магіі і навукі зьяўляецца моцная вера ва ўпарадкаванасьць і нязьменнасьць законаў прыроды. Маг не сумняваецца ў тым, што аднолькавыя прычыны нараджаюць і аднолькавы эфэкт; ён шляхам пэўных дзеяньняў імкнецца падпарадкаваць сабе прыроду. Аналёгія паміж магіяй і навуковай концэпцыяй сьвету сьціслая. У абедзьвюх з іх прадугледжваецца дасканала правільная і пэўная паступовасьць фактаў, паколькі яны адзначаюцца нязьменнымі законамі, дзейства якіх можа быць прадугледжана і дакладна вылічана; элемэнты капрызу, зьменнасьці і выпадковасьці выключаюцца з ходу прыроды [3]). Але пры агульным дапушчэньні пэўнай паступовасьці фактаў, дэтэрмінаваных законам, магічная канцэпцыя выяўляе поўнае неразуменьне прыроды паасобных законаў, якія кіруюць гэтай паступовасьцю. У выніку такога неразуменьня зьяўляецца няправільнае дапасаваньне ў прасторы або часе (in space or time) грунтоўных законаў мысьлі—асоцыяцыі ідэй па падабенству і асоцыяцыі ідэй па сумежнасьці. Правільна дапасаваныя, яны даюць навуку; няправільна дапасаваныя—даюць магію, пабочную сястру навукі (the bastard sister of science [4]).

Пры ўсіх сваіх хібах магія знаходзіцца ўсё-ж у блізкім сваяцтве з навукай: іх яднае аднолькавая ўпэўненасьць у законамерным парадку сьветабудовы. У зусім іншых стасунках аказваецца паводле Фрэзэра магія да рэлігіі: гэтыя стасункі грунтуюцца не на паралелізьме, а на рэзкім контрасьце. Рэлігія, па думцы Фрэзэра, засноўваецца на веры ў існаваньне вышэйшых істот, якія кіруюць прыродай і жыцьцём, і якіх чалавек можа схіліць на сваю карысьць; рэлігія, такім чынам, грунтуецца на

[1]) Ibid., стар. 22.
[2]) Ibid., стар. 19.
[3]) Ibid., стар. 49.
[4]) Ibid., стар. 50.

дапушчэньні таго, што прырода элястычная і зьменная. Паколькі рэлігія дапушчае, што сьвет кіруецца сьвядомымі агентамі, якія могуць быць адхілены ад сваіх мэтаў праконаньнем, яна знаходзіцца ў грунтоўным антагонізьме з магіяй, таксама, як і з навукай, з якіх і тая і другая разьлічаюць, што цячэньне прыроды дэтэрмінавана ня паламі і капрызамі асобных істот, а выяўленьнем нязьменных законаў, якія дзейнічаюць мэханічна“ [1]).

З пункту гледжаньня Фрэзэра магія зьявілася раней рэлігіі ў якасьці яе папярэдніцы. Ангельскім вучоным намячаюцца, такім чынам, тры інтэлектуальныя ступені ў разьвіцьці чалавецтва: магія, рэлігія, навука.

У выўчэньні магіі тэорыя Фрэзэра становіць сабой паваротны момант. Да яго факты першабытнай магіі, г. зн. факты вядунства, чароўніцтва і заклінаньня, выўчаліся толькі эпізодычна, як адбітак анімізму. Фрэзэр разглядае магію зусім самастойна і незалежна ад анімізму, як асобную ступень у разьвіцьці чалавецтва.

Тэорыя Фрэзэра была разьвіта і пашырана далей прыхільнікамі і асновазакладальнікамі аніматызму. Паняцьце аніматызму, ажыўленьня прыроды, як ступені папераджаўшай сабою анімізм, адушаўленьне яе, увёў у навуковую літаратуру ангельскі вучоні Марэт [2]). У той час, калі Фрэзэр лічыць магію толькі папярэдніцай рэлігіі, Марэт, ідучы далей, разглядае апошнюю, як праяву, якая непасрэдна ўзьнікла з магічных абрадаў [3]). Яшчэ больш пашырае значэньне магіі нямецкі вучоны Прэйс; ён выводзіць з магіі амаль усе зьявы першабытнай культуры: выяўленчае мастацтва, рэлігію, мову, танцы ды інш. [4]). Досыць блізкім да гэтых поглядаў зьяўляецца Фіркандт, які выводзіць рэлігійныя пацеры з магічных заклінаньняў [5]).

З другога боку, ёсьць цэлы шэраг пярэчаньняў тэорыі Фрэзэра. Асабліва суровую крытыку яе дае нямецкі вучоны Бэт, які знаходзіць, што даная тэорыя ня мае пад сабою гносэолёгічнага базісу, што яна супярэчыць псыхолёгіі першабытнага чалавека, у якога адсутнічае здольнасьць абагульненьня, і, значыць, цэльнае прадстаўленьне аб сыстэме „прычын і вынікаў“, што ў Фрэзэра зусім незразумелым зьяўляецца пераход ад магіі да рэлігіі і г. д. [6]).

Абвяржэньні Бэта не прадстаўляюцца нам грунтоўнымі. Напр., упікаючы Фрэзэра ў адсутнасьці гносэолёгічнага базісу, сам ён дагаварваецца да таго, што зблізжае навуку і рэлігію [7]); зазначаючы на супярэч-

---

[1]) Ibid., стар. 51.

[2]) Marett. Preanimistic religion, Folklore, 1900, стар. 174—175.

[3]) Marett. The threshold of religion. London, 1914.

[4]) Preuss. Der Ursprung der Religion und Kunst. (Globus, 1904, Bd., 86).

[5]) Vierkandt. Die Anfänge der Religion und Zauberei. (Globus, 1910, Bd. 92).

[6]) Beth. Religion und Magie. 1927, стар. 87—98.

[7]) Ibid., 91—92.

насьці псыхолёгічнага парадку, Бэт, па сутнасьці, няправільна прадстаўляе тэорыю Фрэзэра; ангельскі вучоны, як мы бачылі вышэй, далёкі ад таго, каб прыпісваць прымітыўнаму чалавеку здольнасьць навуковага мысьленьня; навукова згодныя элемэнты, паводле Фрэзэра, у магіі заключаюцца implicite, але не explicite. Калі далей Бэт зазначае, што думка аб выцясьненьні магіі рэлігіяй нібы-та супярэчыць адначаснаму існаваньню і магічных і рэлігійных зьяў у цяперашніх някультурных народаў, то ў даным выпадку нямецкі вучоны забываецца, што на такое суіснаваньне паказвае і сам Фрэзэр, але ён толькі разглядае гэта суіснаваньне як факт не першапачатковы, а пазьнейшы, які назіраецца ня толькі ў прымітыўных, але нават і культурных народаў: Фрэзэр кажа, што каталіцкая вера ёсьць па сутнасьці вера ў дзейнасьць магіі; шмат магічных элемэнтаў ускрываецца ім у веравызнальнай практыцы сучасных народаў.

Не падзяляючы такіх абвяржэньняў тэорыі Фрэзэра, мы самі, аднак, далёкі ад таго, каб лічыць гэту тэорыю нейкай абсолютнай догмай: для нас яна толькі рабочая гіпотэза, якая можа дапамагчы нам асьвятліць цэлы шэраг пэўных фактаў беларускага фольклёру. І, на нашу думку, тэорыя Фрэзэра патрабуе больш глыбокага ўгрунтаваньня і некаторых паправак, што мы і знаходзім у іншых дасьледчыкаў данага пытаньня. Так, напр., нямецкі вучоны Данцэль дае, з нашага пункту погляду, вельмі трапнае псыхолёгічнае ўгрунтаваньне магічных прыёмаў. На думку Данцэля, у аснове магіі ляжыць імкненьне чалавека да самавыяўленьня, як-бы некаторы інстынкт тэатральнасьці, уласьцівы асабліва прымітыўнаму чалавеку. „Сэнс магічных дзеяньняў у жыцьці прымітыўнага чалавека,—кажа ён,—не ў якім-небудзь узьдзеяньні на знадворны сьвет, але ва ўзьдзеяньні заспакайваючага роду, якое адыгрываецца ў душы выканаўцы. Ён пры выкананьні магічнага дзейства, дзякуючы выключэньню цяжкіх або затрымліваючых прадстаўленьняў, адчуваньняў і пачуцьцяў, зьмяняецца ў сваім стане і, калі жыцьцёвыя варункі знадворнага сьвету і ня робяцца больш спрыяючымі, то затое ўзьнімаецца яго пачуцьцё ўпэўненасьці, яго надзейнасьць і гатоўнасьць“ [1]). Такім чынам, Данцэль цэнтр цяжкасьці пераносіць на ўнутранае суб'ектыўнае значэньне магічных дзействаў, тымчасам як Фрэзэр гэты цэнтр бачыць у імкненьні да ўзьдзеяньня на знадворны сьвет. На нашу думку, гэтыя погляды супольна дапаўняюць адзін аднаго: магія грунтуецца на фактарах аб'ектыўнага і суб'ектыўнага парадку.

Hubert і Mauss асабліва падкрэсьліваюць соцыяльны характар магіі. „Заўжды, заўважаюць яны, грамада гаворыць іх (чароўнікоў) вуснамі, і калі яны маюць якую-небудзь гістарычную цікавасьць, то гэта таму, што ўплываюць на грамаду“ [2]).

---

[1]) Danzel. Kultur und Religion des primitiven Menschen. Stuttgart, 1924, ст. 44—45.

[2]) Mè langes d'histoire des religions par Hubert et Mauss. Paris, 1909, XXVI.

Дзеля нашай мэты вельмі істотнай зьяўляецца проблема клясыфікацыі магічных дзеяньняў. Гэта проблема разьвязваецца па рознаму. Фрэзэр дае дзьве схэмы падзелу; спачатку ён сумарна, як мы бачылі вышэй, падзяляе сымпатычную магію на гомеопатычную і датыкальную; далей ён ужо больш дэтальна акрэсьлівае наступныя віды магіі: магія тэорытычная (псэўдо-навука) і магія практычная (псэўдо-мастацтва); апошняя, у сваю чаргу, падзяляецца ім на позытыўную (чараўніцтва) і негатыўную (табу) [1]. Hubert і Mauss таксама адрозьніваюць магію позытыўную і негатыўную [2]). Шурц падзяляе магічныя дзеяньні на актыўныя і пасыўныя. „Активными,—кажа ён,—можно назвать все попытки влиять или вредить живущим мистическими действиями на расстоянии, или направлять силы природы; пассивными можно назвать всякие средства защиты против этих страшных влияний“ [3]). Нарэшце, Нікольскі В. падзяляе магію на сымільную і парцыяльную: сымільная грунтуецца на прынцыпе падабенства (падобнае выклікае падобнае), парцыяльная—на прынцыпе частковасьці (часьць замяняе цэлае) [4]). Апошняя тэрмінолёгія прадстаўляецца нам найбольш трапнай, паколькі яна выяўляе самую сутнасьць тых прынцыпаў, на якіх грунтуюцца магічныя дзеяньні.

У аграрных звычаях беларускага селяніна, зьвязаных як з каляндарнай, гэтак і сямейнай абрадавай яго поэзіяй, яскрава выяўлены моманты сымільнай і парцыяльнай магіі.

На гэтых момантах мы і спынімся зараз. У коле беларускай каляндарнай абраднасьці хронолёгічна першае месца займаюць каляды. Гэта назва прадстаўляе сабой, як вядома, зьбіральнае паняцьце, якое ахапляе час сьвяткаваньня з 24 сьнежня па 6 студзеня. У даным сьвяточным кругабегу яскрава вызначаюцца тры абрадавыя цыклі: першая каляда і дні Раства, Новагодняя каляда і Новы год, храшчэнская каляда і Вадохрышча [5]). На кожным з гэтых цыкляў мы спынімся паасобку, прычым мы выключна будзем разглядаць абрадавыя дзействы і звычаі позытыўнага і негатыўнага характару, прапускаючы ўсе народныя прыметы, спосабы варажбы ды інш.

У цэнтры абрадавых дзействаў першай каляды, якая завецца звычайна поснай, стаіць куцьця. Ужо самая падрыхтоўка яе справаджаецца пэўнымі звычаямі. Варыць яе павінна адна толькі гаспадыня, тады будзе захоўвацца „еднысь“ у сям'і і гаспадарцы; чэрпаць зерні для куцьці трэба пасудзінай, якая была ня больш гаршчка з куцьцёй, інакш апошняя не задасца і ў гаспадарцы будуць лішнія страты; трэба пячы аладкі,

---

[1]) The golden bough, стар. 12 і 20.

[2]) Op. cit., XXII.

[3]) История первобытной культуры. СПБ, 1910 г., стар. 826.

[4]) Очерк первобытной культуры. М. П., 1923 г. стар., 77, 78.

[5]) Никифоровский. Простонародные приметы и поверья. Витебск, 1897, стар. IX.

каб цяляты былі гладкі [1]). На кут ставіцца сноп жыта, які ўсё сьвята застаецца ў хаце, і потым аддаецца жывёле, каб яна трымалася хаты і захоўвала „еднысь“ [2]); каля бажніцы ўтыкаецца голка з доўгай ніткай, каб вырас доўгі лён [3]). Куцьцю ядуць на сене; за сенам лепш за ўсё пасланць хлопца, які пасе валы, тады „хоць ён і загубіць валы па лету, то шукаць іх ня трэба, самі прыдуць, затым што ён прынёс сена на куцьцю“ [4]). Гаспадыня, старэйшая ў хаце, пасыпае хлебныя зерні, кладзе на іх сена і потым пасьцілае чысты абрус [5]). Або спачатку кладуць сена і потым на яго сыплюць зерні ўсякага роду; якіх зерняў больш упадзе, той хлеб лепш уродзіцца [6]). Бывае і так: гаспадар сам выпраўляецца за „калядой“, ён ідзе ў клець, бярэ там крыху рознага насеньня (жыта, аўса, пшаніцы, ячменю, гароху) і нясе ў хату. Пераступаючы парог хаты, гаспадар робіць прывітаньне, кажучы: „добры вечар, шчэдры вечар!“ Часам яшчэ сьпяваюць пры гэтым: „да прыехала коледа да в малеваным возку, коледа. Да к Марціну в вороцечка, коляда“. Каляду потым кладуць у „кошэль“ і вешаюць у пачэсным куце [7]). Занатаваны этнографамі яшчэ і надзвычайна цікавы абрад абходу з куцьцёй. Гаспадар бярэ гаршчок з куцьцёй, абходзіць з ім тры разы навокал хаты або двара і потым тры разы стукае ў акно; з хаты гаспадыня або старэйшы ў сям'і пытае: „хто там стукае?“ Гаспадар адказвае: „сам бог стукае з цёплаю мокраю вясною, з гарачым небурлівым летам, з сухою і карыснаю восеньню“, а жонка павінна адказаць: „Просімо-ж да хаты“ [8]). Паводле іншых апісаньняў, гаспадар толькі пераносіць куцьцю на сярэдзіну стала разам з сенам [9]). Вельмі характарным зьяўляецца і свайго роду „курынае дзейства“, якое адыгрываецца перад куцьцёю і мае сваёй мэтай выклікаць раньняе квактаньне курэй... Стары дзядок, з вуснаў якога ў адным месцы „Материалов“ Шэйна [10]) апісаны вясковай настаўніцай, народныя абрады, намячае пэўны рытуал гэтага дзейства; ён раіць гаспадыні: „калі хочаш, каб у цябе рана квакталі куры, то прывяжы белы хвартух, вазьмі з печы куцьцю хвартухом на пакуце і квакчы, як курыца, дзевяць раз:

---

[1]) Ібid., стар. 221 і 222.

[2]) Ібid., 223, гл. Крачковский „Быт западно-русского селянина“, Москва, 1874, стар. 163.

[3]) Никифоровский, 223.

[4]) Шейн. Материалы для изучения быта и яз. русск. насел. Северо-Западного края. I, I, стар. 46.

[5]) Булгаковский. Пинчуки. СПБ, 1890, стар. 180, гл. Крачковский, 163.

[6]) Никифоровский, стар. 223.

[7]) Крачковский, стар. 163.

[8]) Шэйн. I, I, стар. 45 і 46, гл. яшчэ Богданович. Пережитки древнего миросозерцания у белоруссов. Гродно, 1895, стар. 86.

[9]) Романов. Белорусский сборник. Выпуск восьмой. Быт белорусса, Вильно, 1912, стар. 69.

[10]) Т. I, 1, стар. 46.

„кво, кво, кво“, да і нараві, каб схваціць каго-небудзь за чуб: то ў цябе будуць чубатыя кураняты“. Раманаў, дапасоўваючы гэты абрад да галоднай куцьці 5 студзеня, дае яшчэ больш сакавітае і маляўнічае яго апісаньне; у яго мы чытаем: „когда кутья сварится и ее надо переносить из печи на кут, хозяйка, взяв горшок с кутьей в руки, начинает „кохать“, как курица-наседка: „кох! кох!“ Дети, заслышав это коханьне, стремглав бегут под стол и начинают там кудахтать по куриному: „Кудах-дах-дах-дах!“ А некоторые кричат и по-петушиному: „кукареку“. Мать ставит тогда кутью на кут, покрывает ее сверху „кулидкой“ хлеб и сыплет детям под стол семечки подсолнечные. Подобрав их, дети выходят из-под стола“ [1]). Пасьля гэтага пачынаецца вячэра, у часе якой з асаблівай урачыстасьцю ядуць куцьцю. Жанчыны першыя тры лыжкі куцьці імкнуцца ўзяць няпоўныя, каб менш было ўлетку жніўнай працы [2]). Гаспадар, зачэрпаўшы першую лыжку куцьці, заве мароз; ён стукае ў сьцяну і кажа: „мароз, мароз, хадзі куцьці есьці. Што-б не марозіў ячменю, пшаніцу, гароху, сачавіцы, проса, грэчкі і ўсяго, што мне судзіць богп асеяць“. У сваю чаргу, гаспадыня, узяўшы першую лыжку куцьці, падыходзіць да таго вакна, што насупраць печы, стукае ў вакно, і кажа: „мароз, мароз, хадзі куцьці есьці. Што-б ты не марозіў таго, што мне бог судзіў пасадзіць і пасеяць“ [3]). Цэлы шэраг звычаяў зьвязаны з момантам пасьля вячэры. У беларускім Палесьсі назіраецца надзвычайна характарны абрад хаваньня за пірагі. Пасьля вячэры ўсе павінны адыйсьціся ад стала, толькі гаспадар садзіцца на куце, а жонка насупраць яго, паміж імі знаходзяцца пірагі; жонка пытае гаспадара: „чы бачыш ты мяне?“, ён адказвае: „не, ня бачу“, пасля чаго гаспадыня выказвае пажаданьне: „каб-жа ты ня бачыў за стагамі, за копамі, за вазамі, за снапамі сьвету“. Ролі потым мяняюцца; гаспадар у сваю чаргу пытае жонку: „баба, чы бачыш ты мяне?“ і на яе адказ „ня бачу“ вымаўляе: „каб-жа ты ня бачыла за гуркамі, за гарбузамі, за капустаю, за буракамі сьвету“. „Тогда трэба, чытаем мы далей у Шэйна, што-б баба ўзяла кочэргу, да і пхнула ёю гаспадара, а ён, хутка паваліўшыся на лаўку, отдкажа: дай-жа, боже, штоб твое снопы так хутка падалі на ніве. Гэта знаком тым, штоб снопы былі ядренные“ [4]).

Характарнымі зьяўляюцца і больш дробныя звычаі, якія назіраюцца ў гэты момант. Лыжкі зьвязваюцца сянным „вязьмом“, каб скаціна не разлучалася [5]); каб радзіліся чорныя ягняты, трэба з ямак і з печы выграбці вуглі і ўвечары вікінуць іх на двор [6]). Пасьля вячэры гаспадар

---

[1]) Op. cit., стар. 127.

[2]) Никифоровкий, 223.

[3]) Шейн, I, 1, стар. 47; гл. Крачковкий, стар. 164.

[4]) Материалы, 1, стар. 47.

[5]) Никифоровский, стар. 223.

[6]) Ibid., стар. 224.

скідае з сябе абуцьце, з прынесенага снапа жыта робіць „перавясла" і абвязвае ім пладовыя дрэвы ды вульлі, каб было больш пладоў, каб іх ня зрываў вецер і каб пчолы далёка ня лёталі ад вульлёў [1]).

Шмат розных звычаяў і абрадаў зьвязана ня толькі з момантам куцьці, але наогул з днём поснай каляды і з першымі днямі Раства. На каляду дзе-б хто ні ўбачыў вараб'ёў, трэба іх спудзіць: вараб'і тады ня будуць садзіцца на пшаніцу і авёс [2]). На каляду гаспадыня нічога не павінна прасьці, інакш улетку жывёла будзе пускаць сьлюну такімі даўгімі ніткамі, якія ў гэты дзень выпрадуць; іншыя, наадварот, уюць клубкі нітак, каб капуста зьвівалася ў галоўкі [3]). У першы дзень самых каляд уся сям'я, ад мала да вяліка, часам не надзяе белых кашуль, а ходзіць у брудных, каб грэчка ўлетку была чорнай [4]). У гэты-ж дзень гаспадар ловіць бурбалкі ў вары і палівае імі авёс, які „досьвіта" дае коням, каб яны былі такія-ж гладкія, як і бурбалкі, і каб так-жа сама шпарка бегалі [5]). На коляды, паводле апісаньня Тышкевіча,... „pętają stoł, żeby bydło nie tratowało zasiewów; od zachowania tego zwyczaju zależy łatwość w osadzaniu rojów pszczół... kłębki, wrzeciona i prząsnicę w czasie kolad staranie się zachowują, żeby wołom nie ciągnęła się ślina, t. j. żeby były trwałe w pracy [6]). На коляды, далей, пасьля вячэры гаспадары сеюць боб па хаце і па двару з тэй мэтай, каб хлеб радзіўся, як боб [7]). Сьмяцьцё ня выкідаюць на двор, на сьметнік, бо інакш у пшаніцы і ў ільне зьявіцца шмат нягоднай травы [8]) і куры будуць разграбаць грады [9]). На коляды трэба раней есьці, каб навароджаная „стачына" хутчэй прымалася за траву. У ліку страў на Раство не павінна быць лапшы і такіх страў, дзе ёсьць крупы, інакш чэрві будуць на ранах жывёлы; каб сям'я была лёгка на працу, трэба разгаўляцца лёгкім, сьвіным або якім іншым; у часе яды ня можна выглядаць у вокны, бо жывёла тады будзе зазіраць на патраву [10]); нельга рабіць мачонікаў, бо дождж будзе мачыць хлеб [11]). Ня трэба вешаць вопратку і паясы так, каб перавешва-

---

[1]) Крачковский, 164.

[2]) Никифоровский, 224.

[3]) Крачковский, 165.

[4]) Ibid., 96.

[5]) Ал. Шлюбскі. Матэрыялы да вывучэньня фолькльёру і мовы Віцебшчыны. Менск, 1927, стар. 47.

[6]) Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847, стар. 386. гл. Крачковский стар. 165; Никифоровский, стар. 234.

[7]) Богданович, стар. 89.

[8]) Крачковский, 166.

[9]) Никифоровский, 224.

[10]) Ibid., стар. 225.

[11]) Ibid., стар. 229.

ліся абодва канцы, інакш авечкі будуць віславухія [1]), нельга дакранацца да насеньня, бо яно зробіцца ня ўсхожым [2]).

На Раство ня можна заставацца абутым толькі на адну нагу, бо авечка ня стане тады любіць аднаго з сваіх ягнят [3]). Каб радзіліся чорныя авечкі, трэба напісаць што-небудзь вугалем, вынесьці на двор загашаныя галавешкі і вымазаць абуцьцё чым-небудзь чорным [4]). Хто не пасьпеў на каляду, той на Раство павінен саламяным вязьмом зьвязаць два дрэвы, паклаўшы туды дзьве гарошыны—коні і валы будуць тады дружна хадзіць у пары [5]). Ня можна заходзіць да суседа, бо жывёла тады будзе заходзіць у чужыя двары [6]). Пры адлучцы з хаты, трэба хутчэй вярнуцца, бо тады барджэй будзе ісьці праца; з гэтай прычыны, незалежна ад адлегласьці, у царкву, напрыклад, едуць на конях і нават бабылей па дарозе імкнуцца падвезьці [7]).

Другі момант каляднага сьвяткаваньня прадстаўляе сабою Новы год. Навокал гэтага моманту таксама, як і навокал Раства, групуецца пэўны цыкль звычаяў і абрадаў. Вечар напярэдадні Новага году завецца шчодрым вечарам. У гэты вечар гаспадыня, папершае, чыста мяце хату, каб чысты быў ячмень [8]); запальваюць васковую сьвечку, каб найбольш было мёду і воску, жанчыны матаюць ніткі з верацён у клубкі, каб добра ўрадзілася картопля [9]).

У навагодні вечар таксама адбываецца куцьця, якая мае розныя назвы: багатая, таўстая, тлустая [10]), шчодрая куцьця [11]); больш рэдкімі зьяўляюцца назвы: „оготуха“ [12]) і „куцьця св. козьліка [13]). На багатую куцьцю замест сена на стол кладуць вымалачаную салому [14]). У часе багатай куцьці гаспадар адчыняе вакно і гукае: „строк, а строк! просім да куцьці, толькі маіх коні ня круці [15]); робіцца таксама загуканьне марозу [16]). Пасьля вячэры, яшчэ ня ўстаючы з-за стала, салому, на якой елі куцьцю, малоцяць рукамі, потым гэту салому зьбіраюць, шукаюць у ёй жытніх зерняў, якія прымешваюць у насеньне для засеву з мэтай уберагчы каласы ад галаўні, а саломай абвязваюць пладовыя дрэвы, каб яны прынесьлі

---

1) Ibid., 224.
2) Ibid., 227, 229; гл. Шэйн I, 1, 51.
3) Ibid., 227.
4) Ibid., 226.
5) Ibid., 228.
6) Ibid., 226.
7) Ibid., 225—226.
8) Крачковский, 170.
9) Булгаковский, 182.
10) Шейн, 1, 1, 38.
11) Романов, VIII, 112.
12) Крачковский, 170.
13) Шейн, 1, 1, 43.
14) Ibid., 39.
15) Никифоровский, стар. 229.
16) Шейн, 1, 1, стар. 38.

лепшы і саладзейшы ўраджай [1]). Бывае і інакш: пасьля куцьці гаспадар сыпле на стол кучу насеньня ўсялякага роду і на цэлую ноч пакідае яго пад пакрышкай гаршка або патэльні ці чаго іншага; раніцой гэта насеньне даецца ў корм жывёле, каб яна была пакойна ад строка, які нібы зьядаецца ў відзе зерняў [2]). Гаспадыня зьвязвае якія-небудзь прадметы парамі, каб жывёлы таксама былі ў пары; курэй кормяць на разасланым абрусе, каб зрабіць іх прыхільнымі да дому, і з рэшата, каб яны былі не адлучаны ад зграі [3]). З мэтай, каб куры несьліся ў хаце, іх кормяць і іншым спосабам: пасьля вячэры робяць з чаго-небудзь абруч, кладуць яго на зямлю і потым ў яго круг высыпаюць тую куцьцю, што засталася, а хто-небудзь з сям'і выходзіць на двор і пад вакном кажа: „добры вечар!", на што ў хаце адказваюць: „добрае здароўе", потым з двара пытаюць: „а дзе вашы куры нясуцца?" З хаты адказваюць: „пад печчам". Гэта робіцца тры разы. У заключэньне выпускаюць курэй, якія павінны падзяўбаць куцьцю з абруча [4]). Апроч таго, дзяўчыны тры разы аб'яжджаюць навокал сядзібы на мётлах з мэтай напалохаць вараб'ёў, каб яны ня шкодзілі збожжу ўлетку [5]). Пасьля вячэры гэтак сама ня мыюць лыжак і, зьвязаўшы іх шарсьцянай ніткай, у такім відзе пакідаюць на стале; гэта дзеля таго, каб авечкі не адбіваліся ад хаты і прыходзілі з выгану дамоў [6]).

Надзвычайна характарным абрадам навагодняга вечара зьяўляецца „шчодра". Для выкананьня ролі шчодры абіраецца поўная і прыгожая дзяўчына. Прыяцелькі апранаюць яе ў лепшую вопратку, на галаву кладуць вянок з каляровай паперы і на гэты вянок навязваюць столькі шматкалёрнах істужак, што дзяўчына пакрываецца імі да пояса: „трэба, каб шчодра касматая была". Гэта робіцца для таго, каб і новы год быў багаты і калматы [7]).

У самы дзень новага году раніцой вымятаюць хату і шуму выносяць за вёску, каб на ніве ня было нягоднай травы [8]). Як і ў дзень Раства, на новы год гаспадары ня чэшуць валасоў, каб куры не расчэсвалі град [9]). Найбольш цікавым навагоднім абрадам зьяўляецца абрад засеву. Раніцой гаспадар, устаўшы досыць рана, аглядае сваю гаспадарку, потым набірае ў міску зерняў збожжа, абыходзіць усю сваю сялібу і раскідае зерні ў розныя бакі для таго, каб быў такі ўраджай, якім-бы

1) Ibid., стар. 39—40.
2) Никифоровский, стар. 229.
3) Ibid., стар 230.
4) Шэйн, I, 1, стар. 40, гл. яшчэ: Крачковский, стар. 173, Никифоровский, стар. 231.
5) Никифоровский, стар. 229.
6) Шэйн, I, 1, стар. 40.
7) Романов, VIII, 112.
8) Булгаковский, стар. 84.
9) Никифоровский, стар. 231.

можна было напоўніць усе памяшканьні [1]). Апроч таго, з засевам ходзяць на новы год і дзеці. Яны напаўняюць збожжам мяшэчкі і ходзяць з імі па хатах; увайшоўшы ў хату, засявальшчыкі абсыпаюць яе жменькаю зерняў і пры гэтым выказваюць пажаданьне. Слоўныя варыянты гэтага пажаданьня падаюцца розныя. Так, Радчанка З. дае кароткую формулу пажаданьня:

„Сею гречку и пшеницу,
А мне дайте поляницу [2]).

Дэмбовецкі падае больш пашыраны варыянт:

Сею, сею на новое лето, —
Роди, божа, жито, пшеницу,
Всякую пашницу;
В поле зерно,
А в доме добро [3]).

Нарэшце, у Раманава мы знаходзім ужо, па яго выразу, цэлы верш прывітаньня:

Ходи Илья
На Василя,
Нося пугу
Жыцяную;
Где замахне—
Жыта расьце;
Где ня махае,
Там ня бывае!
А ў полі ядром,
А ў доме дабром! [4])

Трэці момант, навокал якога групуюцца калядныя звычаі і абрады, гэта Вадохрышча. Напярэдадні данага сьвята адбываецца апошняя куцьця, якая завецца галоднай. У гэты дзень трэба трымаць хату як мага чысьцей, каб урадзіўся чысты і добры лён [5]).

На галодную куцьцю назіраецца звычай запісваньня каляды; перад вячэрай бяруць кавалак крэйды і робяць ім крыжыкі на гаршку з куцьцёй, на хлебе і потым на дзьвярах і сьценах хаты ды іншых будынкаў, а гэтак сама і на варотах [6]). Пры запісваньні каляды ў кошыку носяць боб, як сымбаль дастаткаў [7]). Вельмі характарным зьяўляецца звычай абходу двара. Гаспадар бярэ міску з адвараным гарохам і разам з дзяцьмі абыходзіць усе будынкі гаспадаркі; у кожным з будынкаў выконваецца адзін і той-жа абрадавы рытуал: гаспадар кідае ў прыпол кожнага дзіцяці крыху гароху і кожнага з іх паасобку пытае: „ці поўна?", на што, атрымаўшы гарох, адказвае „поўна!"; тады гаспадар дадае: „паўні, божухна!" [8]) Калядная вячэра праходзіць як мага барджэй, кожны імкнецца

[1]) Шейн, I, 1, стар. 52.
[2]) Гомельские народные песни. СПБ. 1888.
[3]) Опыт описания Могилевской губернии. Книга I. Могилев на Днепре. 1882, стар. 507.
[4]) Белорусский сборник, VIII, стар. 126.
[5]) Никифоровский, 232.
[6]) Шэйн, I, 1, стар. 38; гл. Никифоровский, 232; Романов, VIII, стар. 127; Дэмбовецкий, 508.
[7]) Крачковский, 174—175.
[8]) Никифоровский, 232.

выперадзіць іншых у ядзе, каб потым выперадзіць іх і ў працы [1]); адбываецца і зараз заклінаньне марозу; якраз для данага выпадку найбольш поўную формулу закліканьня мы знаходзім у Дэмбавецкага ў наступных выразах:

Мороз, мороз, ходи куттю есть.
И иржа и бель ходите теперь.
А улетку (летом) к нам небывайте.
Хлеба нашего не убивайте,
А на моховом болоте перебывайте.
А коли придете к нам улетку
Железными метлами вочи... выцарапаем [2]).

Пасьля вячэры гаспадар рассыпае гарох і рэшты куцьці па падлозе, а ўсе іншыя члены сям'і падбіраюць зерні і падкідаюць іх да столі, каб скаціна ўлетку гэтак сама высока і весела падбрыківала [3]).

Апроч апісаных вышэй звычаяў і абрадавых дзействаў, ёсьць яшчэ некаторыя агульныя сьвяточныя моманты, якія не прыстасаваны хроналёгічна да пэўнага часу і прадстаўляюць сабою прыналежнасьць усяго каляднага цыклю, узятага ў цэлым. Да такіх момантаў належыць перш за ўсё абход з казой. „Для того, чтобы сделать козу,—чытаем мы ў Раманава,—хлопцы выворачивали кожух шерстью кверху, продевали в один рукав кожуха конец дуги и завязывали рукав в виде головы и шеи. К голове привязывали рога из соломы или из крупного сена—осоки. К другому концу дуги привязывали хвост из того же материала. Тогда под кожух влезает низкорослый парень и берет в руки головную часть дуги, обращенной выпуклостью к низу. Полы кожуха с боков опущены до земли и закрывают ноги парня. Так как парень входит в избу согнувшись, то при плохом крестьянском освещении такая фигура легко сходит за козу". Яшчэ больш складаная пабудова казы адзначаецца Раманавым у іншых мясцовасьцях (м. Жлобін і Краснобудзкая воласьць): „голову для козы делают здесь специально из дерева и оклеивают шкуркой. Нижнюю челюсть делают подвижную и посредством веревочки заставляют ее подниматься и опускаться, т. е. открывать и закрывать рот. К голове прыбивают настоящие козьи рога; к нижней челюсти привешивают бороду. Голова надевается на палку, которая прывязывается к концу дуги... стараются подобрать такой кожух, чтобы один бок козы был белый, а другой черный" [4]). Бывае і больш простая пабудова казы. Бяруць сапраўдную галаву казы або падробленую з дрэва яе мадэль, насаджваюць яе на кіёк і прышываюць да кажуха шэрсьцю ўверх, пад кажух улязае хлопец—і каза гатова [5]).

---

[1]) Никифоровский, 236.
[2]) Op. cit, 509.
[3]) Никифоровский, 233.
[4]) Романов, VIII, стар. 103 і 107.
[5]) Багданович, 96, гл. яшчэ Дэмбовецкий, стар. 508, Радченко.

Казу водзіць „дзед“, ролю яго адыгрывае хлопчык, якога штучна апранаюць за старога, прырабляючы яму бараду з пакульля, горб на карку і часам дадаючы і яшчэ некаторыя атрыбуты чыста тэатральнай бутафорыі, як, напр., маска з бярозавай кары, кіёк у рукі, табакерка ды інш.; ужываецца і свайго роду грым: твар „дзеда“ намазваюць сажай [1]). Пры казе часам бывае яшчэ „баба“ [2]) „маладзічка“ і „немец“ [3]). Казу водзяць па хатах, дзе яна скача і паказвае розныя жарты. Цэлы шэраг больш дробных звычаяў зьвязаны з усім пэрыодам калядных сьвяткаваньняў.

Выпускаючы сьвіней з хлява ў першы дзень Раства, на новы год і Вадохрышча, трэба кідаць ім сьнег у вочы, каб яны ня бачылі ўлетку шкоды [4]). Абгарэлыя паленьні трэба называць „залатушкамі“, а не галавешкамі, бо інакш у ячмені будуць нягодныя травы [5]). Гарэлка не павінна купляцца на хлеб, бо ў такім выпадку хлеб ня ўродзіць [6]). Асабліва шмат дробных звычаяў зьвязана з рознымі відамі сельска-гаспадарчай працы. Вечары калядныя завуць сьвятымі, або крывымі, мабыць, на падставе таго пагляду, што калі ў гэтыя вечары працаваць, то прыплод хатняй жывёлы будзе крывы [7]). Нельга шыць у гэтыя вечары, бо цяляты тады могуць нарадзіцца з зашытымі вачыма; ня можна плесьці лапці, бо цяляты народзяцца тады са спутанымі (сплеценымі) нагамі [8]). Нельга наогул у першыя дні каляд, да самага новага году, шыць,сячы тапаром, пілаваць або ламаць, бо тады народжаныя пасьля новага году дзеці або хатнія жывёлы будуць з папсаванымі членамі, яны зьявяцца на сьвет з зашытымі або зросшыміся знадворнымі органамі, пераламанымі касьцямі, або, нарэшце, без якога-небудзь члена [9]). Ня можна „латываць“ адзежы, бо тады жыта ды іншае збожжа вырасьце з „плехамі“; забараняецца мыць бялізну ў жлукце, бо тады ў ільне будуць нягодныя травы [10]). Дзеці і дарослыя не павінны есьці без дазволу, бо інакш „стачына будзе ласа“ ўлетку і пераборчыва ў ядзе [11]). Нельга дакранацца да сажы, бо інакш улетку на жывёлу будуць садзіцца авады і сьляпні (цёмныя з колеру, як і сажа). Ня трэба даваць чаго-небудзь у пазыку, бо тады жывёла будзе заходзіць у двор таго, каму дана пазыка, а куры будуць

---

[1]) Романов, VIII, 103—104, Дембовецкий, 505.

[2]) Романов, VIII, 107.

[3]) Ibid., стар. 104.

[4]) Никифор., 236, гл. Шлюбскі, стар. 47.

[5]) Шейн, 51.

[6]) Никифоровский, 222, гл. Шлюбскі, стар. 47.

[7]) Богданович, стар. 89.

[8]) Крачковский, 168.

[9]) Шейн, I, I, стар. 51, гл. Багдановіч, 89.

[10]) Никифоровский, 236.

[11]) Ibid., стар. 234.

абавязкова класьці яйкі ў чужых дварох. Ня можна даваць курам капусты, каб яны не клявалі потым пасаджанай расады [1]).

Так, усе агледжаныя намі звычаёвыя дзеяньні позытыўнага і негатыўнага характару маюць сваёй мэтай забясьпечыць сельска-гаспадарчы дабрабыт селяніна.

Тая-ж мэта выяўляецца і ў аграрных мотывах тых песьняў, якія сьпяваюцца ў часе каляд.

Аграрныя мотывы калядак досыць рознастайныя.

У іх, папершае, даецца ідэальны вобраз нейкай багатай гаспадаркі.

> У чистым поли да ратаи твои,
> Да ратаи твои да ўсе молодые,
> Волики твои ўсе половые,
> Яремца твои да ўсе дубовые,
> Ой да сохи твои да ўсе золотые,
> Ой да палицы твои да ўсе сребреные,
> Подвои твои да ўсе дроцяные,
> Поводки твои да ўсе шоўкавые [2]).

Песьня часам занатоўвае ўсе галоўныя праявы сельска-гаспадарчага ўжытку. Вельмі характарны варыянт такой песьні падае Булгакоўскі:

> Ой чииж то пастушки
> Ранэнко волы пасвылы.
> Нашого пана, пана господара,
> За пана бога прохалы:
> Дай ему, боже, дай,
> Счашчэ ў полы,
> Здаровэ ў дому,
> Дай ему, дай.

І далей у такой-жа форме пытаньняў і адказаў адзначаюцца з нязьменным рэфрэнам пажаданьняў наступныя зьявы:

> Ранэнко волы буялы...
> ...пастушки
> ...гусы попасалы...
> Свиньы попасалы...
> Овечки попасалы...
> ...наймычкы
> Лэшки асыпалы...
> Косарыки
> Рано сино косылы...
> ...Грыбыльнычки
> Рано сино грабылы...
> ...Носильнычки
> Рано копыцы носылы...

[1]) Шейн, стар. 51.

[2]) Шейн, I, I, стар. 61, гл. Бессонов. Белорусские песни. М. 1871, стар. 72—73.

...Стожыльнычки
Рано сино стожылы...
...Женчики
Рано жито жали...
...Визальнычки
Рано жыто вязали...
...Кладыльники
Жыто в копы клали...
...Савачэньки
Ранэнько жыто сиялы
...возыльнички
Рано жыто возилы...
...Молотыльнички
Рано в клуны жыто молотыли...[1]).

Даная калядка, адзіная ў сваім родзе, дае нам сынтэтычны малюнак усіх відаў сельска-гаспадарчай працы. У большасьці песень гэты сынтэтычны малюнак разьбіваецца на паасобныя вобразы, сярод якіх на першае месца высоўваецца мотыў багатага ўраджаю. Калядоўшчыкі, напр., сьпяваюць пра тры радасьці гаспадара:

Первая радось—у твоим доми,
Другая радось—у твоим оборы,
Трэйця радось—у чистым поли:
У чистым поли—буйна жита,
Буйна жита колосисто, ядранисто,
Кладзеце копочки, як у небе зорачки,
Кладзеце стожки на чатыры рожки...[2]).

Мотыў ураджаю зьяўляецца і ў песьнях, якія сьпяваюцца ў часе абходу з казой:

Дзе каза паходзіць,
Там жыта зародзіць,
А дзе пагасае,
Там павылягае.
Дзе яна бывае,
Там шчасьце вітае.
Дзе каза хвастом,
Там жыта кустом,
Дзе каза нагою,
Там жыта капою.
Дзе каза рогам,
Там жыта стогам.
Дзе каза ня ходзіць,
Там жыта ня родзіць [3]).

---

[1]) Булгаковский, стар. 31—32.

[2]) Шейн, I, I, стар. 81, гл. Радченко, стар. 114; Булгаковский стар. 30.

[3]) Я. Л—к. Спатканьне новага года. „Беларусь", 1920, № 3; глядзі яшчэ Ш. I. I, стар. 91, 96, 98; Романов, VIII, стар. 108. Сербов. Аб беларускай народнай песьні. „Гоман", 1918 г. № 85.

Калі ў адных калядках багаты ўраджай прадстаўляецца ўжо фактам рэальна зьдзейсьненым, то ў другіх ён, наадварот, прадстаўляе сабою об'ект пажаданьняў і мольбаў; калядоўшчыкі сьпяваюць:

Да зародзі, боже,
Да нашему королю
Жито колосисто,
Да единистэ,
Ечмень колосён,
И горох замяшон,
Дай нам, боже,
Да коруовочки
Да молуочливые,
Да целяточки
Неуруочливые [1]).

Вельмі часта памер ураджаю ставіцца ў залежнасьць ад памеру падарункаў, якія выпрашваюцца калядоўшчыкамі:

Турурух, турурух,
Дай дзядзька пироух!
А ты, дзядзина, кусок сала,
Што-б на лето жито жала.
Який гэто пирожок,
Такий на лето колосок;
Из колоса жменька,
Из жменьки – мерка,
Из мерки – бочка [2]).

З агульнымі аграрнымі мотывамі калядак увязваюцца і некаторыя прыватныя, сярод якіх на першы плян выступае мотыў пчалярства:

Ой вудзи, мужу, дай на ўланьку,
Послухай, мужу, што ў твоем бору.
Да ў твоем бору шуміць да гудзе,
Шуміць да гудзе, дуобровою йдзе.
Пчелиная матка ройки ведзе,
Ой ведзе, ведзе, дай поучае:
Садзицеся дзетки по новьючейку,
А я старэнька по старэчьейку,
Пошлите, дзетки, крутые меды,
А я старэнька жоўтые воски... [3]).

Іншы варыянт распрацоўвае гэты мотыў у форме замовы:

За дваром да за новым
темная хмара:
Не есть то хмара, – ярыя пщолы...
Летите, пщолы, у паньски остров,
Займайце, пщолы, двенадцать ульёў,
Носите пщолы солодкие меды,
Солодкие меды, золотые воски [4]).

---

[1]) Шейн, I, I, стар 96, гл. ibid., стар. 48.
[2]) Шейн, I. I., стар. 60.
[3]) Ibid. стар. 57.
[4]) Бессонов, стар. 75, гл. Шейна, стар. 75.

У складаным цыклі каляднай абраднасьці, такім чынам, выдзяляецца акрэсьлены гаспадарчы комплекс, у якім звычаі і песьні зьвязаны еднасьцю імкненьня забясьпечыць пэўны дабрабыт у галіне ральніцтва і жывёлагадоўлі.

Гэты комплекс у навуковай літаратуры не знайшоў сабе дасьледваньня. Веселоўскі, праўда, гаворыць аб аграрных мотывах у каляднай абраднасьці, але гэтыя мотывы разглядаюцца ім спорадычна; дасьледчык бярэ толькі некаторыя звычаі аграрнага характару (засеў, ужываньне сьвініны, хаваньне за пірагі, мімічную ворку ды інш.) і на грунце шырокіх параляляў з фольклёра славянскага, румынскага і антычнага ставіць пытаньне аб магчымасьці ўплыву на калядную абраднасьць грэка-рымскага рытуалу [1]). „Откуда эта аналогичность обряда,—пытае ён,—замечательное сходство, представляемое святочными обычаями современных европейских народов? Многое можно об'яснить единством натуралистических представлений, легших в их основу; вместе с тем в этом общем есть частности и совпадения, невольно вызывающие вопрос—о возможности одного древнего культурного влияния, распространившегося разновременно и оставившего следы в очертаниях нового обряда [2]).

Потэбня даў вельмі шырокі разгляд паасобных мотываў калядак; мала зачапляючы абрады, ён стаіць у тлумачэньні гэтых мотываў на глебе рэлігійна-мітолёгічнай [3]). Адначасна Потэбня значна абмяжоўвае ролю запазычаньня ў каляднай абраднасьці. „К какой бы стороне языка и верований, да и вообще народной жизни,—кажа ён,—не направилось историческое исследование, оно натолкнется на вопрос о степени устойчивости, о силе того, что с одной точки представляется инерцией, а с другой—жизненностью, способностью народного или племенного организма уступать внешнему влиянию не иначе, как превращая его и ассимилируя при помощи прежде познанного“ [4]). Калядкі, з пункту гледжаньня Потэбні, ёсьць вялічальныя песьні, якія напяваюць гаспадару ідэальную абстаноўку і ўмовы жыцьця. „За исключением христианских и нравоучительных мотивов и за немногими другими исключениями, колядки изображают светлую, желанную сторону жизни [5]).

Яшчэ больш рашуча бароніць самастойнасьць пахаджэньня каляднай абраднасьці Каробка. Абвяргаючы гіпотэзу Веселоўскага аб запазычаньні гэтай абраднасьці з грэка-рымскага рытуалу, даны дасьледчык зазначае, што такія звычаі, як „кліканьне плугу“, абсыпаньне зернямі, хаваньне за пірагі былі невядомы Бізантыцкай мінуўшчыне і ўзьніклі на глебе побыту.

---

[1]) Румынские, славянские и греческие коляды. Сборник Отд. русск. яз. и слов. Ак. Н., т. 32, стар. 107—128.

[2]) Ibid., 103.

[3]) Об'яснение малорусских и сродных народных песен. I—II т. Варшава, 1883—1887 г.

[4]) Ibid., I, 124.

[5]) Ibid., II, 44.

Але пераважна Каробка спыняецца на рэштах тотэмізму ў каляднай абраднасьці, залічаючы да гэтай катэгорыі такія зьявы, як роля казы, каня, тура ў калядным маскаваньні [1]).

Такім чынам, калядная абраднасьць у яе гаспадарчай аснове спэцыяльна не дасьледвалася. Яшчэ менш увагі на гэту аснову зварачалі аўтары, пісаўшыя асобна аб беларускай каляднай абраднасьці. Ак. Карскі адзначае толькі абрадавае ўжываньне хлебных зерняў і хаваньне за пірагі [2]). Большасьць аўтараў стаіць выключна на мітолёгічнай глебе (гл. Кіркор [3]), Багдановіч [4]), Власт [5]), Сербаў [6]), Петрапаўлаўскі [7]) ды інш.). Выключэньне прадстаўляе Краснопёраў. Ён правільна бачыць у фольклёры Смаленскай Беларусі пэўную гаспадарчую аснову. „Все песенное творчество смоленских белоруссов,—кажа ён,—можно назвать аграрным, что об'ясняется территориальными и экономическими условиями их быта [8]).

На нашу думку, на падставе выўчэньня толькі матэрыялу беларускай каляднай абраднасьці немагчыма зрабіць асабліва шырокіх абагульняльных вывадаў: для дэтальнага выясьненьня гэнэзісу гэтай абраднасьці неабходна прыцягненьне пераляй з фольклёру іншых народаў,—у першую чаргу, славянскіх. Такое дасьледваньне ў параўнальным пляне і прадставіць сабой прадмет нашай далейшай працы [9]).

Але і грунтуючыся выключна на мясцовым матэрыяле ўжо можна намеціць некаторыя агульныя вывады, хоць-бы самага эскізнага характару.

Падрабязна акрэсьлены намі гаспадарчы комплекс цыклю беларускай каляднай абраднасьці мае для нас каштоўнасьць у адносінах соцыолёгічных, гісторыка-культурных і фармальна-мастацкіх.

У разрэзе соцыолёгічным даны комплекс выяўляе непасрэдную сувязь з сельска-гаспадарчай экономікай; на глебе такой экономікі пуката вызначаецца сялянская псыхолёгія, запоўненая думамі і клопатамі аб тым, як-бы забясьпечыць і палепшыць свой дабрабыт: у гэты бок накіраваны ўсе самыя дробныя дзеяньні селяніна, кожны крок у яго жыцьці праходзіць пад знакам магутнай, усё падпарадкаваючай сабе „ўлады зямлі". І ў даным выпадку быцьцё азначае сьвядомасьць. Прымітыўнасьць тэхнікі і зьвязаная з ёю залежнасьць ад стыхійных сіл прыроды параджаюць

---

1) К изучению малорусских колядок. Известия Отд. русск. яз. и слов. Ак. Н. 1902 г., т. VII, кн. 3, стар. 235—276.

2) Белорусы. т. III, вып. I, стар. 106.

3) Следы язычества в обрядах и песьнях. Живописная Россия, 1882 г. т. III, стар. 249—277.

4) Op. cit. IV. Пережитки солнечного культа. стар. 80—98.

5) „Наша Ніва", 1909 г. №№ 51—52; 1914 г. №№ 51—52.

6) „Гоман", 1918 г. № 85.

7) „Коляды" і „купало" в Белоруссии. Этногр. Обозрение. Кн. LXXVI—LXXVII.

8) Очерк промышленности и торговли Смоленского княжества с древнейших времен до XV в. „Историческое Обозрение", 1894, в. VII, стар. 66.

9) У Менску за адсутнасьцю належных матэрыялаў немагчыма выканаць гэтую працу.

сабою прымітыўныя, можна сказаць, долёгічныя формы мышленьня. На глебе такога мышленьня з яго адзнакамі віталізму, дынамізму і мэтаморфізму і грунтуюцца магічныя дзеяньні, якія займаюць пераважнае месца ў гаспадарчым комплексе нашай каляднай абраднасьці. У ім багата прадстаўлены зьявы позытыўнай і негатыўнай магіі. Асабліва рознастайна вызначаюцца праявы магіі сымільнай, якая грунтуецца на прынцыпе similia similibus, падобнае падобным. У якасьці магічных чыньнікаў, на грунце якіх утвараецца асоцыяцыя падабенства, выступаюць тут розныя субстраты. На першы плян высоўваецца сувязь дынамічная: у якасьці магічных чыньнікаў служаць рознастайныя дзеяньні, як, напр., пасыпаньне зерняў, скокі казы, квахтаньне гаспадыні, хаваньне за пірагі, паданьне на лаву гаспадара, зьвязваньне лыжак, ножак стала, часаньне валос, засяваньне, шыцьцё і шмат інш. Другое месца займае сувязь субстанцыяльная, калі ў якасьці магічных чыньнікаў выступаюць прадметы (боб, крыж, лапша, абруч, клубкі нітак, крыж, пузыры ў кіпятку і інш.). Выяўляецца таксама і сувязь атрыбутыўная, на грунце якой магічнае значэньне набываюць розныя ўласьцівасьці і якасьці прадметаў (доўгая нітка, чорныя вуглі і абуцьцё, чорная кашуля, калматая шчодра, чыстая хата і інш.). Менш прадстаўлена сувязь вербальная, пры якой магічнае дзеяньне ўзьнікае на глебе чыста слоўнай сугучнасьці (ладкі—цяляты гладкі; лёгкае для разгавеньня—лёгкая праца).

Побач з шматлікімі зьявамі магіі сымільнай у гаспадарчым комплексе каляднай абраднасьці прадстаўлены, хоць і ў меншай ступені, зьявы і магіі парцыяльнай; значэньне цэлага набываюць тут такія часткі, як сноп жыта, зерні, пірагі, сена ды інш. У гэту галіну ўваходзіць і ўжываньне слова, якое выступае, як магічны прыём; на думку Нікольскага, да парцыяльнай магіі належыць „огромная область заговоров и заклинаний, действенность коих покоится на способности слова замещать обозначенный ими предмет или акт *). Слова, такім чынам, мысьліцца, як частка, якая можа выклікаць цэлае. Да такой галіны парцыяльнай магіі належаць калядкі аграрнага зьместу: яны прадстаўляюць сабою нішто іншае, як песьні-заклінаньні, у якіх гаспадару напяваецца сельска-гаспадарчы дабрабыт. Да гэтай-жа галіны належыць і замена ў штодзенным ужытку адных слоў другімі (назва „галавешка“, напр., замяняецца назвай „залатушка“).

Такім чынам, у гаспадарчым комплексе каляднай абраднасьці звычаі і песьні аб'яднаны адзінай мэтавай устаноўкай—жаданьнем выклікаць і забясьпечыць матэрыяльны дабрабыт; у гэтым комплексе выяўляецца прымітыўная, і рацыянальная свайго роду агрономія і заотэхніка.

Гаспадарчы комплекс каляднага абрадавага цыклю прадстаўляе цікавасьць і з боку фармальна-мастацкага. У ім выяўляецца інстынкт

*) Очерки первобытной культуры, стар. 79.

тэатральнасьці, уласьцівы чалавеку [1]). Адсюль разгледжаныя намі вышэй звычаі ў большасьці насычаны драматычным зьместам. Апроч пантомінных мініятур, мы маем тут і досыць разгорнутыя драматычныя сцэны з элемэнтамі дыалёга (хаваньне за пірагі, абход з куцьцёй, абход сядзібы на галодную куцьцю ды інш.). Такі абрад, як абход з казой, прадстаўляе ўжо сапраўднае драматычнае дзейства, у якім ёсьць і сыстэма пэрсонажаў і элемэнты тэатральнай бутафорыі. Узятыя ў цэлым абрадавыя зьявы ў даным выпадку прадстаўляюць сабою як-бы паасобныя эпізоды адзінай зямляробскай драмы.

Зьвяртае на сябе ўвагу і поэтыка каляднай песьні—заклінаньня. Асноўнымі формальна-мастацкімі сродкамі яе, як мы бачылі вышэй, зьяўляюцца гіпэрбола, таўтолёгія, паралелізмы і дыалёг. Усе гэтыя сродкі вызначаюцца пэўнай тэлёолёгічнасьцю: гіпэрбола прадстаўляе сабой натуральны вынік імкненьня найбольш паспрыяць гаспадарчаму дабрабыту, таўтолёгія зьвязана ў даным выпадку з верай у моц слова, яна прадстаўляе сабою, як-бы слоўнае нагнятаньне магічнага характару; нарэшце, паралелізмы і дыалёг ускрываюць нам абрадавую падставу песьні. Пазнанскі, гаворачы аб узаемаадносінах абраду і слова, намячае чатыры ступені іх: спачатку магічны абрад, потым слова, якое паясьняе абрад, далей паралелізм абрада і слова і, нарэшце, слоўная формула, якая адарвалася ад абраду [2]). У разгледжаным намі гаспадарчым комплексе ёсьць рэшты ўсіх даных узаемаадносін абраду і слова: мы маем тут шматлічныя магічныя пантомімы, слоўныя формулы, якія паясьняюць абрад (загуканьне марозу, хаваньне за пірагі, абход з куцьцёй ды інш.), назіраем далей паралелізм абраду і слова (засеў, шчодра, абход з казой) і, нарэшце, маем ужо слоўныя заклінаньні, якія самі па сабе, без абраду, маюць магічны характар, як зьявы парцыяльнай магіі.

---

1) Гл. Danzel, op. cit. і Евреинов. Театр, как таковой.

2) Заговоры. Петроград, 1917, стар. 142—148.

# СОЦЫЯЛЬНЫЯ АСНОВЫ ТВОРЧАСЬЦІ АНДРЭЯ АЛЕКСАНДРОВІЧА

**Алесь Гародня**

Ня многа знойдзецца ў нас кніжак, што выклікалі гэткую колькасьць водгукаў на старонках прэсы, як кніжка Андрэя Александровіча „Угрунь“, на якую за параўнальна кароткі час было зьмешчана ў розных газэтах і часопісях звыш 10 рэцэнзый і артыкулаў. І ўжо самы гэты факт даводзіць, што творчасьць гэтага поэты ў нашай сучаснай паэзіі займае выдатнае месца і сустракаецца нашым грамадзтвам з вялікай цікавасьцю.

Трэба зазначыць, што ў самым галоўным, самым важным асноўным пытаньні,—у пытаньні аб тым, ідэолёгію якой клясы, якіх слаёў грамадзтва адбівае Александровіч,—думкі крытыкаў разышліся надзвычайна рэзка. У тэй склочнай атмосфэры, у якой жыве наша беларуская літаратурная грамадзкасьць, у гэтым нічога дзіўнага няма. Хаця крытыка і зьяўляецца тымі шалямі, на якіх звычайна важаць літаратурную вартасьць творчасьці таго ці іншага пісьменьніка, але, на жаль, у большасьці нашых крытыкаў шалі гэтыя фальшывыя, на іх можна важыць хіба толькі ўзаемаадносіны, што існуюць між тымі згуртаваньнямі, да якіх належыць пісьменьнік і крытык, ці нават горш таго,—асабістыя ўзаемаадносіны між імі.

Іншымі словамі, у большасьці выпадкаў наша крытыка наскрозь прасякнута гурткоўшчынай. Тымчасам, добрая ці дрэнная, творчасьць Александровіча выклікала значную зацікаўленасьць чытача, і дзеля гэтага заслугоўвае больш сталых да сябе адносін. У галіне беларускай урбаністычнай поэзіі Александровіч зьяўляецца пачынальнікам,—ён першы і раней за ўсіх пачаў апяваць беларускія вуліцы, беларускія брукі. У гэтым—яго першая і вялікая заслуга, адмаўляць якую не адважыўся нават і Кундзіш у сваім пагромным артыкуле *).

Мотывы вуліцы ў творчасьці Александровіча пануюць. І гэта—не выпадкова. Александровіч—сын гораду. На самых першых кроках свайго творчага шляху ён аддаў даніну традыцыям старой сялянска-народніцкай беларускай літаратуры, ён зрабіў пэўныя спробы распрацоўваць сялянскія мотывы. Але ў чужой для яго стыхіі ён ня здолеў як сьлед разгарнуць свой талент. Яго вабіў горад,—родны яго горад, які быў для

*) К. Кундзіш. Альбо грай альбо скрыпку аддай. „Узвышша“ № 5 за 1927 г.

яго больш блізкім, больш зразумелым. У выніку—зборнік „Па беларускім бруку“—першы стрэл поэты-урбаністага па мурох нашых старых літаратурных традыцый.

Разам з новай тэматыкай Александровіч уносіць у беларускую поэзію і новыя вобразы. Вечар у яго „топчацца па вуліцы“, „прысеў і сьпявае на рамах фабрычных вакон“, „бурапеніць, буяніць па бруку“, вецер—„па стрэхах на комін прысядае“, „гул ня спыняе лізаць камяніцы“, „ліхтароў сьвет цалуецца з лужамі“, „машына песьняй госкае“, а ў песьні—„зьвініць новых дзён варстат“. Адначасна адчуваецца і значнае асьвяжэньне рытмікі. Калі раней у яго пераважалі плаўныя, панурыя, монотонныя рытмы, вельмі падобныя да есенінскіх, што так добра стасуюцца з шэрай вясковай тэматыкай (асабліва, калі ў дадатак яна яшчэ афарбавана ў панурыя ўпадніцкія таны) накшталт:

За вакном мітульга сыпучая,
вецер сьвістам у хату просіцца.
З-за лахмоцьцяў месяц змучаны
ды на п'яніцу-ночку косіцца.
(„Па бел. бруку“, ст 33).

Дык цяпер усё больш настойнай навалай у творчасьці яго ўрываюцца новыя рытмы,—віхрыстыя, адрыўчастыя, больш адпаведныя бурнаму тэмпу сучаснага гарадзкога жыцьця:

Ырай, фабрычны дым!
Расьцілай свой дыван...
Зьвіні, сьпеў малады!
Завод, бі ў барабан!
(„Па бел. бруку“, ст. 7).

Праўда, рытмы гэтыя ні ў якім выпадку нельга яшчэ назваць арыгінальнымі. Занадта нагадваюць яны рытмы расійскіх „лефаўцаў“,—хацяжбы, напр., Маякоўскага:

Дней бык пег.
Медленна лет арба.
Наш бог—бег,
Сердце—наш барабан.
(В. Маяковский. „Наш марш“).

Насьледваньне рытмам Маякоўскага ў іншых вершах выступае яшчэ больш выразна:

... а Сьвіслач—рака
так забаўна
злавала:
Б'е ў берагі,
уздымаючы гул,
скрыгоча:
Што, пан дарагі.—
падстаўляе нагу—
рабочы?
(„Па бел. бруку“, ст. 13).

Аднак, ні ў якім выпадку гэткае насьледваньне нельга лічыць за хібу ў творчасьці Александровіча.

Але самае каштоўнае ў зборніку „Па беларускім бруку",—гэта тое новае, што ўнёс Александровіч у тэматыку беларускае поэзіі. Калі перад тым Гарун, Гартны, Гурло, Чарнушэвіч, нават М. Багдановіч*) і пісалі песьні працы, дык у пераважнай большасьці гэта былі песьні, а працы вясковага ці местачковага саматужніка бадай ніхто са старых беларускіх песьняроў не пяяў пра фабрычны дым, пра тое як:—

... у горадзе песьню рабочым
на колах пяюць рамяні.
(„Па бел. бруку", ст. 23).

Тэмы саматужніцкае працы, праўда, ня чужыя і Александровічу. Нічога дзіўнага ў гэтым няма,—як поэта-рэалісты, як сьвядомы грамадзянін, ён ня можа прайсьці міма такіх буйных фактараў, як перавага саматужнай і дробнай прамысловасьці ў экономічным ладзе нашае далёка яшчэ не індустрыяльнае краіны. Тэмы аб саматужніцтве, у тых варунках, у якіх мы жывем, бязумоўна, доўга яшчэ будуць займаць выдатнае месца ў беларускай літаратуры наогул, і ў паэзіі, у прыватнасьці. Але Александровіч, як мы ўжо казалі,—сын гораду, сын буйнога (у нашых умовах) прамысловага цэнтру, і ён ня можа ня бачыць тых зародкаў будучае індустрыялізацыі, якія ў нас ёсьць, якія з кожным годам растуць, з кожным годам адыгрываюць усё большую і большую ролю ў нашым экономічным, а значыць, і грамадзкім і культурным жыцьці. Александровіч ня можа прайсьці міма іх,—яго вабіць красуня-фабрыка, яго вабіць высокі цагляны комін, што верхам сваім рэжа сінь нябёсаў, яго вабіць пах фабрычнага дыму, ён ведае, што ў гэтым дыме нараджаецца новае жыцьцё, калі адамрэ саматужніцтва,—

— станок заменіць сотні рук,
што робіш ноч, ён дасьць хвілінай...
(„Па бел. бруку", ст 22).

І зусім зразумела, чаму Александровіч зьвяртаецца да машыны з заклікам:

— Эх, родная сталь-машына,
беларускай рабочай зьвіні!
Песьня тваёй хвіліны
вылівае жалезныя дні.
(„Па бел. бруку", ст. 9).

У вогуле, у зборніку „Па беларускім бруку"—дыяпазон творчасьці Александровіча даволі шырокі. Апрача гораду, вуліцы, фабрыкі, змаганьня,—тут знаходзяць сабе адбітак і мотывы працы, і комсамольскі, і піянэрскі рух, і Чырвоная армія, і партызаншчына, і нават — драма

*) Хаця-ж бы вядомы верш „Слуцкія ткачыхі".

дзяўчыны, што зрабілася прастытуткаю,—але і тут,—характэрна,—Александровіч вельмі ясна бачыць, дзе корань зла:

> Не зразумець ёй жыцьцё змаганьня,
> не зразумець ёй бурлівы завод.
>
> („Па бел. бруку", ст 15).

Вось якою малюецца нам творчасьць Александровіча паводле першага яго зборніку—„Па беларускім бруку". Наступны яго зборнік, што вышаў у 1926 годзе ў выданьні Ц. Б. „Маладняка" пад назваю „Прозалаць", паказвае значны посьпех поэты ў галіне формальна-мастацкай. Больш жывыя рытмы, большая колькасьць моцных эпітэтаў, больш рэзкія, што глыбей уразаюцца ў памяць вобразы,—ясна відаць, што поэта працуе над сабой, шукае для свае творчасьці новых форм і новых мастацкіх прыёмаў для лепшае перадачы сваіх настрояў, сваіх думак.

Як і папярэдні зборнік, „Прозалаць" прасякнута радасьцю жыцьця, бадзёрым імкненьнем да змаганьня.

І зусім правільна гаворыць пра сябе поэта:

> Мая песьня—
> песьня фабрык!
> Маё слова—
> звон машын.
> Мая песьня—
> чырвань фарбаў.
> Маё слова—
> плынь душы...
> Мая песьня—
> веснавыя ўзоры,
> гоман дня
> ў рабочую пару.
>
> („Прозалаць", ст. 7).

Любіць Александровіч усё радаснае, любіць ён калі:

> Калышацца песьні вясёлкі
> Вясьняных цымбал перабор.
> Вясна, як дзяўчына іголкай
> вышывае слуцкі ўзор...
>
> („Прозалаць", ст. 24).

Ён увесь прасякнуты гэтай вясьнянай радасьцю, у яго сэрцы яна „б'е ў сто званоў". Для Александровіча „Сонца—лёзунг, вясна—плякат..." Але радасьць Александровіча—гэта не беспадстаўная радасьць, яна мае пад сабой пэўны грунт: ён радуецца, бо бачыць—мінулі чорныя дні, дні пакуты роднае яго краіны:

> ...па цаглінцы... так з году ў год
> разбураны край будавалі.
> І пакутна-сьлязьлівая песьня яго
> стала радасным звонам сталі.
>
> („Прозалаць", ст. 23)

Але як рэалісты, не адарваны ад жыцьця, ён ня можа ня бачыць і сумных яго бакоў. Так, напрыклад, нават у сьвята першага мая, ён ня можа ня ўспомніць, што:

> Беларусь, загоны зялёныя,
> ты ня ўся яшчэ з намі,
> Не!
>
> („Прозалаць", ст. 37).

Ён бачыць, што і Заходняя Беларусь „руньню новай ужо зелянее", ён ведае, што

> ...— завые яшчэ завіруха,
> вызваленьне роднай зямлі"...
>
> („Прозалаць", ст. 45).

Сэрца прадракае яму, што „хутка мы павінны ў Заходняй быць!"

Александровіч—увесь у колектыве. Александровіч, відаць, ня мысьліць сябе па-за колектывам. Ён жыве жыцьцём колектыву, хварэе яго болем, радуецца яго радасьцю. Адсюль шчырасьць і рэалізм яго творчасьці,—творчасьці члена колектыву аб колектыве і для колектыву. Вось чаму рэалізм Александровіча—пролетарскі рэалізм.

Александровіч рэалісты, і, пішучы аб горадзе часоў нэпу, ён ня можа абмінуць і адмоўныя яго бакі. Горад у сучасным яго становішчы складаецца з зародкаў новай пролетарскай культуры, але жывы ў ім і перажыткі старой „культуры" эксплёататараў, горад—гэта ня толькі фабрыкі, дым комінаў, сьпеў машыны, праца, не,—горад пры нэпе—гэта таксама:

> Кіно.
> тэатр,
> ізвошчык,
> простытутка,
> гарадзкога шуму
> неўгамонны чад.
> Віно,
> азарт
> палошчыць
> —і тут, як тут-ка
> піўная:
> „Летні сад".
>
> („Прозалаць", ст. 10).

Але Александровіч добра ведае, дзе тут свой, а дзе „ня наш народ". І нават „сінь вачанятак" „спрытных дзяўчынак" у яго „калосіць ненавісьць да нэпманскае банды". Александровіч добра адчувае ўсю ўнутраную фальш гэтае нэпманскае вясёласьці. Ён любіць вуліцу, шчыра любіць яе, але разумее, што ня ў нэпаўскіх „летніх садох" сапраўдная вясёласьць, сапраўднае жыцьцё. Пасьля „летняга саду" ён заходзіць у

клюб, у якім спраўляюцца ў той час акцябрыны, дзе „хвалямі крынічыць“ радасьць,—і ён бачыць, што гэтая радасьць—тут „не ў гасьцёх“, што—

> толькі тут, у сям'і фабрычнай,
> тут сапраўднае жыцьцё.
> („Прозалаць“, ст. 12).

Да ліку хібаў трэба аднесьці тое замілаваньне, з якім Александровіч паказвае „мяшчанскае сьмяцьцё“, якое, паводле яго слоў, ён „топча“ ідучы па вуліцы. Гэтае сьмяцьцё ён паказвае так смачна, што можна баяцца, каб „эмоцыянальнае заражэньне“ чытача гэтым вершам („Вуліца“) ня вышла зусім адваротным таму, чаго жадае сам аўтар.

У 1927 годзе, у выданьні Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі вышаў трэці зборнік Александровіча—„Угрунь“. У сэнсе тэматыкі—новага (для Александровіча) ён амаль не дае. У галіне формальна-мастацкай—ён, сапраўды, зьяўляецца вышэйшай ступеньню творчасьці Александровіча. На апошняе палажэньне, выказанае некаторымі крытыкамі, страшэнна абураецца Кундзіш. Аднак, як мы ні шукалі, у яго артыкуле мы не знайшлі жадных аргумэнтаў, што абвяргалі-б гэты факт. Да ўсяго, чым можна было-б упікнуць Александровіча, Кундзіш старанна падбіраў довады. У даным выпадку ён гэтага не зрабіў. Відаць—ён ня вельмі цьвёрды ў граматыцы, і зблытаў параўнальную ступень з найвышэйшай,—таму так і абураецца. У „Ўгруні“, як зусім правільна зазначыў Джугар *), і сьвяжэйшыя вобразы, і жывейшыя эпітэты, і прыгожыя наватворы. Гэта, зразумела, ня значыць, што мы сьцьвярджаем, нібы ў Александровіча ўсе вобразы сьвежыя. І таму ані ня зьдзіўляе нас Кундзіш, калі знаходзіць вобразы і эпітэты ня вельмі новыя. І на сонца набягаюць цені. Але самае каштоўнае, што ёсьць у тэхніцы Александровіча, гэта надзвычайная эўфонічнасьць яго вершаў, вялікая колькасьць прыгожых, часта вельмі ўдалых алітэрацый. „Угрунь“—гэта, безумоўна, далейшы крок аўтара наперад.

Пролетарскі рэалізм Александровіча асабліва выразна выступае ў поэме „Дваццаць“, што зьмешчана ў тым-жа ж зборніку „Угрунь“. Тут поэта дае надзвычайна яскравыя малюнкі жыцьця беларускага пролетарыяту ў цяжкія гады рэакцыі, што „сталыпінскім гальштукам“ сьціснулі горла працоўнае клясы ўсяе колішняе Расійскае імпэрыі. Голад, холад, жабрацтва, паняверка, п'янства,—вось тыя „дабрачыннасьці“, што прынесла было з сабою славутае „заспакаеньне“ пасьля навальніцы 1905 г.

> Студзень. Шосты год.
> Дваццатае сталецьце.
> Водзе ў карагод
> голад свае сеці.
> Холадна. Мароз,
> узор на вокнах віўся.
> („Угрунь“, ст. 90).

*) Джугар—„Зьвязда“ 1927, № 225.

І ў гэты цяжкі час у сям'і пярэсьпенскага краўца нарадзіўся хлапец. Цёмныя бацькі, верныя старым забабонам—

> Шукалі запеччу
> сьвятое травы...
> Малілася хата,—
> ў пашане Спас...
> — Будзе багаты,—
> ў шчасьлівы час!..
> („Угрунь", ст. 91).

Ня гледзячы, аднак, на гэткае добрае прадраканьне,—бацька ня радуецца,—не, наадварот:

> Больлю затросься
> бацькавы твар,—
> цяжка жылося,
> мацнеў цяжар.
> („Угрунь", ст. 91).

У сям'і зьявіўся новы ядок. Цяжкасьць гэтага факту адчулі і суседзі,—і пасьпяшаліся дапамагчы, чым маглі. Цяжка старому бацьку знайсьці сабе працу:

> Вясна прыляцела з надзеяй—
> можа ўдасца работу знайсьці.
> Але дзе заробак,—дзе ён,—
> да каго і куды пайсьці?
> („Угрунь", ст. 94).

Аб якой-кольвечы дапамозе беспрацоўным у тыя часы не магло быць і гутаркі. Царскі ўрад дбаў толькі аб тым, каб мець як мага больш прыбытку ад гарэлачнае монополі, і ўсюды, і на вёсцы, і ў рабочых кварталах завіхаўся адчыняць... шынкі! І вось,—у такім шынку, разам з сябрамі, магчыма, такімі-ж беспрацоўнымі,—бацька „прапівае сваё паліто". А як прыдзе дамоў—злы, разнэрваваны—гатоў „задушыць" цябе сваімі рукамі. У выніку-ж, у хаце—

> заўсёды клумкі клопатаў,
> сьлёзы, бой, грызьня.
> („Угрунь", ст. 95).

Маці рабіла што магла, каб хоць як-кольвечы зарабіць дзеткам на харчы:

> Ня мала бялізны сьцірала па людзям,
> вечна на пальцах былі вадыры.
> Сілы губляла, атручвала грудзі
> флёркай, крахмалам... ды што гаварыць!
> („Угрунь", 97).

І зусім зразумелым робіцца той стыхійны выбух гневу, у выніку якога бацька—

> раз п'яны, страсянуў гарадавога,
> трасянуў, пяючы марсэльезу.

Гаварылі яшчэ, што азартам
аб калена зламаў „селядзец“.
Прыляцела суседняя варта...
(„Угрунь“, ст. 96).

Праўда, пасьля гэтага бацьку судзілі, ён сядзеў, потым—„вышаў“. Царскі ўрад спаіваў працоўных не дарма,—ён вельмі добра разумеў, што не ад такіх п'яных учынкаў яму пагражае небясьпека. А тымчасам—гарэлка рабіла сваё, яна несла з сабою дэгэнэрацыю—выраджэньне працоўных, як псыхічнае, гэтак і фізычнае; яна атручвала людзей, даводзіла іх да страты ня толькі розуму і вытрыманасьці, што так патрэбны для пасьпяховага вядзеньня клясавага змаганьня, яна даводзіла да страты самага аблічча чалавечага:

Бацька, як вып'е, вар'ятам рабіўся,
і так вось, п'яныя ў загрудкі ўзяліся.
Ведама, тут і нажы ў іх з сабой...
Бацькі ня стала. Заліўся крывёй“...
(„Угрунь“. ст. 97).

Вось поўны малюнак тае асярэдзіны, у якой узрастаў маленечкі хлопчык, сын пярэсьпенскага шаўца. Вядома-ж, аб нейкім там „выхаваньні“ не магло быць і гутаркі. У бацькоў ня было нават магчымасьці хоць крыху даглядаць за дзяцьмі, якія, дзякуючы гэтаму, рабіліся сапраўднымі „дзецьмі вуліцы“—накшталт бяспрытульных. І дзеля гэтага нам зусім не зразумелы той момант аб хуліганстве, які падняў Кундзіш на старонках „Узвышша“. Нельга-ж, сапраўды, вымагаць ад поэты-рэалістага, каб ён маляваў дзяцей пролетарыяту чорных часоў рэакцыі прычасаных на абодва бакі і прылізаных паводле ўсіх правіл тагочаснай буржуазнае „прыстойнасьці“. Гэта настолькі дзіка, як і прычапляць адзінаццацігадоваму хлапцу этыкетку „мяшчанства“ за тое, што ў часе пагрому ён украў недзе скрыначку ірысак, як гэта робіць той самы Кундзіш, ці вымагаць стопроцантнае клясавае сьвядомасьці ад бяспрытульнага на вуліцы.

Ня раз ужо крытыкі зьвярталі ўвагу на тое, што Александровіч проста-такі падкупляе чытача сваёй надзвычайнай шчырасьцю. Вынікае гэтая шчырасьць з таго, што Александровіч пяе „не як староньні назіральнік, а як непасрэдны ўдзельнік“ змаганьня пролетарыяту за сваю будучыню. Зборнік „Угрунь“, як і ўся творчасьць Александровіча,—гэта песьня аб соцыялістычным будаўніцтве, аб індустрыялізацыі, да якой мы яшчэ толькі прычыняемся. Але для таго, каб правільна будаваць, трэба ведаць, якімі сродкамі для будаўніцтва ўладаеш. Александровіч гэта ведае,—ён ведае, што мы будуем індустрыю, бо індустрыі ў нас бадай што яшчэ і няма, што тэхнічныя нашыя сродкі—яшчэ адсталыя, і ў тым, што з гэтымі нашымі слабымі магчымасьцямі мы ўсё-ж ткі будуем, што, ня гледзячы на слабасьць нашае тэхнікі, тым ня менш у справе будаўніцтва мы маем вялікія дасягненьні, у гэтым Александровіч бачыць асобную

заслугу нашае работніцкае клясы. Ён не замазвае гэтай нашае адсталасьці, ён шчыра паказвае яе, зьвяртае на яе ўвагу чытача.

Песьня Александровіча—гэта заклік да змаганьня, заклік да будаўніцтва:

На лева—
левую!
Я заклікаю,
стройна!
Краіна родная!
Сягоньня твой парад!
Пяю ня лірыку,
а эконом-надстройку
пра рост чырвонца,
пра наш савецкі лад.
(„Угрунь“, ст. 26).

Тут некаторыя „крытыкі“ накшталт Фэлікса Гарадзенскага паднімаюць з повадў гэтых радкоў цэлы гармідар „ратуйце!.. політычная няпісьменнасьць!“ Дарма, таварышы! Навучыцеся сьпярша чытаць вершы і разумець іх (праўда, цяжка гэта, калі прывык да цыркуляраў і „входящих“,—спачуваем...). Так, бязумоўна,—творчасьць Александровіча гэта не бязгрунтоўная лірыка аматараў пяшчотных дзявочых прыткненьняў, ня гультайскі сум сантымэнтальнае „Жанны Нэй“ у вобразе савецкае машыніcткі, і не сабачая вясёласьць „літаратурнай“ і рэдакцыйнай богэмы, ласай да самай экзотычнай эротыкі на Савецкай вуліцы. Гэта—простая надбудова над базісам экономічнага жыцьця пролетарскае дзяржавы.

Александровіч ідзе ў нагу з жыцьцём. Песьня яго—гэта соцыяльны заказ. Гэта заказ тае клясы, што пануе ў нашай дзяржаве. І гэта—павышае толькі вартасьць яго творчасьці. Адмаўляць ёй у прызнаньні гэтае вартасьці можа толькі той, хто, асьляплёны гурткоўшчынай, ня бачыць і ня хоча бачыць нашых перамог на фронце грамадзянскай вайны ў мінулым і на фронце экономічнага ды культурнага будаўніцтва, на фронце культурнай рэволюцыі ў сучасным; той, хто заплюшчвае вочы на ўзрост нашай маладой пролетарскай літаратуры.

# ПРОЛЕТАРСКАЯ ЯПОНСКАЯ ЛІТАРАТУРА *)

## Удзяку Акіта

Мяне прасілі напісаць што-небудзь аб японскай літаратуры для вашай часопісі. Я хочу выканаць сваё абяцаньне, якое я даў таварышом з „Полымя". Выбачайце, калі мой артыкул будзе вельмі схэматычным. Часамі кароткая схэма больш адпавядае свайму прызначэньню. Калі будзе час, мо яшчэ ў СССР, а мо' ўжо ў Японіі я пастараюся запоўніць гэту схэму больш падрабязным зьместам.

Нашы краіны ляжаць за тысячы вёрст адна ад аднэй і я вельмі рад, што сваім прыездам і сваімі артыкуламі ў вашых часопісях я дапамагу ўзмоцніць сувязь нашых краін Японіі і БССР.

* * *

Калі пачынаюць пісаць аб японскай пролетарскай літаратуры, дык заўсёды ўспамінаюць маладога поэту Ішыкайя Такубоку. Яго лічаць за „бацьку" пролетарскай літаратуры.

Ішыкайя Такубоку быў сам соцыялісты. Формай яго творчасьці была *Танка.* Танка гэта „мідзіка-ута"—кароткая песьня—верш у 31 склад з супынкам пасярэдзіне.

Танка—былі вершамі імпэратарскага двара тысячы год назад. Іх пісалі і цары і царыцы і прыдворныя поэты. Галоўны зьмест іх быў— выхваленьне „Земнага бога-цара".

*Такубоку* пераняў гэту форму поэтычнай творчасьці ў прыдворных поэтаў і зрабіў яе народным сьпевам. Яго танкі пісаліся ўжо другой моваю—народнай, у іх была лірыка і „рэволюцыйнасьць"—протэст супроць капіталізму.

Гэты протэст быў, галоўным чынам, у скаргах на дрэннае становішча сялянства і рабочых. Танка ўвайшла ў японскі быт і цяпер яе пішуць—твораць пры ўсякім выпадку. Поэта Такубоку знаходзіўся пад вялікім уплывам расійскага народніцтва, таму ў яго творах і магчыма ўбачыць гэтае народніцтва, апранутае ў японскую рачаіснасьць.

---

*) Месяцы два таму назад у Менску па запрашэньні беларускай сэкцыі міжнароднай сувязі эспэрантыстых гасьціў вядомы японскі пісьменьнік і драматург Акіта. Па запрашэньні рэдакцыі „Полымя" ён напісаў для часопісі гэты артыкул аб стане японскае пролетарскае літаратуры. *Рэдакцыя.*

Наогул трэба адзначыць, што разьвіцьцё расійскай літаратуры вельмі дапамагала ды дапамагае і цяпер разьвіцьцю японскай пролетарскай літаратуры.

І зьмест і форма японскай літаратуры мае нейкую ўнутраную сувязь з літаратурай расійскай. Шмат крытыкаў і літаратараў лічаць, што японская літаратура проста пераймала расійскую літаратуру. Але ці-ж гэта так? Не! Ёсьць прычыны—прычыны соцыяльныя, якія зьвязвалі разьвіцьцё расійскай літаратуры з разьвіцьцём літаратуры ня толькі Японіі, але і іншых краін. Праўда, Японія адна з першых зразумела праз літаратуру соцыяльныя хваробы Расіі. Два „ворагі“, дзякуючы вайне, хутчэй зразумелі прычыны іх агульных пакут.

У часе маёй падарожы па Каўказу, шмат каўказцаў выказвалі мне падзяку за тое, што японцы ў часе Япона-Расійскай вайны перамаглі расійцаў. Вядомы расійскі пісьменьнік В. Верасаеў таксама выказваў мне такую-ж самую падзяку.—„Расійская інтэлігенцыя жадала Японіі перамогі—і яна перамагла“,—казаў ён.

Але таму, што Японія перамагла, японскі народ добра пазнаёміўся з цяжкім становішчам расійскага пролетара. Ён даведаўся, што пакуты расійцаў—гэта яго пакуты—пакуты японскага пролетара. Ён зразумеў, што яны агульны для ўсіх. Ён зразумеў, адкуль яны ідуць. І разам з „перамогай“ японскі народ „заразіўся“ рэволюцыйнасьцю. Рэволюцыйны дух, як здань, пачаў лунаць па Японіі. Літаратура, як я казаў, крыху вышэй, значна дапамагла японскаму пролетару пазнаць свайго ворага—Расію, а разам з гэтым і шмат чаго іншага.

Расійскі натуралізм пранік і ў Японію. Пачынальнікамі натуралізму ў Японіі трэба лічыць двух вайсковых корэспондэнтаў Тайяма Кіатан і Кунікіда Доппо. Потым па іх шляху пайшоў Шымазакі Томсон—вядомы поэта, які потым зьявіўся пачынальнікам японскага романізму.

Натуралізм у японскай літаратуры ня меў такога ярка выражанага соцыяльнага характару, як гэта было ў Расіі. Тургенеў, Дастаеўскі, Талстой,... і Горкі мелі значны ўплыў на японскіх натуралістых, але іх творы зусім ня былі падобны да твораў расійскіх пісьменьнікаў. У іх (японскіх натуралістых) ня было відаць ні пакут, ні наогул цяжкага жыцьця сялян або рабочых. А пазьнейшы натуралізм забыўся зусім на народнае жыцьцё. Усю сваю моц і здольнасьці натуралістыя накіроўвалі на тое, каб пісаць сэксуальныя романы з жыцьця дробнай буржуазіі і інтэлігенцыі.

Пасьля сьмерці Такубоку і да Кастрычнікавай рэволюцыі ў Расіі японская літаратура перажыла рэакцыю пасьля натуралізму—гэта быў гуманізм.

Гуманізм—літаратурная плынь са сваім правадыром Мушакоджы—таксама засталася з боку ад жыцьця і ад „народных пакут“. І толькі пасьля рэволюцыі ў Расіі ў японскай літаратуры прагучэў „голас на-

родны“. Кастрычнікавая рэволюцыя ў Расіі зрабіла ў Японіі таксама „рэволюцыю“ ў культурным жыцьці. Яна дала стымуль ня толькі для грамадзянскага жыцьця, але і для літаратуры. Па ўсёй краіне пачалі з'organізоўвацца Лігі Соцыялістых, аб'яднаўшыя пісьменьнікаў і студэнтаў. Апошнія ішлі на фабрыкі і на заводы і там організоўвалі соцыялістычныя гурткі. Гэтыя гурткі і паклалі крыху пазьней пачатак комуністычнай партыі Японіі.

У 1920 г. была заснавана Ўсеяпонская Ліга соцыялістых, у якой прымаў удзеля і мае таварышы Накамура, Арышыма і Нагаўа. З дапамогаю таварышоў Комакі, Аоно, Сасакі, Канеко—была заснавана часопісь „Танемакушыто“—„Сейбіт“.

Сярод сяброў лігі былі, апрача комуністых, і анархістыя. Усе яны знаходзіліся пад вялікім уплывам творчасьці расійскіх пісьменьнікаў, а таксама і пад уплывам творчасьці Анры Барбюса і яго часопісі „Clartè“.

У 1923 г. адбылося вялікае зямлятрасеньне. Стала ў той час вядомым, што корэйцы былі ў цеснай сувязі з соцыялістымі і рыхтавалі паўстаньне. Шмат вінаватых і ні ў чым ня вінных людзей было забіта. Я быў у гэты час у Токіё. Вядомы пісьменьнік анархісты Осагі, комуніст драматург Хірасаўа, а таксама шмат іншых вучоных і літаратараў былі замучаны і забіты паліцыяй раней, чым пачаўся вялікі пажар у горадзе.

Рэакцыя спраўляла сваю перамогу.

Я цяпер не магу ўспамінаць гэтыя дні бяз злосьці на ўрад! Ён шмат лепшых людзей зьнішчыў за ні што.

Пасьля зямлятрасеньня пачаўся пэрыод дэкадэнцкага дадызму. Дадызм увайшоў у быт. Усюды друкаваліся дадыцкія вершы, у тэатрах ставіліся дадыцкія драмы, зьявіліся і свае дадыцкія скокі. Дадыцкую літаратуру чыталі ўсе і ўсюды. Але ў 1925 годзе з групы „Танемакушыто“ (Сейбіт) вышлі пісьменьнікі-комуністыя і заснавалі сваю групу „Бунгей-Сен-Сен“—„Фронт“. У гэту групу ўвайшлі Сасакі, Хайашы, Хайяма, Тужыморы і Ямада.

У гэты-ж час зьявілася і другая група „Кай-хо“ (Вызваленьне); сюды ўваходзілі пісьменьнікі, якія не засталіся з анархістымі і не перайшлі да комуністых. Сярод пісьменьнікаў, якія ўвайшлі ў групу „Кай-хо“, трэба адзначыць Наканісі, Эгучы ды інш.

Усе гэтыя групы аб'яднаціся ў „Пролетарскую літаратурную лігу“. Гэта ліга мела сваёй мэтай „згуртаваць усіх пролетарскіх пісьменьнікаў, крытыкаў, драматургаў, поэтаў і ўсіх тых, хто спачувае пролетарскаму культурнаму руху; ліга павінна быць хорунжым масавага пролетарскага культурнага руху“.

У гэты час вышла шмат новых літаратурных часопісяй: „Жалезны молат“, „Культурная Японія“, „Культурны фронт“, „Бурная эпоха“, „Clartè“, „Сусьветны поэта“, „Культурная партыя“, „Новы чалавек“ і шмат іншых.

У гэты час організуецца і група „Дай санка“—„Трэці аддзел“—група, якая носіць назву японскага лефу. У гэту групу ўваходзіць вядомы мастак Камбара Йябэ. Пэўны час драматург Мураяма таксама належаў да групы японскага лефу, але цяпер ён вышаў з яе. Японскі леф вельмі яшчэ слабы, ён ня мае яшчэ ніякага значэньня ў японскай літаратуры, ён толькі выступае „заўзята“ з крытыкай старога. Праўда, леф зьяўляецца нібы штурхачом пролетарскага мастацтва і літаратуры—і ў гэтым яго толькі і вартасьць.

Пад канец свайго артыкулу я-б хацеў сказаць яшчэ некалькі слоў аб двух загінуўшых пісьменьніках—вельмі вядомых ня толькі ў Японіі, але і па-за межамі.

Адзін з іх Токео Арышыма—скончыў сваё жыцьцё самагубствам (павесіўся). Апрача романтычнае прычыны яго сьмерці, таксама прычынай яго самагубства былі ўнутраныя супярэчнасьці поэты. Паходзіў ён з сям'і вядомага багатыра ў Токіё, потым зьвязаўся з соцыялістычным рухам, у 1922 годзе раздаў усё сваё багацьце беднякам, потым пэражыў эпоху ўнутраных супярэчнасьцяй. Адарваўшыся ад буржуазіі, ён ніяк ня мог падыйсьці блізка да соцыялізму.

Апошні ў яго выліваўся ў філянтрапізм.

Другі поэта Акутагаўа—поэта „фэўдальнага эстэтызму“ таксама скончыў жыцьцё самагубствам.

Успамінаючы аб жывых, трэба ўспомніць і аб гэтых бязьвінных ахвярах эпохі.

Ліга пролетарскіх пісьменьнікаў існавала ня доўга. Анархістыя зрывалі адзіны фронт культурнікаў, і комуністыя вышлі з лігі першыя. Анархістыя таксама аддзяліліся і пачалі выдаваць сваю часопісь „Бунгэй-Кайхо“ „Літаратурнае Вызваленьне“.

Цяпер у Японіі схэматычна магчыма лічыць існуючымі чатыры літаратурныя плыні.

1. Старая японская літаратура „чыстае мастацтва“—фэўдальная літаратура.

2. Літаратура дробнага мяшчанства—лібэральная літаратура.

3. Соцыялістычная літаратура (літаратура соцыялістых усіх кірункаў і анархістых).

4. Комуністычная або пролетарская літаратура, куды трэба аднесьці і лефаўскую плынь у японскай літаратуры.

Вось у кароткіх рысах аб японскай літаратуры. Я вельмі рады, што ў вас на Беларусі я меў магчымасьць добра пазнаёміцца з усімі кірункамі пролетарскай літаратуры Беларусі.

Я карыстаюся магчымасьцю перадаць за гэта шчырую падзяку ўсім пісьменьнікам і поэтам пролетарскай літаратуры Савецкай Беларусі.

## УДЗЯКУ АКІТА

*(Жыцьцё і творчасьць)*

**Зьм. Сьнежка**

У сучаснай Японіі цяжка знайсьці чалавека, які ня ведаў-бы імя Удзяку Акіта.

Яго ведаюць як пісьменьніка—чытаючы яго творы. А чытачоў у Японіі—мільёны. У краіне, дзе зусім няма няпісьменных, літаратура даходзіць да самых нізоў пролетарыяту.

Акіту ведаюць як драматурга,—дзесяткі драм якога ідуць амаль у 15 тэатрах Японіі.

Акіту ведаюць як тэатральнага дзеяча, прымаючага ўдзел у новым японскім тэатры „Цукідзі—малы тэатр“.

Акіту ведаюць як грамадзкага дзеяча, прымаўшага ўдзел у засна-ваньні Ўсеяпонскай Соцыялістычнай лігі.

Яго ведаюць як „заядлага“ сябра СССР.

Яго ведаюць і дзеці па яго прыгожых, поўных японскага сымбо-лізму казках „Дзецям Усходу“.

Аб Акіце ведаюць, што ён—гэты маленькі чалавек з такімі глыбо-кімі сур'ёзнымі патаемнымі вачамі пісьменьніка-гуманістага—носіць псэў-донім „Удзяку“, ведаюць, што яго сапраўднае імя—Гокудзо.

Слова „Удзяку“, напісанае японскімі гіероглiфамі, абазначае „пра-мокшы ў асеньні дождж верабей“.

Прамокшы верабей—гэта сымболь несправядлівае пакуты слабога.

Гэта сымболь беднага японскага народу.

Акіта нарадзіўся ў 1883 годзе ў паўночнай Японіі ў акрузе Аоморы-кэн. Бацькі Акіты належылі да старажытнага племені „айносаў“, якія некалі насялялі Японію. Перад яго нараджэньнем асьлеп яго бацька.

Вось гэта ўсё і выхавала Акіту як гуманістага-пацыфістага. Ён з дзяцінства ўжо пазнаёміўся з капіталізмам і пазнаў яго жах.

„Я, —казаў мне Акіта,—у дзяцінстве быў вельмі ўражлівым хлап-цом. На мяне зрабіла цяжкае ўражаньне маё дзяцінства, калі я жыў у вялікай беднасьці, я бачыў, як жывуць капіталістыя, як, нічога не пра-цуючы, яны жылі на тое, што ціскалі з працы бяднейшых. Гэта зрабіла мяне соцыялістым“.

Скончыўшы школу ў Куроішскай пачатковай школе, Акіта паступае ў ліцэй, з якога пераходзіць у Уасэдайскі Унівэрсытэт. Тутака ён бліжэй зьвязваецца з рэволюцыйным рухам і ўжо ў унівэрсытэце пачынае сваю літаратурную творчасьць.

У 1907 годзе ён канчае унівэрсытэт па аддзяленьні ангельскай літаратуры. У гэтым годзе выходзіць яго першы драматычны твор „Пахаваная вясна“, дзе Акіта на фоне сямейнай драмы малюе барацьбу двух народаў—расійскага і японскага. За „Пахаванай вясной“ ён піша „Гонза носі“—„Сьмерць гонзы“, „Ноч перад юбілеем“, „Сьмерць буды і младзенца“. „Лес і ахвяры бога“, дзе ён апісвае сьмерць 15 соцыялістых, замучаных японскім урадам. „Садовае яблыка“, „Сьмерць маці“ (з часоў расійска-японскай вайны), „Пад зоркамі“, „Тры душы“.

Лепшымі яго творамі трэба лічыць „Два сонцы“ і „Бомба“. „Два сонцы“—драма, прасякнутая вялікім рэволюцыйным пафосам. „Два сонцы“—рэволюцыя і сонца. Людзі цягнуцца да другога „сонца“—да неба, а ня ведаюць, што сапраўднае сонца для іх—гэта першае—„рэволюцыя“.

Апошнія яго драмы: „Ноч на дзяржаўнай мяжы“, „Скок шкілетаў“, „Крыніца Судраў“, „У поўдзень на высьпе“ і „Эпоха бязьлітаснага зьнішчэньня младзенцаў“.

Апошняя драма напісана ў памяць анархіста Осугі, які быў замучаны з сям'ёй паліцыяй. „Бомба“—малюе тэрор рэакцыі пасьля зямлязрыгу. „Радзіны ў турме“, „Маска бацькі“, „Сьмерць Айна“—гэтыя апошнія маюць аўтобіографічны зьмест.

Акіта, апрача драм, мае шмат вершаў у прозе, а таксама і шмат „танкаў“. Для дзяцей ён напісаў тры томы казак. Калі чытаеш творы Акіты, то адчуваеш усю асаблівасьць усходняй літаратуры. Пасьля нашых твораў, — творы японскіх пісьменьнікаў здаюцца нам нейкімі містычнымі, сымболічнымі і наогул цяжка зразумелымі.

Героі драм Акіты таксама нейкія містычныя. Яны не актыўныя рэволюцыянэры, яны толькі пацыфістыя, гуманістыя. Я-б не назваў іх і соцыялістымі. Марыць аб лепшым жыцьці—гэта яшчэ не соцыялізм. У драме „Два сонцы“, якую сам Акіта лічыць за адну з рэволюцыйных, уся рэволюцыя—у „сонцы“, якое зьяўляецца сапраўдным сонцам, што нясе вызваленьне.

Лепш удаюцца Акіце малюнкі, якія паказваюць „капіталістычны бок жыцьця“. За іх яркасьць паліцыя забараніла некалькі паасобных актаў у драме „Бомба“.

Акіту з яго пацыфізмам, гуманізмам а крыху і містыцызмам нельга залічыць да пролетарскіх пісьменьнікаў, бліжэй усяго да яго-б падышоў тэрмін „спадарожнік“. Акіта такім і зьяўляецца. Ён у 1923 годзе прымае ўдзел у організацыі адзінага фронту пролетарскай літаратуры, прымае ўдзел у выданьні часопісі „Сэкай сідзін“ (Сусьветны Поэта), а потым выходзіць з групы „Сейбіт“ і далучаецца да групы „Кай-хо“.

Ён лічыць немагчымым працу з анархістымі і выходзіць разам з комуністымі, аднак, да іх групы не далучаецца. У групе „Кай-хо“ Акіта займае адно з кіруючых месц.

Акіта, як драматург, ужо з 1916 году працуе ў японскім тэатры Гэйдзюцудза, а з 1924—у тэатры свайго сябра—рэжысэра Каору Асанайя—„Цукідзі—малы тэатр“. Гэты тэатр вядомы ў Японіі, як тэатр, што прынёс у Японію заходняе мастацтва і тэатральную тэхніку. Асанайя ставіць п'есы Кайзэра, Луначарскага, Чэхава ды інш.

Акіта першы з японскіх інтэлігентаў-пісьменьнікаў вітаў Кастрычнікавую рэволюцыю. Ён першы пасьля падпісаньня Япона-Савецкага дагавору зьяўляецца ініцыятарам таварыства культурнае сувязі з СССР—Нігыро-Гэйдзюцу-Кіокай (Япона-Савецкае Літаратурна-Мастацкае Т-ва).

Акіта вельмі цікавіцца Сав. Саюзам, выўчае яго літаратуру і чытае лекцыі ў Дзяржаўным Унівэрсытэце ў гор. Саппоро. Жаданьне яшчэ бліжэй пазнаёміцца з культурным жыцьцём Сав. Саюзу і прывяло яго ў СССР. Тут ён застаецца на год, каб выўчыць расійскую мову і пазнаёміцца з жыцьцём Сав. Саюзу. Расійскую мову ён выўчае, каб потым дасканала азнаёміцца з расійскай наогул і савецкай літаратурай. Разьвіцьцё нацыянальных культур вельмі зацікавіла Акіту.

„Я атрымаў за ўвесь час ужо столькі матэрыялу, што распрацаваць яго мне хопіць да сьмерці“.

„А раней чымся памерці, я-б хацеў паглядзець яшчэ адзін раз на Сав. Саюз, які тады будзе па сваёй культуры стаяць вышэй ад усіх іншых краін“.

* * *

Акіта—„спадарожнік“—у ім жыве нянавісьць да прыгнятальнікаў і спачуваньне да прыгнечаных, ён заўсёды супроць багатыроў за бедных, ён пацыфісты, гуманісты, але ўсё іншае ў яго *„містыка“—„соні“*. Для яго клясавая барацьба—яшчэ нешта туманнае, чаго ён не зразумеў. „Парываньні да сонца ў яго прэвалююць, але гэта сонца—рэволюцыя ў яго „бяз зьместу“. І трэба радавацца, што ў нас, у СССР, ён зразумеў ужо гэты зьмест, што ў нас ён знайшоў новыя крыніцы для сваёй творчасьці. Трэба спадзявацца, што, вярнуўшыся ў Японію, ён дасьць новыя творы, ужо вельмі непадобныя да ранейшых.

Там, у краіне ўзыходзячага сонца
Яго яшчэ няма;
За гэта сонца—рэволюцыю
Мы будзем змагацца—

гэтак напісаў ён у сваім апошнім танку ў Менску.

Прыезд у СССР паложыць пачатак новай творчасьці Акіты. І гэта творчасьць будзе ўся накіравана на змаганьне за соцыяльную рэволюцыю ў Японіі.

За Японскі Кастрычнік!

І не „Народ“, а „Пролетарыят“ будзе „мэтавай устаноўкай“ Акіты.

Будзем-жа спадзявацца!

## ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ *)

**М. Быкавец**

### Не сьпяшайцеся...

Бабруйск быў ужо відаць.—Ён шырока раскінуўся на правым беразе рэчкі Бярэзіны. Драўляны высокі мост перасек нам дарогу. Загуў параход. Частка моста адарвалася і паволі пачала адыходзіць. Мост быў разводны і вось праз утвораную прагаліну асьцярожна прасунуўся наш параход. На абодвух берагох рэчкі—вялікія склады лесу, на адным—невялічкая прыстань, крыху людзей і некалькі лодак.

На прыстані нас чакала няпрыемнасьць: выявілася, што расклад параходнага руху зьмяніўся і далей мы зможам паехаць толькі заўтра пад вечар. Пакідаем на прыстані свае рэчы і маршыруем у горад. Распытваемся, дзе лепшая гасьцініца. Нам кажуць:—„Эўропа". Мы да „Эўропы". Стаіць будынак у садку, зусім непадобны да гасьцініцы, але кошт невялічкага пакою 2 р. 50 к. за суткі, і гэта паказвае, што справу мы маем сапраўды з гасьцініцаю. Пакідаем гаспадара на ганку, а самі ідзем далей.

Мая украінская мова мусіць зьдзівіла яго. Заходзім у „Ленінград". Тоўстая, пухлая гаспадыня крыху падазрона паглядала на нас. У нас ня было з сабою ніякіх рэчаў і яна, магчыма, палічыла нас за жулікаў якіх.

Мы адразу плацім грошы і знаходзім давер'е.

### г. Бабруйск

Горад невялікі. Мы абышлі яго накрыж некалькі разоў, агледзелі крамы, шукаючы фотографічных пласьцінак, пабылі ў рэдакцыі газэты і пасьля зайшлі ў кнігарню Белдзяржвыдавецтва.

Мясцовы акрплян выдаў цікавую кніжку: „Народная гаспадарка Бабруйскай акругі". Тут я даведваюся, што калісьці ў лясох Бабруйшчыны шмат было ласёў рагатых, мядзьведзіх калматых і наогул усялякае зьвярыны. Нават існавалі групы або таварыствы ваўкагонаў, пташнікаў, баброўнікаў, рыбаловаў. Вельмі распаўсюджана было пчалярства і смалакурная справа, продукты якіх (мёд, дзёгаць) ішлі ў Кіеўшчыну. Гандаль даўней вялі па рэчцы; розныя свае вырабы, пушніну вымяньвалі на соль, хлеб, паляўнічыя прылады, якія ішлі з Украіны.

---

*) Гл. „Полымя" № 2.

## Крыху з гісторыі і эканомікі

Цікавая гісторыя гэтага краю! Пасьля татарскага наступу Кіеў страціў сваё значэньне, пачала слабнуць і Полацкая Русь. Адчыняецца шлях на Захад па рэчцы Заходняй Дзьвіне і Нёмну праз Літву.

Гэтай культурнай сувязьзю тлумачыцца і тое, што ўжо ў 1483 годзе была надрукована тут першая кніга на беларускай мове, тымчасам як у Маскве першая кніга надрукована ў 1573 годзе; як бачым, аж на 90 год пазьней.

Шмат гора бачыў гэты край. У 1522 годзе Масква паходам ішла і каля Бабруйску на р. Бярэзіне „роздыхам стала проціву рэчкі Бабруйшчыны каля вёскі". Ад такіх паходаў і розных воен сялянства прымушана было ўцякаць у лясы і там гуртавацца ў вольнае казацтва Беларусі. Гісторыя занатавала некалькі сялянскіх паўстаньняў на Бабруйшчыне і па р. Прыпяці. Пра адно такое паўстаньне ёсьць дакладныя весткі. Разьбіў паўстанцаў князь Радзівіл. Бабруйскае насельніцтва на чале з паўстанцам Паддубачом зачынілася ў форце і там згарэла. Партызаншчына цягнулася аж да канца XVIII стал., калі падзелена была Польшча і Беларусь адышла да Расіі, а разам з гэтым заведзена была паншчына.

Далей гісторык зазначае, што ў часе напалеонаўскага наступу „с'едено было всё, как хлеб так и скот... Леса кругом пылали и в них ютились местные крестьяне, кои успели унести кое-что из скарба. Мародерство получило право гражданства". (Дубенский, Мат. из истории Отеч. войны).

У якіх умовах жыў далей селянін—знаходзім весткі ў беларускага пісьменьніка Багушэвіча, які дае такі малюнак жыцьця беларускага селяніна 1863 году: жыве ў мокрай хаце, заткнуўшы дзіркі анучамі; хата яго цячэ і гніе і крывая, у сярэдзіне гной і стаіць яна на гнаі.

Цяпер, вядома, гэтага няма. Якраз пры нас у Бабруйску праводзілі каналізацыю, ёсьць электрычнае асьвятленьне, каля пошты высокая радыё-мачта. Паводле статыстыкі, на кожнага жыхара Бабруйшчыны прыпадае на год 8 паштовых адпраўленьняў. Насельніцтва ў Бабруйшчыне 512.000 чал. і на адзін кілёмэтр прыпадае 30 душ. У самым Бабруйску жыве 37.000 чалавек.

Зямля дрэнная: суглінак, пясок, супясок, а ўсё-ж такі насельніцтва займаецца сельскаю гаспадаркаю (83 проц.). Прамысловасьць і гандаль ахапляе 16 проц. Найбольшы процант насельніцтва даюць беларусы—62 проц., хоць даволі вялікі проц. яўрэяў і расійцаў (14 проц. і 20 проц.). Зусім іншы малюнак гарадзкога насельніцтва: беларусаў 37 проц., яурэяў 51 проц. Гэта тыповы малюнак для гарадоў і вялікіх мястэчак Беларусі.

## Самаўпэўненыя пасажыры

Паводле раскладу, мы павінны былі выехаць з Бабруйску а 4-ай гадзіне дня. На прыстані былі ўжо людзі, але ніякага параходу ня відаць.

Але вось падышоў нейкі і стаў. Гэты параход быў лепшы, чым наш учарашні; мы парашылі, што гэта наш параход, і ўпэўнена занялі сабе месцы. Вось ужо другі гудок. Раптам чую такую размову:—А когда мы будем в Борисове?

— Ну, наверное, завтра к вечеру.

Я штурхаю Лявона:—А мы-ж туды едзем?

— А я ведаю!—адказвае ён.

— Хадзем, запытаем,—кажу.

Выяўляецца, што гэты параход ідзе назад у Барысаў. Трэці чуем гудок—мы ледзь пасьпелі саскочыць на бераг. Прыбягаем у кантору, аж нам кажуць, што наш параход зламаўся і невядома калі і на чым паедзем. Пасьля кажуць:—можа надыйдзе грузавы, дык мы вас пусьцім на грузавы.

Ідзем за мост, дзе стаіць гэты грузавік „Азарыя“. Пад вечар выехалі. Ніякіх там кают, а вечар халаднаваты. Грэемся каля машыны, пакурваем. Параход ідзе добра, але на высьпе крыху затрымаліся. Прыблізна каля другое гадзіны ночы насустрач нам трапіўся сапраўдны пасажырскі параход „Леў“. Нас дваіх клясных пасажыраў перамясьцілі на гэты „Леў“, яшчэ перакінулі крыху грузу і „Леў“ павярнуў назад. Гэта быў вялікі, прыгожы параход, з добрай другой клясай, электрыкаю ды інш.

## На „Льве“ ў Дняпро

Раніцою нельга было ўляжаць унізе—сонца грэла і вабіла на палубу. Пэйзаж крыху зьмяніўся—менш лесу, больш лугоў, шырэйшая рэчка з кустамі лазы на беразе. Ня відаць было дажджавога сьледу, і пачыналася прыемная падарож на параходзе, больш прыемная, чым на чыгунцы.

Я фотографую некаторыя краявіды, распытваю ў каманды назвы сёл, расказваю ім пра Украіну. Поўднем праяжджаем месца, дзе Бярэзіна зьліваецца з Дняпром. Надзвычайна цікава бачыць два струмені вады розных колераў: Дняпровая вада жоўтая, бо нядаўна дажджом размыла гліну і яна пафарбавала ваду, тымчасам як вада ў Бярэзіне з балотаў мела чарнаватае адценьне. Дняпро адразу паказвае сябе шырынёю, ён менш мае заваротаў. Відаць, што мы плывём сапраўднаю, вялікаю ракою.

Вось на некалькі хвілін спыняемся каля Рачыцы—вялікая прыстань. Гэта прамысловы асяродак—тут фабрыкі: запалак, фанэры, цьвіковы завод, вялікія цагельні. Мы бачым ўжо высокія, гарыстыя берагі, якія і належыць мець Дняпру.

Шмат плытоў стаяла каля берагу, некаторыя нават травою парасьлі; відаць было, што дрэва пачынае гніць і шкода робіцца, асабліва, калі ўспомніш, што ў нас, на поўдні, мала яго.

Прыстань не ўпарадкавана. Няма чаго купіць, каб зьесьці крыху. Наогул Верхня-Дняпроўскае таварыства не зьвяртае на пасажыраў ніякое ўвагі. Параходы, напрыклад, брудныя, мусіць там ня толькі ня мыюць, а нават не вымятаюць. Відаць, што рамонт быў, але прыборкі ня было.

Пад вечар праплываем каля „ігрушавага“ саду. Гэта невялічкая выспа, якая ўся чыста зарасла дзікімі ігрушамі. Я пытаюся ў старога плытніка, што гэта за выспа, і чую такую гісторыю:

— Раней тут была выспа, на якую садзіліся плыты. Бывае, што пройдзе тыдзень, пакуль яго сьцягнуць. А калі, барані божа, наскочыць другі плыт, а там трэці, тады заварыцца каша. Бывала, набярэцца тут плытнікаў не адзін дзесятак і вось, як усе харчы зьядуць, дык ідуць у вёску ігрушы красьці. Наядуцца нашча ігруш, пачнуць у іх балець жываты, вось і пасеялі тут ігрушы. Цяпер бачыш, які садок вырас. Ужо і выспы тае няма—размыла вадою, а садок стаіць...

## Янка Купала і Тарас Шэўчэнка

За гэтай выспай параход наш пачаў даваць трывожныя гудкі; усё было спакойна, машына працавала, роўнамерна каціліся да берагу хвалі. Наша зьдзіўленьне хутка прайшло. Параход падышоў да берагу, а з бліжэйшага сяла набегла шмат дзяўчат, каб грузіць дровы. Пакуль яны ўмаўляліся і грузілі, мы пасьпелі добра пакупацца, паслухаць размовы. Лявон захацеў паказаць беларускую сьвядомасьць: мы падышлі да чарады дзяцей і Лявон пабеларуску запытаў, хто з іх ходзіць у школу, азвалася некалькі.

— Ці ведаеш які-небудзь беларускі верш?—Запытаў аднаго.

Хлапчук ведаў і пачаў дэклямаваць верш Янкі Купалі. Мы пад‘яжджалі да тэрыторыі Украіны, я абяцаў прадэмонстраваць украінскіх школьнікаў.

У Лоеве мы пераселі на другі, яшчэ большы параход, добра ўжо абсталяваны. Вось толькі на гэтым параходзе мы і заснулі як трэба.

Калі позьняй раніцаю мы вышлі на палубу, дык адразу відаць было, што гэта ўжо не Беларусь. Ужо ня было лясоў, пачаўся пескаваты, аднастайны, сухі, голы стэп. Мой цэйс (бінокль) заўважыў на небасхіле некалькі цэркваў, а ў адным месцы групу белых хатак з садкамі. Я перадаю Лявону бінокль і кажу:

— Дивись, он уже українське село!

Белыя хаткі зрабілі на яго прыемнае ўражаньне. Далей, часьцей сустракаліся на берагох сёлы, ехалі на валох людзі, на прыстанях павольна размаўлялі дзядзькі, шчабяталі і цакаталі бабы, адным словам, гэта была ўжо Украіна.

Калі параход спыніўся ў адным месцы, я меў магчымасьць прадэмонстраваць Лявону украінскіх школьнікаў. Мой апарат прыцягнуў увагу не малое групы дзяцей.

Яны зьдзіўлена паглядалі і распытвалі мяне.

Падышоў Лявон, напомніў мне пра украінскіх поэтаў, і вось я пытаю:

— А хто з вас ходить до школи?

— Я!—і невялічкі русы хлопчык вышаў нават наперад.

— А вірши які-небудь знаеш?

— Еге.

— А ну, який?

— Як умру, то поховайте.

— А хто-ж його написав?

— Тарас Шевченко!

— Молодец!

Я задаволена глянуў на Лявона, я сапраўды ўзрадваўся, што гэты хлапчук—Пятрусь не падвёў мяне.

## Гэй, Беларусь, да пабачэньня!

Праходзілі паволі гадзіны. Аднастайна стукала машына і вяла параход усё далей і далей ад Беларусі. Прысмалены сонцам (было, папраўдзе кажучы, вельмі горача), зморaны, сядзеў я на палубе, наглядаў за зьменаю берага і ўспамінаў тую Беларусь, якую некалькі дзён таму назад бачыў, ня тую Беларусь, якая ведала толькі лучыну ды курную хату, дзе ў сярэдзіне гной і стаіць на гнаі.

Пра старую Беларусь расказваюць нам гісторыкі і дзяды па вёсках. Праўда, шмат яшчэ і ў новай Беларусі засталося старога, бо толькі-ж дзесяць год прайшло, а для Беларусі і таго менш, калі пачала будавацца Чырвоная Беларусь.

З кождым годам усё далей, назад адыходзіць лучына, а месца яе заступае электрыка. Вялізныя запасы торпу, якога хопіць на сотні гадоў— гэта новыя сродкі, якія будуць скарыстаны на асьвятленьне гарадоў і вёсак Беларусі, а разам з тым—на разьвіцьцё тэкстыльнай, хэмічнай, драўлянай і іншых відаў прамысловасьці.

Вялікія дасягненьні мае Беларусь у галіне вышэйшае асьветы. Да Кастрычніка ня было на Беларусі ніякае вышэйшае школы; цяпер-жа іх ёсьць чатыры. Там вучыцца 5.000 студэнтаў, якія нясуць новыя веды, новую культуру ў сёлы Беларусі.

Беларусь мае і сваю Акадэмію Навук—Інстытут Беларускае Культуры, які аб'яднаў навакол сябе навуковадасьледчую працу па вывучэньні экономікі і культуры Беларусі.

Беларусь была бедная і цёмная. Яшчэ шмат цемнаты засталося, але яна паступова зьнішчаецца, а пройдзе некалькі гадоў—і новым стане гэты край. У гэта верыць беларускі рабочы і селянін, аб гэтым кажа лепшы поэта Беларусі:

К новай долі шлях нам ляжа,
Як на небе млечны шлях,
Слова, дум ніхто ня зьвяжа,
Жыць цяпер ня будзе страх.
І ня стане больш пакуса
Першых, лепшых з боку брацъ,
Славяніна-Беларуса
Вечна ў лапці абуваць.
Дык наперад, покі сэрца
Б'ецца, рвецца на прастор,
Годзі млець у паняверцы!
Гэй, да сонца! гэй, да зор!

(Янка Купала—„Гэй, наперад!").

# КНІГАПІС

**А. Гурло. Зорнасьць.** *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск—1927, 16°, 68 ст.*

Першы разьдзел новага невялікага зборніка вершаў Ал. Гурло мае загаловак „Радасьць“. Тут і сапраўды ў кожным вершы прасьвечвае радасьць ад жыцьця, ад прыродных зьяў. Поэта радуецца вясьне, радуецца вясновым пралескам, нават *зіма* з сваёй аднастайнай бельлю выклікае ў яго радаснае пачуцьцё:

Хоць холадна, але мяцежны жар
Яшчэ мацней хвалюецца ў душы.

Адзінаццаць вершаў, сабраных у гэтым разьдзеле, з поўнай рацыяй магчыма назваць песьнямі радасьці.

Аднак-жа, радасьць, як асноўны мотыў творчасьці Гурло, прасьвечвае ў вершах і іншых разьдзелаў: „Па сьцежках родных“, „Блізкім і родным“, „З краіны гор“.

Цікава ў гэтых адносінах прасачыць паасобныя вершы:

Повен *радасьці* я пахмельлем,

Хоць другому магу пазычыць,—

гэтак гавора поэта ў вершы „*Завілася мяцеліца*“,—і унісонам з гэтымі радкамі гучаць радкі і з іншых вершаў:

Песьні недапетыя
*Радасьць* з сэрца выліе...
(„Сьніцца мне далёкае“, ст. 20).
І *рад* я бяз конца, што быць давялося
У зялёнай густоце лясной...
(„У лесе“, ст. 25).
... Я *рад*, што на айчыне,
Я *рад*, што п'ю ізноў заздраўнае віно.
(„Радзіма“, ст. 27).
Я *рад* усяму і разам з тым дзіўлюся...
(„Радзіма“, ст. 29).
Я *рад* усяму, што можа ўскалыхнуць
І сэрца і душу прыхільна, чула...
(„Усё, усё, паўстала прад вачыма“ ст. 31).
Тут і там відно раздольле.
*Радасьць* усюды—там і тут.
(„Зацьвіла вясна“, ст. 32).
Эх, песьні, песьні маладосьці!
Вы—шэлест *радасьці* ў цішы.
(„Прыгожай песьняй я ўстрывожан“, ст. 34).

І гэта пачуцьцё радасьці, гэта яго выказваньне спаткаем амаль у кожным вершы зборніка. Мабыць, найкаханейшыя словы поэты: *„радасьць“ „рад“*.

І ў апошнім вершы зборніка „Разьвітаньне“, разьвітваючыся з гарамі Каўкаскімі, кажа Гурло:

*Рад я, рад* усяму пераж ытаму,
Непакойна-буйному, цішы...

Вось гэтыя *радасныя* тоны, выяўляючы сабою оптымістычны колёрыт творчасьці, становяць бясспрэчна дадатны бок поэты, аднаго з нялічных эпігонаў „Нашай Нівы“. У таго, хто пераж ыў дзьве рэволюцыі, хто быў і сьведкаю, і непасярэдным удзельнікам магутнага рэволюцыйнага ўздыму, ня можа быць месца для смутку, упадніцтва, бязьвер'я-безнадзейнасьці.

Бадзёрымі тонамі гучаць і поклічы поэты да маладых песьняроў:

Вы не сьпявайце апошняй песьні,
Калі і першых яшчэ ня шмат...
Вясна і лета, вясна і восень
Жыцьцё ня могуць заліць смугой.
О, я ня веру! мо' й вам здалося,
Што вашы песьні глынуў агонь.
(У. Дубоўку і А. Вольнаму).

Гаворачы аб *танальнасьці* песьняў, няможна абмінуць пытаньня аб размаху або, калі можна казаць, *амплітудзе* пясьнярскай творчасьці.

Што датыча да амплітуды творчасьці Ал. Гурло, то няможна казаць, каб яна была шырокая,—і гэту скромнасьць размаху выяўляе і новы яго зборнік. Поэта захапляецца звычайна тым, чым захапляліся колькі разоў скромныя *вясковыя* поэты. Вясна, палеткі-красы, вясновыя пралескі, мяцеліца-завіруха, пялёсткі маку, родныя гоні, якія паўстаюць у думках поэты нават на гарах Каўкаскіх, нівы багатыя, лес зялёны,—вось звычайныя вобразы Гурло. Горад з яго бурлівым, багатым жыцьцём, застаецца па-за думкамі поэтывяскоўца.

Скромнай амплітудзе творчасьці адпавядае і пэўная скромнасьць слоўнага боку вершаў—лексыкі. Слоўнік вершаў—аднастайны. Праўда, часам і тутака трапляюцца новыя словы, але ня зусім удалыя словы, як, напрыклад, „змаганчаскі“ („змаганчаскай дарогі“, (ст. 43), „усьнежанасьць“ („усьнежанасьць гор“, ст. 62), „прымірэнчы“ („прымірэнчыя ўздыхі“, ст. 65) і інш.

Звычайныя для Гурло беднасьць рытмы (асабліва: „давялося—восень“, „стан—ту-та“, на стар. 25) і перабоі мэтру („Аб ім цяпер яшчэ ў душы зыкі зьвіняць“) дзе-ні-дзе выяўляюцца і ў пазьнейшых продуктах яго творчасьці.

Аднаго ня можна адмаўляць,—непадробленай шчырасьці поэтычных выказваньняў поэты.

Гэтая *шчырасьць* у сувязі з паказанай вышэй оптымістычнасьцю настрою поэты дае магчымасьць расцэньваць продукты яго пярка, як дадатную зьяву ў нашай поэзіі.

**М. Крывіч.**

**А. В. Багдановіч. Беларуская мова. Падручнік для тэхнікумаў і самаадукацыі.** *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск, 1927 г., 203 стар.*

У прадмове аўтар зусім слушна гаворыць, што „выкладаньне мовы ў тэхнікумах павінна набыць характар паглыбленьня і пашырэньня тэорэтычных ведаў, азнаямленьня з беларускай мовай у яе навуковым асьвятленьні“. Правільна і думка аўтара, што гэтыя веды патрэбны „кожнай адукаванай асобе“. „На жаль, вельмі няспрыяючыя ўмовы для працы не далі магчымасьці апрацаваць яе (кніжку) больш дакладна. Гэтым і будуць тлумачыцца ўсе хібы гэтае кніжкі“,—заяўляе аўтар.

Аднэй з вельмі няспрыяючых умоў для працы трэба палічыць адсутнасьць супрацоўніка - мовазнаўца — і гэтым, сапраўды, тлумачацца ўсе чыста недахопы і памылкі гэтае цікавае кніжкі. Мне асабіста здаецца, што прыняты некаторымі ўкладальнікамі падручнікаў звычай працаваць у хаўрусе мае шмат дадатных бакоў. Як правіла, колектыўны твор, асабліва ў нашых умовах,—заўсёды выходзіць лепшым, чымся індывідуальны. Прыкладаў колектыўна апрацаваных добрых падручнікаў у нас шмат і падаваць іх тут няма патрэбы.

Аўтару кніжкі „Беларуская мова“, бясспрэчна, патрэбна было, калі не супрацоўніцтва, дык хоць рэдагаваньне яго твору вучонымі, якія працуюць у БДУ.

Тады-б ніякім чынам не зьявіліся ў друку „індэйскія пляменьні Аўстраліі“ (стар. 183). Ня было-б таксама і дзіўнага процістаўленьня фрыкатыўнага і прыдыхальнага гукаў гуку звонкаму (стар. 78), бо фрыкатыўнасьць і прыдыхальнасьць не выключаюць звонкасьці. Пры ґ ня было-б эпітэту „звонкае“, (стар. 78), а пры ą і ę—„насавыя“, бо інакшымі гэтыя гукі і наогул ня бываюць.

Апошняе зроблена ўжо ў папраўках друкарскіх памылак; такім парадкам вельмі лёгка было-б выкінуць і гэтае непатрэбнае слова „насавыя“.

Мала зразумелым зьяўляецца для чытача і наступны сказ: „Сюды трэба дадаць і асаблівасьць вымаўленьня кожнага чалавека, якая знаходзіцца ў сувязі з яго характарам і звычкамі, дзякуючы чаму ўсе галосныя могуць быць і лябіялізаванымі“. У гэт-

кай форме даная думка вельмі мала дае чытачу.

У радаводным дрэве (стар. 25) мы знаходзім „сучасныя грэцкія мовы“ (тымчасам як навука ведае адну толькі новагрэцкую мову). Ангельская і нямецкая мовы на рысунку прадстаўлены ў беспасрэднай і простай генэалёгічнай сувязі з гоцкаю і скандынаўскаю, а гэта ўсё роўна, што сказаць, быццам беларуская мова паходзіць ад стара-баўгарскае (царкоўна-славянскае) мовы. Суадносіны паміж санскрытам, пракрытам і нова-індыйскімі мовамі прадстаўлены ўжо крыху лепш, але аб вэдыйскай мове нічога ня сказана.

Паміж іншым—ня трэба пісаць генэолёгія і сэмосыолёгія, а трэба ставіць *а*, бо так кажа нам грэцкая мова, з якое запазычаны складовыя часткі гэтых слоў. Сэмосыолёгія паўтараецца некалькі разоў з адным і тым-жа самым памылковым напісаньнем.

На старонцы 21 сказана, што „насавое ę захавалася ў польскай мове“. У сапраўднасьці было ня зусім так. *О* насавое і *е* насавое ў вельмі далёкі пэрыод жыцьця польскае мовы далі нейкі аднолькавы галосны насовы гук; толькі з *о* насавога атрымаўся гэты гук без папярэдняе мяккасьці, а з *е* насавога—з папярэдняю мяккасьцю. Далей (у залежнасьці ад даўжыні або кароткасьці) з гэтага дакладна невядомага нам насавога гуку атрымаліся сучасныя польскія ą і ę з папярэдняй мяккасьцю і без яе, але ўжо цяпер нельга гэтак коратка і проста сказаць, быццам у палякаў *е* насавое захавалася. Мы цяпер знаходзім ręka з—ę на месцы юса вялікага і siądły з—ią на месцы юса малога.

У аддзеле „фізыолёгія гукаў мовы“ чамусьці ня дана на табліцы (стар. 19, фрыкатыўнага *г*, так характарнага для нашае мовы і для шмат якіх іншых. Наогул, табліца вельмі няпоўная.

На старонцы 40 гаворыцца: „Гук „р“ у старажытна-славянскай мове вымаўляўся перад „j“ (ёт) мякка. Але ў гэты час пачалі ўжываць цьвёрдае „р“ на месцы мяккага“. Аб лёсе *р* не перад j, а перад *е*, *і* і г. д. нічога ня сказана.

На старонцы 79: „пераход зычнага гуку *л* у *ў* „тлумачыцца ўплывам з боку папярэдняга *о*—воўк, жоўты, тоўсты“, але „быў, хадзіў, казаў“ застаюцца без тлумачэньня.

„Словы з асновамі на зацьвярдзелы гук *р* па аналёгіі прынялі канчатак „ы“— „у бары, на папары“, але іншы раз, пад націскам сустракаем і формы „э“,—як „на двара“ (стар. 112).

Якраз ва ўсіх гэтых выпадках гук *р* не зацьвярдзелы, але адвечна цьвёрды ў асновах слоў, і толькі ў пэўных склонах была калісьці мяккасьць.

Падобных непаразуменьняў шмат, але ўжо трэба перайсьці да мовы, якою напісан падручнік.

Тут справа стаіць зусім ня дрэнна. Мова ў падручніку лёгкая для разуменьня, месцамі нават прыгожая. Тая акалічнасьць, што даволі часта ўжываюцца дзеяпрыметнікі дзейнага стану ня мае вялікага значэньня ў навуковым творы. Гэта-ж не мастацкая проза. Зразумела, лепш было-б абысьціся бяз гэтых кніжных формаў, але тут вялікае бяды няма. Гэтаксама „задняяёбны“ замест „задняпаднябенны“ не такая ўжо няпрыемная рэч. Дробных памылак супроць мовы мы, на вялікі жаль, знойдзем шмат у кожнай беларускай кніжцы, і трэба зазначыць, што наш падручнік зусім ня горшы, чымся іншыя падобныя кніжкі,—з боку мовы.

Што датычыцца мэтодычнага боку, дык трэба рашуча сказаць, што аўтар здавальняе вымаганьні школы. Паводле найлепшых расійскіх узораў, падзяліў ён вельмі ўдала багаты матэрыял з розных крыніц, добра разьмеркаваў яго, дадаў малюнкі, схэмы, табліцы.

Плян кніжкі наступны: уводзіны ў агульнае моваэнаўства, далей—уво-

дзіны ў беларусазнаўства, далей—сучасны стан беларускае мовы: яе фонэтыка, морфолёгія і сынтакс, а ў канцы увагі аб графіцы і агляд правапісу. Выкладаньне вядзецца вельмі лёгка, агульна-даступна і таму цікава. Там, дзе аўтар выразна ўяўляў сабе прадмет, чытач успрымае яго думкі бяз ніякага напружаньня.

Да дадатных бакоў кніжкі належыць вельмі дакладны і акуратны падзел на параграфы прыблізна роўнае велічыні. Гэта мае вялікае значэньне для вучняў.

Дадзена на кожнае правіла патрэбная колькасьць прыкладаў. Чытач, такім парадкам, лягчэй успрымае і самае правіла.

Магчыма, што на некаторыя зьявы нашае мовы трэ' было-б зьвярнуць больш увагі. Напрыклад, калі гаварыць аб формах рабіціму (стар. 134, падобных да украінскіх і, паміж іншым, францускіх формаў будучага часу),—дык можна было-б зьвярнуць увагу і на ня менш пашыраны, асабліва ў дыялектах, новы plusquamperfectum—хадзіў быў, быў прышоўшы і г. д.

Цяжкавата згадзіцца і з думкай аўтара, быццам сказы: „Заўтра ты сам мяне папросіш! Прыдзе каза і да майго ваза"—маюць загадны сэнс. Тут хутчэй за ўсё не загад, а толькі цьвёрдая ўпэўненасьць (стар. 176).

Ня буду спрачацца з аўтарам адносна погляду некаторых расійскіх гісторыкаў-цэнтралістых на Кіеўскую Русь, як на моцна аб'яднаную дзяржаву. Здаецца, аднак, што значная частка гэтых гісторыкаў лічыла, быццам сапраўдная цэнтралізацыя пачалася ўжо ў Маскоўскі пэрыод, а „Кіеўшчына і загінула з прычыны самавольства і нязгодаў" розных княжых фамілій, якія ўсе паходзілі ад Уладзімера I (стар. 36).

Але як зразумець гэткі сказ: „польская мова, дзякуючы ажыцьцяўленьню рэлігійнае вуніі, магла праз касьцёл прымусова азнаёміць масы з польскаю моваю і, такім чынам, праз „модлы і пацеры" ўвесьці яе ў штодзенны ўжытак беларуса-каталіка (стар. 49).

Справа тут ня ў дзіўным звароце: „мова азнаёміла з моваю", але ў тым, што вунія ішла не праз касьцёл, а праз царкву і, як згаджаецца ўнізе гэтае-ж 49 старонкі сам аўтар,—пашырала ня польскую, а якраз беларускую мову.

Мусіць, думка аўтара была наступная: „вуніяты належалі да аднае і тае-ж самае каталіцкае царквы, што і лаціньнікі і таму часам заходзілі ў касьцёл, дзе і чулі польскую мову". У кожным выпадку, думка выражана няясна, ды ўсё-ткі, і пры такой гіпотэзе, слова „прымусова" застаецца незразумелым.

Аўтар зрабіў немалую працу, выкарыстаў шмат крыніц, напісаў кніжку, якая чытаецца ў пераважнай сваёй частцы лёгка і цікава. Гэтай кніжкай будуць карыстацца слухачы тэхнікумаў і іншыя асобы.

Аб тым, як палепшыць кнігу для наступных выданьняў (бо знадворныя і мэтодычныя яе добрыя якасьці робяць гэта пажаданым)—сказана ўжо ў пачатку рэцэнзіі.

Але нас цікавіць пытаньне аб тым, калі-ж урэшце будзе ў нас установа, якая-б сачыла за навуковасьцю выданьняў, як Галоўліт—за іх ідэолёгічнай няшкоднасьцю і Мэтодком—за мэтодычнай вытрыманасьцю.

Шмат хто з нас, старых пэдагогаў, хацеў-бы выпусьціць у сьвет падручнік па адпаведнай галіне навукі. У гэтым выпадку навуковая парада і часам проста навуковая рэдакцыя наўрад ці магла-б пашкодзіць. А цяпер няма такое ўстановы, якая абавязана была-б ісьці насустрач укладальніку. Нашы дасьледчыя і навучальныя ўстановы маюць пераважна іншыя функцыі, іншыя заданьні.

А тымчасам чуеш, што ня толькі самастойныя, а нават і перакладныя працы робяцца недасканала, ненавукова. Часам падручнік у перакладзе набывае зусім новыя і адмоўныя

якасьці. За ўсім гэтым трэба сачыць, усё гэта далікатна, але настойна трэба выпраўляць. Вось над гэтым пытаньнем варта было-б спыніцца даўжэй—але яно ўжо выходзіць за межы нашае тэмы.

**Л. Цьвяткоў.**

**Проф. В. И. Пичета. История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии. ч. I (до конца XVI в.).** *Издание Наркомзема БССР. Минск, 1928 г., стар. 176. Паасобн. 1.000. Цана 1 руб. 80 к.*

Вышаўшая з друку кніга профэсара У. І. Пічэты, аб якой тут падаецца рэцэнзія, ставіць сваёй мэтай разгледзець у гістарычным разрэзе сельскую гаспадарку і зямляўладаньне ў Беларусі з самых старажытных часоў да канца XVI в. У прадмове да сваёй кнігі проф. У. І. Пічэта зазначае, што ў навуковай літаратуры па гісторыі народнай гаспадаркі Беларусі няма працы, якая-б давала магчымасьць азнаёміцца з гісторыяй сельскай гаспадаркі і зямляўладаньня на Беларусі ад старадаўных часоў да нашых дзён. Гэта кніга проф. У. І. Пічэты з посьпехам запаўняе такую прагаліну ў нашай гістарычнай літаратуры.

Проф. У. І. Пічэта працу сваю падзяляе на тры часткі: сельская гаспадарка і зямляўладаньне ў эпоху першабытнай гаспадаркі, эпоха гарадзкой гаспадаркі і сельская гаспадарка і зямляўладаньне ў эпоху гандлёвага капіталізму.

У першай частцы кнігі аўтар яскрава, сьцісла спыняецца на агульных умовах, якія рабілі ўплыў на разьвіцьцё сельскай гаспадаркі і зямляўладаньня ў Беларусі. Знаёміць з аграрнай гісторыяй Беларусі, фізыка-географічнымі ўмовамі, з колёнізацыяй тэрыторыі Беларусі, з першапачатковым гаспадарчым бытам і з палітычнай гісторыяй беларускіх зямель. Разглядае сельска-гаспадарчы быт усходніх славян, тэхніку гаспадаркі, разьвіцьцё сельскай гаспадаркі паасобна—у Полацкай, Смаленскай і Турава-Пінскай землях і зямельнае права ды формы зямляўладаньня.

У другой частцы кнігі аўтар выўчае сельскую гаспадарку ў XV і пачатку XVI ст., калі беларускія землі былі ўжо ў складзе в. кн. Літоўскага. Разглядаючы тут буйнае зямляўладаньне ў гэты час на Беларусі, проф. У. І Пічэта спыняецца на разглядзе зямляўладаньня князеўскага, панскага, шляхецкага, нешляхецкага, ваеннаслужылага (мяшчанскага, татарскага, яўрэйскага і царкоўнага) і застаўнога зямляўладаньня. Аддае даволі многа ўвагі высьвятленьню пытаньня аб рабочых руках у князеўскіх і прыватнаўласьніцкіх маёнтках. Далей прысьвячае некалькі старонак сялянскаму зямляўладаньню і ўрэшце высьвятляе зямельнае права ў гэту пару.

У трэцяй частцы кнігі разглядаецца экономічная палітыка ўраду Літоўска-Беларускай дзяржавы, сельская гаспадарка да аграрнай рэформы, дзе аўтар паасобку выўчае заходнія вобласьці і ўсходнія вобласьці. Разьбірае аграрную палітыку ўраду на рубяжы зямельнай рэформы Жыгімонда-Аўгуста, высьвятляе сутнасьць гэтай рэформы і адносіны да яе збоку грамадзтва таго часу, і ў канцы кнігі разглядае зямельнае права па Літоўскаму статуту 1566 г.

Як бачым з вышэй зазначанага, проф. У. І. Пічэта ў гэтай кнізе разглядае цэлы шэраг вельмі цікавых пытаньняў, якія датычаць сельскай гаспадаркі і зямляўладаньня ў Беларусі. Аўтар з багатай эрудыцыяй аналізуе, праўда ў сьцісьлых рысах, пытаньні, ім упяршыню тут пастаўленыя, калі ня лічыць некаторых пытаньняў, закранутых у працах проф. М. В. Доўнар-Запольскага і папярэдніх працах самога аўтара. Кніга гэта яшчэ вызначаецца і тым мэтодам, які аўтар ужыў тут. Усе важнейшыя гістарычныя працы

аб Беларусі выўчаліся, як-бы сказаць, зьверху. Проф. У. І. Пічэта ў гэтай кніжцы шмат увагі аддае вывучэньню, так сказаць, „нізу“,—самых падвалін сельскай гаспадаркі, мясцовых умоў і г. д., на якім грунце разьвіваецца народная гаспадарка Беларусі і ўтвараюцца адпаведныя формы зямлякарыстаньня і зямляўладаньня.

Ня гледзячы на вартасьць гэтай кнігі, чытач заўважыць ня зусім ярка выяўленую ў ёй фэўдальную структуру гаспадаркі Беларусі ў старадаўнюю пару нашай гісторыі. Праўда, у кнізе знаходзім шмат фэўдальных элемэнтаў, але аўтар чамусьці ўстрымліваецца даць нарыс, у якім крыху падрабязьней спыніўся-б на фэўдальнай гаспадарцы. Пытаньне ў беларускай гістарычнай літаратуры аб фэўдалізьме мае розныя погляды, не распрацована, і аўтару трэ' было-б больш дэтальна закрануць гэта пытаньне. Другое, што кідаецца ў вочы, гэта няяснасьць з баярскім зямляўладаньнем. Проф. У. І. Пічэта, кажучы аб шляхецкім зямляўладаньні, грунтуючыся на прывілеі Ягайлы 20 лютага 1387 г., разглядае разам з шляхецкім і баярскае зямляўладаньне (стар. 61). У другім месцы, разглядаючы сялянскае зямляўладаньне, аўтар зноў разам з сялянскім разьбірае і баярскае зямляўладаньне (стар. 100). Вядома, соцыяльна-эканомічнае становішча беларускага баярства было вельмі нявыразнае. Баяры былі з шляхты і з зямян пахожых і нават з нявольных людзей. Выходзячы з іх абавязкаў несьці вайсковую павіннасьць (конныя баяры) і пасыльных (путныя баяры), можна было, на нашу думку, баярскае зямляўладаньне аднесьці да катэгорыі ваенна-служылых людзей, не разьбіваючы яго на шляхецкае і сялянскае.

Кніга гэта чамусьці Наркамземам БССР надрукована на расійскай мове, як-бы вызначаная гэтым для карыстаньня не ў Беларусі. Напісана лёгкай мовай і даступная для разуменьня шырокаму колу грамадзтва з некаторай падрыхтоўкай. Спатыкаюцца корэктарскія памылкі, якія не агавораны.

Наогул, кніга цікавая і зьяўляецца каштоўным укладам у беларускую навуковую гістарычную літаратуру.

**N.**

**„Наш Край“, штомесячнік Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры. Год выданьня чацьверты.** *Менск, 1928, №№ 1, 2 і 3 па 64 стар. кожны. Цана 50 кап. за нумар.*

Сёлета мінае дзесяць год з таго часу, як беларускі савецкі краязнаўчы рух пачаў разьвівацца. За гэты кароткі тэрмін беларуская краязнаўчая справа разгарнулася на былым пустым месцы так шырока, што на яе радуюцца суседнія савецкія соцыялістычныя рэспублікі, яе посьпехі прызнаны за межамі. Такі ўзровень краязнаўчай справы патрабуе асаблівай увагі да яе і належнага кіраўніцтва. Неабходна выявіць законы разьвіцьця краязнаўчага руху, узбагаціць яго навуковымі мэтодамі дасьледаваньня краю, даць програмныя рады і, урэшце, паказаць яго працу, аб'яднаць яе, сконцэнтраваць навокал асноўнага стрыжня нашае дзейнасьці—навокал соцыялістычнага будаўніцтва. Гэту задачу і выконвае чацьверты год Цэнтральнае Бюро Краязнаўства выданьнем свайго органу—„Наш Край“. Роля гэтага часопісу на працягу трох год выданьня яго была вялізарная як у галіне новай беларускай культуры наогул, так і ў галіне пашырэньня навуковага грамадзкага руху, г. зн. краязнаўства, паасобку. З такімі заслугамі вышаў ён на чацьверты год выданьня. Матэрыял, які ён даў у трох нумарох гэтага году, ня менш важны і каштоўны, чым матэрыялы папярэдніх гадоў. Але высокі ўзровень нашага краязнаўства вымагае некаторых удасканаленьняў часопісу, цалкам магчымых для рэдакцыі. Папершае,

неабходна ўрэгуляваць выхад часопісу з друку так, каб ён атрымліваўся на мясцох каля 25 чысла таго месяцу, які паказаны на вокладцы; пакуль што ён пападае мясцовым падпішчыкам ледзь-ледзь к 15—20 чыслу наступнага за паказаным на вокладцы месяцам. Падругое, трэба ўдакладніць програму часопісу. З матэрыялаў часопісу і задач яго, па нашай думцы, выцякаюць наступныя аддзелы: а) агульны, які павінен трымаць краязнаўцу на ўзроўні сучаснай беларускай навукі сваімі артыкуламі агульнабеларускага маштабу і зьмяшчаць матэрыялы з гісторыі, тэорыі і мэтодыкі краязнаўства; б) аддзел матэрыялаў з месц, які павінен зьмяшчаць матэрыялы краёвага маштабу і рэалізаваць творчасьць мясцовых краязнаўцаў; в) аддзел програм краязнаўчай працы; г) аддзел хронікі краязнаўчага руху і д) аддзел бібліографіі. Прыблізна-ж такое разьмяшчэньне матэрыялу ў гэтых нумарох часопісу, але ёсьць нявытрыманасьці. Так, артыкулы: „Стары Менск“, „Да біолёгіі Pyrrhula coccinea Scl“ і „Цэльская лясная дача і яе балоты“ зьмешчаны не ў аддзеле матэрыялаў з месц, а ў агульным; бібліографічная заметка „Да пытаньня аб выўчэньні фауны мясцовага краю“ папала таксама ў агульны аддзел, а не ў аддзел бібліографіі; плян Менскага замку да артыкулу „Стары Менск“ чамусьці апынуўся ў аддзеле програм. Аддзел програм зусім правільна спыніў зьмяшчэньне анкетнага матэрыялу; трэба з краязнаўцы выхоўваць самастойнага працаўніка, а не агента навуковых інстытуцый. Затое аддзел хронікі мае выпадковы матэрыял—дзейнасьць адных організацый высьветлена дасканала, другіх—слаба; аб адных зьмяшчаецца інформацыя на працягу году другі раз, а аб другіх зусім няма і г. д. Сучасны стан нашага краязнаўства цалкам дазваляе часопісу даваць у плянавым парадку аднолькава сталую інформацыю па акругах ці раёнах. Аддзел бібліографіі таксама не палепшыўся. Ён мае мэтаю паказаць патрэбную краязнаўцу літаратуру мінулых часоў, а таксама трымаць яго ў курсе новай мэтодычнай літаратуры па краязнаўству. Тымчасам у трох нумарох гэтага часопісу даны толькі дзьве рэцэнзіі: аб часопісах „Советское фото“ і „Наш раён“. Усё гэта рэчы дробныя, іх можна палепшыць, і, нам здаецца, рэдакцыя выправіць іх у наступных нумарох.

Сама якасьць матэрыялаў, зьмешчаных у гэтых нумарох, бясспрэчна, палепшылася і вырасла. Артыкул аб „падрыхтоўцы краязнаўцаў“ вызначае галоўныя шляхі ўтварэньня новага кадру кваліфікаваных краязнаўцаў. Аўтар артыкулу „Краязнаўчыя экскурсіі ў выхаваньні моладзі“ ўдала выявіў значэньне экскурсій, наогул, у выхаваньні і ў справе ўтварэньня марксыцка-матэрыялістычнага сьветапагляду, паасобку. Артыкулы „Польская буржуазная навука на Беларусі“, „З гісторыі краязнаўства“ і „Беларускае краязнаўства па-за межамі БССР“ вельмі сьціслыя. Гісторыя краязнаўства на Беларусі настолькі яшчэ не распрацавана, што трэба даражыць кожнай, нават самай дробнай, весткай у гэтай галіне. Мік. П. Сьмірноў у сваім цікавым артыкуле „Асноўныя элемэнты біоклімату Беларусі“ ўпяршыню пасьля матэрыялаў Мельніка і Бурштэйна ў мінулых гадох сапраўды панавуковаму разглядае гэтае асабліва важнае пытаньне для Беларусі. Між іншым, аўтар піша, што першыя нагляданьні біоклімату Беларусі вядомы рускай навуцы з 1892—1895 г.; ёсьць-жа весткі, што імі займаліся ў Вільні ў пачатку 19 сталецьця і былі спробы організаваньня іх у палове гэтага сталецьця. Аўтар зусім слушна адзначае, што для далейшага разьвіцьця вывучэньня біоклімату трэба ведаць ужо зробленыя дасягненьні ў гэтым кірунку і асновы біоклімату, ясны і выразны агляд якіх ён і дае ў сваім артыкуле. Ал. Шлюб-

скі ў сваім артыкуле „Другі год зьбіраньня фольклёрнага матэрыялу“ дае мэтодычна-статыстычны агляд зьбіраньня на працягу мінулага акадэмічнага ґоду. Такія агляды патрэбны для правільнага кіраваньня ўсякай краязнаўчай працай у агульнарэспубліканскім маштабе. На жаль, іх няма аб зьбіраньні так званых монографій паселішча, матэрыялаў аб хатніх раместствах ды інш. Таму і праца на мясцох у гэтых галінах слабейшая, чым у галіне фольклёру. Лік запісаў апошняга з 8.565 запісаў у 1925—1926 годзе павялічыўся да 13.459. Па акругах больш за ўсё запісаў зроблена ў Аршанскай (3.247) і менш за ўсё ў Гомельскай (69). Краязнаўчая справа ў Гомельшчыне наогул занядбана і на гэта трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу.

З краёвага аддзелу, бясспрэчна, самым цікавым зьяўляецца „Падарож па Случчыне“, „З гісторыі партызаншчыны на Магілеўшчыне“ і „Некаторыя з народных сродкаў барацьбы з малярыяй у Мазырскай акрузе“. Вялікі артыкул „Падарож па Случчыне“, як вынік экскурсіі, наладжанай Слуцкім таварыствам краязнаўства, дае вельмі шмат новых навуковых даных аб тэрыторыі, яе насельніках па лініі Слуцак — Жыт (возера). Дзякуючы сваёй папулярнай мове, гэты артыкул можа быць рэкомэндаваны нашай моладзі, якая, як і ўсякая моладзь наогул, любіць чытаць розныя падарожы. Жах ахапляе, калі знаёмішся з „некаторымі“ сродкамі лячэньня малярыі: мача, кал ды інш. брыдота ўжываецца там у якасьці лякарства. Гэты артыкул асабліва каштоўны тымі організацыйнымі вывадамі, якія павінен зрабіць з яго Народны Камісарыят Аховы Здароўя. Бясспрэчна, яму трэба звярачваць увагу на Мазыршчыну ў большай меры, чым на іншыя акругі.

Апрача памянёных артыкулаў, заслугоўваюць увагі нататкі: „Жалезная руда на Мазыршчыне“. Праца проф. Салаўёва „Цікавы рачок у Горках“ перадае амаль выключна бібліографічныя весткі аб рачку ў Бэрліне, Сібіры і г. д., паміж іншым, для чытача больш цікава ведаць якраз пра „цікавага рачка ў Горках“. Трэба спадзявацца, што ў выніку назіраньняў профэсара, аб якіх ён ускосна ўспамінае, зьявяцца ў часопісе матэрыялы ўласна пра рачка ў Горках. Да рэчы—артыкул „Да пытаньня аб вывучэньні фауны мясцовага краю“ таксама зьяўляецца бібліографічным аглядам і нават няпоўным.

Програмны аддзел часопісу дае програмы па высунутых у першую чаргу пытаньнях працы мясцовых таварыстваў краязнаўства: „Як сабраць і ўкласьці слоўнік мовы свайго раёну“, „Аб вывучэньні гісторыі асьветы ў Беларусі“, „Програма вывучэньня мястэчка“ і „Програма для вывучэньня прадзеньня і ткацтва“. Яны концэнтруюць увагу мясцовых краязнаўцаў на найбольш важных пытаньнях і паслужаць мэтодычным дараднікам у іх працы.

Своеасаблівым мэтодычным характарам зьяўляецца і аддзел хронікі, які паказвае, што і як робіцца ў тых ці іншых мясцох, і нагадвае зрабіць гэта і данаму краязнаўцу з іншай мясцовасьці. Толькі непатрэбнымі зьяўляюцца такія матэрыялы, як рэзолюцыі Магілеўскай конфэрэнцыі.

„Матэрыялы да бібліографіі па вывучэньні яўрэйскага насельніцтва мястэчак Беларусі“ ня поўныя. Паказчык літаратуры „Організаванае вывучэньне Беларусі“ паданы ў вельмі кароткіх абрыўках. Аглядаў сучаснай мэтодычнай краязнаўчай літаратуры няма. На гэта трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Мова часопісу даволі чыстая і дакладная. Але прыкрасьць выклікаюць бясконцыя скарачэньні: „Літ. Мэтр“. „Вял.“ „NN т-ва“ ды інш. Пападаюцца русізмы: „забыць“, „характэрнасьць“, „саўхоз“, „сарты“ і інш. і ляпсусы: „Польшчы 1772 г., г. зн.: з Кіевам і Смаленскам“ ды інш. Часамі заміж „існуючай сеткі

гідролёгічных наглядальнікаў“ надрукована: „Сэкты гідролёгічных наглядальнікаў“. Але ўсё гэта—дробязі; наогул-жа мова і зьмест часопісу дазваляе рэкомэндаваць яго ва ўсе школы, дзе амаль зусім няма беларускай навуковай, і прытым даступнай дзецям, літаратуры. Вялікае значэньне яе для беларускіх культурнікаў і шырокіх мас бясспрэчнае.

**М. Волмар.**

**Академик А. Кримський. Дещо про білорусофільство в Росії.** Розвідки, статті та замітки. *Київ. 1928 с. с. 193-196.*

У новай кнізе Украінскае Акадэміі Навук сабраны „разьведкі, артыкулы ды заметкі“ яе неадменнага сакратара А. Крымскага. Галоўным чынам, тут перадрукавана друкованыя ўжо артыкулы, што выходзілі ў розных выданьнях, часткова ў Расіі, часткова—у Галіччыне. Аўтар гэтых артыкулаў—вядомы украінскі вучоныфілёлёг ды знаўца араба-іранскае філёлёгіі, які доўга быў профэсарам у Маскоўскім Лазараўскім Інстытуце Усходніх моў. Ён-жа яшчэ са школьных гадоў быў удзельнікам украінскага нацыянальнага руху. Адзін з артыкулаў кнігі—„Нешта пра беларусафільства ў Расіі“—адносіцца і да Беларусі. Наогул кажучы, гэты невялікі артыкул ўжо цалкам застарэлы, але ён цікавы для беларускіх чытачоў якраз тым, што напісаны ён у 1892 годзе, што пісаў яго украінскі культурны дзеяч, што друкаваўся ён у Галіцкім „Народзе“—органе драгаманаўцаў Франка і Паўліка. Артыкул ёсьць кароткая інформацыя для украінскага чытача пра беларускі рух у межах б. Расіі, напісан у зьвязку з выхадам з друку брошуры на беларускай мове „Сыгналъ альбо разсказъ абъ томъ якъ дабро перемагло зло у чалавѣцѣ. Переложено зъ малымі перемѣнамі зъ разсказа Вс. Гаршина“. Масква, 1891, с. 31. Здаецца, артыкул А. Крымскага ў беларускай літаратуры не адзначан.

„Нядаўна,—пачынае свой артыкул А. Крымскі,—Рафальскі, калі быў кіеўскім цэнзарам, сказаў пра беларускі літаратурны рух:—Трэба яго прыдушыць у пачатку, у зародку, бо пасьля мецьмем такі самы клопат, як з украінафільствам. — Ды нашчасьце Беларусь яшчэ ня ведае вядомае lex Ioscphovicia (так на Украіне называўся закон пра забарону друкаваць на украінскай мове. *Л. О.).* Замест гэтага там другая бяда: ніва пісьменьніцкая вельмі-вельмі бедная ды неўрадлівая. Праўда, вядзецца запісваньне народнае поэзіі (пачынаючы яшчэ ад Зянкевіча ды Сыракомлі, а з цяперашніх гэта робяць Шэйн ды Раманаў), вядуцца філёлёгічныя працы (даўней складзены слоўнік Насовіча, далей—дасьледваньні пра мову, як вось апошнія—Нядзёшэва — 1884, Карскага — 1886, Карпінскага і г. д.), вядуцца і другія навуковыя студыі. Словам, на гэтым полі ўжо нешта робіцца, ужо ёсьць ратаі, хоць і тут, як кажа з жалем Доўнар-Запольскі, „жатвы много, а дѣлателей мало“. А ўжо адносна беларускае літаратуры, бэлетрыстыкі ды популярных кніжак, — дык тут ня зроблена амаль што нічога, або зусім нічога (с. 193). Далей аўтар кажа: „У 1850 г. г. некаторай полёнізаванай беларускай шляхтай вяліся спробы стварыць беларускую літаратуру (альфабэтам польскім). Зьявіліся пісьменьнікі: Ян Чачот, Дунін-Марцінкевіч, Манькоўскі, ды інш. Пра літаратурную каштоўнасьць іх твораў нават патрыёты-беларусы ня маюць цяпер высокае думкі, бо тут толькі мова вельмі добрая, звычаі беларускія жыва апісаны, а зьмест—таксабе. Найранейшы (?) і здаецца найлепшы з гэтых літаратараў ёсьць Дунін-Марцінкевіч»... (с. 193).

Дзеяч украінскага культурнага руху, з руху, які куды далей пайшоў у тыя часы, чым рух беларускі, руху, які меў ужо ў спадчыне Шэўчэнка, Кірыла-Мэфодзьеўскае Братэрства, у дзейнасьці—Драгаманава ды Антановіча — ацэньвае беларусафільскую

шляхецкую літаратуру адмоўна. „Названыя пісьменьнікі, з польскае шляхты родам, ніколі не маглі стаць на такі грунт, як украінскія (бо на Украіну, на ніву яе адраджэньня, прышоў ужо „разначынец". *Л. О.*): мовай беларускай, ва ўбраньні беларусалюбаў, яны апяялі гістарычную Польшчу з яе „дабром", хацелі яе ідэалізаваць" (с. 194). І добрае ўражаньне ад беларусафільства „зьнікае, калі адразу-ж пабачыш, што ў тэй ці іншай поэмы абмалёван добры, як ангел, пан даўнейшых часоў: мужыком—прыгонным жывецца ў яго, як у Хрыста за пазухай, і, відавочна, жывецца куды лепей, чым на якой-небудзь волі; той пан—прытулак і надзея ўсіх мужыкоў, які, калі сялян пакрыўдзяць яго гадкія аканомы, аканомаў гэтых, раз сяляне паскардзяцца, адразу звальняе і замест гэтага прызначае другіх аканомаў, ужо зусім добрых... Вось-жа! калі пабачыш ідылічныя малюнкі гэтага прыгоннага „райскага жыцьця", дык адразу-ж зьнікаюць усякія ілюзіі—і як добра тады мажліва зразумець адменнасьць гэткай літаратуры ад нашай!" (г. зн. украінскай. *Л. О.*) (с. 194).

Але такое становішча пачынае зьмяняцца: „цяпер вырасла ўжо пакаленьне тых беларускіх інтэлігэнтаў, якіх вылучыў з сваіх колаў вызвалены з прыгону просты народ, а ня шляхта; ды не такі ўжо надышоў час у Расіі, каб мажліва было шмат зрабіць. Але ўсё-ж такі бясспрэчна, што беларусафільства ахапляе ўжо шырэйшыя колы" (с. 194). Праца—пакуль-што пераважна культурніцкая — этнографічнае дасьледваньне Беларусі. Яно вядзецца, паміж іншым, і вядомым аўтару „Этнографическим Отделом" у Маскве, дзе ёсьць многа членаў-беларусаў, і які высылае на Беларусь нават этнографічныя экскурсіі.

Політычны рух. Аўтар яшчэ ня можа знайсьці яго ў беларусафілаў. „Што робяць цяперашнія беларусафілы беспасрэдна для простага народу, якая іх політычная або хоць асьветная праца, якія ідэёвыя плыні праяўляюцца ў іх колах—пра гэта цяжка даведацца, як трэба, у нашых умовах". І піша ў заўвазе—„На жаль, мне ніколі ня прыходзілася мець гутарак з беларусамі-політыкамі. Апроч як з вучонымі, сустракаўся я ды гаварыў з романтычнымі беларускімі нацыяналамі (сярод іх сустракаюцца часам і палякі) (або, мажліва, беларусы-каталікі? *Л. О.*); але грамадзкія іх ідэалы паказаліся мне вельмі цьмянымі, неазначанымі, а ў некаторых дык і зусім няма ніякіх соцыяльных ідэй. Урэшце, я баюся абагульняць справу ды перасьцерагаю чытача, што гэта ёсьць маё асабістае ўражаньне" (с. 195 і заўв. 3).

Ва ўсякім выпадку, „цяпер пэўны гурток беларускіх інтэлігентаў стаў каля справы, як выдаць здаровую літаратуру для простага народу. І вось вельмі шчасьлівая думка: пры нястачы ўласных бэлетрыстычных талентаў — перакладаць што-колечы з багатай расійскай літаратуры... Першай спробай зьяўляецца выданьне названага ў загалоўцы расказа „Гаршына". (Мне вядома, што ён ня столькі прадаваўся, сколькі дарма даваўся беларускім сялянам)" (с. 195).

Канчаецца кароткі артыкул А. Крымскага яго думкамі пра беларускі правапіс. „Пра правапіс мажліва нешта сказаць. Ні правапіс польскі (як у першых беларусафілаў), ні драманаўскі (як у жэнэўскіх выданьнях), нязручныя ў расійскай дзяржаве проста ўжо з практычнага погляду: па школах у Беларусі вучаць дзяцей грамаце расійскай, дык найлепш пісаць для беларускіх сялян правапісам агульна-расійскім; апроч таго, ён добра перадае гукі беларускае гутаркі. Цяперашнія беларусафілы так і робяць. Пэўна, што для большае лёгкасьці можна было-б адкінуць непатрэбны „ъ", якога і самі вялікарусы ня вельмі трымаюцца пры скорапісі, і можа было-б замест „ѣ" пісаць скрозь „е". Калі літаратурны

рух захопіць і самых сялян беларускіх, дык яны, відавочна, так і зробяць“ (с. с. 195—196). Шырокі рух працоўных мас Беларусі, работнікаў ды сялян, сапраўды зрабіў гэтыя спрошчаньні правапісу; вядзецца праца над гэтым, як вядома, і цяпер.

Такі, наогул, зьмест артыкулу акад. А. Крымскага. Шмат вады зьбегла ад тых часоў. Беларускі культурны, нацыянальны ды соцыяльны рух вялікімі крокамі пайшоў наперад, ён заваяваў шырокія працоўныя масы, беларуская мова стала дзяржаўнай мовай новае соцыялістычнае дзяржавы рабочых ды сялян. Артыкул А. Крымскага мае цяпер толькі гістарычную цікавасьць. З гэтага погляду даныя мысьлі украінскага культурнага дзеяча — народніка-драгаманаўца 90 г. г. пра першыя зародкі „беларусафільства“ ды беларускага народніцтва вельмі цікавыя. У іх цікавыя і характэрныя для зьвязкаў беларускага і украінскага рухаў і спачуцьцёвы зьмест артыкулу, і параўнаньне з украінскім рухам, які, зразумела, зрабіў куды большыя пасьпехі. Ясна, што ў сваіх радкох А. Крымскі выявіў няпоўную інформаванасьць у беларускім руху тых часоў, але бясспрэчна—некаторыя яго заўвагі цікава прачытаць і цяпер.

Апроч гэтага артыкулу, у зборніку ёсьць яшчэ полемічныя артыкулы-рэцэнзіі А. Крымскага на „Бѣлорусское Полѣсье“ М. Доўнар-Запольскага. Яны друкаваліся ў 1896 г. ў часопісі „Кіеўская Старына“. Навуковае значэньне маюць, як відаць, яны і цяпер. Але мы не бярэмся судзіць пра іх — гэта справа спэцыялістага-філёлёга.

**Л. О—ч.**

**„Савецкае Будаўніцтва“** — *орган Дзяржпляну БССР, № 1, студзень 1928 г., стар. 255. Тыраж 700. Цана 1 руб.*

Рэцэнзуемы нумар часопісу „Савецкае Будаўніцтва“ выяўляе выключную цікавасьць па сваім зьмесьце.

У гэтым нумары, апроч розных аддзелаў экономікі і савецкага будаўніцтва, упяршыню ўведзен аддзел „культурнага будаўніцтва БССР“, што асабліва трэба вітаць.

Пераходзячы да ацэнкі асобных артыкулаў часопісу, мы можам адзначыць наступнае. Тав. А. І. Шэйнін у артыкуле „Народная гаспадарка БССР у 1926-27 годзе“ дае поўны аналіз як становішчу народнае гаспадаркі БССР, так і ўсім тым фактарам, пад уплывам якіх працякала гаспадарчае жыцьцё нашае рэспублікі ў мінулым годзе. У канцы свайго вельмі цікавага і багатага фактычным і лічбовым матэрыялам артыкулу тав. Шэйнін робіць шэраг надта каштоўных вывадаў, вынікаючых з яго зусім правільнай ацэнкі гаспадарчай кон‘юнктуры мінулага году, і намячае рад практычных задач, якія стаяць перад нашымі гаспадарчымі органамі ў сувязі з выяўленымі ў нас дасягненьнямі і хібамі гаспадарчага будаўніцтва краіны.

Аднак трэба адзначыць шэраг недахватаў у артыкуле тав. Шэйніна. Аўтар артыкулу сам вельмі добра разумее, што дзеля зразуменьня раду экономічных зьяваў нашай сучаснай сапраўднасьці неабходна іншы раз зьвяртацца да даваенных паказальнікаў. Ён гэта і робіць у некаторых выпадках. Аднак адсутнасьць даваенных паказальнікаў па цэлым шэрагу іншых вельмі важных момантаў пазбаўляе нас магчымасьці даць зусім правільную і канчатковую ацэнку цэламу цыклю народна-гаспадарчых зьяваў. Каб ня быць галаслоўным, зазначым на наступнае: аўтар артыкулу прыводзіць даныя аб разьмеры пасеўнае плошчы па БССР ў 1927 годзе, далей паведамляе аб росьце пасеўнай плошчы ў 1927 годзе ў параўнаньні з 1926 годам. Аднак гэтага мала. Нас цікавіць яшчэ адно вельмі важнае пытаньне: а што-ж, у выніку росту пасеўнае плошчы ў 1927 годзе, у параўнаньні з 1926 годам, на 2,7 проц., ці адноўлена дава-

енная пасеўная плошча Беларусі, ці не? Якавы вынікі розных мерапрыемстваў дзяржавы ў гэткім важным пытаньні, як разьмер пасеўнае плошчы? На гэта ў артыкуле адказу няма. Таксама няма ў артыкуле адказу і на другое пытаньне: якава зараз, у параўнаньні з даваенным часам, забясьпечанасьць сялянскіх гаспадарак буйнай рагатай жывёлай і авечкамі, якія зьяўляюцца важнай падмогай у сялянскай гаспадарцы? Якавы зараз зрухі ў гэтай часьці сялянскай гаспадаркі ў параўнаньні з 1913 годам, ці хоць-бы з 1916 годам? Гэтак сама „мала гавораць розуму і сэрцу" адны лічбы росту мёртвага інвэнтару ў сялянскіх гаспадарках у 1927 г. ў параўнаньні з 1926 г. Нас цікавіць пытаньне аб зрухах і ў гэтай галіне ў параўнаньні з даваенным часам. Без адказу на ўсе гэтыя пытаньні няма магчымасьці меркаваць аб тым, якое-ж гаспадарчае становішча нашага сялянства да 10-й гадавіны Кастрычнікавае рэволюцыі ў параўнаньні з даваенным становішчам.

У разьдзеле, прысьвечаным прамысловасьці, прыведзены зьвесткі аб дынаміцы прамысловасьці ў 1926-27 г. ў параўнаньні з 1925-26 г. З табл. на стар. 35, дзе прыведзены гэтыя зьвесткі па кожнай галіне прамысловасьці, мы даведваемся, што ў хэмічнай і шкляной галінах прамысловасьці на працягу II і III кварталаў 1926-27 г. адбывалася нясупыннае і вельмі моцнае зьніжэньне вытворчасьці. Для растлумачэньня гэтага вельмі важнага факту чамусьці не знайшлося месца ў артыкуле тав. Шэйніна.

З іншых артыкулаў адносна народнае гаспадаркі БССР неабходна спыніцца на наступных:

Інж. В. В. Каржэнеўскі ў сваім артыкуле „Уласная станцыя ці гарадзкі электраток" закранае надта важнае пытаньне аб немэтазгоднасьці пабудаваньня асобнымі прамысловымі прадпрыемствамі, дзе выкарыстаньне пары ня мае асаблівага прымяненьня, уласных пара-сілавых установак пры наліччы электратоку; у прыватнасьці, ён закранае гэта пытаньне ў сувязі з абсталяваньнем на новым менскім скураным заводзе ўласных пара-сілавых установак. Для доказу сваёй асноўнай думкі інж. Каржэнеўскі дае ў сваім артыкуле падрабязныя тэхніка-экономічныя вылікі сабекошту вытворчасьці 1 клвт. энэргіі пры ўласных установках заводу і пры карыстаньні гарадзкім электратокам. Пытаньне, узьнятае інж. Каржэнеўскім, вельмі важнае і сур'ёзнае. Нас дзівіць толькі тое, што гэткае важнае пытаньне зьяўляецца на старонках „Савецкага Будаўніцтва" дзеля абгаварэньня савецкай грамадзкасьцю і адпаведнымі спэцыялістымі ў пытаньнях цёплатэхнікі ўжо пасьля таго, як менскі скураны завод атрымаў з-за межаў лёкомабіль Вольфа і прыступіў да ўстаноўкі яго на за водзе.

У артыкуле „Хэмічная перапрацоўка дрэва, вугалю і торфу ў прамысловасьці" тав. М. Я. Эпштэйн указвае на цэлы шэраг рэнтабельных і патрэбных вытворчасьцяй, абгрунтаваных на хэмічнай апрацоўцы дрэва і торфу і магчымых да наладжаньня ва ўмовах БССР, якая багата лясамі, з аднаго боку, і торфам, з другога боку.

У прыватнасьці, тав. Эпштэйн зусім верна ўказвае на неабходнасьць хутчэйшай організацыі ў БССР шэрагу заводаў каніфольна-шпігунарнае прамысловасьці, у продуктах якой заўважваецца аграмадная патрэба, здавальняемая ў часьці каніфолі імпортам з-за граніцы. Далей тав. Эпштэйн указвае на магчымасьць наладжаньня ў БССР яшчэ цэлага шэрагу вытворчасьцяй, пабудаваных па хэмічнай апрацоўцы дрэва, як прыгатаваньне сажы вышэйшых сартоў з розных смалістых матар'ялаў, камфоры і, нарэшце, дубільнага экстракту з дубовае драўніны і кары іншых парод дрэва.

Апроч таго, тав. Эпштэйн закранае яшчэ пытаньне аб магчымасьці атрыманьня коксу і поўкоксу з торфу; яны зьяўляюцца найлепшым і незамянімым матэрыялам для прыгатаваньня кальцыя-карбіту, які праз ацэцілен можа быць абернут у шэраг органічных злучэньняў, а пры паглынаньні атмосфэрнага азоту—у кальцы-цыанамід—адно з лепшых азоцістых угнаеньняў. Звыш гэтага, тарфовы кокс, пераважаючы па якасьці каменнавугальны (з прычыны амаль поўнай адсутнасьці серкі), можа знайсьці аграмаднае ўжываньне ў мэталюргіі пры выплаўцы чыгуна ў доменных печах. Апроч гэтых продуктаў, з торфу можна атрымаць аміак і смалу, якая выдзяляе парафін.

Вялікую цікавасьць выяўляюць і аграмадную каштоўнасьць маюць таксама артыкулы: К. Рашэтнікава „Аб асновах пабудаваньня генэральнага пляну па мэліорацыі“ і Б. І. Ладыгіна „К пэрспэктывам водных і гужавых шляхаў“.

Тав. К. Рашэтнікаў у сваім артыкуле спыняецца як на мэтодолёгіі пабудаваньня генэральнага пляну па мэліорацыі, так і на самым пляне.

Аўтар намячае наступныя асноўныя моманты, якія павінны знайсьці адбітак у гэтым пляне: 1) мэтавая ўстаноўка пляну, 2) аб'ём прац, 3) напрамак і характар прац, 4) чарговасьць прац, 5) тэрміны выкананьня, 6) эфэктыўнасьць прац, 7) межы складаньня асобных частак пляну, 8) падрыхтаванасьць да правядзеньня генэральнага пляну ў жыцьцё.

Для БССР, дзе няўдобных зямель—каля 20 проц. усёй тэрыторыі рэспублікі, проблема мэліорацыі і правільнае складаньне генэральнага пляну мэліорацыйных мерапрыемстваў мае выключнае значэньне, паперашае, як спосаб памяншэньня аграрнае перанаселенасьці, а падругое, як сродак павялічэньня нацыянальнага прыбытку ў выніку ўцягненьня няўдобных зямель у гаспадарчы зварот, патрэцяе, як спосаб утварэньня невычарпаных кармавых рэсурсаў, дзякуючы мэліорацыйнаму будаўніцтву, наагул, і культуры балот, у прыватнасьці.

Зусім правільна ўказвае тав. К. Рашэтнікаў, што генэральны плян па мэліорацыі зямель і водаў павінен быць найшчыльней увязан з іншымі галінамі народнае гаспадаркі, прычым у адных выпадках мэліорацыйнае будаўніцтва, яго памер і напрамак павінны зьявіцца як вынік патрабаваньняў тэй ці іншае галіны народнае гаспадаркі, а з другога боку, само мэліорацыйнае будаўніцтва будзе выклікаць адпаведным чынам разьвіцьцё тэй ці іншай галіны народнае гаспадаркі. Далей аўтар зусім правільна зазначае, што ажыцьцяўленьне пляну мэліорацыйных прац павінна абавязкова ўлічваць удзел самога насельніцтва шляхам арганізацыі мэліорацыйных таварыстваў.

Артыкул Б. І. Ладыгіна „К пэрспэктывам водных і гужавых шляхаў“ закранае другую, ня менш важную і маючую для БССР асаблівае значэньне, проблему водных і гужавых шляхаў зносін.

Гаворачы пра водныя шляхі, аўтар артыкулу адзначае, што, ня гледзячы на тое, што працяжнасьць водных шляхаў БССР звыш 10.000 клм., водны грузазварот займае зараз нязначнае месца ў агульным грузазвароце БССР. Гэта зьявішча тлумачыцца шэрагам об'ектыўных і суб'ектыўных прычын.

Да ліку об'ектыўных прычын адносіцца той факт, што галоўную масу водных шляхаў БССР складаюць дробныя сплаўныя рэкі. Да ліку-ж суб'ектыўных прычын трэба аднесьці тое, што ў часе войнаў і ў пасьляваенны пэрыод не праводзіліся *ніякія* працы па падтрыманьні неабходных

глыбінь, а таксама па трыманьні ў спраўнасьці існуючых гідратэхнічных пабудаваньняў. У выніку — водныя шляхі прышлі да заняпаду. Апроч гэтага, флёт, які дзейнічае па рэках БССР, паміма таго, што ён нязначны ў колькасных адносінах, старой конструкцыі і зношаны. Апроч таго, у цэлым шэрагу месцаў няма ў дастатку абсталяваных прыстаняў.

У выніку адзначаных фактараў мы бачым, што грузы мала перавозяцца па водных шляхох, а накіроўваюцца па чыгунках, прычым нават заўважваецца няўхільны рост на чыгунках грамадзкіх, масавых і малакаштоўных грузаў, якія зьяўляюцца спэцыфічнымі грузамі водных шляхаў зносін.

Закранаючы гужавыя шляхі, т. Ладыгін зазначае, што ў выніку сучаснага дрэннага становішча гужавых дарог сялянства Беларусі штогод траціць каля 6.800.000 руб., бо прымушана вазіць на сваіх фурманках удвая меншыя грузы і з меншай хуткасьцю, чым гэта магло-б быць пры добрай дарозе.

Цікавую проблему, якая мае для БССР таксама аграмаднае значэньне, узьнімае А. С. Шантаровіч у сваім артыкуле „Аб пабудаваньні лесакіраўніцтваў“. У гэтым артыкуле аўтар, абглядаючы падрабязна існуючыя сыстэмы пабудаваньня апарату лесакіраўніцтваў, наогул, і нізавога, у прыватнасьці, на Украіне і ў РСФСР, прыходзіць да вываду аб неабходнасьці рэформы апарату і сыстэмы кіраваньня лясамі ў БССР, узяўшы дадатныя бакі з практыкі УССР і РСФСР, бо існуючая ў БССР сыстэма прывяла да вельмі сумных вынікаў. Аказваецца, што ў БССР дзейнасьць спэцыялістых у лясьніцтвах, у першую чаргу, лясьнічых разьменьваецца на дробязі. Лясьнічыя звычайна заняты канторскай працай, рознай перапіскай, складаньнем справаздачнасьці, а жывая і непасрэдная іх справа — гаспадарка ў лесе — знаходзіцца ад іх у баку, і вядзеньне гаспадаркі ў лесе пераносіцца на неквяліфікаваны пэрсонал: аб'езчыкаў, культурных наглядальнікаў і лясьнікоў. У выніку тэхніка вядзеньня лясной гаспадаркі ў лясьніцтвах БССР ніжэй, чымся ў РСФСР і УССР, лясная гаспадарка не дае належнага эфэкту ў сэнсе атрыманьня ад яе матэрыяльных каштоўнасьцяй і прыбыткаў, і ў сэнсе аднаўленчых у ёй процэсаў.

Выходзячы з факту выключнага значэньня лясоў у народнай гаспадарцы і ў бюджэце БССР (прыбыткі ад лясоў складаюць да 40 проц. прыходнае часьці дзяржаўнага бюджэту), мы ня можам не згадзіцца з думкай тав. Шантаровіча аб неабходнасьці хутчэйшай рэформы апарату лесакіраўніцтваў у БССР у напрамку максымальнага вызваленьня лясных спэцыялістых (лясьнічых і іх памоцнікаў) ад адміністрацыйна-гаспадарчых прац, дзеля большай аддачы іх ведаў, увагі і часу лесагаспадарчай працы, і ў напрамку агульнага павялічэньня кадру гэтых спэцыялістых.

Звыш рэфэраваных, у часопісу ёсьць цэлы шэраг цікавых артыкулаў, якія датычацца розных бакоў народнае гаспадаркі БССР. У прыватнасьці, неабходна адзначыць артыкулы: Плышэўскага — „Аб соц.-экономіч. напрамку дзейнасьці с.-г. крэдыту ў БССР у 1926—27 г.“, Адамайціса — „Аб чарговых задачах экспорту“, Юнгерца — „Аб замежным гандлі БССР“, Ф. С. Валадковіча — „Аб агульных выніках мясцовага бюджэту БССР на 1927—28 год“, проф. Ігнатоўскага — „Аб нацыянальна-культурным будаўніцтве БССР“ і Барсукова — „Аб ахове здароўя працоўных у БССР“.

Апроч пытаньняў агульна-беларускага значэньня, у часопісу аддана ўвага і экономіцы асобных раёнаў БССР. Так, дадзены нарысы па экономіцы Мазыршчыны, аб становішчы сельскае гаспадаркі і шляхох яе разьвіцьця ў Хойніцкім раёне, а так-

сама аб проблеме рэорганізацыі сельскіх і местачковых Саветаў у Гомельскай акрузе.

Умелае прыцягненьне да ўдзелу ў часопісу добрых супрацоўнікаў, цікавых экономістых, інжынэраў ды інш. спэцыялістых, а таксама максымальнае адбіцьцё ў часопісу экономікі БССР у цэлым і паасобных яе раёнах робяць часопіс „Савецкае Будаўніцтва“ вельмі неабходным у кожнай установе і організацыі БССР і, апроч таго, выдзяляюць яго на адно з першых месц сярод іншых абласных дзяржплянаўскіх часопісаў, у якіх звычайна мала адбіваецца мясцовая экономіка, але затое пераважаюць агульна-экономічныя, да таго-ж часта толькі тэорэтычныя пытаньні, якім, натуральна, месца ў цэнтральных, агульнасаюзных, экономічных органах.

**С. Пэўзьнер.**

## ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

### Сярод пісьменьнікаў, поэтаў і літаратараў

* *Цішка Гартны* зараз закончвае трэцюю і апошнюю частку свайго роману „Сокі Цаліны“ пад назвай „Крыжавыя дарогі“.

* *Міхась Зарэцкі* напісаў для Беларускага тэатру вялікую п'есу ў 4 дзеях пад назвай „Віхор на балоце“. П'еса адбівае жыцьцё сучаснага гораду.

* *Васіль Сташэўскі* падрыхтаваў для надрукаваньня новы зборнік сваіх п'ес для вясковага тэатру.

* На працягу сакавіка м-ца Менская філія „Маладняк“ наладзіла чатыры літаратурныя вечары. Вечары былі наладжаны ў клюбе імя Леніна для чыгуначнікаў ст. Менск МББ ч.; у клюбе заводу „Пролетары“, у клюбе К. Маркса (вечар творчасьці Т. Шэўчэнкі) і ў рабочым клюбе Нова-Барысаву — для новабарысаўскай рабочай моладзі.

Усе вечары прайшлі з вялікім посьпехам.

У хуткім часе „Маладняк“ наладжвае вялікі літаратурны вечар у клюбе КІМ'у (Менск) для комсамольскай моладзі.

* У Маскве, на Ўсесаюзным зьезьдзе пролетарскіх пісьменьнікаў ад „Маладняка“ прысутнічала дэлегацыя з сямі асоб: Я. Ліманоўскі, Лынькоў, Мазуркевіч, Вечар, В. Каваль, Р. Мурашка і Н. Маркава.

* Гэтымі днямі адбылося ўтварэньне часовага бюро асоцыяцыі „Маладняк“, якое будзе яднаць яўрэйскую, польскую і літоўскую літаратурныя сэкцыі (на абшарах БССР).

У часовае бюро ўвайшлі: т. т. Ліманоўскі, Галавач, Барашка, Вансоўскі (польсэкцыя); Вітэнзон (яўсэкцыя) і Выдрынайціс (літсэкцыя).

* У апошніх лічбах красавіка г. г. адбыўся першы ўсебеларускі сход „Беларускай Літаратурна-Мастацкай Комуны“, на якім разглядаліся галоўныя пытаньні дзейнасьці левага фронту беларускае літаратуры і мастацтва.

* Пры Менскай філіі „Маладняка“ з'організавалася група сцэнарыстых-маладнякоўцаў, якія паставілі перад сабою мэту ў першую чаргу вывучэньне тэорыі і тэхнікі кіно-мастацтва.

* 8-га красавіка адбылося дзесяцілецьце літаратурнай дзейнасьці беларускага поэта Міхася Чарота.

* На апошнім пасяджэньні ЦБ „Маладняка“ выключаны са складу аб'яднаньня Ал. Валошка (Ф. Купцэвіч) і Ўл. Жылка.

А. Валошка, ня гледзячы на тое, што пасьля праверкі быў пакінуты ў складзе аб'яднаньня,—быў мала зьвязаны з „Маладняком“ яшчэ і да конфэрэнцыі аб'яднаньня. На працягу апошняга часу А. Валошка сваімі паводзінамі і поглядамі выказаў неразуменьне шляхоў разьвіцьця беларускай літаратуры, капітулянства перад папутчыкамі, супроцьстаўленьне „Маладняку“ „Узвышша“. Літаратурная праца амаль спынілася.

Уладз. Жылка на працягу знаходжаньня ў шэрагах „Маладняка“ быў амаль ня зьвязаны з аб'яднаньнем. У апошнія часы зусім аддаліўся ад

„Маладняка“, не наведваў сходаў, ня прымаў практычнай работы ў аб‘яднаньні. З творчага боку ў Ул. Жылкі не наглядаецца набліжэньня да пролетарскай літаратуры.

* ЦБ „Маладняка“ ўхваліла зрабіць выезды ў Гомель, Горкі, Віцебск і Ленінград для наладжаньня літаратурных вечароў аб беларускай літаратуры.

* 5 красавіка г. г. адбылася нарада беларускіх пісьменьнікаў па пытаньні ўтварэньня рэпэртуару для беларускіх тэатраў. На нарадзе прысутнічалі Нар. Кам. Асьветы т. Баліцкі, Нам. Наркому Вансоўскі, Якуб Колас, М. Чарот, Галубок, Александровіч, Бядуля, Сташэўскі, Чорны, Дудар, Ліманоўскі, Вольны, Ляжневіч, Крапіва і інш. беларускія пісьменьнікі.

Нарада даручыла НКА перагледзець стаўкі ганорару, а таксама і аўтарскія за пастаноўкі ў бок іх павялічэньня. Апрача ганорару за лепшыя п‘есы, павінны выдавацца таксама і прэміі.

Даручана тав. Баліцкаму падняць пытаньне ў адпаведных органах аб адчыненьні ў Менску Дому пісьменьніка.

Для хадайнічаньня аб утварэньні Дому пісьменьніка нарада вылучыла народнага поэту Якуба Коласа.

Прыняты яшчэ шэраг пастаноў, якія накіраваны ў бок паляпшэньня справы па ўтварэньні рэпэртуару для беларускіх тэатраў.

* На працягу апошняга часу ў Менскай філіі „Маладняка“ на сходах разглядаецца творчасьць паасобных маладнякоўцаў з боку іх росту і дасягненьняў. На апошнім сходзе адбыўся разгляд творчасьці маладнякоўца С. Фаміна.

**Тэатр, мастацтва і музыка.**

* Белдзяржкіно прыняло да пастаноўкі лібрэта для вялікага кінофільму з жыцьця Заходнай Беларусі —„Атаман Муха“—А. Вольнага. Фільм адбівае барацьбу рабочых і сялян Заходняй Беларусі за свае нацыянальна-соцыяльныя правы.

* Другім Беларускім Дзярж. Тэатрам пастаўлена (22 красавіка г. г.) новая, перакладзеная на беларускую мову Яз. Дылам, п‘еса „Разлом“ Лаўрэнава пад кіраўніцтвам маскоўскага рэжысэра С. Розанова.

Мастацкае надворнае афармленьне зрабіў Ю. Гольц. Музыку да п‘есы напісаў Л. Палавінкін.

П‘еса ў пастаноўцы БДТ2, як па зьместу, так і ігрою артыстых, выклікала вялікую зацікаўленасьць сярод грамадзтва Менску.

* У Менску ў гэтым годзе будзе адкрыта опэрная студыя. Будуць таксама адкрыты пры Менскім Дзяржаўным Музычным Тэхнікуме клясы народнае музыкі.

* Беларускі сцэнарысты Алесь Ляжневіч піша для Белдзяржкіно новы сцэнары па аповесьці Якуба Коласа для кіно-фільму—„На прасторах жыцьця“.

* У апошніх лічбах красавіка м-ца г. г. выехаў у Полацкую акругу Беларускі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр пад кіраўніцтвам У. Галубка. Там тэатр прабудзе каля двух месяцаў.

* Беларускім Дзяржаўным Музычным Тэхнікумам вядуцца падрыхтоўчыя работы да пастаноўкі на беларускай мове новых опэр: „Галька“ „У даліне“ (рэволюцыйная) і інш.

* Белдзяржкіно заказала Язэпу Дыле апрацаваць кіно-сцэнары „З-пад ярма“, Алесю Ляжневічу напісаць кіно-сцэнары „На пераломе“ і Цьвікевічу—„Кветкі з бур‘яну.

* Дзяржаўны Вандроўны Тэатр, пад кіраўніцтвам У. Галубка, падрыхтаваў да пастаноўкі новую п‘есу „Таміла“ па роману францускага пісьменьніка Дзюшэна, у перапрацоўцы Алеся Ляжневіча. (Пастаноўка Міцкевіча). Для п‘есы падрыхтаваны новыя спэцыяльныя вопраткі і дэкорацыі.

* 22 красавіка адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне сотага паказу ў БДТ1

п'есы з гісторыі рэволюцыйнага руху на Беларусі „Кастусь Каліноўскі“ і ўшанаваньне яе аўтара і пастаноўшчыка тав. А. А. Міровіча, якому Наркамасьветы БССР надана годнасьць заслужанага артыстага рэспублікі.

Аудыторыя, што сабралася ў памяшканьні тэатру, ахарактарызавала сьвята БДТ1, як перамогу нацыянальнай беларускай культуры.

* Музтэхнікум выканаў значную працу ў справе стварэньня беларускай опэры. Падрыхтаваны ўжо да пастаноўкі: „Сэвільскі цырульнік“, „Русалка“, „Евгений Онегин“, адрыўкі опэры Чайкоўскага „Чаравікі“, некалькі адрыўкаў з опэры „Барыс Гадуноў“ і інш.

Апрача гэтага, рыхтуецца чыста беларуская адна-актная опэра „Тарас на Парнасе“. Музыку для яе піша композытар Аладаў.

Таксама Наркамасьветы Беларусі заказаў маскоўскаму композытару напісаць лібрэто для новай беларускай опэры „Сымон Музыка“ Якуба Коласа.

* У Віцебску пры мастацкім тэхнікуме з'організавалася аб'яднаньне маладых мастакоў (ОМАХРР), якое зараз налічвае 11 сталых членаў-супрацоўнікаў і 18 кандыдатаў. Мэтай аб'яднаньне ставіць выўчэньне быта рабочых і сялян Беларусі, а таксама беларускага мастацтва.

* Пры Беларускім Дзяржаўным Музэі адкрыта заля, у якой выстаўлены скульптура і карціны з II-ое Ўсебеларускае мастацкае выстаўкі. Усяго ў залі знаходзіцца звыш 40 карцін і экспонатаў прац наступных мастакоў: Грубэ, Бразэра, Астаповіча, Віера, Воўкава, Кротава, Кругера, Кудрэвіча, Руцая, Філіповіча, Хрусталёва, Эндэ, Сьляпяна, Станюты і інш.

Характар залі надае скульптура Грубэ—„Лірнік“, адна з найлепшых прац, прадстаўленых на другой Усебеларускай мастацкай выстаўцы. З карцін асабліва выдзяляюцца „Башта“ і „Менская вуліца“—Сьляпяна, „Беларускія пэйзажы“ — Хрусталёва і вялізная карціна работы мастака Кудрэвіча „Над Сьвіслаччу“.

Дысонансную пляму дзіка-зялёна-жоўтага колеру творыць карціна „Комсамолка“ работы мастака М. Эндэ. Спакойны тон даюць працы мастака Воўкава; асабліва добрае ўражаньне робіць карціна „Мужчына“.

* Наступная пастаноўка БДТ2 будзе—п'еса Юр'іна „Калі сьпяваюць пеўні“. Гэтую рэч будзе ставіць рэжысэр Міцкевіч. П'еса ў выпуклых мастацкіх вобразах паказвае ўсё здрадніцтва нямецкай соцыял-дэмократыі сёнешніх дзён.

„Калі сьпяваюць пеўні“ маюць паказаць яшчэ ў канцы гэтага сэзону, у першай палове чэрвеня.

* У сучасны момант театр вядзе перамовы з аўтарам вядомай п'есы „Рэйкі гудуць“—пісьменьнікам Кіршонам, аб пастаноўцы яго п'есы ў БДТ2. Тэатр мяркуе паставіць гэтую п'есу таксама да пачатку новага сэзону.

Апрача перакладных, тэатр рыхтуецца паставіць некалькі орыгінальных беларускіх п'ес. Частка іх ужо набыта тэатрам, частка яшчэ апрацоўваецца аўтарамі.

З тэй прычыны, што на беларускай сцэне яшчэ ня было ніводнай пастаноўкі для дзяцей,—тэатр уключае ў сваю вытворчую програму на наступны сэзон дзьве дзіцячыя п'есы.

* Для вывучэньня беларускага народнага мастацтва Беларускі мастацкі тэхнікум організуе сёлета экспэдыцыю па вывучэньні беларускага народнага мастацтва: орнамэнту, разьбярства і інш. Экспэдыцыя мяркуе наведаць самыя глухія куткі Савецкай Беларусі, якія поўнасьцю захавалі сваю старажытную народную мастацкую творчасьць.

* У Белдзяржмузэі з 16 красавіка адкрыта выстаўка краязнаўчых фотографій і зарысовак. Выстаўка займае 5 вялікіх пакояў, дзе зьмяшчаецца 14 шчытаў з экспонатамі розных фотографічных здымкаў і зарысовак.

На выстаўцы прадстаўлена жыцьцё амаль усяе этнографічнае Беларусі, пачынаючы з павярхоўя Волгі, Заходняй Дзьвіны, Дняпра і канчаючы Прыпецкім Палесьсем.

Тут перад вачыма гледача праходзіць беларуская тканіна, вопраткі беларускіх сялян, начыньне і прылады, якімі беларускі зямляроб карыстаецца ў сваёй гаспадарцы.

З краявідаў асаблівае ўвагі заслугоўвае былы замак кн. Паскевіча па рацэ Сожу ў Гомелі і від Воршы мастака Пархоменкі.

Варты таксама ўвагі экспонаты мастака Вэйсэнгофа. Вельмі натуральна зазьняты краявід „Агульны выгляд в. Зазеры, Барысаўскага раёну“, „Сьвіслач халя Банцараўшчыны“ і „Грэбля на Ігуменшчыне“.

На выстаўцы маюцца экспонаты беларускіх краявідаў Смаленшчыны.

Досыць цікава прадстаўлены і беларускі быт. Кірмаш у мястэчку, продаж палівы, збор сена—экспонаты этнографа Сербава як нельга лепш адбіваюць бытавое жыцьцё беларускага селяніна.

Выразна праходзяць карціны вельмі цікавых краявідаў, з прыгожымі ўзгоркамі і далінамі, тыповыя вуліцы і характэрныя сядзібы, розныя будынкі, карціны заняткаў і прамысловасьць. Выстаўлены цікавыя галаўныя ўборы—кібалкі, чапцы і намёткі, якія складаюць сапраўдны унікум беларускай культуры.

Асобнае месца на выстаўцы займае Менск з яго вуліцамі, садамі і будынкамі.

Асабліва выдзяляецца сваімі экспонатамі м-ка Капыль, адно з рэволюцыйных месц на Беларусі.

Тут зазьнята некалькі груп капыльскіх народавольцаў і рэволюцыянэраў з часоў 1905-6 г. г. Паказаны на Сьвяржэнскай вуліцы домік, дзе быў забіты вядомы ў Капылі провокатар—настаўнік Бэргер, які выдаваў капыльскіх рэволюцыянэраў паліцыі.



## Хроніка беларускага друку

* Беларускі драматург Ул. Галубок здаў для друкаваньня беларускаму Дзярж. Выдавецтву новую п‘есу для сялянскага тэатру—„Белы вянок“.

* Увосень бягучага году літаратурнае аб‘яднаньне „Маладняк“ зьбіраецца выдаць агульны зборнік-альманах.

Апроч таго, з восені „Маладняк“ мяркуе выдаваць літаратурную газэту.

* Друкуюцца Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам новыя зборнікі апавяданьняў „Людзі-суседзі“ Крапівы „Салавей“ Зьм. Бядулі.

* Перавыдаецца Белдзяржвыдавецтвам другім выданьнем зборнік апавяданьняў „На зломе“ Янкі Нёманскага.

* У хуткім часе выходзіць у выданьні Віцебскага Краязнаўчага Т-ва зборнік „Віцебшчына“.

Зборнік зьмяшчае шмат матэрыялаў аб статыстычна-экономічным стане акругі.

* Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва друкуе другім выданьнем зборнікі апавяданьняў Якуба Коласа „На прасторах жыцьця“, „У ціхай вадзе“ і „Казкі жыцьця“.

* Горацкае навуковае таварыства пры ІБК надрукавала 5-ы том сваіх прац, якія ў далейшым будуць выходзіць пад рэдакцыяй старшыні таварыства І. А. Кісьлякова.

У 5-м томе прац зьмешчаны наступныя артыкулы: Глебы розных мясцовасьцяй Беларусі і іх хэмічная прырода, аб глінах Горацкага раёну, вынікі досьледу па гадоўлі быдла ў Горках, дынаміка цэн на дрэва і інш.

* Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка па ўзгадненьні з Інстытутам Леніна ў Маскве выдае ў якасьці дадатку да вядомае бібліографіі па расійскай літаратуры, якая датычыць Леніна, „Лeнініяна“, ленінскую бібліографію на беларускай мове за 1917—27 г.

* Зданы Беларускаму Дзярж. Выдавецтву для надрукаваньня новыя дзіцячыя кнігі:

Л. Чарняўская — „Сябры", апавяданьне; Юр. Будзяк — „Бусел цыбаты", апавяданьне; Джэк Лёндон — „Аляскі Сабака Воўк", апав.; Андрэй Александровіч — „Рыбак", апав.; Зьм. Бядуля — „Залатая Лісічка" і „Гаспадарка" — казкі; М. Грамыка — перапрацоўка казкі Пушкіна пра рыбака і рыбку.

* У Белдзяржвыдавецтве зданы для надрукаваньня новыя п'есы. Гладкі Я. — „Вясельле і суд".

* Выдавецкая камісія сэкцыі навуковых працаўнікоў рыхтуе да друку наступныя кнігі: проф. Ленца „Рэфлексолёгія", проф. Іваноўскага „Мэтодолёгія і прыродазнаўства", асыстэнта Гайвароўскага „Псыхотэхніка і політасьветработа", доцэнта Выдры „Формальна-соцыолёгічная школа".

* Друкуецца Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам другім выданьнем другі том збору твораў Янкі Купалы.

* Бібліографаваньне друку ўсёй Беларусі праводзіць бібліографічная камісія ІБК супольна з Дзяржаўнай Бібліотэкай. Камісія ў 1927 г. выдала чацьверты том „Матэрыялаў да Беларускай бібліографіі". Падрыхтаваны да друку т. І „Прырода і вытворчыя сілы" і выпускаецца 2 томы „Археолёгіі".

Наступныя томы: „Народная гаспадарка", „Політычнае жыцьцё", „Мастацтва", „Мова і літаратура", „Гісторыя і археолёгія" — маюць быць выданы ў працягу бліжэйшых 2-х год.

Апісаньне бягучага друку праводзіцца Беларускай Кніжнай Палатай, якая выдае „Летапіс баларускага друку".

Асобная камісія пры Дзяржаўнай Бібліотэцы намеціла скласьці бібліографічны экскурсійны дараднік для краязнаўцаў, у які ўключаюцца да 2.500 асноўных неабходных назваў.

* ЦБ краязнаўства склала бібліографію беларускага краязнаўства, куды ўваходзіць да 400 назваў, і складаецца з 4-х аддзелаў. Бібліографаваньне краязнаўчай літаратуры на мясцох праводзіцца ў Магілеве і Віцебску акруговымі краязнаўчымі т-вамі.

* Белдзяржвыдавецтва прыступіла да выданьня твораў Леніна на беларускай мове. Усе творы будуць укладзены ў 12 тамоў, у сярэднім па 25 друкаваных аркушаў кожны. Ужо перакладзена на беларускую мову 125 аркушаў. Трэці і пяты томы знаходзяцца ўжо ў наборы.

Дагэтуль Белдзяржвыдавецтвам выдадзены на беларускай мове наступныя творы У. І. Леніна:

„1905 г." (артыкулы і прамовы), Менск, 1925 г.; „Дзіцячая хвароба „лявізны" ў комунізьме", Менск, 1925 г.; „Соцыялістычная рэволюцыя і заданьні асьветы" (артыкулы і прамовы), Менск, 1925 г.; „Аб нацыянальным пытаньні", Менск, 1925 г.; „Аб зямлі і сялянстве", Менск, 1926 г.; „Аб харчовым падатку" (значэньне новае політыкі і яе ўмовы), Менск, 1926 г.; „Новая экономічная політыка", Менск, 1926 г.; „Аб міжнародным становішчы, аб вайне і Чырвонай арміі"; „Сусьветная вайна"; „Аб дробнабуржуазных партыях"; „Інтэрнацыянал і яго месца ў гісторыі"; „Тактыка расійскай комуністычнай партыі"; „Задачы саюзу моладзі"; „Аб профэсыянальных саюзах"; „Дзяржава і рэволюцыя".

* Выходзіць у сьвет 1-я частка матэрыялаў для вывучэньня фолькльору і мовы Віцебшчыны А. Шлюбскага. Кніга зьмяшчае народныя забабоны, замовы і некаторыя разьдзелы песень.

* Археолёгічная камісія ІБК здала ў друк археолёгічны зборнік разьмерам да 20 аркушаў. У зборніку будуць зьмешчаны артыкулы аб розных археолёгічных экспэдыцыях ІБК, наладжаных у 1926-27 годзе, а таксама матэрыялы аб палеалітычнай стаянцы ў Бэржыды, Банцараўскім гарадзішчы, археолёгічных выведках каля м. Турава. Усе артыкулы будуць ілюстраваны адпаведнымі малюнкамі і чарцяжамі.

## Рознае

* Беларускі Дзяржаўны Музэй набыў новую карціну ад мастака Воўкава—пэйзаж „Заходняя Дзьвіна“.

Гэты пэйзаж зьяўляецца аднэй з лепшых прац Воўкава.

* Гэтым летам у Осло (Норвэгія) будзе склікан міжнародны зьезд гісторыкаў. У працах гэтага зьезду прымае ўдзел і прадстаўнік ад БССР.

* „Маладняк“ запрашае ў Менск прадстаўнікоў ВАПП‘а (Усесаюзнай Асоцыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў) для наладжаньня лекцый і дакладаў аб сучасным стане расійскай і наогул аб пролетарскай літаратуры.

* У Віцебскім архіве ў сувязі з распрацоўкай пытаньня аб паўстаньні 1863 году польсэктар ІБК знайшоў першы нумар часопісі „Свобода“, якая выдавалася „Обществом Земля и Воля“.

Гэта надзвычайна рэдкі дакумант, два экзэмпляры якога захаваліся толькі ў Брытанскім музэі ў Лёндоне.

* На апошнім сходзе Беларускага Навуковага Таварыства (Вільня), прымаючы пад увагу адсутнасьць выдатных членаў таварыства, як старшыня А. Луцкевіч, сакратар Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі і інш., якія цяпер знаходзяцца на лаўцы абвінавачаных,—абраны часовы прэзыдыум таварыства, у склад якога ўвайшлі—інжынэр А. Трэпка, С. Зямкевіч, С. Паўловіч, А. Уласаў, І. Савіцкі і д-р Дварчанін.

* Па запрашэньню аб‘яднаньня пісьменьнікаў „Полымя“ і Беларускага Таварыства Культурнай Сувязі з замежамі 14-га мая г. г. прыехалі ў Менск выдатнейшыя украінскія пісьменьнікі і літаратары: Павал Тычына, Пятро Панч, Уладзімер Сасюра, С. Піліпэнка, М. Быкавец, М. Сэмэнка, А. Паніў, В. Полішчук, Аркадзь Любчэнка, І. Кулік, П. Усэнка.

* Вядомы популярны беларускі малады поэта А. Салагуб (Заходняя Беларусь), які летась якраз з экзаменаў быў забраны ў вастрог, адсядзеўшы 10 месяцаў, зараз выпушчаны на волю. У вастрозе на Лукішках А. Салагуб склаў тры сшыткі вершаў, некалькі апавяданьняў і драму „Вясельле“. Поэта здаў свае творы для друку Беларускаму Выдавецкаму Таварыству.

* Польскі ўрад асабліва сурова ўціскае беларускую прэсу. Ён імкнецца рознымі спосабамі пазбавіць беларускае жыхарства друкаванага слова на роднай мове (выключэньні робяцца для беларускіх агентаў ураду).

Ніжэй падаецца сьпіс конфіскаваных і зачыненых за 1923—25 г. г. беларускіх газэт. Ужо гэта сьведчыць пра ўціскі, якія церпіць беларуская прэса:

| №№ | НАЗВА ГАЗЭТЫ | Колькі нумароў конфіскавана | Пасьля якога нумару зачынена |
|---|---|---|---|
| 1 | „Наша Будучына“ | 3 | 9 |
| 2 | „Новае Жыцьцё“ | 4 | 13 |
| 3 | „Нашае Жыцьцё“ | 1 | 6 |
| 4 | „Наш Шлях“ | 4 | 25 |
| 5 | „Вольны Сьцяг“ | 4 | 21 |
| 6 | „Воля Народу“ | — | 2 |
| 7 | „Змаганьне“ | 2 | 31 |
| 8 | „Голас Беларуса“ | 4 | 21 |
| 9 | „Сын Беларуса“ | 5 | 42 |
| 10 | „Сялянская Праўда“ | 4 | 34 |
| 11 | „Беларуская Доля“ | 3 | 35 |
| 12 | „Іскра“ | 2 | 7 |
| 13 | „Жыцьцё Беларуса“ | 5 | 20 |
| 14 | „Саха“ | 1 | 1 |
| 15 | „Крыніца“ | 8 | 33 |

Ня маючы магчымасьці з-за нячуванага ўціску пэрыодычна выдаваць газэты, выдавецтва выпушчае аднаднёўкі. За 1923-24 і палову 1925 г. ў Вільні былі выпушчаны такія беларускія аднаднёўкі:

1. „Беларускі Гоман“
2. „Крык Праўды“
3. „У пятыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі“
4. „Зарава“
5. „Беларуская Доля“
6. „Наша Новае Жыцьцё“
7. „Узьняты Сьцяг“
8. „Сьцяг Народу“
9. „Нашае змаганьне“
10. „Сьцяг“
11. „Сьцяг Волі“
12. „Праўда“
13. „Каляда“
14. „Новагоднік“
15. „Новы шлях“
16. „Зарніца“
17. „Загон“
18. „Жыцьцё Вёскі“
19. „Думка Беларуса“
20. „Зорка Беларуса“
21. „Селянін“
22. „Беларускі Селянін“
23. „Іскра“
24. „Рэха“ і інш.

Пяць з ліку гэтых аднаднёвак былі конфіскаваны.

Каб перашкодзіць распаўсюджаньню беларускіх газэт, польская ўлада імкнулася пры конфіскацыях, каб рэдактары і выдаўцы несьлі грашовыя страты.

* Селянін (в. Скварцы, Койданаўскага раёну) Кастусь Вашына сабраў 2950 слоў; 12 дзіцячых, 50 вясьнянскіх, 6 купальных, 3 вясельных і 6 жніўных песьняў; 4 замовы, 300 прыказак і шмат іншых матэрыялаў.

* Бібліографічны аддзел МАІ ў бліжэйшым часе выпускае „Ежэгоднік аграрнай літаратуры СССР за 1926 г.“ У далейшым „Ежэгоднік“ будзе выходзіць рэгулярна за кожны мінулы год (1927, 1928 і г. д.). Зьмест „Ежэгодніка“ за 1926 год падзяляецца на два томы: 1. Экономіка сельскай гаспадаркі, 2. Сялянскае і аграрнае пытаньне.

Матэрыял „Ежэгодніка“ складаўся больш чым з 4½ тысяч кніг і брошур і 13 тысяч артыкулаў, рэцэнзій і статыстычных табліц.

* У красавіку пры АПА ЦК КП(б)Б адбылася нарада навуковых працаўнікоў-марксыстых па пытаньні аб організацыі ўсебеларускага таварыства марксыстых.

Нарада прызнала патрэбным організаваць у Менску Ўсебеларускае таварыства марксыстых. Апрача гэтага, даручана існуючаму бюро таварыства гісторыкаў-марксыстых склікаць агульны сход марксыстых для організацыі таварыства марксыстых у складзе 3-х сэкцый: гістарычнай, экономічнай і філёзофска-соцыолёгічнай.

* У Празе Чэскай сёлета організуецца сусьветная выстаўка народнага мастацтва, у якой прыме ўдзел і БССР.

Міжнародны камітэт па організацыі гэтай выстаўкі (які знаходзіцца ў Парыжы) запрасіў культурныя інстытуцыі Заходняй Беларусі таксама прыняць удзел у гэтай выстаўцы.

* Гэтымі днямі Беларускі Дзяржаўны Музэй атрымаў з г. Разані 2 пасылкі з колекцыямі былога Менскага царкоўнага архіўнага музэю, які быў эвакуаваны ў 1915 г.

У хуткім часе маюць прыбыць розныя іншыя рэчы з гэтага музэю.

* Профэсар С.-Г. Акадэміі інжынэр Монтаг сабраў шмат экспонатаў і здымкаў народнай беларускай архітэктуры. Усе гэтыя экспонаты зьмешчаны ў музэі пры Акадэміі.

* У дзень адчыненьня Беларускага Народнага Тэатру ў Рызе, 24 сакавіка г. г., была пастаўлена вядомая п'еса Янкі Купалы „Паўлінка“. П'еса прайшла з вялікім посьпехам і цёпла спаткана латвійскай прэсай, якая, апроч рэцэнзій, зьмясьціла яшчэ і фотографіі артыстых, асобныя сцэ-

ны. Рэжысэрам Рыскага Беларускага Тэатру запрошаны выдатны артысты Латыскага Нацыянальнага Тэатру гр. Ян Шаберт, які зьяўляецца вучнем вядомага расійскага артыстага Станіслаўскага. Першая пастаноўка была рэалістычнай, але далей будуць зроблены спробы і конструкцыйных. Рыскі Беларускі Тэатар ня думае абмежавацца выключна працаю сярод рыскіх беларусаў, але намеціў сабе шэраг пастановак і ў провінцыі.

* У Публічнай Бібліотэцы ў Ленінградзе знойдзены манускрыпты пратаколаў пасяджэньняў Менскага дэпартаманту 1812 г. і загады стаўленікаў Напалеона, якія пачалі гаспадарыць на Беларусі пасьля адступленьня арміі Аляксандра I. Дакуманты высьвятляюць экономічнае і соцыяльнае становішча Беларусі ў пачатку XIX стагодзьдзя.

Гэтыя дакуманты зараз вывучаюцца ў ІБК.

* Польсэктар ІБК здабыў у Ленінградзе вельмі каштоўныя гістарычныя матэрыялы-справаздачы губарнатараў аб паўстаньні 1863 году на Беларусі. Гэтыя дакуманты захаваліся ў архіве міністэрства ўнутраных спраў, публічнай і унівэрсытэцкай бібліотэках, а таксама ў Акадэміі Навук.

* Гістарычная камісія польсэктару сумесна з катэдрай гісторыі беларускае мовы выдае цікавыя матэрыялы пад назвай „Беларускі рэволюцыйны і контр-рэволюцыйны друк у часе паўстаньня 1863 году“.

Дакуманты па гэтым пытаньні да апошняга часу зусім ня былі вядомы, як, напрыклад, „Гутарка двух суседзяў № 4“.

Выданьне абхоплівае сабою матэрыялы пра рэакцыйную дзейнасьць Мураўёва на Беларусі, а па рэволюцыйным друку можна праглядзець барацьбу чырвоных з белымі ў часе паўстаньня на Беларусі ў 1863 годзе.

* Зараз праводзіцца абсталяваньне Менскага гістарычнага архіву, якое мае быць у хуткім часе закончана. У гэтым архіве захоўваюцца матэрыялы Віцебскага губарнатара з часоў сялянскага руху на Беларусі (1863 г.), усе справы былой Менскай губэрні і інш.

* Беларускі Дзяржаўны Музэй у наступным годзе мае організаваць майстэрню для выпрацоўкі малюнкаў, статуэтак і інш. рэчаў, як адбіткаў. З розных каштоўных экспонатаў, што зараз захоўваюцца ў БДМ, гэта дасьць магчымасьць пазнаёміць з мастацкімі каштоўнасьцямі музэю самыя глухія куткі БССР.

* Гістарычная кляса ІБК здала ў друк другі том беларускага архіву прац археографічнай камісіі. Гэты зборнік матэрыялаў зьяўляецца 16 томам літоўскае мэтрыкі „Кніга запісаў“ і характарызуе сабою праўнае становішча насельніцтва Віцебшчыны і Полаччыны ў Літоўска-Беларускі пэрыод.

Зборнік зьяўляецца надзвычайна каштоўным укладам для высьвятленьня мінулага старажытнае Беларусі.

**Хроніка беларускай навукі**

* За мінулае паўгодзьдзе катэдра этнографіі ІБК заслухала 8 дакладаў: „Прочкі і разлучыны“, „Этнографічная дзейнасьць Дабравольскага“, „Музычныя струманты Беларусі“, „Фалёктэніям“ і інш.

Распрацоўваюцца тэмы: „Беларускія народныя арнамэнты“, „Беларуская этнографія XVIII і пачатку XIX сталецьця“, „Галаўныя ўборы беларусаў—жаночыя і мужчынскія“.

Сёлета будзе організавана экспэдыцыя на Палесьсе—ад Слуцку ў кірунку на Мазыр. Экспэдыцыя мае вывучаць матэрыяльную і грамадзкую культуру і фольклёр гэтага раёну.

* Заснаваная ў 1921 г. тэрмінолёгічная камісія (цяпер Інстытут Навуковай Мовы) за час сваёй працы канчаткова апрацавала 35.663 тэрмінаў-слоў, з якіх 27.316 тэрмінаў надрукаваны ў 15 выпусках навуковай тэрмінолёгіі, а 8.357 тэрмінаў знахо-

дзяцца ў друку. Апрача гэтага, вайсковай камісіяй пры Інбелкульце выданы слоўнік вайсковай тэрмінолёгіі каля 10 тыс. слоў.

Вялікую работу мяркуецца правесьці ў далейшым. Так, у стадыі канчатковай апрацоўкі знаходзіцца 10 тыс. тэрмінаў, у стадыі пачатковай апрацоўкі 15 тыс. тэрмінаў, праектуецца для апрацоўкі паводле 5-гадовага пляну Інстытуту Навуковай Мовы каля 50 тыс. тэрмінаў, а ўсяго за 5 год—75 тыс. тэрмінаў-слоў.

* Пры Белдзяржмузэі адкрыта выстаўка касьцей 16 мамонтаў, якія былі найдзены пры раскопцы палеалітычнай стаянкі ў Бэрдыжы (Гомельшчына). Паводле азначэньня вядомага палеанталёга Громава, гэтыя мамонты вяліся на Беларусі 25 тысяч год таму назад.

* Зараз Інбелкульт прыступіў да вывучэньня матэрыялаў аб рэвалюцыйным руху Літвы ў яе этнографічных межах. Для гэтае мэты ў Маскву і Ленінград камандыруецца загадчых катэдры гісторыі Літвы тав. Матулайціс, які і азнаёміцца з матэрыяламі аб літоўскім рэволюцыйным руху, галоўным чынам у XIX стагодзьдзі. Матэрыялы па гэтым пытаньні будуць выўчацца пераважна ў Цэнтрархіве.

* Катэдра гісторыі Літвы распрацавала матэрыялы аб рэформацыі ў Літве ў XVI стагодзьдзі. Паводле гэтых новых матэрыялаў, можна мець новыя даныя аб экономічным і політычным жыцьці Літоўска-Беларускае дзяржавы ў XVI стагодзьдзі, а таксама прычыны ўзьнікненьня рэформацыі ў Літве.

* Проф. Блюдуха выканаў працу па складаньні бібліографічных матэрыялаў, якія маюць непасрэдную сувязь з вывучэньнем геолёгіі Беларусі. Гэта праца мае вялікую навуковую вартасьць у справе вывучэньня карысных выкапняў краіны.

* ЦБ краязнаўства наладзіла вывучэньне „культурных гнёзд", гэта значыць культурных асяродкаў, якія маюць уплыў на літаратуру, на організацыю музэяў, бібліотэк і інш. З гэтай мэтай зараз зьбіраюцца весткі аб стане мясцовай літаратуры, аб асноўных экспонатах музэяў, аб складаньні слоўнікаў мясцовых пісьменьнікаў, аб стане мясцовага пэрыодычнага друку і г. д.

Гэтыя матэрыялы павінны даць цікавыя даныя аб нашым агульным культурным разьвіцьці і аб росьце ўсіх галін культурнага жыцьця.

* Этнограф і археолёг Сэрбаў сёлета мае наладзіць навуковую экспэдыцыю на раку Ухлясьць, Магілеўскай акругі, дзеля вывучэньня гістарычных межаў, якія праходзілі паміж галоўнымі пляменьнямі, склаўшымі беларускі народ—радзімічамі і драгавічамі. Асаблівасьці кожнага племя захаваліся рэзка нават да апошняга часу як у матэрыяльнай, так і ў духоўнай культуры, ня гледзячы на тое, што паміж сучаснымі паселішчамі патомкаў старажытных пляменьняў вельмі нязначная адлегласьць.

* Профэсар Беларускай С.-Г. Акадэміі Васількоў зараз сыстэматычна працуе над вывучэньнем флёры Беларусі. Проф. Васількоў сабраў багата матэрыялаў аб расьліннасьці паплавоў на р. Проні і правёў цэлы шэраг каштоўных фотофэнолёгічных назіраньняў.

Другі навуковы супрацоўнік акадэміі тав. Савельлеў сабраў шмат матэрыялаў аб сьмяцьцёвасьці культурных расьлін б. Калінінскай акругі. Апроч таго, т. Савельлеў сабраў і апрацаваў да 1.200 тэрмінаў па агульнай расьлінагадоўлі і дасьледчай справе.

* Сябра Заслаўскага раённага т-ва краязнаўства т. У. Шалешка зьбірае і ўкладае слоўнік мовы в. Недраскі, Заслаўскага раёну. Ужо апрацавана каля 7.000 слоў.

Гэта будзе першы ў БССР слоўнік мовы аднае вёскі. Ён пакажа багацьце мовы селяніна з аднае вёскі і будзе мець вялікае навуковае значэньне.

Апрача гэтага, т. Шалешка зьбірае словы іншых вёсак раёну і запісаў больш 300 мясцовых песьняў і каля 200 прыпевак.

* Камісія аховы помнікаў прыроды і старажытнасьці БССР пры ІБК пастанавіла перадаць Барысаўскі запаведнік пад загад Галоўнавукі. Таксама пастаноўлена організаваць Палескі запаведнік.

* На падставе досьледаў мінулых гадоў ІБК злажыў 10-вёрстную геоботанічную карту Беларусі. Карта дасьць наглядны малюнак пашырэньня расьлін на Беларусі.

* Аддзел прыроды і гаспадаркі Інбелкульту зараз складаецца з 12 розных катэдраў. У бліжэйшы час, паводле проекту, маюць быць адчынены: сэкцыя прыкладной геолёгіі, катэдра фізыкі, катэдра фізыолёгіі, катэдра хэмічнай тэхнолёгіі, а ў далейшыя часы мяркуецца адчыніць іншыя катэдры адпаведна вымаганьням акадэмічнай структуры ІБК і гаспадарчых патрэб дзяржавы.

На наступны год будуць асыгнаваны сродкі на організацыю цэнтральнага ботанічнага і зоолёгічнага садоў у Менску.

* Проф. Мельнік напісаў цэлы шэраг прац аб беларускіх лясох, гэтым галоўным багацьці нашай краіны. У працах проф. Мельніка ёсьць апісаньне паркавых парод расьліннасьці, фэнолёгічныя назіраньні над расьліннасьцю і інш. Усяго па гэтай справе выдана да 7 навуковых прац.

Профэсар Пераход выпусьціў да 30 назваў розных прац, прысьвечаных, галоўным чынам, вывучэньню экономікі лясоў БССР.

* Навуковы супрацоўнік Беларускай С.-Г. Академіі т. Кавалёў прымаў удзел у геолёгічных досьледах паўночнай часткі БССР (на абшарах Віцебскай акругі); т. Кавалёў сабраў тут шмат карысных выкапняў.

Усяго ім сабрана да 300 розных узораў розных выкапняў і мінэраляў.

У канцы красавіка ў Маскве адбыўся Ўсесаюзны зьезд па вывучэньні прыродных вытворчых сіл Саюзу. Ад БССР на зьезд выяжджалі: т. т. Бялуга, Баліцкі, Смоліч, Трамповіч і Краскоўскі. На конфэрэнцыі т. т. Трамповіч і Краскоўскі выступяць з дакладамі аб становішчы справы вывучэньня прыродных вытворчых сіл у БССР і аб пэрспэктывах далейшага разьвіцьця гэтае працы.

### Замежныя краіны аб Беларусі

* У нумары другім за бягучы год нямецкае часопісі „Blätter für Alle“ надрукаваны адрывак з апавяданьня Цішкі Гартнага „На новым месцы“. Адрывак азагалоўлены „Паездка ў Скуплі“ і ілюстраваны ў тэксьце.

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны выдае асобнай кніжкаю перакладзенае на украінскую мову, апавяданьне Цішкі Гартнага „Чырвонаармеец Панкел Ліпа“.

* У час побыту ў Харкаве беларускіх пісьменьнікаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, Міхася Чарота і Міхася Зарэцкага іх портрэты былі зьмешчаны ў наступных газэтах і часопісах: „Радянське Село“, „Культура і Побыт“, „Всесьвіт“, „Роботничи Журнал“ і інш. Таксама беларускія пісьменьнікі былі зазьняты на экран для кіно-культ. хронікі.

* У чэскай праскай часопісі „Rozsevaska“ № 6 за бягучы год ва ўсю першую старонку зьмешчаны портрэт сялянкі з фільмы „Кастусь Каліноўскі“. У другой чэскай часопісі „Reflektor“ гэтак сама на ўсю першую старонку зьмешчан портрэт Кастуся Каліноўскага з надпісам „Кастусь Каліноўскі. Савецкі беларускі фільм з рэволюцыйнай гісторыі Беларусі“.

* У нумары 11 за бягучы год украінскае ілюстраванае часопісі „Всесьвіт“ надрукавана апавяданьне Ц. Гартнага „Штрэйкбрэхер“ у перакладзе С. Піліпенкі. У тым-жа нумары тае-ж часопісі зьмешчаны верш Якуба Коласа „Ой, неба таго кветнага“ ў перакладзе П. Тычыны.

* У нумары 10 дадатку да газэты „Вісты“, „Культура і Побыт“ надрукаваны вершы Янкі Купалы з „Безназоўнага“ — „О так, я пролетар!“ у перакладзе Т. Масэнкі.

* Чэская праская газэта „Prager Presse“ час-ад-часу дае на сваіх старонках нататкі аб розных баках разьвіцьця беларускае культуры. Гэтак, у нумары ад 13 сьнежня 1927 г. зьмешчана заметка аб беларускай музыцы; у нумары ад 23 сьнежня таго-ж году—заметка аб беларускіх падручніках; у нумары за 17 сьнежня—артыкул аб беларускай літаратуры; у нумары за 23 лютага 28 г.—рэцэнзія аб „Летапісу беларускага друку“, якая выдаецца Дзяржаўнаю Бібліотэкай; у нумары 26 за люты 28 г.—рэцэнзія аб „Запісках Бел. Дзярж. Унівэрсытэту“.

* Газэта „Rudo Pravo“, орган чэхаславацкай комуністычнай партыі, зьмясьціла на сваіх старонках павіншаваньне проф. З. Няедламу з днём пяцідзесяцігодзьдзя яго нараджэньня, пасланае яму аб‘яднаньнем пісьменьнікаў „Полымя“ за подпісам Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, М. Чарота і М. Грамыкі.

* У нумары ад 25 лютага г. г. газэты „Rudo Pravo“ надрукавана вялікая адозва з прычыны суду над Беларускаю Рабоча-Сялянскаю Грамадаю пад назвай „Да барацьбы за абарону Грамады“. Адозва падпісана шэрагам наступных організацый: комуністычнай партыяй Польшчы, Поалей-Цыонам, здружэньнем вольных мысьліцеляў польскіх, лявіцаю ППС, украінскім пасольскім клюбам „Сельроб“ і інш.

* У нумары за 15 лютага бягучага году украінскае газэты „Діло“ надрукаваны артыкул нейкага М. Г. „Беларускі культурны рух—навука, літаратура, тэатр“. Аўтар артыкулу, адмячаючы прыезд у Прагу ў мінулым годзе беларускіх пісьменьнікаў Янкі Купалы, Цішкі Гартнага, Міхася Чарота і Міхася Зарэцкага, як факт навязаньня цясьнейшае сувязі паміж Менскам і Прагаю, спыняецца ў абеглых рысах на працы Інбелкульту, Белдзяржунівэрсытэту і тэатру, называючы ровень беларускае навукі нязвычайна высокім, а яе продукцыю—эўропэйскаю. У разглядзе літаратуры М. Г. робіць шэраг памылак, ставячы на адну дошку з Янкам Купалам і Якубам Коласам—Максіма Гарэцкага, гэтага мешчаніна ў літаратуры, і лічачы набліжанымі да Я. Пушчы, К. Чорнага і інш. „до тэпэрэшніх запэкліх большовіків“—Цішку Гартнага, Міхася Чарота і Міхася Зарэцкага. Справу літаратуры М. Г. лічыць слабейшаю справы навуковай. Прычыну гэтага аўтар артыкулу бачыць „у політычных обставынах, які до наукы нэ могуть так лэгка дібратыся; а на літэратуру натыскають із більшою сылаю і урад і комуністычна партія і чыслэнні доброволыці“. Гэтыя рыскі, панашаму, ня так праўдзіва характарызуюць стан беларускае літаратуры, як махраста-белагвардзейскі воблік яе аглядчыка. Магчыма, што не слабая інформацыя М. Г. аб беларускай літаратуры, а менавіта яго настроі кіравалі ім і пры далучэньні М. Гарэцкага да кіраўнікоў сучаснае беларускае літаратуры і пры параўнаньні Язэпа Пушчы і Ул. Дубоўкі з Янкам Купалаю і Якубам Коласам.

* А. Селіваноўскі, які прыяжджаў ад ВАПП‘а на маладнякоўскую нараду, зьмясьціў у № 5 часопісі „На літаратурным пасту“ артыкул „Новый Молодняк“. У гэтым артыкуле А. Селіваноўскі адмячае буйны рост беларускае культуры і пасьпешнае разьвіцьцё беларускае літаратуры. Характарызуючы беларускія пісьменьніцкія організацыі, аўтар артыкулу называе „Узвышша“ „права-папутніцкай організацыяй з кулацкай ідэолёгіяй“, а ў „Літаратурна-мастацкай комуне“ бачыць „нахіл пераймаць якраз рэакцыйныя элемэнты тэорыі расійскага лефа“.

* Быўшы ў Менску з іншымі украінскімі таварышамі сябра рэдак-

цыі украінскай часопісі „Молодняк“ т. Т. Масэнка зьмясьціў у № 2 часопісі „Молодняк“ вялікі артыкул аб уражаньнях з БССР.

* Чэская газэта „Rudo Pravo“ ў нумары за 8 лютага зьмясьціла вялікі артыкул пад назваю „Крывавая кніга“—гісторыя польскага буржуазнафашысцкага рэжыму“, прысьвечаны разгляду кніжкі „Інтэрпэляцыі беларускіх паслоў у польскі сойм“.

* Чэская газэта „Podebradskie Noviny“ да № 10 за бягучы год дала спэцыяльны беларускі дадатак, прысьвечаны справе суду над „Беларускай Сялянска-Рабочай Грамадою“. У дадатку зьмешчаны на фоне крат портрэты быўш. паслоў сойму Мятлы, Валошына, Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага і Галавача. Таксама дадзены адбітак вядомага здымку Мятлы і Валошына з павязанымі галовамі з подпісам: „Імунітэт“ беларускіх паслоў“.

* У нумары 10 чэскае ілюстраванае часопісі „Damov a Swet“ за бягучы год зьмешчаны адбітак з карціны фільму „Кастусь Каліноўскі“—„Аддзел Каліноўскага перад выступленьнем“.

* Дзяржвыдат РСФСР выдае збор твораў (апавяданьняў) Ц. Гартнага ў перакладзе доцэнта Ленінградзкага унівэрсытэту па аддзелу славянскіх літаратур К. Пушкарэвіча. У зборнік увайшлі, галоўным чынам, апавяданьні, зьмешчаныя ў „Трэскі на хвалях“. Зборнік справодзіцца прадмоваю перакладчыка.

* У Кіеўскай украінскай газэце „Пр. Пр.“ за 18/III—28 г. надрукована вялікая справаздача аб быванні беларускіх пісьменьнікаў на Украіне. Адначасна з гэтым у газэце зьмешчаны портрэты Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, Міхася Чарота і Міхася Зарэцкага.

* У нумары за першае студзеня бягучага году чэскай газэты „Rudo Pravo“ надрукаваны артыкул пад назваю „Дзевяць гадоў дыктатуры пролетарыяту ў Савецкай Беларусі“.

* У зьвязку з адбываючымся ў Вільні процэсам над Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадой за межамі ўзрасла цікавасьць наогул да Заходняй Беларусі, а галоўным чынам да суду. Працоўныя Чыкаго, Парыжу і інш. гарадоў узьнімаюць свой голас протэсту супроць суду над беларускім народам.

У замежным друку ў апошні час зьявіўся цэлы шэраг артыкулаў аб Заходняй Беларусі і аб судзе над Грамадой. Вось кароткі агляд гэтых артыкулаў па краінах.

*Чэха-Славакія.* Амаль ва ўсіх цэнтральных газэтах, выдаваемых компартыяй, зьявіліся артыкулы аб Грамадзе. „Rudo Pravo“, апрача гэтага, зьмесьціла артыкул аб інтэрпэляцыях беларускіх паслоў у польскі сойм, і калі-ні-калі дае агляды суду. Газэта „Munkas“ на вэнгерскай мове ў № 55 ад 6 сакавіка 1928 году зьмесьціла артыкул: „За што судзяць Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду“.

*Голяндыя.* Газэта „De Tribune“ перад процэсам зьмясьціла артыкул—„Хутка будзе суд над Грамадой“. Калі пачаўся процэс, „De Tribune“ зьмясьціла вялікія артыкулы: „Што такое Грамада“ і „Заходняя Беларусь пад польскай пятой“.

*Швэцыя.* У газэце „Politiken“ надрукован артыкул: „Процэс над Беларускай Грамадой у Вільні“. Гётэборгская газэта „Vast svenska Kuriren“ у № 9 зьмесьціла два артыкулы—„Заходняя Беларусь“ і „За што судзяць Грамаду“, а ў № 3 артыкул—„Хутка адбудзецца суд над Беларускім народам“. У гэтых двух нумарох зьмешчаны здымкі,—фотографіі селяніна Ваўчка, Тарашкевіча, Мятлы і Валошына, зьбітых паліцыяй.

„Паўночная Швэцкая Газэта“ таксама зьмесьціла вышэйназваныя артыкулы і фотографіі Мятлы і Валошына.

„Vast svenska Kuriren“ у № 102—зьмесьціў вялікі артыкул аб Заходняй Беларусі.

У выдаваемай кніжцы „Па СССР“ Э. Адамсон піша аб становішчы беларусоў у Польшчы і аб судзе над Грамадой.

*Фінляндыя.* Рабочая газета „Tiego nautaja“ зьмесьціла ў № 302 вялікі артыкул аб становішчы беларусоў у Польшчы, а ў № 1—артыкул аб Грамадзе. У № 75 ад 29 сакавіка цалкам зьмешчана адозва камітэту нав. працаўнікоў і пісьменьнікаў БССР па абароне Грамады.

*Францыя.* Бюлетэнь міжнароднага пэдагогічнага прэсбюро ў № 3 за сакавік зьмесьціў артыкул аб тым, як польскі ўрад зачыняе беларускія школы. Факты ўзяты з інтэрпэляцый. У № 4 зьмешчана адозва камітэту.

„D'Humanite“ зьмесьціла заметку аб мітынгу протэсту супроць суду над Грамадой, які адбыўся ў Парыжы.

*У Нямеччыне.* Прэс-бюлетэнь МОПР'у дае кожны тыдзень артыкулы аб судзе; бюлетэнь міжнароднага эспэранто—прэс-бюро зьмесьціў 2 артыкулы аб Заходняй Беларусі і Грамадзе, у адным з апошніх нумароў адозву камітэту па абароне Грамады. У газэце „Vokεville“, якая выходзіць у Зуле (Цюрынгія), зьмешчана адозва к-ту аб абароне Грамады (№ 81 ад 4 красавіка 28 г.). Гэта адозва зьмешчана і ў газэце „Neue Zeitung“ у Ене. 11-ы атрад чырвоных франтавікоў зьмесьціў адозву (бяз подпісу) у сваёй насьценнай газэце.

*У латвійскай* рабочай газэце зьмешчаны 2 артыкулы аб Грамадзе.

Гэты агляд няпоўны. Аб процэсе пішуць значна больш газэт. Тут напісана толькі аб тых газэтах, якія дайшлі да нас.

## ХРОНІКА УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Саюз сялянскіх пісьменьнікаў Украіны „Плуг“ мае намер уладзіць гэтым летам экскурсію з мэтай азнаямленьня з жыцьцём і бытам Беларусі. Пісьменьнікі наведаюць Менск, Барысаў, Бабруйск і Гомель.

* Загалошанага Дзярж. Выдавецтвам Украіны конкурсу на юнацкі раман і аповесьць прыняты да друку 3 з 11, прысланых для конкурсу. Першую прэмію атрымаў Г. Енік, аўтар аповесьці „Бяз грунту“, другую— Аляксандар Сакалоўскі, аўтар раману „Першы хоробрі“.

* У першых лічбах красавіка г. г. адбыўся ў Менску Доме Працасьветы концэрт украінскай песьні ў выкананьні выдатнай таленавітай артысткі Марыі Шакун-Каламійчанка.

Сьпявачка выканала творы украінскіх композытараў Стэповага, Стэцэнко, Ів. Рожко. Пакладзеныя на музыку песьні Тараса Шэўчэнкі „Тры шляхі“ і „Плавай, плавай лебедзенько“—характэрны украінскай павольнасьцю ў выкананьні.

М. Шакун-Каламійчанка зацікавілася беларускімі народнымі прымітыўнымі і гармонізаванымі Прохаравым і Аладавым песьнямі, якія ўключае ў свой рэпэртуар.

* Малады украінскі композытар Уладзімер Іорыш закончвае опэру „Кармелюк“. Лібрэта опэры апрацована Старыцкаю, Чэрняхоўскай і Маркам Ваўчком па сюжэту з народнай творчасьці.

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны рыхтуецца да выданьня альманахаў новай украінскай літаратуры. Да складаньня альманахаў будуць прыцягвацца пісьменьнікі акрамя Савецкай Украіны і пісьменьнікі Заходняй Украіны. У гэтым годзе павінна выйсьці з друку 3—4 альманахі, разьмерам кожны на 10—15 аркушаў.

* М. Ірчан піша зараз новую аповесьць „Чэрвоне озеро“ з жыцьця шукачоў золата на далёкай поўначы Канады.

* Усеукраінскае музычнае т-ва імя Леонтовіча пачало разам з другімі асьветнымі ўстановамі выдаваць часопісь „Музыка—масам“. Заданьне часопісі: асьвятленьне з марксыцкага пагляду, асноўныя пытаньні музычнай навукі, музычна-грамадзкага жыцьця і музычнага мастацтва ў галінах політасьветы, сацвыху і г. д.

* Праскае выдавецтва „Добра Едіцё“ (Чэха-Словакія) выпусьціла на чэскай мове зборнік перакладных новэль украінскага пісьменьніка Міхайлы Кацюбінскага.

* Украінскае Дзяржаўнае Выдавецтва пачало выдаваць антолёгію украінскай рэволюцыйнай літаратуры на мове эспэранто пад рэдакцыяй Палішчука і Філіпова. У антолёгіі будуць зьмешчаны творы 18 найвыдатных сучасных пісьменьнікаў.

* З 25-га красавіка да 1-га мая украінская савецкая грамадзкасьць адзначае 15-я ўгодкі сьмерці аднаго з выдатных украінскіх пісьменьнікаў Міхася Кацюбінскага. Для ўвекавечаньня памяці пісьменьніка СНК Украіны вылучыў цэнтральную камісію пад старшынствам народнага камісара асьветы Украіны тав. Скрыпніка.

Кацюбінскі—адзін з выдатных украінскіх мастакоў слова эпохі 90-900 гадоў і адзін з першых пісьменьнікаў,

які ўзяўся намаляваць бурны пэрыод рэволюцыі 1905 году. Сялянскія паўстаньні перад 1905 годам далі Кацюбінскаму матэрыялы для яго бесьсьмяротнага твору „Fata Morgana“ і такіх твораў, як „Сьмех“, „Ён ідзе“, „Persona grata“, „Невядомы“ і інш., дзе яскрава адбіты сялянскі рух таго пэрыоду.

У творах Кацюбінскага адбіта таксама жыцьцё і побыт іншых нацыянальнасьцяй царскай Расіі: малдаванаў у Бэсарабіі, крымскіх татараў і г. д. Першыя творы Кацюбінскага зьявіліся ў галіцыйскіх украінскіх выданьнях, бо царскае прыгнечаньне не давала магчымасьці пісьменьніку друкавацца на бацькаўшчыне.

Зараз ва ўсіх школах, ВНУ, бібліотэках, клюбах і сельскіх культурнаасьветных організацыях праводзяцца вечары і лекцыі, прысьвечаныя Кацюбінскаму. У шмат якіх гарадох Украіны вуліцы, школы і іншыя культурныя ўстановы будуць названы яго імем. У Віньніцы адбудоўваецца дом, дзе нарадзіўся пісьменьнік, а ў Чарнігаве, дзе ён правёў сваё жыцьцё і дзе напісаў свае лепшыя творы, адчынен музэй яго імя. Апроч таго, у Віньніцы і ў Чарнігаве будуць адчынены помнікі пісьменьніку. У музэй імя Кацюбінскага перададзена перапіска яго з Максімам Горкім. Нядаўна з Сарэнта прыслан ліст ад М. Горкага, у якім ён абяцае неўзабаве перадаць у музэй усе лісты Кацюбінскага да яго.

* Украінская Акадэмія Навук выпусьціла:

1. Украінскі Дыялекталёгічны Зборнік, кн. I, пад рэдакцыяй акад. А. Крымскага. У гэтым зборніку зьмешчаны працы па украінскай дыялекталёгіі Б. Кабылянскага, П. Гладкога, Ю. Вінаградзкага ды В. Дземянчука.

2. Украінскі Археографічны зборнік, т. II. Гэты том прысьвечаны матэрыялам пра вядомага украінскага гісторыка А. М. Лазарэўскага. Менавіта ў кнізе надрукавана перапіска Лазарэўскага.

3. Акад. А. Крымскі. Разьведкі, артыкулы ды заметкі. Зборнік раней ўжо друкаваных артыкулаў вядомага спэцыялістага араба-іранскае філёлёгіі.

4. Вып. IV Прац Камісіі для дасьледваньня гісторыі Заходня-рускага ды украінскага права. У кнізе надрукавана першая частка вялікае монографіі І. Чэркаскага „Грамадзкі (копны) суд на Украіне — Русі XVI—XVIII в. в. У працы гаворыцца і пра копныя суды на Беларусі.

* Гістарычная сэкцыя Акадэміі Навук выпусьціла ў сьвет дзьве добра выданыя кнігі: 1) Корпус украінскіх дум, пад рэдакцыяй і ўступным артыкулам К. Грушэўскай. 2) Чарнігаў і паўночнае Левабярэжжа. Зборнік артыкулаў прысьвечаны менавіта гісторыі Чарнігаўскае губэрні. Шэраг артыкулаў датыкаюцца і да паўднёвае Беларусі, якая ў царскія часы часткова ўваходзіла ў Чарнігаўскую губэрню.

*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, М. Зарэцкі, Я. Ліманоўскі**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**

# ЗЬМЕСТ

# МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА
# БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫДАВЕЦТВА

**Александровіч А.** „Па беларускім бруку“. Збор вершаў. Менск, 1925 г. Стар. 48. . . . . . . . . Ц. — 25 к.
**Александровіч А.** „Паўстанцы“ (Сцэнічны абразок). Менск, 1925 г. Стар. 19. . . . . . . . . Ц. — 8 к.
**Александровіч А.** „Угрунь“. Зборнік вершаў. . . . Ц. — 80 к.
**Багушэвіч Ф.** „Дудка Беларуская“, „Смык Беларускі“. Збор вершаваных твораў у ваднэй кнізе. Выд. „Адраджэньне“. Менск, 1922 г. Стар. 92. . . . . . . . . Ц. — 30 к.
**Бядуля Зьмітрок.** „На зачарованых гонях“. Апавяданьні. Выд. „Савецкая Беларусь“. Менск, 1923 г. Стар. 144. . . . Ц. — 40 к.
**Бядуля Зьмітрок.** „На зачарованых гонях“. Апавяданьні. Выд. II. Менск, 1927 г. . . . . . . . . Ц. 1 р. 25 к.
**Бядуля-Ясакар.** „Буралом“. Выбраныя вершы. Менск, 1925 г. Стар. 56 Ц. — 40 к.
**Бядуля Зьмітрок.** „Апавяданьні“. Менск, 1925 г. Стар. 95. . Ц. — 35 к.
**Бядуля Зьмітрок.** „Поэмы“. Зборнік поэм. . . . Ц. 1 р. — к.
**Вольны А.** „Два“. Аповесьць. Менск. 1925 г Стар. 68. . . Ц. — 40 к.
**Вольны А.** „Табе“. Збор лірычных вершаў. Менск, 1927 г. Стар. 40. Ц. — 25 к.
**Вольны А. і Александровіч А.** „Комсамольская нота“. Вершы. Выд. „Белтрэстдрук“. Менск, 1924 г. Стар. 32. . . . Ц. — 25 к.
**Вольны А., Александровіч А. і Дудар А.** „Ваўчаняты“. Роман беларускіх лясоў. Менск, 1925 г. Стар. 120. . . Ц. — 40 к.
**Галавач П.** „Дробязі жыцьця“. Зборнік апавяданьняў. Менск, 1927 г. Стар. 176. . . . . . . . . Ц. — 75 к.
**Гарэцкі М.** „У чым яго крыўда“. Менск, 1926 г. Стар. 73. . . Ц. — 20 к.
**Гарэцкі М.** „Досьвіткі“. Апавяданьні. Менск, 1926 г. Стар. 101. . Ц. — 40 к.
**Гарэцкі М.** „Ціхія песьні“. Менск, 1926 г. Стар. 165. . . Ц. — 40 к.
**Гартны Ц.** „Песьні працы і змаганьня“. Збор вершаў. Выд. „Навукова-Літарацкага Аддзелу Наркамасьветы БССР“. Бэрлін, 1922 г. Стар. 100. . . . . . . . . Ц. — 35 к.
**Гартны Ц.** „На дзень пятнаццацігодчага юбілею яго працы“. (1908—1923 г. г.). Выд. „Інбелкульту“. Менск, 1923 г. Стар. 80. Ц. — 50 к.
**Гартны Ц.** „Урачыстасьць“: 1. Рэволюцыі, 2. Жыцьця. Збор вершаў. Менск. 1928 г. Стар. 102. . . . . . Ц. — 75 к.
**Гартны Ц.** „Трэскі на хвалях“. Збор апавяданьняў. Выд. „Савецкая Беларусь“. Менск, 1924 г. Стар. 256. . . . . Ц. 1 р. 50 к.
**Гартны Ц.** „Трэскі на хвалях“. Збор апавяданьняў. Выд. 2-ое. Менск, 1927 г. . . . . . . . . Ц. 1 р. 70 к.
**Гартны Ц.** „Сокі цаліны“. Роман, ч. І. Выд. „Навукова-Літар. Аддзелу Наркамасьветы“. Бэрлін, 1922 г. Стар. 160. . . . Ц. — 40 к.
**Гартны Ц.** „На перагібе“, 2-ая квадра роману „Сокі цаліны“. Менск, 1926 г. Стар. 328. . . . . . Ц. 2 р. — к.
**Гартны Цішка.** „Прысады“. Зборнік апавяданьняў. . . Ц. 2 р. — к.
**Грамыка М.** „Плынь“. Вершы і поэмы. . . . . . Ц. — 80 к.
**Гурло А.** „Барвенак“. Збор вершаў. Выд. „Савецкая Беларусь“, Менск, 1924 г. Стар. 216. . . . . . . . Ц. — 50 к.
**Гушча Тарас** (Я. Колас). „У палескай глушы“. Аповесьць. Выд. „Віленскае Выдавецтва Б. Клецкіна“. Вільня, 1923 г. Стар. 186. Ц. 1 р. — к.
**Гушча Тарас** „У палескай глушы“. Аповесьць. Менск. 1928 г. . Ц. 1 р. 50 к.
**Гушча Тарас** (Якуб Колас). „У глыбі Палесься“ (працяг аповесьці „У палескай глушы“). Менск, 1927 г. 202 стар. . . Ц. 1 р. 60 к.
**Гушча Тарас** (Я. Колас). „Першыя крокі“. Апавяданьні для дзяцей. Менск, 1925 г. Стар. 72. . . . . . . Ц. — 40 к.
**Гушча Тарас** (Я. Колас). „Крок за крокам“. Апавяданьні. Менск, 1925 г. Стар. 40. . . . . . . . Ц. — 30 к.
**Гушча Тарас** (Я. Колас). „У ціхай вадзе“. Збор гумарыстычных апавяданьняў. Менск, 1925 г. Стар. 92. . . . Ц. — 80 к.
**Гушча Тарас** (Я. Колас). „У ціхай вадзе“. Выд. II. Менск, 1927 г. Ц. — 70 к.
**Гушча Тарас** (Я. Колас). „На рубяжы“. Апавяданьні. Менск, 1925 г. Стар. 56. . . . . . . . . Ц. — 45 к.
**Гушча Тарас** „На прасторах жыцьця“. Менск, 1926 г. Стар. 217. . Ц. 1 р. 50 к.
**Дарожны С. і Плаўнік І.** „Звон вясны“. Менск, 1926 г. Вершы. Стар. 55. . . . . . . . . Ц. — 25 к.

**Дубоўка Ў.** „Строма“. Вершы. Выд. „Наша Будучына“. Вільня, 1923 г. Стар. 32. . . . . . . . . Ц. — 20 к.

**Дубоўка Ў.** „Трысьцё“. Вершы. Менск, 1925 г. Стар. 103. . . Ц. — 20 к.

**Дудар А.** „Беларусь бунтарская“. Верш. Менск, 1925 г. Стар. 28. Ц. — 20 к.

**Журба Я.** „Заранкі“. Вершы. Выд. „Савецкая Беларусь“. Менск, 1924 г. Стар. 100. . . . . . . . . Ц. — 25 к.

**Зарэцкі М.** „У віры жыцьця“. Збор апавяданьняў, Менск, 1925 г. Стар. 192. . . . . . . . . Ц. 1 р. 50 к.

**Зарэцкі М.** „У віры жыцьця“. Выд. 2-ое . . . . . Ц. 1 р. 40 к.

**Зарэцкі М.** „Пад сонцам“. Апавяданьні. Менск, 1926 г. Стар. 100. Ц. — 50 к.

**Зарэцкі М.** „Голы зьвер“. Менск, 1926 г. Стар. 95. . . Ц. — 35 к.

**Колас Якуб.** „Водгульле“. Збор вершаў. Выд. „Адраджэньне“ Менск, 1922 г. Стар. 112. . . . . . . . . Ц. — 35 к.

**Колас Якуб.** „Новая зямля“. Поэма. Выданьне 2-ое. . . Ц. 2 р. 00 к.

**Колас Якуб.** „Сымон Музыка“. Поэма з портрэтам аўтара і прадмовай ад Выдавецтва. Менск, 1926 г. Стар. 278. . . Ц. 1 р. 60 к.

**Колас Якуб.** „Казкі жыцьця“. Менск, 1926 г. (Апавяданьні). Стар. 73. Ц. — 50 к.

**Крапіва.** „Крапіва“. Збор сатырычных вершаў. Менск, 1926 г. Стар. 144. Ц. — 85 к.

**Крапіва** „Біблія“. Менск, 1926 г. Стар. 96. . . . Ц. — 50 к.

**Крапіва.** „Байкі“. Сатырычныя вершы. . . . . Ц. — 45 к.

**Купала Янка.** „Шляхам жыцьця“. Збор вершаў. Выд. II. Выд. „Віленск. Выдавецтва Б. Клецкіна“. 1923 г. Стар. 270. . Ц. 1 р. 25 к.

**Купала Янка.** „Спадчына“. Вершы. Выд. „Адраджэньне“. Менск, 1922 г. Стар. 224. . . . . . . . . Ц. 1 р. — к.

**Купала Янка.** „Безназоўнае“. Вершы. Менск, 1925 г. Стар. 104. . Ц. 1 р. — к.

**Купала Янка.** „Поўны збор твораў“. Том I. „Гусьляр“. „Жалейка“. З портрэтам, жыцьцёпісам і крытычным нарысам. Менск, 1925 г. Стар. 280. . . . . . . . . Ц. 2 р. — к.

**Купала Янка.** „Збор твораў“, т. II. Менск, 1926 г. Стар. 353. . Ц. 2 р. 40 к.

**Купала Янка.** „Збор твораў“, т. III. . . . . . Ц. 2 р. 30 к.

**Купала Янка.** „Збор твораў“, т. IV. (Друкуецца). . . . —

**Купала Янка.** „Эрос і Псыха“. Пераклад з польскай мовы. (Рыхтуецца да друку). . . . . . . —

**Нёманскі Я.** „На зломе“. (Апавяданьні). Менск, 1926 г. Стар. 322. Ц. 1 р. 65 к.

**Нікановіч М.** „Радасьць“. Менск, 1926 г. Стар. 57. . Ц. — 25 к.

**Нікановіч М.** „Золак“. Менск, 1926 г. Стар. 141. . . . Ц. — 75 к.

**Пушча Язэп.** „Дні вясны“. Збор вершаў. Менск, 1927 г. Стар. 86. Ц. — 60 к.

**Трус П.** „Ветры буйныя“. Вершы. . . . . . Ц. — 70 к.

**Чарнушэвіч Н.** „Дзіва“. Вершы. . . . . . Ц. — 30 к.

**Чарот М.** „Завіруха“. Збор вершаў. Выд. „Белтрэстдрук“. Менск, 1922 г. Стар. 136. . . . . . . . Ц. — 40 к.

**Чарот М.** „Босыя на вогнішчы“. 1-ае выд. Менск, 1925 г. Стар. 36. Ц. — 10 к.

**Чарот М.** „Веснаход“. Збор апавяданьняў. Выд. „Савецкая Беларусь“. Менск, 1924. г. Стар. 180. . . . . . Ц. 1 р. 10 к.

**Чарот М.** „Веснаход“. Выд. 2-ое. Збор апавяданьняў. Менск, 1925 г. Стар. 178. . . . . . . . . Ц. 1 р. 10 к.

**Чарот М.** „Чырвонакрылы вяшчун“. Поэма. . . . . Ц. — 20 к.

**Чарот М.** „Беларусь лапцюжная“. Поэма. . . . . Ц. — 20 к.

**Чорны Кузьма.** „Пачуцьці“. Менск, 1926 г. Стар. 163. . Ц. — 75 к.

**Чорны Кузьма.** „Хвоі гавораць“. Менск, 1926 г. Стар. 109. . Ц. — 50 к.

**„Чырвоны Дудар“.** Беларускі дэкляматар. З портрэтамі пісьменьнікаў Злажылі Я. Купала і Цішка Гартны. Выд. „Савецкая Беларусь“. Менск, 1924 г. Стар. 356. . . . . . Ц. 2 р. — к.

**Ядвігін Ш.** „Бярозка“. Апавяданьні. Выд. „Віленскае Выд. К. Клецкіна“. Вільня, 1923 г. Стар. 48. . . . . . Ц. — 40 к.

**Ясакар.** „Пад родным небам“. Збор вершаў. Выд. „Адраджэньне“. Менск, 1923 г. Стар. 136. . . . . . Ц. — 65 к.

*Заказы робяцца ў акругах і раёнах праз аддзяленьні БДВ, а ў Менску праз цэнтральны магазын БДВ і выконваюцца хутка.*